

Ю. Падолін. Водгулле. Знікненне вёскі (афорт, 1989).

ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ

# Маладосць

4·90

(446) КРАСАВІК

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

Выдаецца з 1953 года

МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі

# У нумары

## Паэзія · Проза



## Публіцыстыка







Вокладка **А. Карповіча.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы— **М. Шматава. З серыі «Подых Чарнобыля»** (літаграфія, 1989).

На шмуцтытуле публіцыстыкі—фота **А. Шаблюка.**







*Васіль Гігевіч, Алег Чарноў*

# СТАЛІ ВОДЫ ГОРКІЯ

## ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

*Третий ангел вострубил, и упала с неба большая звезда, горящая подобно светильнику, и пала на третью часть рек и на источники вод.*
*Имя сей звезды полынь; и третья часть вод сделалась полынью, и многие из людей умерли от вод, потому что они стали горьки.*

«Новый завет», прароцтва Іаана Багаслова

### УСТУП

**«...Калі мы ўжо ўводзім практыку ўсенародных рэферэндумаў, то першы рэферэндум добра было б правесці па пытанню існавання атамных станцый».**

В. Распуцін. З выступлення на Першым з'ездзе народных дэпутатаў СССР, 1989 г.

**«Думаю, што наша цывілізацыя не падрыхтавана да выкарыстання ядзернай энергіі».**

І. Ісакаў, вучоны АН БССР.

**«Вашы адносіны да перспектывы развіцця ядзернай энергетыкі?**
**— Я поўнасцю — за...»**

Адказ Я. Пятраева, прафесара БДУ імя У. І. Леніна.

**«Ядзерная энергетыка звязана з развіццём ваеннай тэхналогіі, з атамнай бомбаю. Яе развіваюць многія ведамствы, тысячы інстытутаў. Яны жывуць з гэтага...»**

Акадэмік В. Троіцкі.



**«Заходнегерманскія «зялёныя», апелюючы да здаровага сэнсу, спрабуюць даказаць, што «атамная энергія непатрэбная, яна небяспечная для жыцця, ніколі не кіруемая на ўсе сто працэнтаў, пакуль людзі робяць памылкі, а рабіць яны іх будуць заўсёды».**
**Яны зусім справядліва расцэньваюць канцэпцыю стопрацэнтнай гарантыі ў якасці тэхнакратычнай хімеры».**

Б. Куркін. «Лісты заложніка», «Дружба народов», 1989, № 3.

**«Дык што ж, ядзерная энергетыка? Патрэбна яна чалавеку? Патрэбна ў той меры, у якой ён умее з ёю абыходзіцца і здабываць з яе тыя выгоды, якія яна можа даць для ягонага эканамічнага дабрабыту і для стану акаляючага асяроддзя».**

У. Сухаручкін. «Ліст заложнікам», «Дружба народов», 1989, № 3.

**«Навука павінна быць маральнай».**

Выказванні многіх вучоных.

**«Напрыклад, у Злучаных Штатах і ФРГ многія АЭС закрытыя. Чаму? Нявыгадныя, залішне дорага абыходзяцца».**

А. Маравіа, газета «Правда» ад 25 снежня 1989 г.

**«Па падліках амерыканцаў, аварыя на АЭС «Трымайдл-Айленд» абыдзецца Злучаным Штатам у 130 млрд. долараў. А гэтая ж аварыя па маштабах не ідзе ні ў якое параўнанне з чарнобыльскай, якая каштавала, па афіцыйных дадзеных, 8,5 млрд. рублёў. Адкуль такая розніца ў падліках?..»**

«Комсомольская правда» ад 5 мая 1989 г.

**«Цяпер, праз тры гады пасля аварыі, зусім ясна, што ніякіх кепскіх бліжэйшых вынікаў, звязаных менавіта з абпраменьваннем, няма і не магло быць. Для спецыялістаў гэта было ясна яшчэ ў чэрвені 1986 года пасля папярэдняй ацэнкі радыяцыйнай абстаноўкі, калі былі складзены навуковыя прагнозы не толькі на бліжэйшую, але і на далёкую перспектыву».**

В. Антонов. «Уроки Чернобыля: радиация, жизнь, здоровье», «Знание», Киев, 1989.

**«Ва ўсіх афіцыйных дакументах выбух на ЧАЭС называюць цеплавым. Аднак гэта адносіцца да механізму. А па прыродзе энергіі? Па гэтаму крытэрыю ён ядзерны, бо пры разгоне рэактара ў першую чаргу выдзелілася менавіта энергія дзялення ядзер урану. ...Таму, хоць энергія механічных разбурэнняў не склала і стотысячнай долі хірасімскіх, па забруджанню доўгажывучымі радыенуклідамі чарнобыльская аварыя эквівалентная выбуху 200—300 бомб, скінутых на Хірасіму».**

Г. Львов. «Чернобыль: анатомия взрыва», «Наука и жизнь», 1989, № 12.

Магчыма, у вышэйпрыведзеных цытатах — а такіх цытат можна назбіраць вельмі і вельмі шмат — пэўным чынам гучыць тое галоўнае, што хвалюе сёння людзей, на што сёння адны спадзяюцца, трацяць сілы і духоўную энергію, а іншыя — клянуць...
Ядзерная энергетыка...
У дакументальнай кнізе мы не ставілі мэты абараняць альбо нападаць на яе; паняцці, што ўвасабляюць словы **ядзерная энергетыка**, настолькі шырокія і ёмістыя, што, хочам таго ці не хочам, але яны закра-

наюць і падводзяць нас да асэнсавання глабальных законаў эвалюцыі і далейшых шляхоў развіцця зямной цывілізацыі. У гэтым сэнсе мы не можам прэтэндаваць на ролю чарговых прарокаў. Ды і ці патрэбны нашаму народу гэтыя, мякка кажучы, разумовыя абстрактныя практыкаванні, ад якіх мы на сённяшні дзень усе пакрысе стаміліся?

Мы паспрабуем даць аб'ектыўны малюнак развіцця падзей, звязаных з чарнобыльскай аварыяй, у якой адны бачаць непазбежную плату за выгоды навукова-тэхнічнай рэвалюцыі (успомнім словы высокапастаўленага чыноўніка ў першыя паслячарнобыльскія дні: «Навука патрабуе ахвяр»), другія — грознае папярэджанне за нашу амаральнасць, трэція — знак апакаліпсіса...

Так ужо атрымалася, што, чым далей па часе, тым вастрэй і болей праблемы ядзернай энергетыкі пераплятаюцца з чалавечым лёсам: боль, хваробы, адчай і безвыходнасць у адных людзей, а ў другіх — цынізм, амаральнасць, кар'ерызм — усё гэта, сплеценае ў адзіны клубок, накацілася на наш народ разам з чарнобыльскай аварыяй. Мабыць, гэта і з'явілася асноўнай прычынаю, якая змусіла нас узяцца за гэтую тэму...

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Раздзел першы. Перадгісторыя.

#### 1. Агульныя палажэнні.

У 1896 годзе французскі вучоны Анры Бекерэль паклаў некалькі фотапласцінак у стол і прыціснуў іх кавалкам мінералу, які ўтрымліваў уран. Калі ён праявіў пласцінку, то знайшоў сляды нейкіх выпраменьванняў. Гэтай з'явай зацікавілася Марыя Кюры. У 1898 годзе яна і яе муж П'ер Кюры знайшлі, што ўран пасля выпраменьвання ператвараецца ў іншыя хімічныя элементы. Бекерэль першы сутыкнуўся з радыеактыўнасцю: паклаў прабірку з радыем у кішэню і ў выніку атрымаў апёк скуры. Марыя Кюры памерла верагодней за ўсё ад злаякаснага захворвання крыві, бо залішне часта падвяргалася ўздзеянню радыеактыўнага абпраменьвання. Ва ўсякім разе 336 чалавек, якія працавалі ў той час з радыеактыўнымі матэрыяламі, памерлі ў выніку абпраменьвання *.

Як цяпер вядома, некаторыя атамы могуць мець пры аднолькавай колькасці пратонаў розную колькасць нейтронаў. Іх называюць ізатопамі. Каб адрозніць ізатопы, да сімвала элемента прыпісваюць лічбу, якая раўняецца суме ўсіх часцінак у ядры ізатопа. Ядры ўсіх ізатопаў хімічных элементаў ствараюць групу «нуклідаў». Большасць нуклідаў нестабільныя, яны ўвесь час ператвараюцца ў іншыя нукліды. У якасці прыкладу возьмем уран-238. Час ад часу з яго вырываецца група з двух пратонаў і двух нейтронаў (альфа-часцінка). Такім чынам уран ператвараецца ў торый-234. Але і торый нестабільны, хоць яго ператварэнне ў пратактыній-234 адбываецца інакш: адзін з нейтронаў ператвараецца ў пратон, пасля чаго электрон вылятае з атама.

Пры кожным такім распадзе нукліда выдзяляецца энергія. Існуе альфа-выпраменьванне — выдзяленне ядром двух пратонаў і двух нейтронаў, бэта-выпраменьванне — выдзяленне электрона, гама-выпраменьванне — чыстая энергія.

* З дадзеных навуковага камітэта па дзеянню атамнай радыяцыі (НКДАР), створанага пры ААН. Вытрымка гэта, як і далейшыя, узята з кнігі «Радиация, дозы, эффекты, риск». Пер. з англ., «Мир», 1988.





**У Гомельскай абласной бальніцы вельмі цесна. З-за такіх цяжкіх захворванняў, як лейкозы, у крытычным становішчы апынулася і аддзяленне гематалогіі. Спецыялісты, у тым ліку і акадэмік АМН СССР А. І. Вараб'ёў, лічаць, што праз 1,5—2 гады будзе яшчэ цяжэй. Віной таму—Чарнобыль. І таму ў Гомелі трэба тэрмінова будаваць спецыяльны дыспансер мінімум на 450 ложкаў.**

**Айчынныя праектныя арганізацыі за гэту справу не бяруцца—няма вопыту, няма абсталявання. Югаслаўская фірма «Смелт» прапануе свае паслугі і гатова здаць пад ключ дыспансер з усім імпартным абсталяваннем праз 2 гады. За гэта неабходна заплаціць 33 мільёны рублёў валютаю. Валюты няма. Год бясконцых хаджэнняў (на люты 1990) па абласных, рэспубліканскіх і саюзных інстанцыях не далі нічога, акрамя тоўстых стосаў марнай перапіскі.**

**Не падтрымліваецца наверсе і праект прадстаўніка буйной бельгійскай фірмы Генрыха Амроміна, былога гамяльчаніна. Ён таксама бярэцца праз 2 гады здаць пад ключ і абсталяваць на вышэйшым сусветным узроўні дыспансер. У дадатак забяспечвае перасоўнымі лабараторыямі і наладжвае вучобу спецыялістаў у лепшых замежных клініках. Мала таго, ён абяцае сабраць амаль усе грошы з дабрачынных арганізацый і добраахвотнікаў Захаду. Але пры ўмове, што будзе адкрыты свабодны доступ усім еўрапейскім вучоным у зону жорсткага кантролю, бо чарнобыльская катастрофа—буйнейшая катастрофа дваццатага стагоддзя і вывучэнне яе вынікаў мае агульначалавечае значэнне. Вось гэтая ўмова—свабодны доступ,—мусіць, і не спрыяе пагадненню з Амромінм.**

**А пакуль што ў абласной бальніцы не ведаюць, дзе здабыць партыю аднаразовых шпрыцоў.**

---

Час, за які распадаецца палова радыенуклідаў у любой радыеактыўнай крыніцы, называюць перыядам паўраспаду. У звычайных умовах * працэс распаду працягваецца бесперапынна, яго нельга ні спыніць, ні паскорыць.

* Калі на радыеактыўную крыніцу не ўздзейнічаць штучна створаным электрамагнітным альбо нейтронным выпраменьваннем.

Для больш поўнага разумення характару ўздзеяння радыяцыі на жывы арганізм, на нашу думку, варта адразу ж выдзеліць некаторыя важныя палажэнні, якія чамусьці мала вядомыя грамадскасці.

1. Кожная радыеактыўная крыніца (нуклід альбо група нуклідаў) у той альбо ў іншай меры, калі трапляе ў арганізм, «жыве» ў ім вельмі доўга, бо яе ўздзеянне не заканчваецца ў пэўнай колькасці паўраспадаў. Не заканчваецца таму, што яна ператвараецца ў іншую крыніцу, можа, з большай шкоднасцю энергетычнага выпраменьвання. Прыводзім схему радыеактыўнага распаду ядзер урану-238. Аналагічныя ланцугі ператварэнняў можна прывесці і для іншых нуклідаў (мал. 1).

| Від выпраменьвання | Нуклід | Перыяд паўраспаду |
|---|---|---|
| | Уран-238 | 4,47 млрд. гадоў |
| α | Торый-234 | 24,1 сутак |
| β | Пратактыній-234 | 1,17 хвіліны |
| β | Уран-234 | 246 000 гадоў |
| α | Торый-230 | 8 000 гадоў |
| α | Радый-226 | 1 600 гадоў |
| α | Радон-222 | 3,823 сутак |
| α | Палоній-218 | 3,05 хвіліны |
| α | Свінец-214 | 26,8 хвіліны |
| β | Вісмут-214 | 19,7 хвіліны |
| β | Палоній-214 | 0,000 164 секунды |
| α | Свінец-210 | 22,3 года |
| β | Вісмут-210 | 5,01 сутак |
| β | Палоній-210 | 138,4 сутак |
| α | Свінец-206 | Стабільны |

Распад урану-238
Мал. 1

2. Радыеактыўнасць характарызуецца ў асноўным трыма рознымі выпраменьваннямі, якія па-рознаму ўздзейнічаюць на жывы арганізм. Так, альфа-выпраменьванне не прыносіць вялікай шкоды да таго часу, пакуль яно не трапляе на скуру альбо ў арганізм цераз рану, з ядою альбо з паветрам. Бэта-выпраменьванне мае большую пранікальную здольнасць — праходзіць у арганізм на глыбіню адзін-два сантыметры. Гама-выпраменьванне можа затрымаць толькі тоўстая свінцовая альбо бетонная сцяна. Уздзеянне кожнага з вышэйназваных выпраменьванняў рознае. Пры аднолькавай дозе альфа-выпраменьванне прыкладна ў дваццаць разоў больш шкоднае за іншыя выпраменьванні. Трэба ўлічваць і той факт, што ў арганізме



чалавека найбольш адчувальныя да ўздзеяння радыяцыі імунная, эндакрынная сістэмы, сістэма кроваўтварэння і органы размнажэння. Печань, ныркі, сэрца і шкілетныя мышцы больш устойлівыя. Уводзіцца шэраг розных паняццяў для падліку колькасці адзінак дозы. Прывядзём некаторыя з гэтых паняццяў.

**Паглынутая доза** — у сістэме СІ вымяраецца ў грэях (Гр) — колькасць энергіі, паглынутая адзінкаю масы цела. Раней ужывалася пазасістэмная адзінка — рад. 100 рад = 1 Гр.

Але, як мы ўжо заўважылі, пры аднолькавай паглынутай энергіі альфа-выпраменьванне нашмат больш шкоднае за бэта- ці гама-выпраменьванне. Уводзяцца каэфіцыенты, якія ўлічваюць здольнасць кожнага выпраменьвання пашкоджваць органы. Пералічаную дозу называюць **эквівалентнай дозай**; у сістэме СІ яна вымяраецца ў зівертах (Зв). Прымяняецца і пазасістэмная адзінка бэр. 100 бэр = 1 Зв.

Розныя часткі цела па-рознаму рэагуюць на выпраменьванне. Зноў жа, памножыўшы эквівалентныя дозы на адпаведныя каэфіцыенты і прасумаваўшы іх па ўсіх тканінах і органах, атрымаем **эфектыўную эквівалентную дозу**; яна таксама вымяраецца ў зівертах ці ў бэрах.

Усе гэтыя тры паняцці апісваюць толькі індывідуальныя дозы.

**Калектыўная эфектыўная эквівалентная доза** — гэта сума індывідуальных эфектыўных эквівалентных доз для групы людзей; вымяраецца ў чалавека-зівертах (чал.-Зв).

І яшчэ, апошняе азначэнне. Калектыўная эфектыўная эквівалентная доза, якую атрымаюць многія пакаленні ад якой-небудзь радыеактыўнай крыніцы за ўвесь час яе далейшага існавання, называюць **поўнай (чакаемай) калектыўнай эфектыўнай эквівалентнай дозай.**

Мы прывялі гэтую на першы погляд складаную іерархію паняццяў таму, што ў прэсе, як і ў многіх выступленнях, часта і шмат гаворыцца пра дозы радыяцыі, але пра якія канкрэтна — не заўсёды ўдакладняецца. Напрыклад, часта можна пачуць альбо прачытаць, што чалавек атрымаў дозу ў адзін альбо ў два бэры. Адразу ж трэба ўдакладніць, якую дозу: эквівалентную ці эфектыўна эквівалентную?

**2. Крыніцы радыяцыі.**

Розныя віды выпраменьвання трапляюць на Зямлю з космасу і ад радыеактыўных рэчываў, якія знаходзяцца ў зямной кары. Касмічныя промні, якія ствараюць радыяцыйны фон, даюць менш паловы знешняга абпраменьвання. Зямныя радыяцыйныя ізатопы ствараюць большую частку радыеактыўнага выпраменьвання. У розных месцах пражывання людзей яно рознае, можа адрозніваецца ў дзесяткі разоў. У сярэднім дзве трэціх эфектыўнай эквівалентнай дозы абпраменьвання, якія людзі атрымліваюць, яны атрымліваюць з ядою, вадою і паветрам. Зусім нядаўна вучоныя зразумелі, што найбольшай з усіх натуральных крыніц радыяцыі з'яўляецца нябачны цяжкі газ (у 7,5 раза цяжэй за паветра) радон. Ён выходзіць з зямной кары, і яго канцэнтрацыя ў розных месцах зямнога шара розная. Як ні дзіўна, але ў закрытых памяшканнях, якія не праветрываюцца, канцэнтрацыя радону прыкладна ў 8 разоў большая. Вельмі высокія канцэнтрацыі радону ў апошні час рэгіструюць усё часцей. У канцы 70-х гадоў будынiны, унутры якіх канцэнтрацыя радону ў 5000 разоў большая за сярэднюю, знойдзены ў Швецыі і Фінляндыі. У асноўным гэта звязана з будаўнічымі матэрыяламі, якія выдзяляюць розную колькасць радону; дрэва, цэгла і бетон выдзяляюць найменш радону. Большую ўдзельную радыеактыўнасць маюць граніт і пемза, якія выкарыстоўваюцца ў якасці будматэрыялаў.

Дрэва (Фінляндыя)
Прыродны гіпс (Вялікабрытанія)
Пясок і гравій (ФРГ)
Партланд-цэмент (ФРГ)
Цэгла (ФРГ)
Граніт (Вялікабрытанія)
Попельны пыл (ФРГ)
Гліназём (Швецыя), 1974—1979
Гліназём (Швецыя), 1929—1975
Фосфагіпс (ФРГ)
Кальцый—сілікатны шлак (ЗША)
Адыходы ўранавых абагачальных прадпрыемстваў (ЗША)







**Сярэдняя ўдзельная радыеактыўнасць будаўнічых матэрыялаў, якія прымяняюцца ў розных краінах.**

Мал. 2

Прыводзім схему сярэдняй удзельнай радыеактыўнасці будаўнічых матэрыялаў, якія прымяняюцца ў розных краінах (мал. 2).

Канечне, будматэрыялы даюць шмат радону, але галоўная крыніца радону — гэта глеба. НКДАР прыводзіць прыклады, дзе крыніцаю павышанай радыеактыўнасці людзей з'яўлялася глеба, якая складалася з старых адвалаў горнаперапрацоўчых прадпрыемстваў і ўтрымлівала радыеактыўныя матэрыялы. Так, у ЗША (шт. Каларада) дамы пабудавалі на адыходах уранавых руднікоў, у Швецыі — на адыходах перапрацоўкі гліназёму, у Аўстраліі — на адыходах, якія засталіся пасля здабычы радыю, у Фларыдзе — на адноўленай пасля здабычы фасфатаў тэрыторыі.

Хоць канцэнтрацыя радыенуклідаў у каменным вугалі розніцца ў сотні разоў, але пры спальванні ў шлаку і ў попеле іх канцэнтрацыя павялічваецца. Ад прыхільнікаў развіцця ядзернай энергетыкі нам даволі часта даводзілася чуць, што радыеактыўнае ўздзеянне, якому падвяргаецца насельніцтва ў працэсе спальвання каменнага вугалю, нашмат большае за тое, якому падвяргаецца насельніцтва пры рабоце АЭС, НКДАР прыводзіць лічбы, якія сведчаць у нейкай меры аб шкоднасці тых альбо іншых крыніц радыеактыўнасці. У 1979 годзе чакаемая эфектыўная эквівалентная доза ад усіх працуючых на вугалі электрастанцый ва ўсім свеце склала каля 2000 чал.-Зв. Многа гэта ці мала? Мяркуйце самі. Прымяненне фасфатаў, якія з'яўляюцца крыніцаю радыеактыўнасці, дае за год чакаемую калектыўную эфектыўную эквівалентную дозу 6000 чал.-Зв, а доза з-за прымянення фосфагіпсу, атрыманага толькі ў 1977 годзе, складае 300 000 чал.-Зв. Калектыўная эфектыўная эквівалентная доза для ўсяго насельніцтва Зямлі ад крыніц радыяцыі, якія выкарыстоўваюцца ў медыцыне, складае 1 600 000 чал.-Зв у год.

У апошнія некалькі дзесяцігоддзяў людзі стварылі сотні штучных радыенуклідаў, якія выкарыстоўваюцца ў розных мэтах: у медыцыне і для стварэння атамнай зброі, для вытворчасці энергіі і для знаходжання пажараў, для цыферблатаў гадзіннікаў, якія свецяцца.

Не будзем падрабязна разглядаць уплыў кожнай з гэтых тэхнагенных крыніц, заўважым толькі, што дозы абпраменьвання, звязаныя з ядзернай энергетыкай, павялічваюцца — ад 0,001 працэнта ад натуральнага фону ў 1965 годзе да 0,035 працэнта ў 1980 годзе.

Наколькі вялікую шкоду прынеслі нам выпрабаванні ядзернай зброі ў паветры, якія праводзіліся ў перыяд з 1954 года па 1963 год, калі быў падпісаны дагавор аб абмежаванні выпрабаванняў ядзернай зброі? У 1963 годзе калектыўная сярэднегадавая доза, звязаная з ядзернымі выпрабаваннямі, складала каля 7 працэнтаў дозы абпраменьвання ад натуральных крыніц, у пачатку 80-х гадоў — да 1 працэнта. Але трэба мець на ўвазе, што гэтыя лічбы сярэднія. Так, пастухі на Крайняй Поўначы, дзе праводзілася большасць выпрабаванняў і дзе выпала большая частка радыеактыўных ападкаў, атрымалі дозы ад цэзію-137 у 100—1000 разоў большыя за сярэднія індывідуальныя дозы.



Крыніцаю абпраменьвання з'яўляюцца як атамныя электрастанцыі, так і ўвесь ядзерны паліўны цыкл (ЯПЦ). Пры нармальнай рабоце ядзерных установак выкіды радыеактыўных матэрыялаў у навакольнае асяроддзе звычайна невялікія. Але заўважым, што, згодна дакладу НКДАР, уцечка радыеактыўных матэрыялаў нават у аднатыпных устаноўках аднолькавай канструкцыі моцна вар'іруецца. Напрыклад, у корпусных кіпячых рэактарах з вадою ў якасці цепланосьбіта і замаруджвальніка ўзровень уцечкі радыеактыўных газаў для дзвюх розных установак (альбо для адной і той жа ўстаноўкі, але ў розныя гады) можа адрознівацца ў мільёны разоў *. А цяпер прывядзем яшчэ адну лічбу, дакладней не лічбу, а вытрымку з дакументальнага «Чарнобыльскага сшытка» Р. Мядзведзева **:

«— Якія ў чарнобыльскага рэактара эксплуатацыйныя выкіды? — ужо заклапочана пацікавіўся міністр.

— Да чатырох тысяч кюры ў суткі.

— А ў нovаваронежскага?

— Сто кюры. Розніца істотная».

Калі на вода-вадзяным ядзерным рэактары, які па эксплуатацыйных выкідах лепшы за ўрана-графітавы, колькасць выкідаў можа вар'іравацца ў мільёны разоў, то, мабыць, на ўрана-графітавым рэактары — а гэта якраз і ёсць чарнобыльскі тып рэактара — не меншыя варыяцыі выкідаў. Таму

* З дадзеных навуковага камітэта па дзеянню атамнай радыяцыі (НКДАР), створанага пры ААН.

** Часопіс «Коммунист», 1989, № 4.



**Нароўлю неабходна эвакуіраваць. Як у Брагіне, Хойніках, Ветцы — тут жыць немагчыма. А будуюць. Інтэрнат для кандытарскай фабрыкі. Закопваюць грошы ў набярэжную. І гародзяць плот вакол пасёлка, дзе жывуць і свае, нараўлянскія, і перасяленцы з «чорнай зоны». Гародзяць, гародзяць платы... У Нароўлі, якую трэба высяляць цалкам...**

давайце прыкінем, што атрымаецца, калі да лічбы 4000 дададзім яшчэ нулі...— пастаянна, штосутачна.

На вялікі жаль, сказанае вышэй — толькі нашы меркаванні, рэальная сітуацыя можа быць лепшая, а можа быць і горшая, проста мы яе не ведаем і не можам ведаць, бо на сённяшні дзень існуе загад міністра энергетыкі і электрыфікацыі СССР, які забараняе абнародаваць у друку, у перадачах па радыё і тэлебачанні інфармацыю аб дрэнных выніках экалагічнага ўздзеяння на абслугоўваючы персанал і насельніцтва, а таксама на акаляючае асяроддзе энергетычных аб'ектаў (уздзеяння электрамагнітных палёў, абпраменьвання, забруджвання атмасферы, вадаёмаў і зямлі)*.

Пра якія гранічна дапушчальныя нормы мы можам тады гаварыць? Мы можам толькі здагадвацца, чаму з'явіўся такі загад...

Калі разглядаць радыяцыйны ўплыў ядзернай энергетыкі на акаляючае асяроддзе і на чалавека, то, канечне, трэба разглядаць уплыў усяго ядзернага паліўнага цыклу, а не толькі адных АЭС.

Палова ўсёй уранавай руды ў свеце здабываецца адкрытым спосабам, палова — шахтным. Большую палову доўгачасовага забруджвання ствараюць так званыя «хвасты» ад абагачальных фабрык. Так, напрыклад, побач

* Часопіс «Коммунист», 1989, № 4.





Прыгажуня Ветка. Кожная хата—твор народнага мастацтва. І кожная хата пасыпана злавеснай пацярухай чацвёртага блока Чарнобыльскай АЭС.

з абагачальнымі фабрыкамі ў Амерыцы сабралася 120 млн. тон адыходаў, да канца веку гэта велічыня вырасце да 500 млн. тон *.

Што з імі рабіць? Мільёны гадоў яны будуць крыніцаю абпраменьвання людзей. Колькі такіх «хвастоў» маецца ў нашай краіне, мы не ведаем, але кожны чытач можа прыкінуць лічбу, выходзячы з таго, што ў нашай краіне на 1984 год было прыкладна ў два разы менш АЭС.

Таму, калі А. М. Петрасьянц у кнізе «Атам не павінен служыць вайне» піша, што «ўранавай руды трэба здабываць у 40 разоў менш, чым вугалю, для атрымання гэткай жа колькасці энергіі», то найперш чамусьці думаецца, што гэта, «здабытая ў 40 разоў меншая» колькасць уранавай руды дае і будзе даваць нашым нашчадкам абпраменьванне, у выніку чаго забруджваецца глеба, вада і паветра радыенуклідамі — уранам-234, 238, радыем-226, 228. І гэткіх адыходаў, не забудзем, ужо маюцца мільёны тон...

Прыхільнікі развіцця ядзернай энергетыкі ў нашай краіне неяк удала абыходзяць гэтае пытанне. Спецыялісты сцвярджаюць, што адыходы ад абагачальных фабрык можна зноў апускаць пад зямлю. Магчыма, гэта і так, магчыма. Але давайце прачытаем, як рэагуе насельніцтва ў іншых краінах на адкрыццё новых уранавых руднікоў.

Вось перад намі заметка ў «Известиях» ад 30 красавіка 1989 года. Загаловак «Ці будзе адкрыты ўранавы руднік?». Думаецца, што гэту заметку варта прывесці цалкам, бо, як у люстэрку, у ёй відаць многае...

**«...Жыхары маленькай брэтонскай вёсачкі Бернэ, якую ўзначальвае мэр Р. Дзюкло, поўныя рашучасці не дапусціць адкрыцця па суседству ўранавага рудніка.**

**Яны пачалі кампанію пратэсту пасля таго, як дзяржаўная фірма КОЖЕМА (генеральная кампанія ядзерных матэрыялаў) перадала ў прэфектуру ў канцы сакавіка заяўку аб здабычы гэтага радыеактыўнага рэчыва. Калі ўлады дадуць згоду, то работы распачнуцца ў наступным годзе, а эксплуатацыя радовішчаў, якія ацэньваюцца ў 200 тон, працягнецца 4 гады.**

**Навіна аб будучым адкрыцці ўранавага рудніка зрабіла на мясцовых жыхароў уражанне бомбы, якая нечакана выбухнула. Усе бліжэйляжачыя камуны даўно ўжо вядуць барацьбу з забруджваннем наваколля, робяць усё для таго, каб ачысціць рэкі і азёры, захаваць прыроду аднаго з прыгажэйшых раёнаў Францыі, здабыча ўрану, падкрэслівае Р. Дзюкло, будзе азначаць гібель ляснога масіву, нанясе шкоду акаляючаму асяроддзю.**

**Што ж думае зрабіць мэр? Якія магчымасці ён мае? Ці ёсць у яго шанцы на поспех у барацьбе з магутнай дзяржаўнай фірмаю? Найперш Дзюкло збіраецца арганізаваць рэферэндум, каб высветліць адносіны мясцовых жыхароў да гэтага праекта (яго вынікі няцяжка прадбачыць), потым ён патрабуе расследавання, каб высветліць усе вынікі здабычы ўранавай руды. Акрамя таго мэр заручыўся падтрымкаю фермераў. Адыходы і радыеактыўны пыл трапяць у грунтавыя воды, лічаць яны, а потым часцінкі асядуць на нашых палях. Будзе забруджвацца сельскагаспадарчая прадукцыя.**

**На дапамогу вёсачцы Бернэ прыйшлі розныя арганізацыі эколагаў. «Нельга дапусціць, каб тут вялася здабыча ўрану»,— заявіў прадстаўнік**

* З даклада НКДАР.

**Асацыяцыі вод і рэк Брэтоніі Ж. Моалін.— КОЖЕМА недаацэньвае пагрозы. Існуе пагроза забруджвання ракі, якая забяспечвае вадою насельніцтва. Тое ж самае адносіцца і да атмасферы».**

**Са свайго боку спецыялісты з КОЖЕМА настойваюць на тым, што прымуць усе меры бяспекі і, у прыватнасці, пабудуюць ачышчальныя збудаванні. Але іх довады не пераканалі брэтонцаў, якія сярод французаў славяцца асаблівай упартасцю. Каб аказаць уладам процідзеянне, яны толькі што стварылі ў Бернэ антыядзерны камітэт.**

**Чым жа закончыцца барацьба брэтонскай камуны з уладамі, якія ў сваю чаргу аказаліся ў цяжкім становішчы. З аднаго боку, для АЭС, якія даюць 65—70 працэнтаў электраэнергіі ў краіне, між іншым, як і для ваеннай прамысловасці, патрэбен абагачаны ўран. З другога — яны не могуць не ўлічваць адмоўнай рэакцыі мясцовых жыхароў, тым больш, што цяпер «зялёныя» сталі прыкметнай палітычнай сілаю, з якой нельга не лічыцца. Патрэбна саламонава рашэнне, але ці можна яго знайсці, калі сутыкаюцца процілеглыя інтарэсы? Што зробіць урад?»**

Вось такая газетная заметка...

А як у іншых краінах?.. Мо і там існуюць загады аб забароне ў адкрытым друку змяшчаць інфармацыю аб адмоўных выніках экалагічнага ўздзеяння энергетычных аб'ектаў?

Прывядзем яшчэ адно выказванне. Вось што адказаў нядаўна *, пад час прабывання на Белаярскай АЭС, англійскі спецыяліст, галоўны інспектар інспектарата па рэгуляванню дзейнасці атамных электрастанцый Вялікабрытаніі Р. Райдэр на пытанні карэспандэнта.

Пытанне:

— Ці супрацоўнічаеце вы з грамадскасцю?

Адказ:

— Без грамадскага рэферэндуму не можа быць прынята ні адно рашэнне па будаўніцтве АЭС.

Ядзерная энергетыка — шматэтапны складаны працэс, і атамныя электрастанцыі, іх работа — гэта ўсяго толькі частка працэсу, які называюць звычайна ядзерным паліўным цыклам (ЯПЦ). Пад час перапрацоўкі і абагачэння ўранавай руды атрымліваюцца газы і вадкасці, якія таксама радыеактыўныя. Затым ідзе выраб цеплавыдзяляючых элементаў (ЦВЭЛаў), работа саміх АЭС, рэгенерацыя паліва і захаванне радыеактыўных адыходаў. На кожным з гэтых этапаў адбываецца забруджванне людзей і тэрыторыі як выпраменьваннем, так і радыенуклідамі. Наколькі яны шкодныя для нас, дакладных дадзеных мы не маем, а тыя, якія маюцца, даволі розныя. Так, па дадзеных НКДАР, максімальную забруджанасць у ЯПЦ даюць АЭС і працэс рэгенерацыі паліва. Ядзерны паліўны цыкл суправаджаецца ўтварэннем вялікай колькасці як кароткажывучых радыенуклідаў, так і доўгажывучых, якія распаўсюджваюцца па ўсім зямным шары. Калі цяперашні ўзровень выкідаў пры ядзерным паліўным цыкле захаваецца, то нават і ў гэтым выпадку, па дадзеных таго ж НКДАР, у 2100 годзе яны складуць усяго толькі 1 працэнт ад натуральнага фону радыеактыўнасці. Здавалася б, усё добра, тым болей унушальна гэта паказваюць параўнальныя лічбы поўных чакаемых эфектыўных доз за год, якія атрымліваюць людзі ад розных крыніц: Прыводзім іх **:

* «Известия» за 1 мая 1989 г.

** З дадзеных НКДАР.







| | |
|---|---|
| Медыцына | — 1 600 000 (чал.-Зв) |
| Фосфагіпс | — 300 000 |
| Выкарыстанне вугалю для прыгатавання ежы і абагрэву жылля (1979 г.) | — 100 000 |
| Электрастанцыі, якія працуюць на вугалі | — 2000 |
| Атамная энергетыка (1980 г.) | — 500 |

Але маюцца і іншыя дадзеныя. Неспецыяліст Б. Куркін пры сённяшнім стане развіцця навукі і тэхнікі даволі скептычна ацэньвае перспектывы развіцця экалагічна чыстага ядзернага паліўнага цыклу *. Ён лічыць, што пры будаўніцтве новых АЭС трэба ўлічваць, ва ўсякім разе, пяць груп фактараў:

эканамічныя (прамыя капіталаўкладанні);
прыродаахоўныя і прыродныя;
сацыяльна-эканамічныя;
здароўе і бяспеку насельніцтва;
грамадскую думку.

Думаецца, што ўсе гэтыя фактары ў такой жа ступені трэба ўлічваць пры будаўніцтве ўсіх аб'ектаў ядзернага паліўнага цыклу, а не толькі пры будаўніцтве АЭС... Не будзем пераказваць і цытаваць артыкул Куркіна, у якім, дарэчы, прыводзіцца шмат лічбаў і доказных аргументаў, узятых ім з розных крыніц, адзначым толькі, што ў тым жа нумары «Дружбы народов» прыводзіцца артыкул спецыяліста, начальніка лабараторыі Інстытута атамнай энергіі імя І. В. Курчатава У. К. Сухаручкіна пад загалоўкам «Ліст заложнікам»**, у якім ён даказвае як экалагічную чысціню ЯПЦ, так і неабходнасць далейшага развіцця ядзернай энергетыкі. Здавалася б, спецыялісту Сухаручкіну і карты ў рукі: можна аргументавана, абзац за абзацам абвергнуць лічбы і факты Куркіна. На вялікі жаль, гэтага ён не робіць, многія трывожныя факты, на якіх акцэнтуе ўвагу Куркін, Сухаручкіным чамусьці абыходзяцца ўвагаю. Узнікае яшчэ адно пытанне. Калі, як сцвярджае спецыяліст Сухаручкін, «канкурэнтаздольнасць ядзернага спосабу вытворчасці электраэнергіі ў параўнанні з любой іншай асвоенай тэхналогіяй у цяперашні час не выклікае сумненняў ні ў кога з сур'ёзных эканамістаў, гэты факт шырока прызнаны за мяжою», то чаму, па якой прычыне Швецыя пачала дэмантаж АЭС? ЗША спынілі будаўніцтва новых АЭС? Тое ж самае зрабіла і Італія. Няўжо замежныя эканамісты не ўмеюць лічыць прыбытак, жывыя грошы?..

Сухаручкін маўчыць пра тое, што АЭС патрабуюць шмат вады. Плошча вадаёму ахаладжальніка АЭС магутнасцю 4 млн. КВт складае 60 кв. кіламетраў. У выніку змены тэрмалагічнага рэжыму гінуць цэлыя азёры: Удомля (Калінінская АЭС), Друкшай (Ігналінская АЭС). Трэба заўважыць, што возера Друкшай недалёка ад нашых знакамітых Браслаўскіх азёр і той жа унікальнай жамчужыны сусветнага значэння Нарачы, фактычна яны ўваходзяць у адну сістэму азёр, якія звязаны між сабою. Мала таго, што ў Друкшаі мяняецца тэмпературны рэжым, на думку Куркіна, там ідзе па-

* Б. Куркін. «Лісты заложніка». Часопіс «Дружба народов», 1989, № 3.

** Магчыма, Сухаручкін сваім загалоўкам артыкула «Ліст заложнікам» меркаваў прыдаць палемічны ці скептычны сэнс у адносінах да артыкула Б. Куркіна. Але як успрымаць назву гэтага артыкула жыхарам раёнаў, якія сёння «забруджаны» чарнобыльскімі выкідамі і ў якіх сёння жывуць людзі?

ступовае накапленне радыеактыўных элементаў у іхтыяфауне і іхтыяфлоры. Удумаемся ў лічбы, якія прыводзіць Куркін: пры выкананні ядзерна-энергетычнай праграмы мы згубім столькі ж вады, колькі Мінвадгас хацеў перакінуць на поўдзень з паўночных рэк.

Праблема поўнай утылізацыі ядзернага паліва на сённяшні дзень не вырашана, гэта прызнае нават і спецыяліст Сухаручкін. Праўда, ён даказвае, што гэта праблема не надта сур'ёзная. Зноў жа паўстае пытанне: калі гэта так, то чаму, па якой прычыне многія краіны імкнуцца захоўваць радыеактыўныя адыходы не на сваёй тэрыторыі?..

Па замежных крыніцах *, цана ядзернага паліўнага цыклу арыенціровачна (у марках ФРГ) на 1 кг такая:

| | |
|---|---|
| Цана здабычы прыроднага ўрану | — 60 |
| Перапрацоўка і абагачэнне | — 200 |
| Выраб ЦВЭЛаў (цеплавыдзяляльных элементаў) | — 500 |
| Перапрацоўка і захаванне адыходаў | — 2200 |

Як бачым, асноўныя сродкі, калі не ўлічваць кошту будаўніцтва і дэмантажу АЭС, трацяцца не на здабычу ўранавай руды...

**3. Дзеянне радыяцыі на арганізм чалавека.**

Калі меркаваць па друку **, то нельга сказаць альбо ўказаць на нейкія парогавыя мінімальныя дозы радыяцыі, якія чалавек можа пераносіць бясследна. Малыя дозы абпраменьвання ў любое імгненне могуць «запусціць» ланцуг падзей, якія прыводзяць да ракавых захворванняў альбо да генетычных пашкоджанняў. Ракавыя захворванні праяўляюцца, як правіла, не раней, чым праз адно-два дзесяцігоддзі, генетычныя пашкоджанні — праз пакаленні. Вялікія дозы разбураюць клеткі, пашкоджваюць органы, з'яўляюцца прычынай смерці.

Прыводзім схему ўздзеяння іанізуючага выпраменьвання на тканіны арганізма (мал. 3).

Адзначым, што ў арганізме чалавека маюцца рэпарацыйныя механізмы, якія ліквідуюць пашкоджанні, выкліканыя радыяцыяй, таму мы можам гаварыць не пра жорсткую карэляцыю паміж паглынутай дозаю і захворваннямі, а пра рызыку, якой падвяргаецца чалавек, тым большую, чым большая доза.

Пры дозах каля 100 Гр смерць наступае праз некалькі гадзін альбо дзён. Пры дозах ад 10 да 50 Гр чалавек верагодней за ўсё памрэ праз адзін-два тыдні. Пры яшчэ меншых дозах смерць можа наступіць з-за разбурэння клетак чырвонага касцявога мозга: ад дозы 3—5 Гр памірае прыкладна палова ўсіх абпрамененых.

Найбольш адчувальныя да радыяцыі, як мы ўжо адзначалі, імунная, эндакрынная сістэмы, селязёнка, чырвоны касцявы мозг і іншыя элементы крывятворнай сістэмы, органы размнажэння.

Аднаразовае абпраменьванне семяннікоў пры дозе ў 0,1 Гр прыводзіць да часовай стэрыльнасці мужчын, а дозы звыш двух грэяў могуць прывесці да пастаяннай стэрыльнасці.

---

* Г. Кеслер. «Ядерная энергетика», М., 1986.

** Дадзеныя НКДАР.





**Уздзеянне іанізуючага выпраменьвання на тканіны арганізма.**

**Зараджаныя часцінкі.** Альфа- і бэта-часцінкі, якія пранікаюць у тканіны арганізма, губляюць энергію ў выніку электрычных узаемадзеянняў з электронамі тых атамаў, каля якіх яны праходзяць. (Гама-выпраменьванне і рэнтгенаўскія промні перадаюць сваю энергію некалькімі спосабамі, якія ўрэшце таксама прыводзяць да электрычных узаемадзеянняў.)

**Электрычныя ўзаемадзеянні.** За час каля дзесяці трыльённых секунды пасля таго, як праніклае выпраменьванне дасягне пэўнага атама ў тканінах арганізма, ад гэтага атама адрываецца электрон. Ён зараджаны адмоўна, таму астатняя частка зыходна нейтральнага атама становіцца дадатна зараджанай. Гэты працэс называецца іанізацыяй. Электрон, які адарваўся ад атама, можа іанізаваць іншыя атамы.

**Фізіка-хімічныя змены.** І свабодны электрон, і іанізаваны атам звычайна не могуць доўга знаходзіцца ў такім стане і на працягу наступных дзесяці мільярдных доляў секунды ўдзельнічаюць у складаным ланцугу рэакцый, у выніку іх атрымліваюцца новыя малекулы, уключаючы і такія надзвычай рэакцыйназдольныя, як свабодныя радыкалы.

**Хімічныя змены.** На працягу наступных мільённых доляў секунды свабодныя радыкалы рэагуюць адзін з адным, а таксама з іншымі малекуламі і цераз ланцуг рэакцый, яшчэ не вывучаных да канца, могуць вызваць хімічную мадыфікацыю важных у біялагічных адносінах малекул, неабходных для нармальнага функцыянавання клеткі.

**Біялагічныя эфекты.** Біяхімічныя змены могуць адбыцца як цераз некалькі секунд, так і праз дзесяцігоддзі пасля абпраменьвання і з'явіцца прычынаю імгненнай гібелі клетак ці такіх змен, якія могуць прывесці да раку.

Мал. 3

Вельмі адчувальныя да радыяцыі дзеці; пры ўздзеянні радыяцыі чым меншы ўзрост, тым больш падаўляецца рост клетак, тут, мабыць, увогуле не існуе парогавага эфекту.

Адчувальны да радыяцыі і мозг плода, асабліва, калі маці падвяргаецца абпраменьванню паміж восьмым і пятнаццатым тыднем цяжарнасці, у гэты час у плода фармуецца кара галаўнога мозгу, у выніку абпраменьвання можа нарадзіцца разумова адсталае дзіця.

Ракавыя захворванні — найбольш сур'ёзныя з астатніх вынікаў абпраменьвання пры малых дозах. Прыводзім графік, пабудаваны на аснове вынікаў абследавання людзей, якія перажылі атамную бамбардзіроўку ў 1945 годзе; паказаны арыенціровачна час паяўлення злаякасных пухлін з моманту абпраменьвання (мал. 4).

Як бачым, лейкозы пачынаюцца пасля двухгадовага схаванага перыяду і дасягаюць максімуму праз шэсць-сем гадоў. Ракавыя пухліны развіваюцца праз 10 гадоў пасля абпраменьвання. Для таго, каб пабудаваць усю крывую, даследчыкам не хапіла інфармацыі...

Вывучэнне генетычных вынікаў абпраменьвання звязана з цяжкасцямі. Мала фактаў пра тое, якія пашкоджанні ўзнікаюць у генетычным апараце чалавека пры абпраменьванні. Поўнае выяўленне нашчадкавых дэфектаў адбываецца на працягу многіх пакаленняў, і, як і ў выпадку ракавых захворванняў, гэтыя дэфекты немагчыма адрозніць ад тых, якія з'яўляюцца зусім па іншых прычынах, балазе што каля 10 працэнтаў усіх нованароджаных маюць тыя альбо іншыя генетычныя дэфекты.




**Верагоднасць захворвання ракам**

Адносная сярэднестатыстычная верагоднасць захворвання ракам пасля атрымання аднакратнай дозы ў адзін рад (0,01 Гр) пры раўнамерным абпраменьванні ўсяго цела. Графік пабудаваны на аснове вынікаў абследавання людзей, якія перажылі атамную бамбардзіроўку. Малюнак узяты з артыкула W. K. Sinclair in the proceedings of the Twentieth Annual Meeting of the National Council on Radiation Protection and Measurement, April 4—5, 1984.

Мал. 4

Генетычныя парушэнні можна аднесці да двух тыпаў: храмасомныя аберацыі, якія ўключаюць змену колькасці альбо структуры храмасом, і мутацыі ў саміх генах.

Ёсць паведамленні *, што ў людзей, якія атрымліваюць малыя дозы абпраменьвання, сапраўды назіраецца павышаная колькасць клетак крыві з храмасомнымі парушэннямі. Гэта з'ява выяўлена ў жыхароў курортнага мястэчка Бадгастайн у Аўстрыі і там жа сярод медыцынскага персаналу, які абслугоўвае радонавыя крыніцы. **Сярод персаналу АЭС у ФРГ, Вялікабрытаніі і ЗША, які атрымлівае дозы не большыя за гранічна дапушчальныя, згодна міжнародных стандартаў, таксама знойдзены храмасомныя анамаліі** (падкрэслена намі.— В. Г., А. Ч.). Біялагічнае значэнне такіх пашкоджанняў і іх уплыў на здароўе чалавека пакуль не высветлены. Мабыць, над гэтым трывожным фактам найперш варта задумацца не грамадскасці, якая выступае супроць развіцця атамнай энергетыкі, а прыхільнікам развіцця...

Канечне, у такім кароткім раздзеле мы не можам разгледзець поўнасцю ўсе аспекты праблем, звязаных як з радыеактыўнасцю, так і з яе ўздзеяннем на жывы арганізм. Існуюць цэлыя напрамкі навук: радыехімія, радыебіялогія. Фактычна, ядзерная энергетыка развіваецца ўсяго толькі дзесяцігоддзі, і многія пытанні, звязаныя з уплывам радыяцыі на жывыя арганізмы, а тым больш сістэмы арганізмаў не вырашаны. Для прыкладу можам сказаць, што некаторыя вучоныя-радыебіёлагі прыводзяць дадзеныя **, згодна якіх мінімальныя дозы радыяцыі даюць станоўчы эфект як на арганізм жывёлін, так і чалавека.

* Дадзеныя НКДАР.

** Манаграфія А. М. Кузіна «Стимулирующее действие ионизирующего излучения на биологические процессы», М., 1977.



У радыебіялогіі ўведзены гранічна дапушчальныя дозы (ГДД) — гадавы ўзровень абпраменьвання, які пры раўнамерным накапленні на працягу 50 гадоў не выклікае яўных захворванняў. Гэты нарматыў для прафесіянальнага абпраменьвання складае да 5 бэр у год. Трэба мець на ўвазе, што дозы абпраменьвання могуць быць як аднаразовымі (альбо на працягу тыдня), тады чалавек можа іх вытрымаць у 10 разоў большымі, г. зн. да 50 бэр, так і пастаяннымі, тады дозы змяншаюцца да 0,5 бэр у год — такія дозы ўведзены для людзей, якія прафесійна не звязаны з выкарыстаннем крыніц радыяцыі, але жывуць паблізу ад гэтых крыніц *.

Асобнае складанае пытанне — уздзеянне пэўных радыенуклідаў на чалавека, якія могуць трапляць унутр арганізма не толькі з паветрам, але і праз так званыя «жывыя ланцугі»: хлеб, малако, садавіну, гародніну, мяса, якія ўжо забруджаны радыеактыўнымі элементамі. Заўважым толькі, што стронцый-90, які мае перыяд паўраспаду 27,6 года, у выніку сваёй блізкасці па хімічных уласцівасцях да кальцыю, даволі эфектыўна ўключаецца ў касцявую тканіну чалавека, накопліваецца там, ператвараецца ў своеасаблівую міну запаволенага дзеяння.

Прыкладна такую ж «паслугу» арганізму аказвае і цэзій-137, які паспяхова канкуруе з каліем і, як калій, раўнамерна размяркоўваецца па ўсіх органах.

**4. Ядзерная энергетыка.**

На АЭС адсутнічае працэс гарэння, таму ім не патрэбны вугаль, мазут альбо газ. Гэты факт даволі актыўна прапагандуецца і праводзіцца ў свядомасць грамадскасці прыхільнікамі развіцця ядзернай энергетыкі. З артыкула ў артыкул, з кнігі ў кнігу пераходзяць лічбы і факты, якія даказваюць шкоднасць выкідаў ЦЭС.

Думаецца, што тут прыхільнікі развіцця ядзернай энергетыкі ў пэўнай меры маюць рацыю, сапраўды, пры падліку эканамічнай і экалагічнай выгоды крыніцы энергіі любога тыпу, АЭС, ГЭС альбо ЦГЭС, трэба ўлічваць мноства фактараў і, канечне ж, ні ў якім разе не варта забываць пра шкоднасць выкідаў у акаляючае асяроддзе сярністых альбо азоцістых злучэнняў з тых жа ЦЭС, якія дасягаюць вялікай колькасці. Засмучае тут адзінае: чытаючы ў нашым друку сцверджанні вядучых вучоных-ядзершчыкаў **, што ў будучым толькі ядзерная энергетыка можа ўратаваць нас ад энергетычнага крызісу, бо альтэрнатыўных крыніц няма і не прадбачыцца, задумваешся мімаходзь пра тое, чаму мы не трацім сродкі на распрацоўкі тэхналогій, якія б маглі зменшыць колькасць выкідаў звычайных электрастанцый, чаму мы не развіваем тыя ачышчальныя збудаванні, якія з сярністых шкодных выкідаў могуць даваць нам чыстую серу, як гэта, кажуць, зроблена ў Францыі?..

У якасці крыніцы энергіі выкарыстоўваецца абагачаны ўран. Прыродны ўран складаецца з сумесі трох ізатопаў: урану-238 — яго прыкладна ва ўране 92,28%, урану-235 — яго ў прыродным уране 0,71% і ўрану-234, які практычнага значэння не мае. Ланцуговая рэакцыя адбываецца ва ўране-235. «Запуск» рэакцыі робіцца нейтронам, які мае пэўную энергію. У выніку распаду ўрану-235 вызваляецца энергія і заадно ўтвараюцца два-тры новыя нейтроны, якія працягваюць рэакцыю. Такім чынам, рэакцыя ядзерна-

* В. А. Барабой. «Популярная радиобиология», «Навукова думка», Киев, 1988.

** Н. С. Бабаев и др. «Человек и окружающая среда», «Энергоатомиздат», М., 1984.



**Вёска Барталамееўка Веткаўскага раёна.**
**Упершыню давялося здымаць праз паштовую шчыліну: ад'язджаючы, гаспадары наглуха забілі браму і веснічкі. Няўжо не ведаюць пра тое, што патрэбна 300 гадоў, каб цэзій і стронцый поўнасцю разбурыліся?**

га распаду можа сама сябе падтрымліваць, прывесці да ядзернага выбуху.

У ядзерным рэактары ствараюцца такія ўмовы, каб рэакцыя захоўвала ланцуговы характар, але не была б лавіннай, выбуховай. Для гэтага неабходна, каб з двух-трох нейтронаў толькі адзін працягваў рэакцыю, а астатнія паглыналіся ці выводзіліся з актыўнай зоны.

Абагачаны ўран — гэта прыродны метал, у якім канцэнтрацыя ўрану-235 павышана да 2—3 працэнтаў (замест 0,7). Лішкі ўрану-238 паглынаюць частку нейтронаў, ператвараючыся паступова ў плутоній-239. Гэты ізатоп дзеліцца гэтак жа лёгка, як і ўран-235. Таму ў канцы эксплуатацыі ядзернага рэактара ўнутры яго больш плутонію-239, чым урану-235.

Абагачаны ўран — гатовае ядзернае паліва — у выглядзе таблетак па 20 г вагою змяшчаюць у сталёвыя альбо цырконіевыя трубкі (цеплавыдзяляльныя элементы, ЦВЭЛы). У якасці замаруджвальніка нейтронаў выкарыстоўваюць альбо высокаачышчаны графіт, брускі якога зададзенай формы змяшчаюць у актыўную зону, альбо ваду, цяжкую ці звычайную.

У большасці атамных рэактараў вада выкарыстоўваецца ў якасці цепланосьбітаў.

**Паглядзець на «дэтэктыўную» фотаздымку выйшла Лукер'я Ігнатаўна Гапеева. На 68 годзе жыцця яна вымушана пакінуць родную вёску. Добра, сын запрашае да сябе, у Сумы. А іншым барталамееўскім старажылам ехаць няма куды.**



Канструктыўнай асноваю воднаахаладжальнага ўрана-графітавага рэактара (тып РБМК, гэты тып прымяняўся ў Чарнобылі) з'яўляецца куб, складзены з графіту са стараною 11—13 метраў, таўшчыню якога пранізваюць тэхналагічныя каналы. ЦВЭЛы абмываюцца вадою пад ціскам. Графітавая кладка знаходзіцца ў герметычнай замкнутай прасторы. Вада падводзіцца знізу, награецца да кіпення і ў выглядзе пара-вадзяной сумесі адводзіцца ў сепаратары. Насычаная пара аддзяляецца ад вады і пад ціскам у 70 атм. накіроўваецца на турбіны. Каб не вяртацца далей да гэтага пытання, заўважым, што пры рабоце ядзернага рэактара, як і іншых прадпрыемстваў ядзернага паліўнага цыклу, увесь час выдзяляюцца радыенукліды, якія, як і сказана ў вышэйцытаванай кнізе *, могуць аказваць значнае ўздзеянне на біясферу. На практыцы некаторыя ЦВЭЛы могуць мець тыя альбо іншыя дэфекты, якія ўзнікаюць у працэсе работы рэактара,— мікратрэшчыны, цераз якія дыфундзіруюць газавыя прадукты дзялення, альбо вялікія трэшчыны. Магчымы прамы кантакт вады з палівам, у выніку чаго ў ваду можа трапіць пэўная колькасць нелятучых прадуктаў дзялення альбо нават і паліва. Найбольш актыўна дыфундзіруе праз паверхню ЦВЭЛа трытый. Усе гэтыя радыенукліды называюць біялагічна значымымі, іх перыяды паўраспаду знаходзяцца ў шырокіх межах — ад доляў секунды да дзесяткаў і больш гадоў.

Вода-вадзяны энергетычны рэактар (тып ВВЭР) мае двухконтурную схему адводу цяпла, што забяспечвае больш высокую ступень ачысткі і радыяцыйнай бяспекі.

Тыповая АЭС складаецца з вялікага рэактарнага корпуса, у якім размешчаны рэактар у герметычным металічным корпусе, цеплаабменніка і турбіннай залы, размешчанай у асобнай будыніне. Цераз высокі комін выкідваецца нагрэтае паветра, што праходзіць спецыяльную ачыстку і якое ўсё ж мае невялікую колькасць радыеактыўных газаў і аэразоляў. Акрамя таго лішкі цяпла выдзяляюцца ў вадаёмы ці іншыя ахаладжальнікі **.

У гэтым раздзеле мы прывялі некаторыя дадзеныя, звязаныя з асноўнымі паняццямі радыяцыі, радыебіялогіі і ядзернай энергетыкі. Зроблена гэта таму, што ў далейшым пад час гутарак са спецыялістамі і з неспецыялістамі мы даволі часта будзем сутыкацца з рознымі спецыфічнымі паняццямі, якія кожны раз запатрабуюць свайго тлумачэння. Каб не рабіць у зносках вялікія тлумачэнні, мы напісалі гэты раздзел.

## Раздзел другі. Першыя дні.

### г. Мінск, панядзелак, 28 красавіка 1986 г.

Ясны, бясхмарны, сонечны дзень. Тэмпература паветра, як паведамілі сіноптыкі, каля 20 градусаў. Слабы паўднёва-ўсходні вецер ледзь-ледзь адчуваецца. Днём на вуліцах душна і мляўка, пахне разагрэтым асфальтам, і мо таму баліць галава з самай раніцы, хочацца як мага хутчэй выскачыць за горад, да возера і зеляніны.

Вясна ў разгары. У калгасах і саўгасах сеюць. Рэспубліканскія газеты

* Н. С. Бабаев и др. «Человек и окружающая среда», «Энергоатомиздат», М., 1984.
** У асноўным дадзеныя па ядзерных рэактарах намі ўзяты з кнігі В. А. Барабоя «Популярная радиобиология». Але гэтыя ж дадзеныя можна ўзяць і з іншых літаратурных крыніц, з вышэйцытаванай кнігі «Человек и окружающая среда».





Гэты трактарны абоз атабарыўся ля фермы Рудня Стаўбунская саўгаса «Грамыкі» Веткаўскага раёна. Тут радыеактыўны гной змешваюць з торфам, і торфакампост вывозяць на радыеактыўнае поле, механізатары атрымліваюць за гэтую працу надбаўкі.

гэтымі днямі змяшчаюць матэрыялы рэйдавых брыгад аб ходзе вясенне-палявых работ. Хлебаробы Брэсцкай і Гомельскай абласцей, па сведчанню статыстычных дадзеных, ужо ўбіліся ў палавіну пасяўной, а Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай — толькі ўцягваліся...

Перад гэтым днём у суботу і нядзелю, як звычайна па вясне, многія гараджане выязджалі «на прыроду», хто — загараць, хто — бульбу і гароды садзіць у вёсках ці на дачах... Бо сонца ў тыя дні, паўторым, было спякотнае, загар прыставаў добра, многія казалі, што даўно такой вясны не было...

Дзесьці перад абедам у Мінску паявіліся першыя чуткі пра нейкую аварыю на атамнай станцыі на нейкім ці то Чарнобылі, ці то Чарнабылі... Пра гэты Чарнобыль, дарэчы, многія, калі не большасць, ніколі не чулі. Неяк адразу ва ўсім горадзе пачало распаўсюджвацца рознае.

Казалі, што ў Інстытуце ядзернай энергетыкі АН БССР была паніка, бо прыборы зашкалілі, і людзі ледзьве не разбягацца пачалі, падумаўшы напачатку, што свой, інстытуцкі, рэактар даў уцечку...

Казалі, што трэба вокны і фортачкі зачыняць, не хадзіць з адкрытаю галавою па вуліцы.

Казалі, што цяпер лепей за ўсё выпіць, пажадана, каб гэта было «Каберне», бо яго падводнікам даюць...

Казалі рознае.

Але ўсё тое, што казалі шэптам, азіраючыся, ніяк не стыкоўвалася з рэальнасцю, і гэта, мабыць, было самым пакутлівым для чалавека, які верыў

ва ўсё тое, што ён бачыў, чуў, адчуваў на пах ці на смак. Доля скептыцызму ў людзей была, але ж ніякага паху ў паветры не адчувалася. Радыеактыўнае воблака, пра якое ўсюды казалі, ніхто нідзе на бачыў, у небе смаліла мляўкае сонца. Пра Чарнобыль у газетах, як і па радыё, ніхто нічога не паведамляў. Увогуле, да чарнобыльскай аварыі пра развіццё ядзернай энергетыкі ў нашай краіне пісалася толькі ружовымі фарбамі. «Наш мірны атам», гэтыя словы, што часта паўтараліся як спецыялістамі, так і неспецыялістамі, асацыіраваліся з чымсьці сапраўды мірным і лагодным, якое ніколі не можа прынесці шкоды.

Праўда, дагэтуль, у папярэднія гады, ужо былі, як званкі папераджальныя, некаторыя аварыі. Так, у 1979 годзе ў Трымайдл-Айлендзе (ЗША) на атамнай электрастанцыі адбылася аварыя. У «Праўде» за 26 красавіка 1986 года па лініі ТАСС была змешчана інфармацыя наступнага зместу:

**«Аварыя ядзернай падводнай лодкі ЗША.**

**Вашынгтон.** Атамная падводная лодка ВМС ЗША «Натаніел грын» класа «Пасейдон», знаходзячыся на патруляванні ў Ірландскім моры, у сакавіку гэтага года пацярпела сур'ёзную аварыю. Гэты факт вымушаны быў прызнаць на сустрэчы з журналістамі прадстаўнік Пентагона Р. Сімс.

Падлодкі класа «Пасейдон», як правіла, маюць на борце па 16 балістычных ракет з трыма ядзернымі боегалоўкамі. Характэрна, што амерыканскае ваеннае ведамства больш месяца замоўчвала факт аварыі, якая несла пагрозу радыеактыўнага забруджвання прыбярэжных вод еўрапейскіх дзяржаў».

У нумары «Праўды» за панядзелак ніякай інфармацыі пра аварыю на АЭС не было, была змешчана інфармацыя пра чарговае выпрабаванне Французскай ядзернай зброі на атоле Муруроа ў Ціхім акіяне.

У другой палове дня неба над горадам нібыта набрыняла нейкай шэранню, і пад вечар замжыў вялы, непрыемны дождж...

І зусім нечакана знік, нібы растварыўся ў цемры.

Закончыўся звычайны дзень. Але ў многіх людзей, ва ўсякім разе ў нас *, у нашых душах засталося ці пасялілася — як бы тут лепей сказаць? — трывога, якая не заціхала ні на хвіліну.

Чым яна была выклікана?

Найперш — адсутнасцю дакладнай інфармацыі. Мы не ведалі галоўнага:

**1. Ці была аварыя сапраўды?**

**2. Калі і была аварыя, то якія яе маштабы?**

**3. Наколькі шкоднае радыеактыўнае воблака? Наколькі шкодная сама радыяцыя, пра якую дагэтуль мы, аказалася, так мала ведаем?**

Канечне, мы збольшага, як нас вучылі ў школе і ў навучальных установах, ведалі пра шкоду радыеактыўнасці, але ў дакладнасці...

Вось, напрыклад, перад намі памятка для насельніцтва пад загалоўкам «Гэта павінен ведаць і ўмець кожны». Выпушчана яна ў 1983 годзе. Пра што мы можам прачытаць у гэтай памятцы, якая выпушчана пад грыфам **Грамадзянская абарона СССР?**

Арміі капіталістычных краін, як мы чытаем у памятцы, маюць сродкі паражэння ядзерныя, хімічныя і бактэрыялагічныя. Пра ядзерную зброю

* У далейшым, каб не было двухсэнсоўнасці, просім лічыць, што там, дзе будзем гаварыць **нам, нашы,** мы будзем мець на ўвазе не ўвесь народ, а толькі сябе, аўтараў.





**Веткаўскі раён. У лясах—пад сотню кюры. А на падворках дрывотні. Дровы—з тых лясоў. Вылятаюць з комінаў радыеактыўныя аэразолі, высыпаецца на агароды радыеактыўны попел. І печы ў хатахператвараюцца ў ядзерныя рэактары.**

і паражэнні ад радыяцыі сказана ўсяго на трох старонках. Далей пішацца, як трэба будаваць сховішчы, як карыстацца супрацьгазам і рэспіратарам, як паводзіць сябе, калі пасля выбуху чалавека засыпле ў падвале ці ў сховішчы....

Складваецца міжволі ўражанне, што змест усёй памяткі нацэлены на тое, каб найперш маральна падрыхтаваць насельніцтва да таго страшнага моманту, калі на нас, на нашу зямлю пачнуць сыпацца бомбы армій капіталістычных краін...

І вось — ціхі мірны дзень. Ніякіх чужых армій няма і ў паміне, а між тым на нашы галовы «сыплецца» радыяцыя. Якая, у якой колькасці — ніхто нам не гаворыць... Псіхалагічна мы былі абсалютна не падрыхтаваны да таго, што «наш мірны атам» можа нас губіць.

Гэта было неверагодна, мы былі ў шокавым стане. Разгубленасць была

яшчэ большая ад таго, што, паўторым, ніякай афіцыйнай інфармацыі людзі не мелі.

**Аўторак, 29 красавіка 1986 года.**

Паглядзім па газетах — гэтых летапісных дакументах нашага веку,— чым жыў народ у тыя дні.

У «Правде» ідзе перадавіца пад загалоўкам «Аграпрам на вясеннім полі». «Дыханне вясны» — ліст з Дона А. Калініна. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР разгледзеў, як выконваюцца дзяржаўныя планавыя заданні па развіццю сельскай электрыфікацыі і эканоміі электраэнергіі Нечарназёмнай зоны РСФСР. Інфармацыі пра аварыю на АЭС у «Правде» няма. Ёсць іншая інфармацыя.

У рэспубліканскай «Сельской газете» тое ж самае: асвятляецца ход пасяўных работ, прыводзяцца паказчыкі абласцей і раёнаў па вытворчасці мяса і малака ў калгасах і саўгасах БССР на 1 красавіка 1986 года — Гомельская вобласць па малаку на першым месцы, у яе найлепшыя паказчыкі...

У той жа час чуткі пра страшную аварыю вярэдзяць душы гараджан. Дзе-хто пачынае шэптам казаць пра верагоднасць ядзернага выбуху...

Магчыма, дзе-каму сёння можа паказацца, што мы залішне шмат увагі надаём першым дням, калі яшчэ нічога не было вядома нават спецыялістам, калі ў любое імгненне з-за недакладнай інфармацыі магла ўзнікнуць паніка... Канечне, на любую падзею можна знайсці апраўданне, але, не збіраючыся сёння шукаць крайніх, на вопыце перажытага хочацца зрабіць некаторыя высновы і сярод іх адну, магчыма, самую галоўную:

**Ад народа нельга хаваць праўду, якой бы яна горкаю ні была.**

Тая, мякка кажучы, інфармацыя, якая гуляла сярод людзей, і праўдзівая і хлуслівая, наносіла людзям найперш маральны ўрон, прыносіла адчуванне сваёй нікчэмнасці і безвыходнасці.

**30 красавіка 1986 года.**

Чуткі і плёткі яшчэ больш падагрэліся кароценькай інфармацыяй, надрукаванай у саюзным друку.

**«Ад Савета Міністраў СССР**

Як паведамлялася ўжо ў друку, на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, размешчанай у 130 кіламетрах на поўнач ад Кіева, здарылася аварыя. На месцы працуе ўрадавая камісія пад кіраўніцтвам намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР т. Шчарбіны Б. Е. У яе склад увайшлі кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, вядомыя вучоныя і спецыялісты.

Па папярэдніх дадзеных, аварыя адбылася ў адным з памяшканняў 4-га энергаблока і прывяла да разбурэння часткі будаўнічых канструкцый будынка рэактара, яго пашкоджання і пэўнай уцечкі радыеактыўных рэчываў. Тры астатнія энергаблокі спынены, спраўныя і знаходзяцца ў эксплуатацыйным рэжыме. Пры аварыі загінулі два чалавекі.

Прыняты першачарговыя меры па ліквідацыі вынікаў аварыі. У цяперашні час радыяцыйная абстаноўка на электрастанцыі і прылягаючай мясцовасці стабілізавана, пацярпелым аказваецца неабходная дапамога. Жыхары пасёлка АЭС і трох прылягаючых населеных пунктаў эвакуіраваны.

За станам радыеактыўнай абстаноўкі на Чарнобыльскай АЭС і акружаючай мясцовасці вядзецца пастаяннае назіранне».

Вось такая з'явілася інфармацыя, але яна, як ні дзіўна, не спыніла чутак і плётак. Магчыма, гэта было таму, што цяперашняя інфармацыя была доказам, пацвярджэннем дагэтуль сказанага шэптам.





**Чорным быллём зарастаюць падворкі назаўжды пакінутых дамоў. Вёска Грыдні Нараўлянскага раёна.**

І цяпер ужо, як бы на новым вітку пазнання, людзі ў асноўным гаварылі пра тое, што

1. Там, на Чарнобыльскай АЭС, і цяпер ідзе гарэнне, радыеактыўныя выкіды працягваюцца.

2. У любое імгненне там можа быць ядзерны выбух, які загубіць не толькі Беларусь і Украіну...

У пэўнай меры быў недавер да інфармацыі пра аварыю і яе вынікі. Гэты недавер падаграваўся тым, што людзі даволі цьмяна ўяўлялі, што такое радыеактыўнасць, ядзерныя выбухі і ядзерныя рэакцыі...

Надышлі першамайскія святы. Як і звычайна, усюды былі ўрачыстыя калоны, гулянні на адкрытым паветры, з латкоў прадаваліся булачкі, марожанае. Зноў, як і тыдзень назад, многія гараджане выехалі «на прыроду»: да лугоў, рэчак, азёр, дзе загаралі...

Чарнобыльская аварыя, вынікі яе адгукнуліся ў многіх краінах. Якая была там рэакцыя?

У Польшчы Нацыянальнае агенцтва па атамнай энергіі 29 красавіка рэкамендавала забараніць з гэтага дня ўжыванне малака ад кароў, якія атрымлівалі зялёны корм. Выкарыстоўваць малако можна было толькі пасля перапрацоўкі. Дзецям ва ўзросце да трох гадоў раілі піць парашковае малако, са старых запасаў. Ужыванне гародніны, мяса і рыбы, у якіх узровень радыяцыі быў вышэй 5000 Бк/кг, забаранялася. Агенцтва рэкамендавала выдаваць дзецям ва ўзросце да 16 гадоў стабільны ёд. Урадавая камісія адобрыла гэтыя мерапрыемствы. Міністэрства аховы здароўя і сацы-

яльнага забеспячэння ўзяло на сябе адказнасць за правядзенне прафілактычнага лячэння стабільным ёдам. Вечарам 29 красавіка стабільны ёд прымалі дзеці ў Беластоцкім раёне, 30 красавіка — па ўсёй краіне. Па ацэнках, каля 10 млн. дзяцей і падлеткаў атрымалі прафілактычныя дозы стабільнага ёду *.

У ФРГ камісія па радыяцыйнай абароне рэкамендавала ў якасці абмежаваных доз наступныя: 500 Бк на літр малака і 250 Бк на кілаграм гародніны. Так як у некаторых выпадках гэтыя дозы былі перавышаны, то свежае малако было знята з продажу і гатовая гародніна была знішчана.

У Швецыі з 1962 года праводзіцца дазіметрычны кантроль за ўзроўнем радыеактыўнасці малака на фермах. Павышэнне ўзроўню радыеактыўнасці ўпершыню было зарэгістравана 28 красавіка раніцаю персаналам змены АЭС Форсмарк. У канцы красавіка большасць кароў не выпускаліся з кароўнікаў. Шведскім нацыянальным інстытутам радыяцыйнай аховы вяліся замеры радыеактыўнасці паветра, травы, мацярынскага малака, шчытападобнай залозы жыхароў Стакгольма **.

Пасля першамайскіх дзён амаль што ў кожным нумары газет, як цэнтральных, так і рэспубліканскіх, пачала паяўляцца інфармацыя пра аварыю на ЧАЭС. Напачатку гэта былі кароценькія паведамленні. Так, напрыклад, у «Сельской газете» ад 2 мая 1986 года (пятніца) было такое паведамленне:

**«Ад Савета Міністраў СССР**

На працягу 30 красавіка на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі працягвалася работа па выкананню комплексу тэхнічных мер.

Радыеактыўнасць на тэрыторыі АЭС і ў пасёлку электрастанцыі зменшылася ў паўтара-два разы.

Вядзецца работа па дэзактывацыі забруджаных участкаў, якія прылягаюць да тэрыторыі АЭС.

Працягваецца аказанне дапамогі пацярпелым, сярод іх 18 чалавек знаходзяцца ў цяжкім стане.

У ліку пацярпелых замежных грамадзян няма».

Тады ж, 2 мая, Чарнобыльскую АЭС наведалі М. І. Рыжкоў і Я. К. Лігачоў. У паездцы прынялі ўдзел В. В. Шчарбіцкі, старшыня ўрадавай камісіі Б. Е. Шчарбіна, Старшыня СМ УССР А. П. Ляшко, сакратар Кіеўскага абкома КП УССР Р. І. Равенка.

Увогуле, калі гаварыць пра інфармацыю ў прэсе ў тыя першыя паслячарнобыльскія дні, то складвалася ўражанне, што найбольш пацярпелі раёны Украіны, Беларусь як быццам бы амаль і не закранула чарнобыльская бяда. Гэты вывад можна зрабіць на аснове вышэйпрыведзенай інфармацыі, ды і наступная інфармацыя ў нашых газетах была даволі аптымістычная і бадзёрая. Вось пачалася эвакуацыя з 30-кіламетровай зоны адчужэння. Чытаем тую ж рэспубліканскую «Сельскую газету» ад 8 мая 1986 года. Карэспандэнты БЕЛТА Л. Перасыпкіна і І. Куксо пішуць у карэспандэнцыі «Чужой бяды не бывае...», што ў Брагінскім і Хойніцкім раёнах людзі жывуць звычайнымі клопатамі:

«Як звычайна, пасля ранішняга нарада вывеў свой **Т-150** у поле лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, дэлегат XII Усесаюзнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве механізатар саўгаса «Стрэлічава» Хойніцкага раёна Уладзімір Кашперка. Уладзімір на некалькі хвілін спыніў машыну, расказаў, што палявыя работы ў саўгасе ўжо заканчваюцца, што і сёння ён перавыканае норму...»

* Дадзеныя з Бюлетэня МАГАТЭ № 3 за 1986 г.
** Там жа.



У такім бадзёрым настроі напісана ўся карэспандэнцыя. Праўда, неяк мімаходзь у карэспандэнцыі паведамляецца, што чатыры гаспадаркі Хойніцкага раёна **часова** (выдзелена намі.— В. Г., А. Ч.) перабазіраваліся ў бяспечную зону. За паўтара сутак удвая павялічылася насельніцтва многіх вёсак Брагінскага раёна — туды перасяліліся людзі з «зоны»...

У тым жа нумары газеты даецца паведамленне з прэс-цэнтра Міністэрства замежных спраў СССР. На прэс-канферэнцыі для савецкіх і замежных журналістаў выступіў старшыня ўрадавай камісіі Б. Е. Шчарбіна, які, дарэчы, паведаміў, што ў выніку прынятых мер радыяцыйная абстаноўка ў раёне Чарнобыля нармалізуецца. За мінулыя суткі ўзровень радыяцыі яшчэ больш знізіўся. Па выніках сістэматычнага кантролю радыеактыўнай забруджанасці мясцовасці на тэрыторыі Украінскай, Малдаўскай і Беларускай ССР узровень радыяцыі не перавысіў нормаў радыяцыйнай бяспекі, устаноўленай МАГАТЭ і Міністэрствам аховы здароўя СССР. Павышаныя ўзроўні радыяцыі адзначаліся на тэрыторыі, якая прылягала да месца аварыі, дзе максімальныя ўзроўні радыяцыі дасягалі 10—15 мілірэнтген у гадзіну. Па стану на 5 мая ўзроўні радыяцыі знізіліся ў 2—3 разы. На гэтай жа прэс-канферэнцыі было сказана, што на Захадзе, у тым ліку і ў колах некаторых урадаў, імкнуцца выкарыстаць аварыю ў Чарнобылі для падрыву атмасферы давер'я і супрацоўніцтва.

Паведамленні пра аварыю пашыраюцца, у прэсе ўсё часцей паяўляюцца інфармацыі карэспандэнтаў ТАСС пра аварыю. І ў той жа час, як нам думаецца, вельмі і вельмі мала даецца звестак пра рэальны стан спраў на АЭС.

**Ці можа адбыцца новы, больш жахлівы выбух на АЭС?**

Думаецца, што ў тыя спякотныя дні гэтае пытанне турбавала людзей найбольш. Пайшлі чуткі, што ў Кіеве, напрыклад, не дастаць білетаў на цягнікі і самалёты. Рэактар, як паказвалася на экранах тэлевізараў, закідваўся пяском, свінцом. Людзі адчувалі, што справы сур'ёзныя яшчэ наперадзе.

Вось што сказаў пра тыя дні Я. Веліхаў: «Пагроза магла пашырыцца. Сэрца рэактара — раскаленая актыўная зона — як бы вісіць. Рэактар пераякрыты зверху слоем пяску, свінцу, бору, гліны, а гэта дадатковая нагрузка на канструкцыю... Знізу вада. Як павядзе сябе раскалены рэактар, сарваўшыся? Ніколі ніхто ў свеце не знаходзіўся ў такім становішчы».

Мы пакуль знарок не разглядаем тыя працэсы, якія адбываліся ў самім Чарнобылі, на самой Чарнобыльскай АЭС. Гэта — тэма асобнай гаворкі, хочам толькі падкрэсліць адно: тое, што адбывалася ў рэальнасці, і тое, што мы чыталі ў газетах, чулі па радыё і тэлебачанні,— часта не стыкуецца... Сёння, праз чатыры гады пасля аварыі, мы можам пры жаданні знайсці як апраўданні, так і абвінавачванні. Пакуль што будзем проста сачыць за тым, як даходзіла да нас горкая праўда пра Чарнобыль...

У людзей, якія чыталі газеты, слухалі радыё, глядзелі тэлевізар, складвалася ўражанне, што асноўная бяда абрушылася на Украіну, Беларусь жа як быццам толькі зачапіла «зонаю», з якой адсялілі некалькі вёсак, ды і то — часова...

Пісалася ў газетах, што ў недалёкім будучым у некаторыя вёскі можна нават будзе вярнуцца...

І між тым, незразумела, як і чаму, але, як нам думаецца, людзі з кожным пражытым днём адчувалі трывогу, складвалася ўражанне, быццам той дагэтуль далёкі Чарнобыль набліжаўся і набліжаўся да Мінска, да Віцебска, да раённых гарадкоў — да кожнага чалавека, дзе б ён ні жыў...

Асноўная інфармацыя ў тыя першыя паслячарнобыльскія дні датычыла самой АЭС, Кіева, Украіны...

У сераду вечарам 14 мая па цэнтральным тэлебачанні выступіў М. С. Гарбачоў. Поўнасцю выступленне М. С. Гарбачова надрукавана ў газетах. Выступленне гэтае як бы падвяло першую рысу, пасля гэтага людзі зразумелі: самае жахлівае, што магло здарыцца,— выбух,— не адбудзецца...

Пачыналіся іншыя дні...

**Раздзел трэці. Першыя месяцы.**

Наколькі і як засыпала Беларусь радыенуклідамі? Ці разумелі мы ў той час рэальную сітуацыю?

Вось урыўкі з карэспандэнцыі з Брагінскага раёна, надрукаванай у рэспубліканскай газеце:

«...З перасяленцамі рэгулярна сустракаюцца прадстаўнікі райкома партыі, райвыканкома, грамадскіх арганізацый. Яны расказваюць пра абстаноўку ў трыццацікіламетровай зоне, у пакінутых **часова** (падкрэслена намі.— В. Г., А. Ч.) вёсках і пасёлках. Людзей радуюць абнадзейваючыя навіны. Паўсюдна падае ўзровень радыяцыі. Пачаліся работы па ачыстцы тэрыторыі, будынін. На дарогах паявілася тэхніка па ўкладцы дадатковага слою асфальту. Але выселеныя вёскі не пустуюць. Яны цярпліва чакаюць вяртання сваіх гаспадароў, якія, ёсць усе падставы спадзявацца, зноў паселяцца на абжытых сядзібах, зробяць іх яшчэ больш прыгожымі і абжытымі».

Такая карэспандэнцыя была не адзіная, іх было шмат. Яны стваралі пэўную атмасферу, як нам цяпер думаецца, адна з мэтаў такіх публікацый была не дапусціць панікі, аварыя не такая ўжо і жахлівая, і мы з ёю вось-вось справімся сваімі сіламі...

Для прыкладу прывядзём яшчэ адну карэспандэнцыю з тагачасных газет.

**«Насуперак цяжкасцям**

...Дарэчы, і землі гаспадарак, якія перабазіраваліся, не кінуты на волю лёсу. З дазволу медыкаў сюды ў хуткім часе пачнуць прыязджаць на пэўны час звенні механізатараў, каб даглядаць пасевы і сенажаці.

...Няйнакш, як гераічнымі, можна назваць працоўныя будні жывёлаводаў саўгаса «Брагінскі», які знаходзіцца на лініі трыццацікіламетровай зоны. Комплекс па гадоўлі цялушак было вырашана пакінуць на месцы. Абслугоўванне маладняку цяпер тут вядзецца вахтавым метадам, а людзі ўзяты пад пастаянны кантроль медыкаў.

На разгалінаванні адной з дарог надпіс: «Чарнобыль — 29 км». Усяго сем-восем кіламетраў ад гэтага месца людзі працягваюць спакойна працаваць, жывуць прывычнымі клопатамі. Загадчык Верхняжарскай фермы калгаса «Ніжні дняпровец» Юрый Шагідулавіч Сінагулаў гаворыць, што ўся жывёла выведзена на пашу, дружна і зладжана дзейнічае калектыў фермы, дзе ў гэтыя дні атрымліваюць ад каровы амаль на два кілаграмы малака больш, чым у мінулым годзе. А ў групах даярак Н. П. Блудчай, М. Я. Язянок і М. І. Блудчай прадуктыўнасць жывёлы яшчэ вышэйшая.

...Сталі мы сведкамі футбольнага матча паміж камандамі Хойніцкага і Брагінскага раёнаў, якія праходзіў пры перапоўненых трыбунах.





М. РАГАЛЕВІЧ. Сімфонія вясны (алей, 1989).




**У. ЖУК. Чарнобыль** (плакат, 1989).

**С. САВІЧ. З серыі «Маўчанне»** (каляровая літаграфія, 1989).

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




У. ЖУК. Прыродныя багацці не невычарпальныя! (плакат, 1989).

...У міжрэччы Дняпра і Прыпяці робіцца ўсё, каб часова пакінутыя беларускія і ўкраінскія сёлы зноў напоўніліся галасамі іх гаспадароў»*.

Зноў паўторым: сёння мы не збіраемся вінаваціць ці абвінавачваць карэспандэнтаў альбо тых жа жыхароў вёсак, якія не разумелі, што з імі адбываецца... Радыяцыю, як мы ведаем, нельга ні панюхаць, ні адчуць на смак. І тут, як думаецца, сваё важкае аўтарытэтнае слова павінны былі сказаць менавіта спецыялісты: фізікі-ядзершчыкі і найперш медыкі. Што ж, давайце пачытаем, што гаварылі нашы спецыялісты ў той час.

### Здароўю пагрозы няма

На пытанні карэспандэнта «Сельской газеты» адказвае начальнік галоўнага санітарна-эпідэмічнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР Віктар Мікалаевіч Бур'як **.

«— Віктар Мікалаевіч, які ўзровень радыяцыі сягоння ў раёнах, дзе адзначалася істотнае яго павышэнне?

— Прыкметнае павышэнне радыяцыйнага фону адзначалася ў Брагінскім, Хойніцкім і Нараўлянскім раёнах. На сённяшні дзень узровень радыяцыі знізіўся тут шматкратна, і ў нас няма падстаў лічыць, што ён уяўляе небяспеку для здароўя насельніцтва. Цяпер там вядуцца ўсе работы, у тым ліку і сельскагаспадарчыя. Калі б існавала хоць невялікая небяспека, яны былі б істотна абмежаваныя.

...У раёнах, што прылягаюць да названых, найперш у Рэчыцкім, Мазырскім, Калінкавіцкім, Ельскім, у свой час рэгістравалася павышэнне ўзроўню знешняга фону, але яно працягвалася нямнога і было значна менш, чым у названых раёнах, што зусім натуральна. І тут абстаноўка поўнасцю кантралюецца, спецыялісты не бачаць пагрозы здароўю людзей...

— Як працавала і працягвае працаваць у гэтых умовах санітарная служба рэспублікі? Якія меры прымаюцца для таго, каб у харчовыя прадукты не траплялі радыеактыўныя рэчывы? Якія з іх найбольш падвяргаюцца паражэнню і праз які час становяцца прыгоднымі для карыстання? Ці будзе бяспечны восеньскі ўраджай?

— ...Пэўнай асцярожнасці патрабуе малако. Гэта звязана з тым, што каровы на пашы ядуць траву, якая можа быць забруджана. Таму мы кантралюем кожную партыю малака, што трапляе на малаказаводы. Пры малейшых адхіленнях ад нормы яно накіроўваецца на перапрацоўку, у свежым выглядзе насельніцтву не трапляе. Сыр і масла, што выпрацоўваюцца з яго, абсалютна бясшкодныя, таму што радыеактыўныя рэчывы застаюцца найбольш у вадкасці. А ў сувязі з тым, што гэтыя прадукты маюць вялікія тэрміны захавання, то нават тыя рэчывы, якія маглі трапіць у іх, распадаюцца натуральным чынам.

Трэба сказаць і пра курыныя яйкі, якія могуць збіраць радыеактыўныя рэчывы. Заўважу, што мы спецыяльна даследавалі і курэй, і яйкі, якія атрымліваюць на прадпрыемствах птушкапрама, і не знайшлі ў іх адхіленняў. Але ў сувязі з тым, што ўмовы кармлення і ўтрымання птушкі на фабрыках значна адрозніваюцца ад умоў у асабістых гаспадарках, то дамашнія яйкі нельга ўжываць. Арыенцір тут просты — у тых раёнах, дзе ўведзены абмежаванні на ўжыванне малака, гэта датычыць і яек. Прадукт гэты павінен пэўны час вылежацца. Лепш за ўсё здаваць яйкі: у харчовай

* Саўгас «Брагінскі» з-за высокай забруджанасці тэрыторыі радыенуклідамі поўнасцю адселены ў Рагачоўскі, Добрушскі і Гомельскі раёны. Калгас «Ніжні дняпровец» існуе, яго тэрыторыя, як паведамілі ў Брагінскім РК КПБ, самая чыстая ў раёне.

** На сённяшні дзень Бур'як В. М.—намеснік кіраўніка спраў Саўміна БССР.





Яны — «самасёлы», якія вярнуліся ў родную вёску Грыдні, што пад Нароўляй, з Ельскага раёна, бо «і там таксама радыяцыя, а паміраць лепей дома». І шапаціць вецер папяровымі кветкамі на свежых магілах грыднінскага пагоста.

прамысловасці ёсць магчымасці перапрацоўкі іх у прадукты доўгага тэрміну захавання, якія пасля пэўнай вытрымкі будуць абсалютна бяспечныя для здароўя.

Трэба сказаць і пра зеляніну — салату, цыбулю, шчаўе, у якіх адбываецца некаторае накапленне радыеактыўных рэчываў. Адразу агаваруся, што садавіна, вырошчваемая ў дзяржаўных прадпрыемствах, праходзіць абавязковы кантроль. І калі яны сягоння ёсць на прылаўках магазінаў, значыць, яны абсалютна бяспечныя. Што датычыць зеляніны на асабістых участках сялян, то яе рэкамендуецца кансерваваць. Пры кансервацыі адбываецца натуральны распад радыеактыўных рэчываў, і прыкладна праз месяц-паўтара садавіна будзе бяспечная.

**Калі зыходзіць з таго, што аварыя адбылася параўнальна даўно, я лічу, што прыкладна праз тры тыдні можна будзе карыстацца зелянінаю ў свежым выглядзе. Гэта датычыць усіх раёнаў Гомельскай, усходніх раёнаў Брэсцкай, паўднёва-ўсходніх Мінскай і паўднёвых раёнаў Магілёўскай абласцей** (выдзелена намі.— В. Г., А. Ч.).

Адносна будучага ўраджаю сельскагаспадарчых культур магу сказаць, што ён будзе зусім бяспечны.

— У час камандзіроўкі ў Магілёўскую вобласць, у прыватнасці ў Горацкі і Краснапольскі раёны, даводзілася чуць, што там адкачваюць ваду з калодзежаў. Ці значыць гэта, што ападкі трапілі ў грунтавыя воды?

— Гэта значыць толькі тое, што там, нягледзячы на папярэджанні нашай службы, у свой час не паспелі закрыць крыніцы вод. Нават у тых раёнах, якія прылягаюць да аварыйнай зоны, калодзежы, закрытыя звычайнай крышкаю, не былі забруджаны ападкамі. Калі ж адбылося процілеглае, то трэба рабіць тое, што рэкамендуем і ў звычайных умовах,— выбраць ваду і выбраць глей. Набегшая зноў вада будзе абсалютна чыстая, бо ў грунтавыя воды ападкі не трапілі, адкрытыя вадаёмы, а тым болей закрытыя водаправодныя сістэмы чыстыя. Гэта не галаслоўная заява, у нашым распараджэнні строга дакументальныя матэрыялы, вынікі аналізаў і іншае.

— Ці адносіцца выказаная вамі ўпэўненасць да гароднiны, якая паспее пазней? Што можна сказаць пра грыбы і ягады?

— Пра зеляніну цяперашнюю і тую, якая паспее пазней, я, мне здаецца, адказаў дастаткова падрабязна і вяртацца да гэтай тэмы не бачу сэнсу. З грыбамі і ягадамі сітуацыя прыкладна такая. Мы не рэкамендуем спажываць раннія грыбы — страчкі, смарчкі, якія здольны збіраць пэўную колькасць радыеактыўных рэчываў. Што датычыць грыбоў, якія вырастуць пазней, а тым больш восенню, то цвёрда ўпэўнены, што ніякай небяспекі яны не будуць уяўляць.

— З небяспечнай зоны эвакуіравана вялікая колькасць сельскагаспадарчых жывёл, кароў... Якія на вашу думку перспектывы яе далейшага карыстання?

— Думаю, што праблем з выкарыстаннем жывёл у нас не ўзнікне па наступных прычынах. Па-першае таму, што праз нейкі час чакаецца ачышчэнне знешняга асяроддзя ад радыеактыўных ападкаў. У тых жа выпадках, калі вядзецца забой жывёл, нашы службы будуць абавязкова правяраць мяса на ўтрыманне радыеактыўных рэчываў. Пры невялікіх адхіленнях гэтыя прадукты, гэтак жа, як і іншыя, будуць накіраваны на перапрацоўку і не дапушчаны ў непасрэднае карыстанне. Паўтаруся, спосабы перапрацоўкі плюс доўгі тэрмін захавання гарантуюць іх поўную бясшкоднасць.



У заключэнне падкрэслю, што медыцынскія работнікі рэспублікі пэўна ведаюць абстаноўку, кантралююць яе. Небяспекі, пагрозы здароўю насельніцтва мы не назіраем. Праводзіцца поўны комплекс мерапрыемстваў, каб вынікі радыеактыўнай забруджанасці мясцовасці, некаторых прадуктаў харчавання не выклікалі расстройства здароўя. Тым больш, што радыяцыйная абстаноўка з кожным днём паляпшаецца, і ў хуткім часе хвалюючыя жыхароў рэспублікі праблемы будуць зняты з парадку дня».

Вось такое інтэрв'ю было дадзена 25 мая 1986 года.

На каго яно было разлічана?

Нейк і цяжка яго каменціраваць... Адзначым толькі, што ў гэтым інтэрв'ю гаворка ўжо вядзецца не толькі пра зону, а і пра цэлыя раёны чатырох абласцей рэспублікі. Міжволі ўзнікае яшчэ адно пытанне: ці ведаў у той час таварыш Бур'як рэальную сітуацыю з радыяцыяй, з забруджанасцю? А калі ведаў, то як ён, як галоўны санітарны ўрач, мог гаварыць на ўсю рэспубліку словы пра тое, што «прадукт павінен вылежацца» і тады ў ім сама па сабе знікне радыяцыя? Стронцый і цэзій маюць перыяды паўраспаду дзесяцігоддзі, і па харчовых ланцугах яны найбольш за ўсё траляюць у арганізм чалавека. Няўжо гэтага ўрач такога рангу не ведае ці не ведаў? Але калі ён сцвярджае, што медыцынскія работнікі «пэўна ведаюць абстаноўку», значыць, на той час у іх меліся дадзеныя забруджанасці па абласцях і раёнах не толькі на радыеактыўны ёд, але і на іншыя элементы, якія нясуць пагрозу для людзей значна большую, чым кароткажывучы радыеактыўны ёд.

І тут, хочам таго ці не хочам, але перад намі паўстае пытанне маральнай адказнасці спецыялістаў перад грамадствам. У тыя дні, калі да нас вельмі і вельмі мала даходзіла інфармацыі пра аварыю і яе вынікі, мы з надзеяю штодня чакалі важкіх сумленных слоў ад прафесіяналаў, найперш вучоных.

На жаль, на вялікі жаль, мы іх у той час не чулі. Чаму?

**Слова І. К. ІСАКАВА, намесніка загадчыка лабараторыі Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР, кандыдата тэхнічных навук:**

— Так супала, што ўсе дні перад падзеямі 26 красавіка быў заняты. На рэактары вяліся выпрабаванні... 28 красавіка ў мяне быў адгул. Выкаціў машыну з гаража і ўвесь дзень прымаў радыеактыўны загар. Потым пайшоў дождж гэты. Мяне адшукаў наш супрацоўнік: «Што ты тут возішся?! Увесь калектыў пакінуў інстытут. У нас спрацавала «ахова». Уцечка, мабыць... Сірэны адразу загудзелі. Сігнал трывогі... А прычыны не ведаюць. Апранайся!»

І раптам званок з Масквы. Звоніць Несцярэнка (былы дырэктар Інстытута ядзернай энергетыкі.— В. Г., А. Ч.): «Не турбуйцеся. Гэта не ў нас. Гэта ў паўднёвага суседа...»

Я ўспрыняў гэта спакойна, без эмоцый. Адзінае, вярнуўся дамоў і адразу — шклянку вады і чатыры кроплі ёду... І ванну прыняў, таму што ўвесь дзень аголены быў.

Трывожна стала, калі пайшлі паведамленні аб выкідах, якія працягваліся. Потым па тэлебачанні паказалі кадры разбурэння на рэактары... Я займаўся ядзернымі ўстаноўкамі і ўяўляў, што магло здарыцца... Я баяўся выбуху. РБМК я ведаў добра. 194 тоны ўрану, хоць там абагачэнне і невялікае, але ўсё роўна... Расплаўленне зоны, ЦВЭЛы, трубкі... Дзве тысячы тон графіту... Гарэнне, высокая тэмпература... Калі я ўбачыў на фо-

таздымку: накрыўка рэактара стаяла нахіленая і адтуль выкіды радыеактыўныя... Магла ўзнікнуць крытычная маса — і тады выбух.

Пакуль не заглушылі рэактар, усё гэта моцна трывожыла.

Несцярэнка — чалавек энергічны, ініцыятыўны. З Масквы вярнуўся і адразу ж — за справу. Праз некалькі дзён пачалі распрацоўваць прыборы па ўзроўню забруджання глебы, вады — іх не было. Несцярэнка ўзначаліў камісіі... Ён быў у Прыпяці, Магілёве... Ён і ў камісіі Ізраэля ўдзельнічаў. Стварыў групу ў Інстытуце па радыеактыўнаму вымярэнню. Пакой спецыяльны адвёў. Сустракаўся з Кавалёвым, Хусаінавым, Кандрусёвым, Слюньковым — асабіста... Ад яго адмахваліся. Рэспубліканскае кіраўніцтва, мабыць, баялася распаўсюджвання панікі. Але гэта не пазіцыя. Трэба было ўсе сродкі кінуць — і радыё, і тэлебачанне, і прэсу,— трэба было сказаць людзям, як жыць у такой абстаноўцы і што рабіць. І не толькі для Мінска — тут вецер падзьмуў і воблака праляцела,— а для паўднёвых раёнаў. Там трэба было ў самыя першыя дні шырока інфармаваць людзей, не губляючы ні гадзіны. Я не разумею, што за гэтым — пагарда ці жах перад народам альбо проста недасведчанасць... Перад майскімі святамі ў Брагіне, Жлобіне вывелі дзяцей на вуліцу — убіралі тэрыторыю... А гэтага нельга было рабіць. Нельга!

Несцярэнка яшчэ ў чэрвені ставіў пытанне аб высяленні вёсак і пасёлкаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, пра якія яшчэ цяпер усё гавораць *. Але колькі часу страчана... Несцярэнка трапіў пад прэс. А тут яшчэ лісты ў ЦК КПБ ягонага намесніка: панікуе Несцярэнка...

Суды пачаліся. Спачатку быў Заводскі суд, потым гарадскі **...

**А вось што сказаў пад час гутаркі з працаўнікамі Мінскага завода вылічальнай тэхнікі народны дэпутат СССР, прарэктар БДУ імя У. І. Леніна па навуковай рабоце, загадчык кафедры ядзернай фізікі прафесар С. С. ШУШКЕВІЧ на такое запытанне:**

— Калі здарылася чарнобыльская бяда, мы ні слова не пачулі ад нашай навукі. Калі б меліся навуковыя рэкамендацыі, негатыўных вынікаў у першыя дні пасля аварыі магло б быць значна менш. Дзе былі нашы вучоныя? ***

— Думаю, не трэба абвінавачваць у гэтым вучоных. Яны свой абавязак выканалі. Як толькі мы заўважылі рэзкае павелічэнне радыеактыўнага фону, адразу ж звязаліся з Бараўлянскім цэнтрам — там таксама адзначылі рэзкае павелічэнне фону. Мы сазваніліся з усімі установамі, што праводзяць замеры. Стала відавочным — нешта здарылася. Паведамілі аб гэтым М. А. Барысевічу, які на той час быў прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Нам адказалі: «Інфармацыя прынята». Што мы яшчэ маглі зрабіць? Бегаць па плошчы і крычаць? Хто б нас пачуў, асабліва там, у небяспечнай зоне? Неабходна было падключыць сродкі масавай інфармацыі і паведаміць людзям, што рабіць у гэтай сітуацыі. Мы спадзяваліся, што так і будзе, думалі, што да справы апаратыўна падключыцца Штаб грамадзянскай абароны. Але і ён не ўзяў на сябе адказнасць. Спрацавала наша ганебная сістэма — пакуль самы высокі начальнік не скажа, што рабіць, народ трэба супакойваць, нават ілгаць яму.

* Размова з І. К. Ісакавым вялася 15.05.89 года.

** У тыя ж дні мы гутарылі з Несцярэнкам. Тады яшчэ працягваліся судовыя справы супроць яго. На жаль, дазволу на друк ягонай гутаркі мы не атрымалі, можам толькі здагадвацца чаму...

*** Газета «Чырвоная змена» ад 27 ліпеня 1989 года.



Дарэчы, тых, па чыёй віне атрымалася гэта, так і не пакаралі. Таму я і сёння не ўпэўнены, што, калі здарыцца нешта падобнае, сітуацыя не паўторыцца...

У гутарках з вучонымі мы высветлілі, што не ва ўсіх бедах яны вінаватыя, сваю работу яны рабілі. Што датычыць інфармацыі пра чарнобыльскую аварыю, то яна, калі можна так сказаць, была пэўнага накірунку.

У маі таго ж, 1986 года адбыўся пленум ЦК ЛКСМБ, на якім з прамовою выступіў тагачасны першы сакратар ЦК КПБ М. М. СЛЮНЬКОЎ. У сваёй прамове ён сказаў наступныя словы пра катастрофу сусветнага значэння: **«Высокую свядомасць, бездакорную арганізаванасць, мужнасць праявілі і праяўляюць савецкія людзі ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Гэта боль нашай Радзімы, гэта наша агульная бяда. Вынікі аварыі маглі быць значна большымі, калі б не самаадданасць і гераізм людзей, якія, часам ахвяруючы ўласным жыццём і здароўем, рабілі ўсё магчымае, каб прыпыніць небяспечны працэс.**

**У экстрэмальнай абстаноўцы дакладна дзейнічалі партыйныя камітэты і арганізацыі, савецкія, камсамольскія і гаспадарчыя органы рэспублікі. І асабліва — у Гомельскай вобласці, дзе бяда аказалася зусім побач і дзе трэба было прымаць зусім няпростыя рашэнні, браць на сябе ўсю паўнату адказнасці».**

**«Здароўю чалавека пагрозы няма»** — такімі ці амаль што такімі загалоўкамі пачыналіся многія карэспандэнцыі, заметкі, якія так альбо іначай датычылі чарнобыльскай бяды. Вось, напрыклад, адзін з такіх тыповых матэрыялаў, надрукаваных у газеце «Мінская праўда» ад 30 мая 1986 года.

**«Дзякуй вам, рукі салдацкія!**

...Мінаваўшы пост кантролю, едзем па тэрыторыі, з якой у мэтах бяспекі часова эвакуіраваны жыхары. Але жыццё тут не замерла. Кожную раніцу аўтобусы прывозяць на фермы дзяжурныя змены жывёлаводаў. Яны падтрымліваюць парадак у памяшканнях, якія пастаянна гатовы зноў прыняць вывезеную жывёлу. Гэты дзень пакуль што не настаў, але ніхто з тых, з кім давялося сутыкацца ў трыццацікіламетровай зоне, ні на мінуту не сумняваецца — жыццё абавязкова вернецца ў гэтых месцах у звычайны стан.

...І яшчэ аб адным хочацца расказаць. Сваё жыллё наведалі некаторыя жыхары пасёлка».

Думаецца, што на той час, калі меркаваць па прэсе рэспубліканскай — і гэта бачна па вышэйпрыведзеных вытрымках з газет,— у кіраўніцтва рэспублікі мелася свая канцэпцыя па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Якая яна была ў дакладнасці — мы не ведаем, але, зноў жа, калі меркаваць па прэсе, то сутнасць яе можна сфармуляваць у наступных палажэннях:

**1. Аварыя закранула Беларусь толькі часткова і толькі ў тых раёнах, якія трэба высяляць, гэта значыць у межах трыццацікіламетровай зоны.**

**2. Астатнія раёны калі і былі закрануты радыеактыўнасцю, то гэта быў у асноўным радыеактыўны ёд, перыяд паўраспаду якога 8 сутак.**

**3. Забруджаныя раёны і будыніны можна ачысціць, пасля чаго туды зноў вернуцца людзі, якія змогуць спакойна жыць.**

Ці ведалі кіраўнікі, што бяда значна большая?

На вялікі жаль, нават і сёння, у перыяд галоснасці, праз чатыры гады пасля аварыі, мы не можам на гэта адказаць. Вядучыя вучоныя-ядзершчыкі, якія ў той час працавалі ў «зоне», не могуць нам нічога сказаць, спасылаючыся на знакамітую падпіску...

**Працяг будзе.**

Фота **В. Ждановіча,** на фронціспісе фота **А. Шаблюка.**

# Паэзія Проза





*Алесь Каско*

## ПРАЗ ГАДЫ

*Паэтам «Нашай Нівы»*

Не слава, тым болей не подзвіг
на мове знябытай пісаць,
што марна, маўкліва не пройдзем,
каб локці пасля не кусаць,
паўз гэты натоўп нелюдзімы,
падвольны валадарам,—
без хлеба, без ласкі радзімы,
дзе бедны і свіран, і храм.

Знявервацца, зноў спадзявацца,
што ён, як паўвека назад,
адкіне ганебнае «дайце»
і зможа «аддайце» сказаць,—
не подзвіг, тым болей не слава,
а доля; мы з ёю змаглі
вярнуць незайздроснае права
быць голасам клятай зямлі.

Мы вецер, які не змаўкае
над цішаю ніцай травы,
над ніваю роднага краю,
дзе чуецца кліч векавы.
Адсюль узялі мы свой голас —
у гневе, надзеі, журбе...
А той, хто парваў гэту повязь,
хай лічыць «героем» сябе!

■

А ўсё-ткі ёсць яны, месіі,
што свет ратуюць ад бяды
ў часы бязвер'я і бяссілля,
у дні аблуды і нуды.

Яны і ў краі нашым родным
няспынны, незваротны шлях
не чалавецтву, дык народу
крывёю мецяць на крыжах.

Адна ў іх мэта — дух раскуты,
любоў адзіная ў грудзях,
адзін і той жа знак пакуты,
і юда той жа, і суддзя.

З-за дроту ці з псіхіятрыі,
з-пад куляў альбо з-пад цвікоў
дарма чакаюць іх Марыі
на ростанях цяжкіх шляхоў.

Зямныя — то й не ўваскрасаюць,
адно збуджаюць пачуццё:
не верылі, бадай, і самі,
што здольныя аддаць жыццё.

І сёння скрозь абсяг трывожны
стараемся іх распазнаць —
адратаваць ужо не зможам,
але з крыжоў павінны зняць.

## НЕПАКОЙЧЫЦЫ

Заспела навальніца
і ці скончыцца —
з шалёным ветрам,
паданнем лісця
і стогнам над сядзібай?..
Непакойчыцы,
куток быллём парослага жыцця.
Дзіравіцца дзірван,
і, векавечныя,
ірвуцца тут і там вузлы травы.
Надгробак агаліўся;
жоўтай свечкаю
ён апаўзае ў злепак жвіравы.



Дождж хвошча па рацэ,
і хвалі дугамі
падсочваюць,
падточваюць пясок.
Хвіліна — і карэнне занядужае,
і зліжа дрэвы
брудны вадасцёк.
Магчыма, дождж апошні...
У зацятасці
ён нават косці вымые з магіл.
І я кідаю схову.
Момант святасці:
яшчэ відзён тут след людской нагі.
І ёсць назова —
грэшная і вешчая,
мацнейшая ад грому і дажджу.
Яна — знак засцярогі:
найстрашнейшае,
калі хаваем з целам і душу.

■

З нязвыклага імя Яўхімія
ў камбінезонах дзецюкі
пакепвалі: «Вунь баба Хімія...»
Быў лёс яе, як лёс ракі,—
тае глыбокае і чыстае,
што абмывала маладосць
і над якой дубы плячыстыя
вячыста выраслі скрозь.
Калі рака, было, захворвала,
тады і дрэвы, і яе
замовай Хімка адгаворвала —
такая байка існуе.
Ды вось жа потым «нахімічылі»:
раку, і дрэвы, і аер
звялі... Імя старое Хімчына
перамянілі на мадэрн.
Даўно было. Я ж бачу: чэрпае
яна ваду — і цвіль, і муць,
а дзецюкі, угору чэравы,
у едкім воблаку плывуць...

## ПАСЛЯ АДВІТАННЯ

Не спіце тварам дагары
пад шэрай плынню гэтай ночы.
Я не аб тым, што заклякоча
паветра ў глотках — да зары
і так не буду спаць; вагон
тармусіць сэрца, зроку маніць,
і мне ў святле здаецца цьмяным:
у вас — жахліва цяжкі сон...
Ярчэй паліце ліхтары,
мне страшна нерухомых бачыць:
адтуль я, дзе няўцешна плачуць...
Не спіце тварам дагары!

■

Хворы быў на шэрую тугу,
весні свет і той шарэў, як морак.
Ты прыйшла — і як я жыў учора
і ці жыў, успомніць не магу.

Мусіць, жыў, калі збярог душу
і яна напоўнілася словам.
Ты прыйшла — і шэры свет нанова,
нібы сумны верш, перапішу.

Белы свет хай белым і цвіце,
вунь чаромха распушыла шаты.
Я не ведаю, адкуль прыйшла ты
і куды цябе твой шлях вядзе.

Калі ёсць і праўда шлях другі,
перакрэслі мой тады
і нават
следу не пакінь — ты маеш права,
толькі шэрай не вяртай тугі!

■

Колькі ж мучыцца адным:
як мне жыць на гэтым свеце,
калі я ўсё роўна дым,
што развее ў полі вецер?

Дрэва кволае ў бары.
Буралом — і ўсё, не стане...
Ёсць радзіма. Ёсць сябры.
Не мінаецца пытанне.

Скрозь адлегласць, скрозь імжу
вокны залатыя свецяць.
Перад імі адкажу,
як мне жыць на гэтым свеце.

■

Хуткае лета нас выведзе ў восень,
востра кальне пераменаў мяжа:
лісце пасыплецца, як з-пад нажа,
клікне нязжатае ў полі калоссе.

Рукі пажаляцца: чэпіцца боязь.
Тонкі ў завоканні смутак смугі
ўсё прыгадае: і плён, і даўгі,
і ці надзейная памяці повязь.

Не расквітацца з даўгамі сваімі —
мужна стрываем дакор мудраца.
Будзем ісці ўсё бліжэй да канца
ды ўсё бліжэй да сябе і Радзімы.



Я вымыўся сёння ў настоеных росах
і выцерся хмаркай — льняным ручніком,
на ім вецер сонца з-за лесу выносіў,
ажно верх яліны заняўся дымком.

Мне спалася моцна на посцілках траўных
пад шатамі лёгкіх, як пух, туманоў.
Між дрэў, і мятлушак, і птахаў
сапраўдных
і самых спагадных знайшоў я сяброў.

У сне зорна-сінім я лётаў высока
і стойваў дыханне
над роднай зямлёй,
а поўня, прыроды нядрэмнае вока,
мяне сцерагла і сачыла за мной.

І свет адкрываўся мне ісцінай простай:
ні рэк, ні аблокаў не спыніцца ход...
...Пакуль беласнежнай, бліскучай палоскай
лятункавы сон не спыніў самалёт.

Пайшоў я тады ў дымны горад лугамі
і вестку з дзяцінства разнёс па дамах:
яны па-ранейшаму
роўныя з намі —
трава, і мятлушка, і дрэва, і птах.







## *Мікола Антаноўскі*



...І транзістар грае ціха-ціха,
Ліст кляновы кружыць ля пляча.
Жураўліным клінам на вачах
Восень выплыла з мелодый Грыга.

Промні, як апошнюю лістоту,
Ловіць задуменная рука.
Свецяцца гладышкі на калках
Парыжэлага, як сонца, плоту.

Сталасці, спакою жоўты колер.
Я і сам, здаецца, пасталеў,
Быццам лістападу перапеў,
Быццам пераворанае поле...

### ДЗЯДЫ

Дзяды калеснікáмі лічаць сена,
І дабраты у іх — на каляснік.
На плечы стома мудрасці прысела
І насміхаецца з гадоў гайні.

Дзіўлюся я і сам сабе не веру:
Мой дзед вучыўся мудрасці не з кніг,
Валодаў ён, як я пяром, сякерай,
Вазіў ён поры года на кані.

І плугам дзёрн цяжкі варочаў з шумам,
З сявенькай плыў, як журавель, вярсту
Пад ціхі спеў сваіх няхітрых думак,
А жаў — настой зямлі і дабрату.

### ПАЛЕСКІЯ ГРАМНІЦЫ

Стагамі елкі,
Елкамі — стагі.
Зялёны колер вочы коле.
Ласям па пахвіны кругом снягі.

Празрысты лес...
Стажное поле...
Далей — марозна вёсачка сапе,
Пад раніцу за ноч скалела.

Шчарбатая сякера лёд дзяўбе,
З паленам грэецца палена.
Пяе паленніца на ўсе лады.
Балюе снегірова войска.

Мароз цераз раку навёў масты,
Па іх зіма прастуе ў вёску.
Лютуе люты без знямог —
Заносіць сіверам сянец парог.

І ў гэтае крамянасці густой,
Нібы рабіна ў цёплым лесе,
Румянее зарэчнаю зарой
Грамнічнае Палессе.

### РОДНАЕ ПОЛЕ

Калі можаш, мяне перайнач,
Дарагое і роднае поле,
Мой зняверany голас і плач
Адпусці разам з ветрам на волю.

Дай мне сілы ў сябе зазірнуць
І без страху прыняць праўду гэту:
Пешчу ў сэрцы ману, а віну
Палахліва прыпісваю свету.

Мне сустрэча — як ростань з табой,
Дарагое і роднае поле...
Я хацеў асвяціцца журбой,
Атрымалася — выкленчыў долю.

 

## НА СМЕРЦЬ БАЦЬКІ

...І вось мінуў той страшны дзень.
Раскрыла шафачку матуля:
— Вазьмі, сынок, сабе кашулі,
Ён іх ні разу не надзеў...

■

І на дол, на пажухлыя травы
Ляжа першая споведзь зімы...
Толькі ты заставайся ласкавай,
Як тады, калі стрэліся мы.

І журба неадчэпнай назолай
Ссушыць раптам вакол мурагі...
Толькі ты заставайся вясёлай,
Як пад студзеньскім сонцам снягі.

І гусям за азяблым туманам
Памахае ў адчаі вятрак...
Толькі ты заставайся чаканай,
Як на ўсходзе замглёным зара.

І настане часіна спакою,
Забывання аплаканых страт...
Толькі ты заставайся сабою
У лістапад, снегапад, кветапад...

## ПЕРШЫ СНЕГ

Ахалонуты ранак прачысты...
Першы снег, што ты робіш са мной?
Гэта — боль у грудзях ці святлістасць,
Можа, гэта — жаданы спакой?

Нетаропка я вёскаю крочу,
Пабяліў яе снег, астудзіў,
І глядзяць хат сірочыя вочы,
І адчай у паглядзе, і здзіў.

Адчуваю сябе вінаватым
За астылыя душы хацін.
Выракаемся, людзі, мы хатаў,
Як паношаных шапак, хусцін.

Ах, як ярка рабіна ірдзее!
Бы прырода спраўляе імшу.
Белы снег лёг на свет, на надзеі
І кладзецца святлом на душу...







*Віктар Казько*

# НАХАЎ...

### ЦІ СУЧАСНАЯ СПАДАРОЖНАЯ КАЗКА

Сёння не час казак. Век не той. Не выклікае ён прыхільнасці да казак. Хаця ў кожнага з нас надараецца парой такая хвіліна, калі менавіта па казцы добрай, старой, крыху жудаснай так сумуе душа. Але, на вялікі жаль, павыміралі, адышлі на той свет казачнікі, падобна дыназаўрам ці мамантам. Здаецца, не засталося каму слухаць і баіць штосьці. Сустрэнецца чалавек з чалавекам і ўсё роўна як не гавораць, а гарбузікі лускаюць. У аднаго жменька, у другога жменька, палускалі, папляваліся шалупіннем і разышліся, нічога, акрамя таго ж шалупіння, пасля сябе не пакінуўшы.

І няма каго тут вінаваціць, няма на каго наракаць. Усе мы так сёння. Усюды бягом, лётам. Весела нам, горка — усё аб жыцці, пазбаўленым жыцця, сваім — чужым, далёкім — блізкім, але такім аднастайным, без малога





 

нават намёку на казку і дзіва, што заўсёды здаецца тваім, якое доўжыцца і ў незнаёмым, і блізка знаёмым табе чалавеку. Але аднойчы мне ўсё ж пашчасціла на сустрэчу і гаворку інакшую. Так, прынамсі, у тую хвіліну падалося мне. Падалося, што казка ўсё ж ёсць у кожным з нас, толькі яна падобна пупышцы на скаваным марозам зімовым дрэве, скаваным на ўвесь наш чалавечы век. Увесь век у чаканні вясны і цяпла, таму і не распускаецца. А зіму мы доўжым самі да вечнай у сабе мерзлаты, бясконца спадзеючыся і нічому не верачы. Таму казкі нашы падобны сёння на сон у вечнай ночы. Гэтая таксама, да слова, яна і прыйшла з ночы і дарогі.

Па палескай глыбінцы, некалі спрэс царстве лясоў і балот-дрыгвы, а сёння малых лапіках-астраўках той былой дрымучасці, да апошняга дня бегаюць дзіўныя паязды — нейкае механізаванае ўвасабленне недастрэленага раней, не да смерці напалоханага звера і птушкі, якія калісь жылі тут. Поезд — тры-чатыры немітуслівыя вагончыкі, дызелёк, што відавочна хворы на астму. Перад ім, як у той песні, рэйкі ў два рады, светлая і цёмная далячынь, святлафоры, семафоры, дзе-нідзе захаваныя яшчэ з даэлектрычнай эры афарызмы тыпу: «Машинист, закрой поддувало, не сифонь». Прыраслыя да зямлі вакзальчыкі, аднойчы і назаўсёды напалоханыя таварнякамі-бальшунамі, што пранесліся міма, яшчэ дамеліярацыйнага дастатку і працвітання крытыя саломай і чаротам некалькі вясковых хатак, лясы, пералескі, рукатворчасць застойнага часу — меліярацыйныя канавы з застойнай і сёння гнілою вадой. Спаконвечнае зрэбнае Палессе, куды асфальт занесены чорнай быллю і чорным пылам Чарнобыля, таму што, на шчасце, вецер у тыя дні дзьмуў не на вялікія гарады, а вось сюды, дзе жывуць палешукі, таксама людзі, толькі дробненькія.

Суразмерна іх росту і патрэбам і бегае па зямлі гэты маленькі паяздок: купіць — прадаць. Спыняецца каля кожнага слупа, каля кожнага куста. Пазначыцца дзесь сярод поля ці лесу хатка, пераездзік, саматужны заводзік, бетонны салдацік, што стаіць на раздарожжы з пахіленай галавой і прыспушчанымі, таксама з бетону, сцягамі, занядбаныя лясныя могілкі — дызелёк, што цуцык, коратка заскуголіць, як затрызніць, і прытармозіць. Стары ці старая сядуць і сыдуць. Дапамагаючы сабе кавенькай, падбадзёрваючы сабе кавенькай дарогу, выграбуцца на лясную ці палявую сцежку і, як падбітыя груганы, зачыкільгаюць па ёй, растануць, растворацца ў адарванай ад чыгуначных рэек далечыні, сярод пахілых чорных крыжоў могілак, як сярод пазачасна ўчарнелага начыння ўласных здзічэлых ад адзіноты хат. Сцішаныя Беларусь і беларусы-палешукі. Так ціха і незваротна адыходзяць, пэўна, толькі на той свет, у магілы.

А дызелёк трубіць сабе, трызніць і бяжыць далей, валачэ за сабой тры вагончыкі, і часцей за ўсё па крузе. Так пракладзены яго маршрут: наперад, але крыху і ўбок, як мага далей ад вока вялікіх гарадоў і вірлівых станцый, у пячорную першабытнасць памірання, па забытых і занядбаных людзьмі і богам раз'ездах, паўстанках, вёсачках. Адкуль выйшаў, туды ў рэшце рэшт і прыйдзе. Каб зноў ды спачатку, не пакідаючы ні на хвіліну абхопленых колам рэек, як ніколі не пакідае нас вера і надзея, безупынна, нястомна, таму гэтаму паяздку невядома тая сённяшняя чыгуначная мнагалюднасць, што ўласціва арыстакратычнага бляску аддраеным чысцёхам экспрэсам, хуткім і нават галосным дэмакратычным пасажырскім паяздам.

Невядома ў звычайныя дні. Але ўсё ж ёсць некалькі дзён у годзе, пазначаных і не пазначаных крывава-чырвоным акаймаваннем у календары, калі паяздок літаральна вар'яцее. Праўдзівей, вар'яцее не сам, канечне, паяздок, што яму — жалезу ды сталі, ён нагадвае толькі аб тым, найвышэйшым з усіх вар'яцтваў неадушаўлёнага. Вар'яцеюць людзі па яго маршруце. Як вірус чумы, халеры ці СНІДа, у іх абуджаецца цяга да руху. Яны робяцца падобныя на сталіраваныя ржавыя асколкі ад бомбаў, мін і снарадаў, што некалі выбухнулі тут, паўсталыя з зямлі, вымецены з хат нейкай магнітнай бурай, а паяздок, нібыта ён і ёсць той магніт, прыцягвае іх да сябе. Усім, літаральна кожнаму трэба ўціснуцца ў тры вагончыкі і ў смерчаносным калавароце кінуцца ў белы свет, як у капеечку, як некалі іх выкідвалі ў гэты свет у гады суцэльнай і ўсеагульнай калектывізацыі.

Мо гэта і ёсць абуджэнне зняважанай памяці аб тых днях, але толькі сёння ўсё робіцца па сваёй ахвоце. Энтузіязм іх, здаецца, нікім не падаграваецца, кожнаму проста некуды да слёз трэба: у госці, на рыбалку, адведзіны, хрэсьбіны, вяселле, хаўтуры, па кілбасу, хлеб ці мыла ў горад. І бог жа яшчэ ведае, куды і навошта, хто з тых, што жыве на гэтым свеце, гоніць нас у дарогу. Як сказала адна старая, пэўна, у падобным жа паяздку: куды вас усіх чорт нясе, не ведаю, а мне трэба перад смерцю пабачыць унука.

Твару ніводзін з іх тады не мае. Рыла ўсяленскае, вар'яцкае, звярынае. Жахліва і жудасна таму, хто яшчэ зусім не азвярэў і не здзічэў. Вольна і міжвольна ён адчувае ў такія мінуты, як і ў яго пачынае расці на целе поўсць, растуць рогі і хвост,— страшна робіцца за ўвесь род чалавечы: ці вы гэта, людзі, тысячу гадоў назад хрышчоныя, уведаўшыя бога? Дзе ж ваш крыж? Хто ваш сёння бог? Дзе ж Савецкая ўлада, нарэшце, і што гэта такое, Савецкая ўлада, калі так апусціла чалавека? Свіней на бойню так не гоняць, як гоніце вы самі сябе.

Ідуць па плячах і па галовах, па ляжачых на зямлі, жывых і нежывых, лезуць у дзверы і праз вокны, у каго на што хапае спрыту і сумлення. Ні больш, ні менш — другое прышэсце, а мо і першае. Новы Вавілон. І коціць гэты Вавілон няспынна, лаецца, мацюкаецца і б'ецца. Дзень і ноч не ведаючы супынку. І ўсё па тым жа крузе. І таму ніхто не можа ўгадаць, ніхто не можа сказаць, калі ён скончыцца. Толькі стогне пад стальнымі коламі зямля, віхурыцца снежная завея, плачуць, ляскочуць паміж вагонам і дызельком счэпкі, як у барабаны б'юць буферы. І сам дызелёк бярэ з месца ўсё больш натужна, усё з большым ляскам і надрывам, нібы хоча адарвацца ад гэтага паяздка, засляпіцца і ўцячы ад яго прэч. Хоча, ды не здолее, бо ў адной ён запрэжцы.

Дызелёк, як і яго пасажыры, губляе свой твар, злуецца, ператвараецца ў звар'яцелага мурзатага чорта, разгубленага пажыральніка кіламетраў і часу, які і сам не ведае, дзе ён знойдзе спакой і адпачынак. Зачуханы, не вязе ўжо, а проста клыпае, на хвост яму садзяцца вагончыкі і падпіхваюць. Вар'яцкі поезд, звар'яцелы свет, вар'яты людзі. Ціхія бабулі, памяркоўныя пакорлівыя дзядкі ў адно імгненне, нібы па нейкаму закляццю, перакінуліся ў нелюдзяў, у тых, хто жыў тут некалі толькі ў пачварным сне, жахлівых казках: чараўнікоў, чарцей, вампіраў, ваўкалакаў. І чым далей, тым іх болей і болей, хацця, здавалася, самі вагончыкі не здольны ўжо ўтоўпіць, умясціць не толькі чалавека, але і камара нават.

Чарговая такая пасажырка-вядзьмарка ўбілася ў перапоўнены вагон на хаду. Аднавокая, сівая, са збітаю на патыліцу хусткаю, лічы, уляцела на ступе ці памяле ў поезд, таму што ён не спыняўся. Даўно ўжо не спыняўся, а толькі прытарможваў на супынках. І тут каля чарговых могілак, што набеглі на яго, ён толькі спатыкнуўся аб вечнасць, хтосьці выкінуўся з вагончыка ў тую вечнасць, кульнуўся ў гурбу, да смерці перапалохаўшы здзічэлых ці проста сумных сярод сумнага лесу, пагоста і снягоў сабак,

*Ларыса Геніюш*

# СПОВЕДЗЬ

## ГЭГЭННА

Доля людская, відавочна, даецца нам пры нараджаньні, яе не абыдзеш і канём не аб'едзеш, як кажуць у нас. Колькі разоў я ўжо магла ў гэтым пераканацца за свой век, так, як і ў тым, што прадчуваньні мае былі як верныя сябры, якія папераджаюць перад няшчасьцем. Край, з якога я выйшла, і асяродзьдзе яшчэ было цесна злучана з зямлёй, прыродай, яе стыхіяю, паверамі і спрыяльнасьцю такіх сілаў, якія падсьведама адчуваюць толькі дзікія зьвяры і ў меншай меры хатняя жывёла, асабліва сабакі. Памятаю, мне ніколі не бывала сумна на бацькавым хутары Жлобаўцах. Я адчувала таварыства дрэў, расьлінаў і матчыную прыхільнасьць да мяне атуленага сутоньнем, засеянага шырокага поля. Мне было цесна і сумна нават у невялікім гарадку Ваўкавыску, гдзе я вучылася, мне бракавала цёплай ласкі маіх нямых сяброў — шырокага поля, дрэў і жывёлы, не кажучы ўжо аб нашай сям'і, да якой я была да болю прывязанай. Я ня знала, што выпадае, што трэба, што можна, што модна, я толькі ведала і ў душы маёй цаніла тое, што я люблю. Болей за ўсё на сьвеце я любіла маіх бацькоў і Радзіму, якую я разумела тады, як мой народ. Любіла вятры і зямлю, песьні старыя, ціхіх сялянак, коні і маладосьць. Гэта было даўно.

Я ўжо дзесяць гадоў у Празе, у мяне харошы муж і ўжо вялікі разумны сын, але сэрца маё належыць маёй Зямлі, і яна мяне асьцерагае. Ужо тры гады як няма мне спакою. Дрыжу і лякачу, калі чую расейскую мову, а калі бачу савецкіх людзей у ваеннай форме, замірае мне сэрца і хочацца быць там, гдзе іх не відно. Аднойчы йшлі мы са знаёмаю чэшкай п. Тэсковай вечарам па Празе, і мне зрабілася раптам пагана і неспакойна, я аж затрымалася, не йшлі ногі. Аказалася, мы праходзілі каля Савецкага Пасольства, аб чым я нічога ня ведала. Маё добрае поле было са мною, быццам шаптала...

І так мы ў Вімпэрку на граніцы Чэх. і Нямеччыны. Мужа далі там на паўгода лекарам, звольніўшы з фабрыкі, на якой ён працаваў у Празе. Сын вучыўся ў чэскай гімназіі і жыў на кватэры ў украінцаў Кушчынскіх у Празе, а я то пабуду ў Вімпэрку, то зноў еду да сына. Цяжка без мяне аднаму і другому. А з Вімпэрка як жа блізка да граніцаў свабоднага сьвету, гдзе не крадуць людзей, гдзе людзі жывуць, можа, не багата, але свабодна, не баяцца ні ноччу ні днём нечага такога страшнага, ад чаго мне замірае сэрца і чаго сама яшчэ не разумею. Я не баюся, адвагі хапае мне і рашучасьці ў жыцьці, гэта ня страх. Я выжыла ў вайну не скрывіўшы, не запляміўшы чысьціні свайго беларускага сумленьня. Гэта нешта горшае, нейкая непазбежнасьць, як мукі і пекла яшчэ за жыцьця. Муж прымае хворых у сваім кабінэце, а калі едзем да іх за Вімпэрак, у мяне заўсёды паяўляецца надзея, што ноччу пераедзем граніцу, і я пачынаю дыхаць лягчэй, хочацца толькі, каб разам быў сын, а болей нічога ня трэба. Гэта былі толькі мары, у мужа не было прадчуцьця. У лекараў падобнага не бывае, яны не паэты...

---

**Працяг. Пачатак у №№ 1—3.**



5-га сакавіка 1948 г. было мне страшна ўжо з самай раніцы. Я рыхтавалася да дня нарадзінаў маяго мужа, якія 8-га сакавіка, замовіла яму торт у цукерні, на картачкі выбрала цукеркі і другія падобныя драбніцы, якія ён любіць, але нічога мяне ня цешыла, тая нейкая чорная непазьбежнасьць вісела над мной, як хмара, паралізавала крокі. Нават малітва не прыносіла палягчэньня. Не пасьпеў мне муж зрабіць нейкай заўвагі раніцай, як я горка расплакалася, і ён мусяў суцяшаць мяне, як малую. Абед прайшоў спакойна на вонак, але калі муж быў, як кожны дзень пасьля палудня, на працы ў касе хворых, мне ўжо было зусім пагана. Штопаўгадзіны аказаліся званкі, то з суседняй Квільды прасілі, каб ён прыехаў, то пыталіся, калі ён будзе дома і т. п. Была пятніца, я прыгатавала вячэру і першы раз падумала, што пост і адбіўныя катлеты, бульба і малако кіслае — ці не грэх у гэты дзень?

Пасьля касы хворых у нас пачынаўся вячэрні прыём у сваім кабінэце, а пасьля, калі ўсе адыходзілі, мы заўсёды разам йшлі да хворых на дом. У гэты дзень йсці было неабходна. Пару дзён ужо, як мы езьдзілі ці хадзілі за Вімпэрк. Там памірала маладая жанчына, хворая на рака. Была яна пасьля апэрацыі і аблучэньня, заставалася ёй толькі даваць абязбольваючыя рэчывы, чаргуючы іх, каб лепш дзейнічалі. Хворая, яе муж, дзеці і радня чакалі нас, як збаўленьня. З хвілінай прыходу лекара ўціхаў жудасны боль, жанчына пераставала стагнаць. Яны самымі сардэчнымі словамі прасілі, каб мы прыйшлі. Мяне прасілі асобна, і я ім абяцала, што прывяду мужа.

На гэты раз яшчэ болей было трагічна, не адыходзіла ўжо мача. Пасьля ўколаў, як звычайна, стала лепш. Муж хворай папрасіў нас на пару словаў сакрэтнай размовы. Мы выйшлі на двор. У горах адчувалася вясна, блішчэлі ў месячным сьвятле лужынкі, і неба было ў зорах. Было амаль цяпло. Чалавек той абаперся аб вушак дзьвярэй, паважны, змучаны, бледны, і сказаў мужу прыблізна тое: «Я несказана кахаю сваю жонку, але я не магу бачыць яе жудасных мучэньняў, за яе хваробу ў мяне нарыў страўніка, упадак сілаў, пахварэлі дзеці, дык я прашу вас, доктар, зрабеця так, каб яна болей не цярпела, дайце ёй укол, каб сьцішыўся боль назаўсёды». Муж паглядзеў на яго паважна і сказаў, што такога ня зробіць. «Чаму?» — глуха, нейк здушана спытаў чалавек. «Таму, што я прысягаў»,— адказаў яму доктар. «Дык жа людзі дабіваюць жывёлу, калі яна так церпіць, няўжо ў вас няма літасьці?» «Адна мільённая за тое, што сяньня ноччу нехта знойдзе супраць рака лек, і дзеля гэтай адной мільённай я не зраблю таго»,— спакойна адказаў муж. Мы абяцалі ім заўтра як найхутчэй вырвацца да іх, каб прынесьці канаючай палёгку. «Прыйдзем,— запэўніла іх і я, калі з гарачай просьбай звярнуліся і да мяне. Ледзь ужо я вяла мужа дамоў. Ён быў змучаны, хранічна ня выспаны і таксама рабіўся нэрвовы. Ясна блішчэла ўсеянае зорамі неба, і чарнела зямля ўжо зусім без сьнегу, але яшчэ без травы.

Нявесела прайшла вячэра, якую муж еў адзін. Я зноў нечаму пачала плакаць. Была ўжо 11-тая гадзіна вечара. Некалькі дзён як я рвалася ў Прагу. Там была рэвалюцыя, і я дрыжэла за сына. Муж усей час супакойваў мяне, тэлефанаваў сыну і не пускаў мяне ў Прагу. Сына мы пакінулі на апеку харошаму чалавеку п. Кршываносцы, і можна было думаць, што ён не пакіне хлопчыка ў гэты неспакойны час. Аднак я якраз цяпер, у адзінаццаць гадзін вечара, узбурылася раптам ехаць да сына і з плачам пакавала чамадан. Дарма было мяне спыняць. Надзеўшы кароткую, зграбную шубку, у хустачцы і лёгенькіх туфлях я выбегла на вуліцу, каб дастаць у нашага знаёмага мясьніка крыху каўбас ці мяса, бо ў Празе з гэтым было яшчэ трудней. Не пасьпела я адысьці ад дзьвярэй, як падышоў да мяне чалавек і папрасіў, каб я нікуды не хадзіла, што так трэба. Я са здзіўленьнем сказала яму адступіць ад мяне, што ніхто ня мае права мяне затрымоўваць. Па вуліцы праходзіў нейкі мужчына, тады гэты паклікаў яго, каб той памог затрымаць мяне. Мужчына ўцёк бягом. Я сказала, што паклічу мужа. Калі той тып забараніў мне гэта рабіць, я падышла да сьцяны дома і плячом націснула званок нашай кватэры. Муж выйшаў. Мы займалі першы паверх дома, над намі жыў нехта другі. Чалавек, які запыніў мяне, пайшоў з намі, гаворачы, што ён тут не адзін, што яны ўжо прыходзілі і цяпер яго калегі ў кафэ побач і зараз да нас прыйдуць. Я падышла да тэлефона і паклікала міліцыю, тады чалавек устаў і паказаў нам нейкія свае паперы сычыка ці некага падобнага. Нам зноў пазванілі, муж адкрыў дзьверы, і ў хату ўвайшло яшчэ 6 чалавек. Яны сказалі, што мы арыштаваныя, і загадалі нам аддаць ім паперы і зброю. Я паказала ім на гору шпрыцоў і голак, якія мне трэба было яшчэ прыгатаваць да заўтрашняга прыёму, і сказала: «Вось вам зброя лекара, якой яшчэ хочаце?» Муж разгубіўся бедны, ён лепей, як я, ведаў жыцьцё і чуў аб гэтай нечалавечай сыстэме.

«І вам не сорамна: 7 чалавек на аднаго слабога, запрацаванага, змучанага доктара?» — прадаўжала я сваё абурэньне. Робячы збольшага вобыск, яны паясьнілі нам, што вобласьць цэлы дзень старалася нас апраўдаць і выратаваць, але не далі рады. З Масквы прыйшла тэлеграма, і саветы зажадалі нашай выдачы. Чэхі былі, паводле іх слоў, бязсільныя.

Мы апрануліся, і нас павялі ў суд, гдзе запісалі нашыя пэрсаналія, а пасьля пад надзорам стражнікаў у вязьніцу, якая месьцілася ў старой вежы старыннага вімпэрскага замка. Пару дзён, як з гэтага замка скочыў і забіўся нейкі інжынер, калі яго прыйшлі арыштоўваць. Быў праў... Надзіраценлі ў вязьніцы гулялі ў карты. Ад кампаніі аддзялілася жанчына вагой ня меней як 120 кг, забрала маю сумачку і ўсё з кішэняў і пачала мяне абыскваць. Муж быў лекарам і для гэтай вязьніцы...

У бруднай, зялёнай ад плесьні камеры на памосьце, пакрытым мятай саломай, сядзелі дзьве маладыя немкі за пераход граніцы, бо ж тая была тут побач. Я села і толькі цяпер усьведаміла сабе ўсю трагэдыю адзінокага сваяго дзіцяці ў гэтым горадзе і ў гэтым народзе, болей ужо ні аб чым думаць я не магла... Ды наагул я ня думала, здаецца, я то замірала, то зноў адмірала з болю, з нейкага фізічнага адчуваньня той чорнай прорвы, у якую кінуў нас мой безгранічны, безкампрамісны патрыятызм, доля народу, жыць для якога — значыла канаць зажыва ад палякаў, ад расейцаў, ад немцаў. На гэты раз давялося ад чэхаў. У спалучэньні з магутнай і пераможнай дзяржавай усходу яны даўно забыліся аб гуманных ідэалах Масарыка і ахвотна бралі на сябе ролю паслугачоў крывавага Сталіна і яго сыстэмы. Выняткаў было нямнога. Заробак і наагул грошы для іх велічыня, перад якою зусім натуральна адступаюць усе прынцыпы...

Назаўтра прынясьлі мне ў камеру з кватэры маю невялікую біблію на тонкай паперы, але чытаць нічога я не магла. Немачкі пайшлі памагаць тоўстай надзорцы, а я глядзела праз закратаванае вакно, здавалася мне, у бок граніцы, гдзе былі людзі, якія маглі выратаваць нашую сям'ю, калі б, едучы да хворых, мы заблудзіліся і пераехалі іх граніцу... Лёс нам, відно, наканаваны зверху. Я прыпомніла сабе, што за Беларусь трэба цярпець, і калі прыйдзецца, трэба памерці і адступаць і каяцца нельга! Гора нашага народу непамерна большае ўжо вякі.

Нехта прыходзіў нас адведваць, была між імі і хворая немка, якую лячыў муж, гэта мяне асабліва ўзварушыла — у Вімпэрку іх было мала. 8 сакавіка прынясьлі нам торт, які я раней заказала мужу. Калі нас вывелі на двор на прагулку, муж сказаў, што ён мала думае, што ўсё яшчэ сьпіць пасьля лекарска-бязсонных начэй, і папярэдзіў мяне, што цярпеньне наша зацягнецца... Мяне паклікалі да надзірацеляў і далі паперу і пяро нарэшце напісаць сыну. Я пісала спакойна, але ўсё ва мне енчыла з гора. Вечарам, на дзень мужавых нарадзінаў, прынясьлі ў нашу камеру пару бутэлек віна з нашай кватэры і торт. Прывялі туды мужа, і так седзячы побач, у прадчуваньні даўгой, можа, вечнай разлукі, з думкамі аб сваім няшчасным дзіцяці, мы разам з надзірацелямі, тоўстай бабай і немачкамі «аславілі» гэты дзень. Муж трымаўся, я таксама старалася не падрываць яго сілаў сваім пярэпалахам з нашага адчайнага сапраўды становішча.

Нас выклікаў чэскі судзьдзя, чаго — ужо ня памятаю, толькі запомніўся мне яго абыякавы амаль варожы твар, і я не ўтрымалася, каб не сказаць яму, што паэтаў няволяць толькі паганыя народы і маладушныя людзі. Тады ён крыху апрытомнеў са свае тупасьці, але даў мне пазнаць, што ён толькі нямое, сьляпое прыладзьдзе ў «славянскіх» руках вялікага «Руска», на якое спадзяваліся і маліліся ўжо некалькі пакаленьняў яго недальназоркіх продкаў... Так пачынаўся канец «гасьціны» чэскага народу да бяздомнай і бяздольнай беларускай сямейкі, усіх добрых адносінаў нашых чэскіх сяброў і вялікага, грубага прыніжэньня, якое там адчувалі ўсе, хто не гутарыў чыста па-чэску да вайны, у вайну і пасьля яе... Велікадушнасьць у палітыцы свомая толькі сапраўдным народам, чэхі глядзелі перадусім выгады найбліжэйшага дня. Прадаць для іх нават зусім не вінаватых людзей было ўжо ня нова...

Усе гэтыя дні ў бязьмежным уласным горы прад вачыма стаяў мне твар той жанчыны, што канала недзе без помачы ў муках. Ніхто за тую ноч не знайшоў леку, каб яе ратаваць, і ніхто не памог ёй абязбольваючым уколам. У параўнаньні з яе доляй наша не была яшчэ самай горшай. Калі вялі мяне да судзьдзі, я прыкмеціла, як надзірацель валачыў наверх нашую машынку да пісаньня. Знача, ужо раскрадалі кватэру. Былі там рэчы, крыху маёй біжутэрыі, кніг і новакупленыя мужам столікі і мэдычныя інструменты і шафкі для ўласнага кабінэту. У пакоі ляжалі недаканчаныя акварэлі і мае рысункі алавікамі, мікраскоп, крыху мэблі, пасьцелі. Машынку і пару болей вартасных рэчаў судзьдзя дазволіў перадаць знаёмым, рэшту, здаецца, раскралі. Гэтага надзірацеля я бачыла, калі нас перавезьлі ў гор. Пісэк, сярод зьняволеных. Ён прадстаўляў уладу, належаў да народнага выбару і шырока карыстаўся ёю, як многія тады, г. зн. краў што траплялася і насілаваў нямецкіх дзяўчат, якіх арыштоўвалі за пераход граніцы. Адну маладзенькую пакалечыў пры тым, так і дастаўся ненадоўга за краты. Быў гэта грубы, агідны чалавек, як і ўсё, што ў той час наверх выплывала. Чэхі стараліся даражняць сваяму настаўніку ўсходу ў мэтадах змаганьня за камунізм.

На дзевяты дзень павялі нас канвоі праз Вімпэрк да цягніка, нас адвозілі ў Пісэк, у вобласьць. Людзі глядзелі на нас са спачуваньнем. На адной з астановак шумна было на пэроне, адзін з канваіраў выйшаў і, вярнуўшыся назад, з болем апавясьціў нам, што іх улюбёны Ян Масарык, міністр замежных спраў ЧСР, выскачыў з акна. Стала жудасна. Нядаўна яшчэ ён гаварыў, што ня можа для іх быць усход і захад, што для яго народу: усход, захад, поўнач і поўдзень. Такі цяпер жыць ня мог. Старэйшы канвой задумаўся, малодшы сядзеў і плакаў. «Гэта горай, як у 38 годзе»,— сказаў ён і, паглядзеўшы на нас, пачаў пераконваць нас, што будуць старацца ня выдаць нас, што таму і вязуць у Пісэк, бо маюць надзею яшчэ ратаваць нас, неяк іначай адразу павязьлі б на граніцу. На станцыі ў Пісэку канвоі спынілі гутарку з намі і строга загадалі нам йсьці наперад. Вуліцы былі з вясны яшчэ шэрыя, пустыя. Час быў перадвялікадны, і на сценах дамоў красаваліся плакаты, на якіх вялікімі літарамі было напісана «Гэгэнна». Гэтыя плакаты як бы віталі нас прадсказаньнем нашага лёсу наступных гадоў. Для нас сапраўды пачалася «Гэгэнна».

Вязьніца ў Пісэку была ў старым мураваным кляштары над самой рэчкай Атавай. Дзень і ноч шумеў там вадаспад і жудасна вішчэлі чайкі. Здаецца, яшчэ сяньня чую іх безнадзейны піск і адчуваю холад і сырасьць неапальваных камераў старыннага муру. Мы былі першымі вязьнямі новай рэвалюцыі. У камерах сядзелі пераважна людзі, суджаныя за акупацыю. Былі гэта хворыя, знасілаваныя савецкімі салдатамі немкі, былі і чэшкі. Як аказалася пасьля, былі гэта згорклыя, злыя, зайздрослівыя жанчыны, якія рады даносілі адна на адну і падлізваліся начальству. Асабліва непрыемнай была велькая, маладая немка Ольга, хітрая і двудушная. Былі і сымпатычныя бабкі, гэта сялянкі. Сядзелі яны за тое, што добра самыя ня ведалі — немкі яны ці чэшкі. Адна з іх, засуджаная на 2 гады пані Доулёва, цесна са мной падружыла. У адным канцы будоўлі быў касьцёл, і мы з ёю ахвотна аб гэтым гаварылі. Яе дарослыя сыны не забываліся аб маці, толькі што з нашым прыходам у вязьніцу забаранілі перадачы. Зрабіў гэта нейкі начальнік пан Гоуска, якому здавалася, што вязьні добра выглядаюць. Пані Доулёва першая падышла да мяне, калі мяне амаль без памяці ўвялі ў камеру. Калі нас прывялі ў вастрог і здалі надзірацелю, ён зароў на мяне такім дзікім голасам, як ніхто ніколі ў жыцьці. На гэта якраз прыехаў Юра з панам Кршываноскам, якія, не застаўшы нас у Вімпэрку, ехалі сьледам за намі. Падвялі мяне з мужам да кратаў, за якімі вонку яны стаялі. Я, ня могучы вымавіць слова, апусьцілася на калені і, здаецца, плакала і шаптала, каб сын дараваў нам свой сірочы лёс, на які мы яго пакінулі. Хлопчык быў бледны, але спакойны. Здаецца, гладзіў мяне ручкай, працягнутай праз краты. Ежы, якую ён нам прывёз, канвой узяць не дазволіў. Амаль непрытомную завяла мяне надзорка ў пакой, гдзе раздзела дагала, шукаючы агнястрэльнай зброі ў складках цела, і так пасьля кінула ў камеру, паказаўшы мне жалезную койку ў кутку. Я ўпала на калені, і ў душы маёй быў Бог, сын і боль, і страшное нейкае атупеньне, бы правал памяці, які ўжо адзьдзяляў мяне назаўсёды ад учарашняга дня. У тую хвіліну і падышла да мяне харошая старушка.

Малодшыя жанчыны-вязьні хадзілі мыць бялізну, і вадзілі іх на іншую працу ў горад, а старушкі і ня суджаныя яшчэ, як я, дзерлі пер'е за даўгім дзеравяным сталом у пустым і амаль ледзяным пакоі. Вясна ў вязьніцу пранікала паволі. Тоўстыя муры баранілі ёй доступу да нашых камераў, і мы ўсе вельмі мерзлі. Ложак быў цьвярды, рабрысты, і посьцілка, якою мне далі акрывацца,— халоднай і жорсткай. Манастыр гэты меў два паверхі, на якіх былі нашыя брацьця-мужчыны, і вечарамі стуль раздаваўся часам неймаверны роў надзірацеляў, з якіх асаблівым зьверствам да людзей вызначаўся нейкі Зоубэк. Вызначаўся ён і спэцыяльнай ненавісьцю да маёй асобы. Кляштар меў вялікія ходы ў падзямельле, па якіх, казалі жанчыны, ходзяць начамі цені павешаных немак і немцаў, і таму так равуць надзірацелі і енчаць зьняволеныя жанчыны, якіх за нейкі праступак, а то і без валакуць туды ў карцэр. Ночы былі даўгія, без сну. Лёс Юры і яго дзіцячы тварык неадступна ўсю ноч пры мне. А хлопчык вырас і спаважнеў. Ніколі ня

плакаў пад час гутаркі з намі. Усе, начальства і зьняволеныя, ведалі яго і захапляліся хлопцам. Бывала, пытаецца: «Ці ты пішаш, мама?» Кажу: «Не». «Дык што ты, мама, нельга зарываць біблійных талентаў у зямлю!» Альбо пaглядае на гадзіньнічак і расказвае, што мае сустрэчу з нейкай дамай, з якой трэба яму абгаварыць справы, якія датычаць нас. А вечарам павінен зрэвізытаваць польскага віцэ-консула, які быў у яго і паабяцаў яму апеку над ім і нашаю справай. І так адыходзіў, адзін у чужым горадзе і народзе.

Калі нас прывезьлі ў Пісэк, дык сьледавацель адразу на другі дзень прачытаў нам акт абвінавачваньня, на падставе якога Саветы зажадалі ад Чэхаславацыі нашай выдачы. Тут я з жудасьцю даведалася, што мы з мужам «ваенныя злачынцы», паводле той «красамоўнай» савецкай паперкі, амаль адказныя за ўсе падзеі вайны і яе пачатак! Гэта было нешта так не суразнае, што нельга было не засьмяяцца. Цэлы час выступаючы супраць гітлерызму ўсімі сродкамі, усей сілай свайго пяра, я спакойна глядзела на гэту хлусьню, бо што ж на мяне не чаўплі б — напісанае мною ў суровыя гады заставалася як дакумэнт маяго дзеяньня. Пасьля толькі я зразумела, што падобныя мэтады яны стасуюць пераважна да ідэёвых людзей; да тых, хто памагаў немцам нішчыць Беларусоў, яны адносіліся куды лагадней! Даравалі ім, ставілі іх у лагерах дзержымордамі над намі, даносчыкамі. Гэта была публіка, адпаведная ім па духу і мэтадах зьдзекаваньня над людзьмі. Абвінавачваньні былі настолькі беспадстаўнымі, што мне захацелася проста абсьмяяць іх, і я напісала заяву ў вобласьць, выясьняючы, што ўсё гэта хлусьня, і калі, як заявілі Чэхі, мы ня мелі ніякай віны па чэскіх законах, а самыя былі чэскімі грамадзянамі, дык як жа і пашто выдаваць нас чужой дзяржаве? З вобласьці мне адказалі, што яны не кампэтэнтныя рашаць гэтую справу, падалі поўны тэкст савецкай тэлеграмы ці тэлефанаграмы аб нашай выдачы і парадзілі адклікацца ў вышэйшую інстанцыю, здаецца, у найвышэйшы суд, што ж я не чакаючы і зрабіла.

Бедны мой муж сох без перадачаў і без папяросаў, і надзоры зьдзекваліся над ім, а я тым часам выясьняла ў меру магчымасьці справу нашага лёсу. І адказ прыйшоў. Гучэў ён больш-менш так: знача, калі мы з'яўляемся грамадзянамі ЧССР, а паводле чэскіх законаў няма ў нас віны, нас трэба звольніць і заплаціць нам адшкадаваньне за бяспраўнае зьняволеньне. Я гэта прачытала — ачам не веру, як усё талкова. Пераслала паперку мужу. Надзоры пачалі віншаваць нас з надыходзячай свабодай, але... Але Саветы, прагныя найбольшай колькасьці ахвяр, нейкім чынам змусілі чэхаў патаптаць свае законы і выдаць нас. Недзе нават камуністы чэскія не згадзіліся бязпраўна адабраць нам грамадзянства і вось даручылі гэта маленькім Прахацiцам. Як жа было сумна разчароўвацца... Жаль мне было сына, але жаль і мужа. На мае просьбы ўцячы на захад ён цьвердзіў адно, што ён сацыяліст і г. д., а калі ўжо не знаходзіў аргументаў, дык проста заяўляў, што амэрыканцы ядзяць адныя кансэрвы, а ён іх ня любіць. Часта пасьля ён сабе ўспамінаў тыя амэрыканскія кансэрвы, калі ў Пісэку лупіў чорную бульбу ды аблізваў цьвярдога селядца, якога некалі бачыць ня мог. Расказваў, як аднойчы давалі яму праз кармушку селядцы для камеры, а ён ніколі іх не трымаў у руках, і яны яму вываліліся на падлогу. Калі прыязджаў Юра і мы крыху з сабою размаўлялі, дык я ўсё пыталася, як ён есьць, а ён у мяне пытаўся, як я сьплю? Не прывычная я ў жыцьці да выгодаў, але адно — не магу на цьвярдом спаць. Пасьцель мая мусяе быць мяккая, чыстая, найлепш на сетцы, а столькі гадоў давялося мучыцца на нарах! Падушка са стружак і ніякага прасьціpадла гадамі... Аб сыне я забывалася толькі тады, калі засынала, і то клапатліва і асьцярожна нехта і ў сьне ўводзіў мяне ў круг яго зацікаўленьняў і адзіноцтва. Я адчувала амаль усю бездапаможнасьць яго ў жыцьці перад змяінай, найпадлейшай хітрасьцю і тактыкай ворага. Можна было толькі верыць у Вышэйшую сілу і спадзявацца на Божую дапамогу. Мы былі як у пашчы льва, і я лічу цудам, што клыкі ворага не заціснуліся на нашым горле.

Юра часта прыязджаў у той Пісэк. Часам глянеш на твары надзораў з нейкім лагодным чалавечым усьмехам і адчуваеш, што гэта дзіця зноў тут, і чысьціня яго і глыбіня болю перамяняе нат сэрцы ворагаў. Часамі бывала трагічна. Памятаю, як аднойчы пасьля адсуну Бэнэша новы прэзыдэнт Чэхаславакіі Готвальд адзначаў сваё прэзыдэнцтва амністыяй для вязьняў. Хлопчык пагутарыў з намі. Надзорка дазволіла яму перадаць мне пакецік з амэрыканскім сьняданьнем з варункам, што я яго зьем пры ёй. Ён быў рады. Ручкамі цераз краты выціраў мне сьлёзы і сам ніколі не заплакаў. Быў мужны, але, як аказалася, толькі пры нас. У той дзень якраз адпушчаў Готвальд сваіх больш-менш аднадумцаў, і малы хлопчык стаяў ля сьцен вязьніцы, дарма шукаючы вачыма між



выходзячых сваіх бацькоў. Жанчыны з мае камеры вярталіся з працы і бачылі, як адчайна плакаў ён, адзінокі, бедны, каля той вязьніцы, дарма там стоячы да познага вечара. У міжчасе ведаючы, што нас ратаваць немагчыма, кум наш забіраў хлопчыка ў Польшчу. Мы падпісалі даверанасьць, што аддаем сына пад яго апеку. Перадаў ён мне зажатую ў пальчыках маленькую фігурку святога Антонія, калі прыйшоў разьвітацца. Было крыху лягчэй, што адвозяць яго ў Польшчу, здавалася, там ён хутчэй выратуецца. На сабе мне незалежала, я была гатовая прыняць самыя страшныя цярпеньні, якія моўчкі прымаюць змагары за сваю Радзіму. Няведама, пашто і за што ўпляла доля ў гэтае цярпеньне і маяго мужа, і гэта было мне балюча і непрыемна. Калі людзі ад'язджалі на захад, ён упарта цьвердзіў, што ён сацыяліст і яму будзе добра пры новай уладзе ў Чэхах. Тое ж думалі амаль усе чэхі, а мне замірала сэрца з жудасных прадчуцьцяў усходніх Асьвенцімаў, гдзе места печаў спальвалі людзей палярныя маpозы, зьдзекі надзораў, адпаведных сваяму палітычнаму рэжыму, непасільная праца, амаль забароны лістоў (пісаць два разы ў год) і чвэрць стагодзьдзя пакараньня за патрыятызм, што чалавеку нагадвала сьмерць за жыцьця...

У Пісэку ніколі не было палітвязьняў, дык і бібліятэка вязьніцы была прыстасаваная для абмежаваных праступнікаў людзкіх законаў. Не магла я чытаць тых убогіх абмежаваных раманаў са слашчавасьцю мінулага веку і аднойчы сказала гэта мужу пры сустрэчы. Судзьдзя, які прысутнічаў пры нашай размове (такі закон) прыслаў мне ў камеру пару цікавейшых кніг, між імі і томік паэзіі Бадлера. Мая ўвага спынілася на вершы, гдзе адыходзіць карабель і людзі адплываюць ад сваіх назаўсёды. Ня памятаю слоў, але верш гэты прадсказваў мне маю долю, нечалавечна жудасную, бязьлітасна адзінокую.

Надышоў дзень, калі падліза немка Ольга, няшчасная дзеўчына і адумысловы стукач, пранюхала недзе ў начальства, што мяне адвязуць, каб выдаць у рукі расейцам. Гэта ўжо адчувалася, і я была даволі спакойнай. На выратаваньне не было надзеі, і трэба было йсьці насустрач усяго, што вякамі нёс расеец няшчасным сваім суседзям, мала ўступаючы сваяму сябру па духу Адольфу Гітлеру. Увесь ператварыўшыся ў плаза, поўзаў цяпер расейскі народ ля клятых сталінскіх ботаў, ліжучы падошвы вялікага крывапійца і прадаючы на мукі яму безьліч сваіх братоў. Не кожны трынаццаты тут быў Іудам і не кожны пяты! Я мала памылюся, калі скажу, што Іудам тут быў кожны другі. Ня маючы магчымасьці чэсна жыць, мець нармальныя варункі існаваньня і росту [...], меў адзіны шлях выбіцца над узровень другіх рабоў — ён даносіў. Даносіў з пялюшак і з пялюшак хваліў ня думаючы страшных тыранаў чалавецтва, якія натхнялі ненавісьцю да Бога і чалавека сваіх грамадзян і сталіся «прадцечам» самога фюрэра ў сэнсе злачынстваў. Паняцьце «чалавек», на ўзровень якога ўзняло нас хрысьціянства і дасягненьні людзкога розуму, дзіка бурылі «Частку божага твору», ператвараючы ў «шрубку» пякельнай сталінскай машыны, папераджаючай печы Асьвенціма і колькасьцю ахвяр перавышаючай іх... Не пратэставаў ужо амаль ніхто. Усё было аберуч вынішчана самымі [...], а хто і сказаў супраць, дык сказаў яго толькі — раз... Другі раз нікому не давялося, бо такіх хапалі, судзілі і засылалі ў пустыні, гдзе ўсё, пачынаючы ад клімату, было прадумана прыстасаваным да масавага нішчаньня людзей маральна і, безумоўна, фізычна. Вось што мяне чакала.

Яшчэ зацемна прыйшоў па нас канвой. Меў загад весьці нас з закаванымі рукамі, аб чым нас папярэдзіў, але нечаму зрабіць гэтага не змог, хоць я і не пратэставала, бо ж якая розьніца, калі гутарка датычыць фанатыкаў? Йшлі мы, несучы свае мяшкі, і я аступілася па дарозе. Трэснуў мне напалову абцасік маяго туфля. Так ён там і застаўся чэхам на ўспамін аб славянскай гасьцiннасьці... Вязьлі нас цягнікам, людзі ўзіраліся на нас часам абыякава, часам варожа. Ян Масарык даўно ўжо спачываў на могілках, і яго былыя падданыя шукалі цяпер другіх шляхоў да «сыцейшага» існаваньня. Мы з мужам маўчалі. Канваіры былі каменныя, нявеглівыя. Калі муж папрасіўся выйсьці і адзін з канваіраў яго павёў, дык другі, нейк па-чалавечу на мяне глянуўшы, сказаў мне, што, так як я сільнейшая духам ад маяго мужа, ён хоча прыгатаваць мяне на тое, што нас вязуць дзеля выдачы Саветам. Ва мне ўсё зьледзянела раптам. Гэта ўжо была нагая суровая праўда, падступаючая пад самае горла крывавыя сталінскія кіпцюры... Я не заплакала. Я проста скамянела, і нейкі прыліў адчайнай адвагі ахапіў усю маю асобу. Я адчувала, што йду на няроўны бой, я гэты бой успрымала без капелькі страху ў сэрцы. Упарта адганяла толькі думку аб сыне, з гэтым болем я ня справілася ўсё жыцьцё... Памалу я прыгатавала мужа да гэтай жудаснай неабходнасьці. Ён зьбялеў, але не самлеў, як і я.

Так нас прывезьлі ў Прагу. На вуліцах хадзілі сакалы, быў, мусяць, апошні чэскі сакольскі зьлёт. Бледныя мы, як папера, стаялі ў канцы трамвая. Паўгода прабываньня ў Пісэку ўжо пакінула на нас сьлед. А пасьля адбывалася ўсё як звычайна, толькі не загадалі тут нам дагала распранууцца і гідкія пальцы надзоркі не кранаалі маіх валасоў і цела, як гэта рабілі са мною ў Пісэку. Была гэта пражская паліцэйская вязьніца, куды нас завезьлі. Была яна прыспасоблена да часовага прабываньня там злодзеяў і прастытутак. Канвой, перадаючы нас, даў нам падпісаць нейкую зложаную ўдвое паперу. Муж падпісваць не згадзіўся і зажадаў, каб яму паказалі, у чым справа. Аказваецца, Прахаціцкая «обэц» (сельсавет) гэтай паперкай апавяшчаў нас, што менавіта ён пазбаўляе нас чэскага грамадзянства. Што мелі супольнага з намі тыя Прахаціцы, і сяньня не разумею. Ня памятаю, ці мы гэта падпісалі, магчыма, што падпісалі з нейкай ужо тупой абыякавасьці да ўсяго, што нас акружала.

У вязьніцы былі брудныя ложкі, але цікавыя людзі. Былі гэта «саколкі», якія мелі адвагу крычаць лозунгі, ня згодныя з духам усходу, і дзяўчаты, якіх абвінавачвалі ў арганізаваньні атэнтату на нейкага камуніста з ЦК. Атэнтат гэты зрабіў, здаецца, адзін малады студэнт, які вечарамі хораша і сумна сьпяваў сваёй дзяўчыне: «Доброў ноц ма міля». Усе мы, як і тая дзяўчына ў адной з камер, з любасьцю слухалі той песенькі і падзіўлялі мужную сілу хлапца. Сядзела з намі яшчэ адна з дочак Круліш-Ранды, чэскага магната, Эва, маладая, разумная жанчына, якая, здаецца, несла ў сваім сэрцы ўсю адказнасьць за тое, што тварылася ў яе каханай айчыне. Рознае ў ёй бывала, але ўпершыню страшная рука ўсходу ў сваіх брудных кіпцюрах заціскала жывое сэрца рэспублікі, старанючыся выкрасьліць з сэрцаў дарагое імя Масарыка — бацькі і сына. Чэхі пачыналі разумець сваё жудаснае становішча, і ненавісьць да ўсходу замяніла старое славянафільства. Часта прыходзілі ў камеру жанчыны і плакалі, што яны не за палітыку сюды трапілі. Недзе схавалі Бэнэша, і людзі ведалі, што няшчасны прэзыдэнт ужо жывым не выйдзе. Да мяне нейк па-дзіцячаму «прыліпла» маладая гэбрэйка, якая ўцякала з Мадзяршчыны праз Прагу ў Палесціну і апынулася з намі. Яна ня ведала моваў і са страху ад мяне не адыходзіла... У камеры забаронена было плакаць і наракаць. Усё рабілася, каб заваць нэрвы свае і другіх ды здароўе, бо пакута пачыналася толькі. Гэты дэвіз маладых чэшак вельмі мне памог у дальнейшым на Поўначы. «Кіп смайлінг»,— часта паўтарала я сабе ў найцяжэйшыя хвіліны жыцьця. Пакуль Чэхі, на ўзор сваіх усходніх «апекуноў», гатавалі адпаведныя вязьніцы для палітвязьняў, мужныя чэскія дзяўчаты памагалі мне пераажыць хвіліны разлукі з захадам і пакінулі харошы ўспамін аб лепшай частцы свайго народу. У гэтай паліцэйнай вязьніцы Прагі прабылі мы нешта месяц ці паўтара. У адной з камер сядзеў мой муж, але ён цяпер меў курава, тут яно дазвалялася, і адчуваў сябе крыху лепш. Сын ужо быў у Польшчы, і здавалася нам, што ён душою і думкамі заўсёды пры нас. Сьнілася мне, што мы з ім ідзем па беразе рэчкі, кругом вада, а дождж яшчэ лье на нас, ідзем доўга, так, як гэта аказалася пазьней — гады разлукі і мукаў, і Бог ведае, ці не цяжэй было адзінокаму дзіцяці ў пасляваенным Вроцлаве...

Трывожна праходзіў час у паліцэйнай, чэскай вязьніцы ў Празе. «Сакольскі зьлёт», які ў той час адбываўся ў Празе, шчодра папаўняў колькасьць зьняволеных. Чэхі даўно ўжо агледзеліся, што йзноў трагічна згубілі сваю свабоду, і цяпер на зьлёце горача і масава выступалі ў абароне сваей незалежнасьці, свае рэспублікі супраць насільля. Арыштоўвалі за пратэсты, за лозунгі. Людзі трымаліся мужна. Побач у камеры сядзела маладзенькая дачка Гэлены Кожэлюговай, ведамай дзеячкі хрысьціянскай партыі Чэхасл. Схапілі яе на граніцы, калі старалася ўцячы пасьля перавароту. Пасадзілі бедную ў камеру прастытутак, гдзе быў бруд, заўшыўленасьць, цяснота. Як я чула, дык чэскія прастытуткі аказаліся добрымі патрыёткамі. Яны памагалі зьняволеным за палітыку, перадавалі справы на вонак, прыносілі інфармацыі. Казалі, што маладая дзяўчынка трымалася разумна, хаця яе і білі. Аднойчы вечарам нейкі сьледавацель-крыміналіст адчыніў дзьверы нашай камеры. Я са зьдзіўленьнем глянула на яго, а ён аж замёр на парозе. Быў гэта пацыент маяго мужа, абавязаны яму і ўдзячны пан Пэшэк. Працаваў ён у розыску і вось прыйшоў выклікаць на допыты нейкую дзяўчыну з нашай камеры, якая ўжо суткі плакала, атручваючы нам і без таго цяжкі настрой. Затрымалі яе ў кафэ разам з яе кавалерам, які, як пасьля высьветлілася, украў аўто, на якім весела яе развозіў па Празе. Візыта пана Пэшка мела для нас той добры бок, што гэты харошы чалавек пачаў нас абясьпечваць перадачамі, якія былі аднолькавымі са сьпешна купленых мужчынам прадуктаў і вызначаліся вялікай колькасцю папяросаў, як мне, так і мужу. Муж, які перацярпеў у Пісэку мукі без курава, меў цяпер што курыць, бо пры першай магчымасьці я яму перасылала і свае. Ніколі не забудуся пра болем скрыўлены твар п. Пэшка, калі вялі нас паказаць савецкаму прадстаўніку, які панура і тупа аглядаў свае ахвяры. Пэшка перакрывіла нейкім жудасным болем, і па твары гэтаму суроваму чалавеку цяклі сьлёзы. Больш-менш пазнаўшы парадкі і прадстаўнікоў гэтага ладу, ён відавочна ўяўляў сабе ўсе нашыя мукі наперад. Яшчэ горай чуліся мы з мужам, жах, які нас чакаў, спыніў мне і сьлёзы і дых. Доля сына сьвідравала мозг, паласавала нэрвы. Толькі прыклікаўшы на памяць усе цярпеньні мае Радзімы і колькасьць ахвяраў праз усе варожыя акупацыі, я зноў прыклікала ўсе свае духовыя сілы, каб стрываць і найгоршае.

А найгоршае прыйшло хутка. Аднойчы з раніцы аб'явілі мне аб ад'езьдзе. Гэта было нешта, як сьмяротны вырак. Не хапіла ўласных сілаў, і я апусьцілася на калені. Схаваўшы голаў у далоні, усей душою прасіла ў Бога літасьці над маім дзецем і сілаў для нас. Прад намі, здавалася мне, прорва, суцэльная бязглуздзіца і безчалавечнасьць, гдзе замест усіх людзьмі прызнаных праўд стаіць, разкарачыўся крывавы Сталін, якому [...] аблізваюць жудасныя кіпцюры з крыві іх родных бацькоў і сыноў, пралітай тыранам самохаць і непатрэбна. Надзеі на ратунак — ніякай. Бо, каб выратавацца, заставалася прылучыцца да натоўпу і, адкінуўшы з душы ўсе здабыткі людзкое культуры, зрабіцца такім жа бітым сабакам і з жудасных лапаў сьлязьмі змываць кроў вынішчанага тыранствам маяго роду. Нас пасадзілі ў машыну, якую вязьні называлі Антонам, зялёную, шчыльна закрытую, і з некалькі яшчэ хлопцамі, якія відавочна праштрафіліся ў арміі ці зьбеглі з яе, адвезьлі ў савецкі лагер перамяшчэньня захопленых імі на захадзе ахвяр. На дзеравянай браме, за якой чырванелі гарластымі надаедлівымі лозунгамі дзеравяныя баракі, красаваўся надпіс «добро пожаловать», як быццам і сапраўды мы ехалі да звычайных людзей з чалавечымі абычаямі і хоць мінімальнай культурай. На дзеравяных сталах, нічым не накрытых, стаялі жалезныя міскі з нейкай капустай і ляжаў нарэзаны хлеб. Людзі былі зморанымі астрогамі, бледныя, нехта еў, нехта ўжо пачынаў хваліць «родину». Задаволена і дзіка на нас паглядаючы, пахаджалі «начальнікі», выпаўнялі план сілай і абманам вырваных у захаду ахвяр.

Нарэшце падагналі машыну з высокімі бартамі, усадзілі нас на яе дно. Зпераду і ззаду на дошках, перакладзеных цераз барты, сядзелі, направіўшы на нас аўтаматы, па чатэры «асвабадзіцеляў». Муж абапёр мне на калені амаль нежывы ад схудзеньня і бледнасьці твар, і жніўеньскае сонца літасьцівымі праменьнямі гладзіла яго пасівелую голаў. «Залатая» Прага, нашая кватэра і часьць нашых лепшых гадоў, засталася далёка за намі. Вязьлі нас далей ад сына і ад Эўропы — ад пагранічнага Вімпэрку на край сьвету ў Варкуту. Ну, а пакуль што нас вязьлі ў Вену. Дарога была даўгая, сустрэчных людзей на ёй мала. З жанчын апрача мяне вязьлі нейкую старушку, якую сілаю адабралі ад чэскіх грамадзян дзяцей, а рэшта ўсё былі даволі маладыя мужчыны. Яны нейк пераглядаліся між сабою, і адчувалася, што гатовыя кінуцца на канвой і ратавацца, але аўтаматы ў грудзі і ў плечы ды падмога ў кабіне амаль ліквідавалі магчымасьць шалёнага рызыка. У час абеду мы елі хлеб. Абед нашых канваіраў адрозьніваўся толькі тым, што яны пхалі ў рот той хлеб, пасыпаючы цукрам па цэлай буханцы. Не было чым запіць таго хлеба, колькі тыя салдаты ні прасілі ў чэскіх вёсках вядра, каб зачэрпаць вады, чэхі ім вядра не давалі, былі навучаныя ўжо не адным прыкладам нагласьці і зладзейства. Сумна глядзелі на нас чэскія пагранічнікі, як быццам вязьлі ўжо нас на эшафот, а не на радзіму, і моўчкі праважалі за сваю граніцу.

На пустых пажатых палёх пачаліся вінаграднікі, і калі сонца пачало ўжо сядаць, мы прыехалі ў Вену. З дна машыны паглядала я на яе, чорную і залатую, усей сваей культурай і выглядам так розную, так інакшую ад людзей, якія нас вязьлі на пакуты. Нас з мужам высадзілі ў нейкім палацы ці замку, здаецца ў Нэйвінэрштат, гдзе, памятаю, была на сьцяне табліца з надпісам, што некалі там у чэрвені выпаў сьнег. Спалі мы ў нейкіх сенях, і даволі неспакойны наш сон сьцераглі здалёк крыху ад нас азброеныя канваіры. Назаўтра была, памятаю, пятніца, 13 жніўня, ліў дождж. Ужо з раніцы пад'ехала па нас грузавая машына і паперла нас з мужам у напрамку Вены. На адной з вуліц у зелені саду стаяла віла, уступнае «добро пожаловать» жудасна і выразна сьведчыла аб яе тагачасовых жыхарах. У нетры тае вілы, у падзямельлі якой мучыліся сотні зьняволеных, кінулі і нас. Ледзь пасьпелі мы разьвітацца, як раскідалі нас у тым падзямельлі па камерах. Чорнай хваляй наляцела на мяне несказанае гора.

У камеры сядзела некалькі немак, пераважна, здаецца, у падазрэньні шпіянажу.

Па-нямецку я крыху гутарыла. Я разьдзяліла з імі часьць прадуктаў, якія былі ў мяне, пачала знаёміцца. Час закрыў мне ўжо іх аблічча, але выразна памятаю з іх адну — была гэта нейкая артыстка і прафэсіянальная шпіёнка Элё Вінклер. Была гэта даволі прыгожая бэстыя, пазбаўленая ўсякай маралі і этыкі. Немкі адразу далі мне зразумець, што гэта шпіён, і ў савецкай камеры рэкамендуючы асьцярожнасьць. Усе мы, як быдла, валяліся на падлозе ў каросьце і брудзе, і толькі яна адна мела ложак і пярыну, гдзе найчасьцей валялася голая альбо выкручвалася перад шкляным вокам у дзьвярох, раздражаючы сваею нагатою салдат-канваіраў. Яна ўсё расказвала пра сваю любоў да савецкай улады і Сталіна і пра свайго мужа прафэсіянальнага шпіёна, які сядзеў недзе побач. Гэта была агідная нейкая садыстка. Заўважыўшы аднойчы, што я малюся, пачала прасьледаваць мяне жудаснымі выкрыкамі, нейкімі «малітвамі» да чорта. Лётала па камеры і выла: «тойфэль, тойфэль», і часта нагадвала ашалелую. У нашую камеру заглядалі надзірацелі і часам клікалі на працу. Я заўсёды старалася вырвацца хоць на пару гадзінаў, каб глытануць паветра і нешта даведацца пра мужа ды ў меру магчымасьці памагчы яму хоць нечым. На другі дзень нашага прабываньня ў падзямельлі мяне павялі да начальства. Нейкі ваенны, відно, высокага чыну сустрэў мяне словамі: «Вот и вы в наших руках». «Велькай радасьці з гэтага мець ня будзеце»,— адказала я яму прадумана і паважна. Спытаўся ў мяне яшчэ, што я думаю пра Готвальда, які ўжо быў на месца Бэнэша прэзыдэнтам Чэхаславакіі. Я не хацела высказвацца аб ім і толькі прыкмеціла коратка, што цяжка быць прэзыдэнтам у цяні Бэнэша. На пытаньне аб кампартыі чэскай сказала, што яна лічная колькасна, але якасна нічога ня вартая. Ваенны гутарыў са мною даволі памяркоўна, і я наважылася папытаць яго, што з нашымі чамаданамі, якія ў нас забралі і няма іх. Праз некалькі дзён чамаданы зьнекуль прывезьлі на дзіва ў парадку. Казалі, што ў гэтай вязьніцы быў цэнтр МГБ на ўсю сярэднюю Эўропу. Тут і судзілі людзей пераважна на 10, 15, а найчасьцей на 25 гадоў. Нас нечаму не судзілі, гэтую прыемнасьць пакінулі Менску.

Кармілі нас нейкім густым панцаком і хлебам, рано чорнай кавай. Удзень я старалася спаць, затое ноччу пачыналіся трагедыі. Над намі бязконца дапрашвалі людзей, можна было зразумець нават фразы, а ўжо енкі бітых і кваяцісты расейскі мат не сьціхалі гучэць да раніцы. Савецкія сьледавацелі, як начныя драпежнікі, жыравалі ноччу. Днём было ціха, толькі рысавалася нечым дурная Вінклер і час ад часу званіў трамвай, які праходзіў міма гэтай шэрай вілы, і людзі, якія праязджалі міма, напэўна, нат не падазравалі аб нашых мучэньнях. Месяцамі без мыцьця і вады наагул, без паветра, у цесноце і брудзе чакалі няшчасныя яшчэ горшага лёсу.

На працу мы хадзілі звычайна з Лізай, гэта была аўстрыйская сялянка, якой за нешта далі 15 гадоў кары. Яна плакала па сваіх дзецях і люта ненавідзела ворагаў і Элё Вінклер з імі. Праца была нялёгкай, пераважна нешта мыць пасьля рамонту ці бяленьня, часам вымыць бялізну. У такіх выпадках звычайна мы мылі нешта сабе, а з кухні прыносілі ежу ў камеру і дзялілі яе па роўні ўсім. Я даведалася, што мой муж недзе ў першай камеры, і дагаварылася са зьняволенай абслугай гэтай патайной вязьніцы, што яны выклічуць часам мужа скрабсьці бульбу, дадуць яму папяроску, накормяць. За гэта я ім мыла заскарузлыя кашулі зьверх свае працы. Быў там у абслузе і зьняволены малады лекар, ён зьвярнуўся да нас з Лізаю, просячы, ці мы не памылі б кашулі зьняволеным, якія вось год сядзяць тут у брудзе. Кашулі былі чорныя з тлустага бруду, але я глядзела на іх скрозь сьлёзы, дарма шукаючы між іх кашулі мужа. Якое ж было маё зьдзіўленьне, калі мая фраў Ліза адмовілася мне памагаць. Яна, бедная, настолькі ненавідзела ворагаў і іх народнасьць, што памагчы зьняволенаму расейцу не магла, і доўга мне прыйшлося выясьняць ёй долю няшчасных. Памагала мне, але не зразумела розьніцы між аднымі і другімі ніколі. Аднойчы, мыючы нейкі кабінэт, я пачула ў радыё, што ўцёк Зэнкль, лідэр партыі народных сацыялістаў, і стала мне весялей. Аднойчы зноў падышла да акна і ўбачыла прыблізна дзесяцігадовых хлопчыкаў, якія гулялі ў футбол. Завірыўся перад вачыма вобраз сына, і мяне ледзь прывялі ў камеру. Муж мне казаў пасьля, што бульбу скрабаць яго выклікалі, але ён хадзіў на кухню неахвотна.

Час йшоў, «канцэрты» начамі рабіліся штораз болей дзікімі, дні каротшымі і болей халоднымі. На допытах нічога ў мяне асаблівага не пыталі, і відно было, што ўся цырымонія суда нада мною адбудзецца ў Саюзе. Мне жудасна было глядзець, да чаго былі нядобрымі, тупымі сядзячыя са мною аўстрыячкі, у таварыстве іх было мне жудасна. Круг іх зацікаўленьняў быў агранічаны асабістымі, актуальнымі справамі іх пакараньня, якое ў параўнаньні з Захадам было неймаверным. Гэта былі кары па 25 г., па 15 г., па 10 г. Меншых не сустракалася. Усіх няшчасных чакала няволя і вываз у лагеры «мадэ ін СССР», г. зн. недзе далёка ад вялікіх мест, у першабытнай тайзе ці тундры, гдзе акрамя цяжкай працы і зьверскага рэжыму забівае і сам клімат. У гэтых жанчын, якія нейкім цудам знойдзенай голкай вышывалі на сваіх насатках самыя агідныя словы расейскага лексікону, не было ні веры, ні надзеі на ратунак. Не было ў іх нават сьмелай фантазіі нейкага цуду над намі, яны бралі ўсё рэальна, і відно, што былі гатовыя йсьці на ўсе подласьці толькі дзеля захаваньня жыцьця. Толькі адна Ліза ня ведала меры свае ненавісьці і сваяму болю па мужу, доме і дзецях.

Так аднойчы нас выклікалі і ў цесным чорным воране перапраравілі недзе ў вялікую вязьніцу, гдзе ўжо было болей жанчын — пераважна немак. Жанчыны былі болей цікавыя, з востра зарысованай ненавісьцю да ўсяго, што расейскае. Да мяне, не ведаю, з якіх меркаваньняў, усе адносіліся вельмі добра. Іх ненавісьць была маей ненавісьцю, іх тайны маімі тайнамі. Пасьля трох дзён прабываньня там нас сабралі, перашманалі, праверылі нашыя паперы і выпусьцілі ў вялікую залу. Я ўбачыла маяго мужа, быў худы да немагчымасьці, з абрытай нагола галавою. Стараўся ўсьміхацца, і гэта было яшчэ болей жудасна. Калі нас пастроілі на падворку, Грэта Адам, прыгожая і маладая, крыкнула на ўвесь голас па-нямецку: «Фраў Ларыса, мы сюды яшчэ вернемся, вернемся абавязкова». Я ёй пацьвердзіла гэта. Перад ад'ездам з тае вязьніцы, здаецца, гэта быў Шапрон, нас збольшага шманалі, гэта зн. абысквалі нас і нашыя рэчы. І вось прыйшла чарга на мяне. Мае загінуўшыя і зноў аднойдзеныя чамаданы былі напханыя markнымі рэчамі, якія ласкава мне з нашай кватэры прынесла пані Копэцкая і пан Кршываноска, якім мы аддалі ключы ад нашай кватэры. Было там даволі і рознай непатрэбнасьці, але сярод усяго была харошая, новая, падараваная мне адной чэшкай, біблія. Была яна на тоненькай паперы, выданая недзе ў Амэрыцы. Яна, як і Евангеліе на беларускай мове, якое мне муж купіў на маю просьбу адразу пасьля нашага вясельля, былі маімі настольнымі кніжкамі. Прынесьлі мне тую біблію яшчэ ў вязьніцу ў Вімпэрку, і я, залезшы на шырачэзны падаконьнік закратаванага акенца замкавай вежы і паглядаючы на лес, чытала праз сьлёзы тую біблію і ўсё думала, ці не выскачаць на сваіх «джыпах» з таго лесу [збавіцелі] і ці не разьнясуць гэтую нечалавечую шарашку на чатэры вятры. Але не ў галаве было тым [...] нашае гора, і заставалася нам толькі біблія і пакуты, чалавечы шлях Хрыста.

Вось і вывалаклі гэтую кніжку, як якую ядавітую рэч, і ня ведалі, што з ёю рабіць, якім цудам яна тут апынулася. Тады я пачала паціху ўпрошваць тых салдатаў, каб усё ж кніжку мне пакінулі. Яны буркнулі мне нешта азьвярэла, але кніжку, як я пасьля пераканалася, мне пакінулі, як і лісты ад сыночка.

Нас разьмяшчалі на грузавых машынах і ўсё стараліся, каб я і Джэні Грэчанка селі ля сваіх мужоў. Муж прыгожай, заплаканай Джэні, невысокі, але мажны сымпатычны грэк, стаяў, бедны, у чаравіках без шнуркоў, з парасолем, прытрымоўваючы адной рукой нагавіцы, бо і пояс яму забралі.

Павезьлі нас за Вену, гдзе адзінока стаяў цэлы цягнік на «жывы тавар» для «пераможцаў». Падганялі машыны да дзьвярэй вагонаў, клалі памост і па ім заганялі зьняволеных. Нейкія касавокія канваіры з віскам круцілі аўтаматамі, як пугамі, над лысымі галовамі вязьняў, і здавалася мне, што гэта часы і норавы Батыя, нягледзячы на цягнік, як іронію дасягненьняў людзкасьці. Вагоны былі падзеленыя густа пераплеценым калючым дротам на тры часьці. З левага боку жанчыны (было нас 13), з правага мужчыны — болей за сорак (сядзелі адзін на адным) і пасярэдзіне канваіры. У загарадзях былі пакінутыя толькі дзіркі, як для сабакі. Трэба было станавіцца на калені і так толькі, на жываце, туды паўзьці. Паабдзіралі мы і адзеньне і голавы. Дзіркі гэтыя наглуха пазапляталі. «Туалет» для нас зрабілі незамысловаты. Выдзяўблі дзірку ў падлозе вагона, і гэта было ўсё. Для нас, эўрапэек, гэта была пакута, і мы, нягледзячы на пратэсты канвояў, затуляліся, чым маглі, альбо чакалі ночы. Ваду піць падавалі нам праз дрот, ежу — таксама. Не было ні ложак, ні місак. Ля гэтага вагона назьбіралі нашыя «апекуны» брудных іржавых банак, яшчэ, відно, ад такрошні кансэрваў, з якіх і елі мы штодня той незамысловаты панцак, якім нас кармілі. Мужчыны апякалі сабе вусны, бо з тых бляшанак трэба было пад'есьці некалькі асобам. Ваду давалі нам, якую хацелі, ад яе ледзь не рвала. Цягнік наш суправаджаў лекар і цэлая зграя розных чакістых, паджарых, з хітрымі, сьвідручымі вачыма, на якіх страх было паглядаць. Яны заходзілі і ў наш вагон і зьдзекваліся, як маглі, з бедных немачак, якіх вязьлі «да мядзьведзяў». Ад'язджаючы, схапіў мяне плач страшны, нялюдзкі. Мне здавалася, што я ўжо ніколі не

пабачу сына, як папруць мяне няведама куды і задушаць, думалася ўсё, а дзіця самое ў шырокім, бязлітасным сьвеце. Якраз падышоў той «доктар» і пытаецца ў немак, чаго я так плачу ад'язджаючы «на родину», а яны кажуць аб хлопчыку, а той: «Ничего, бандитом будет». Гэта было сказана не так сабе. «Доктар» быў, відавочна, у курсе спраў, бо, як я пасьля даведалася, яны ськівавалі ўсе намаганьні, каб маральна і фізічна зьнішчыць няшчаснага хлопца.

З немак была цікавай жанчынай аўстрыячка фраў Рэнэ і фраў Фіні. Фраў Фіні, звычайная старажыха, вельмі адчувала гора Аўстрыі, на такіх «асвабадзіцеляў» глядзела з ненавісьцю, верыла, што Бог дапаможа вярнуцца, і з абрыдлівасьцю адварочвалася ад Элё Вінклер і нейкай Гэры, якую ўсё пашчыпваў той «доктар», а ёй гэта падабалася.

У Мадзяршчыне доўга стаяў цягнік, і калі я падняла свой заплаканы твар, дык сустрэлася з поглядам такім спагадлівым, такім чалавечым нейкага мадзярскага чыгуначніка, што сэрца маё акрэпло. Элё Вінклер галасна марыла аб тым, што ў саветах прыгожыя футры і яна вернецца дамоў у такім менавіта ды яшчэ выйдзе замуж за шпіёна, якіх тут у цягніку поўна, кіне сваяго старога шпіёна, які тут разам з ёю, бо ён скампраметаваўся і ў Амэрыку яго ня пусьцяць. А фраў Фіні малілася сьвятому Шчэпану, праз край якога нас вязьлі, і аж скрыгатала зубамі з гора.

Так нас прывезьлі ў Львоў. Цягнік спыніўся, і нас пачалі выгружаць з вагонаў. Дзіву я дзівілася: колькі людзей! Каля гары выгружанай чырвонай плюшавай мэблі, «германскага трафея», стаяў тоўсты савецкі генерал, усей у медалях, і тоўстае брухо аж вырысоўвалася боханам з-пад гімнасьцёркі, а побач гнялі худога страшнога генерала немца, які, відно, нямала прабыў у падзямельлі той страшнай вілы і цяпер, пад сытым і наглым поглядам «пераможцы», плёўся як цень, апіраючыся на рукі сваіх землякоў. Такі ўжо лёс пакананых... Нарэшце я ўбачыла маяго мужа, па чале і па твару сплывалі яму ручайкі крыві. Йшоў, як Хрыстос, бледны і акрываўлены, побач шчэрылі зубы савецкія азьвярэлыя аўчаркі, якімі нас адразу сустракала «отечество».

Завялі нас у вялізны хлеў, гдзе сарціравалі нас і разьдзялялі. Там упершыню я ўбачыла кучу зьняволеных дзяцей, такіх жа бледных і страшных, як мы, і болей, болей няшчасных, бо дзеці.

Нарэшце нас пусьцілі ў зону лагера. Мы былі на Украіне, і гэта адчувалася. Украіна засяляла тады лагеры. Спачатку пераглядалі мужчын. Калі прыйшла чарга на нас, я ўбачыла на зямлі параськіданыя, парваныя паперкі, такія знаёмыя. Я падняла іх, і аказалася, што гэта былі лісты Юрачкі, нашага сына, якія вось адабралі мужу і кінулі тут па кусочку... На гэты раз я сваю чэскую біблію схавала пад пальто, якое спэцыяльна адзела, хоць было горача, схавала і сынавыя лісты, так усё пакуль што абараніла. Скрыўлены чакіст, які шманаў нас, толькі вырачыў на мяне вочы, а мужу забраў і пяро, і гадзіньнік, і другія драбніцы. Лекар, украінец, відно, са зьняволеных, праверыў нам вочы і рукі, і нейкая неймаверна нафуфыраная, брыдкая, як ноч, медсястра-расейка пашукала нам у галаве бруду. А пасьля мы апынуліся сярод гушчы людзей на панадвору, якім «родзіна» выдавала па місцы нейкай капусты, варанай на сьмярдзячых рыбіных касьцях. Міскі пераходзілі з рук у рукі, а мы з мужам глядзелі на сябе і думалі, што будзе далей. Нехта прадаваў папяросы па сот штук у пачцы за рэчы. Мае рэчы былі пры мне, і я давай мяняць спадніцы на папяросы. Набеглі людзі, усе просяць закурыць, так і аддалі мы ім тую сотню, а мужу я выменяла другую сотню. Да нас усё падыходзіў, хвалячы савецкі суп, нейкі мажны немец у амэрыканскай куртцы на кажуху і ва ўсім, праўда, добра зашмальцаваным, але амэрыканскім адзеньні. Быў гэта муж Элё Вінклер. Аказалася, што гэтае супружжа, прафэсійныя шпіёны, прадалі саветам шмат аўстрыйцаў, у тым ліку і Янайкі з Джэняй. Грэкі вучыліся ў Вене і, відно, у цяжкія часы крыху зараблялі шпекуляцыяй. Так з імі і зышліся тыя Вінклеры. Аднойчы яны запрасілі бедных грэкаў на вячэру, абяцаючы ім знамянітую нямецкую патраву — печаную гуску. Пасьля вайны на такую роскаш не пабаяліся грэкі паехаць нат у савецкую зону Вены. Быў дождж, расказвала мне пасьля Джэні, Янайкі ўзяў вялікі парасон, каб нічога не сталася галубому плашчыку і такому ж капялюшыку Джэні. Вылезьлі яны з трамвая, ля дому спаткаў іх сам Вінклер, весела і сардэчна з імі прывітаўся і, пакуль цалаваў з абодвух старон пахучую ручку Джэні, пад'ехаў паціху савецкі чорны воран, пахваталі абоіх і замест смачнай «ганс» яны, напэўна, і камсы не змаглі есьці той ноччу. Янайку за нешта там далі 15 гадоў, а зусім ужо невіноўнай Джэні 7 г., найніжэйшую кару толькі для невінаватых са сталінскага кодэксу тых часоў.

Ужо быў асеньні, месячны вечар, а мы ўсё сядзелі з мужам, трымаючыся за рукі.





**У лагернай бальніцы. У першым радзе злева Л. А. Геніюш.**

Ля нас нейкі ўкраінец, якому далі 25 г. за тое, што яго жонка-чэшка, перасяляючыся з Украіны, перавезла і яго ў мяшку з сечкай. Кожны меў сваё гора. Мы перажывалі найболей за тое, што чалавек, якому мы даверылі нашага сына, аддаў яго маім сёстрам, якія вярнуліся з высылкі і жылі ва Вроцлаве. Былі гэта ненадзейныя, слабавольныя дзяўчаты, і мы ведалі, што сыну нездабраваць. У нас з мужам фактычна не было ніякай віны. Былі мы членамі Бел. кам. самапомачы, але мы, як людзі без грамадзянства, мусялі

быць зарэгістраваныя недзе, і якая розьніца — ці ў расейскім «фэртрауэнштэле», ці ў беларускім камітэце? Усе чужынцы, ад яўрэяў пачынаючы, былі ў немцаў пад асабліва строгім надзорам, а я як паэтка, дык асабліва. На ўсход быў муж высланы не па ўласнай волі, а па чэскай мабілізацыі, ды прытым яго выгналі з Беларусі, забараніўшы яму там нават практыку. Каб зьберагчы мужавыя нэрвы і сілы, я парадзіла яму зусім не прызнавацца да таго камітэту. Няхай уся бяда ўжо будзе на мяне, бо ж я была скарбнікам камітэту. Так мы і пастанавілі. Мы былі яшчэ не асуджаныя, чакала нас сьледства. Позьнім вечарам і да нас дайшла чарга здаваць свае рэчы і йсьці ў жаночыя баракі. Мы разьвіталіся з мужам. Заплакалі. Пасьля нас, жанчын, павялі ў баню. А быў там толькі душ. Ваду пушчаў нейкі яўрэй. Уся амаль адміністрацыя таго лагера і тут была з яўрэяў. Трудно толькі было разабрацца, хто з іх вольны, а хто зьняволены. Вось той яўрэй як пачаў ляяць немцаў ды з помсты за ўсе Асьвенцімы як пачаў пускаць на нас то гарачую, то халодную ваду, што мы енчылі немымі галасамі, аж пакуль я не вылаяла яго як сьлед і не прыгразіла, што канцы на яго знайду! Гэтак, калі мы прыехалі ўжо на савецкую граніцу, дык уляцелі да нас з візгам нейкія савецкія салдаты: «Девушкі, девушкі!» Я ім тады сказала, што, думаю, мы прыехалі ў культурную дзяржаву і нас тут не скрыўдзяць. «Да, да, мы культурные»,— адказаў нейкі з іх, зачыняючы наш быдлячы вагон. Фрау Рэнэ мне за гэта дзякавала. Пасьля бані я разлучылася са сваімі немкамі, і мяне павялі ў нейкі барак, пусьцілі на карыдор, сказаўшы номер дзьвярэй. Карыдор той даўгі. Я паволі падышла да адных дзьвярэй, заглянула ў тое «вока» і аж замерла! Працерла вочы і гляджу далей, а там як зачараваная казка! Сядзяць на клуначках цудоўныя ўкраінскія дзяўчаты, прыгожыя, маладзенькія, у вышываных блюзачках, усе з косамі, і сумна нешта пяюць, пакой вялікі і многа іх, многа і такая нейкая чысьціня і сьвятасьць б'е ад іх, што вачэй не адарваць. Мне замерла сэрца — о Украіна, дарагая, родная, за што Табе такая пакута [...].

Дзьверы я знайшла, адкрыў мне іх нейкі высокі, мажны блатны, як я пасьля даведалася, Валя. Зачыніў іх ключом зноў, і я апынулася ў невялікім пакоі, гдзе з браку месца сядзелі ля клуначкаў жанчыны. Спалі. У куце стаяла агромністая параша. Толькі ля яе між дзьвёх украінак мне выпала месца. У кутку, каля печы, сядзела на клуначку старая, незвычайна прыгожая жанчына. Яе чорныя з белым косы дакраналіся амаль да зямлі. Яна ня спала. Украінкі сказалі мне, што гэта ігуменьня Васільянскага Манастыра — Маці Марта. Пачалі адразу ў мяне выпытвацца — скуль я і хто, і калі я ім сказала, што я беларуска з Прагі чэскай, дык яны мяне нейк штурхнулі адразу і прыціснулі да самай сьмярдзячай парашы. «Вы дурная,— сказалі яны мне,— вас чаго сюды прынесла, да раю захацелі, дык вось вам рай, паглядзіце!» Я засьмяялася і калі расказала сваім новым сяброўкам, як сюды трапіла, дык яны толькі ўздыхнулі, падсунуліся колькі маглі, каб мне было выгадней, расказалі яшчэ пра сваю найтрагічнейшую долю, і здаецца, паснулі мы. Сон быў не сон, бо па галавах бегалі даўгія, хвастатыя пацукі, якія перагрызалі і чаравікі пад галавою, а па сьценах паўзлі тысячы сытых блашчыцаў, ад якіх не было ратунку. Раніцай быў пад'ём, хадзілі да парашы мыцца, пасьля прынесьлі нейкай баланды пасьнедаць, далі пакрысе хлеба немучнога нейкага, няспечанага, які прытым трэба было разьдзяліць на цэлы дзень. Я пачала разглядацца па камеры, і вочы мае зноў спыніліся на велічавай, дастойнай постаці Маці Марты. Пасьля сьнеданьня, а было яшчэ шэра, вывелі нас на «прагулку» па лагерным дворы. Я ўбачыла вужы пастроеных па пяцёрках калонаў няшчасных людзей. Былі там нялетнія дзеці, былі калекі на кулях, і дзядкі як лунь белыя, і старэнькія бабусі, і моладзь. Бледная, нэрвовая з болю, са сьледстваў, ненавідзячая акупантаў, з баявым упартым агнём старых казакоў. Вокал пляца стаялі баракі. Цяжка было падумаць, што ў іх зьмясьцілася столькі людзей, а вывелі іх толькі частку!

Маці Марта прыклікала мяне да сябе, і я ёй шчыра ўсё пра сябе расказала. Яна, відавочна, адразу паверыла мне, і ў нас завязалася нейкая цеплыня і даверра. Пасябравала я і з другімі ўкраінкамі. Тут я ажыла! Гэта не былі ўжо цынічныя, сварлівыя аўстрыячкі, а ідэйныя, чыстыя, як сьляза, баявыя дзяўчаты і жанчыны, са сьлядамі пабояў на целе. Мы кладаліся на падлогу, накрываліся якім гуцульскім радном, каб нас меней чулі, і гаварылі гадзінамі. Мне забівала дух ад іх адвагі, мужнасьці, мукаў. Усё гэта яны ўспрымалі натуральна, думаючы толькі пра Украіну. Старыя жанчыны, якім забралі ўсё і дзяцей за тое толькі, што яны накармілі сыноў-паўстанцаў, несьлі свой Крыж дастойна, ціха. Дзеці з жудасьцю ўспаміналі пра «маскалёў», як тыя рабілі аблавы, вынішчалі сёлы, заганялі іх у лагеры. З намі сядзела дзяўчынка лет 12. Яна з брацікам, дзесяцігадовым хлапчуком, уцякла з высылкі на Украіну ад голаду. Іх злапалі і праз вязьніцу, як і шмат іншых, варочалі назад недзе ў Комі ці Казахстан. Дзяўчынцы прыносілі перадачы, і хлопчыка часам пушчалі ў нашую камеру, каб ён пад'еў, бо ў яго камеры галодныя блатныя дзеці адразу ўсё адабралі б. Мы ўжо прывыклі да хлопчыка, быў ён малы, паважны. Аднойчы ён мне сказаў, што моцна верыць у тое, што іх «жовто-блакітны» сьцяг будзе над Кіевам! О, дай гэта Божа, харошы хлопча! Разумнае было дзіця, меў там яшчэ такога ж сябру. Раніцай давалі ім па пайцы хлеба. Адразу яго з'есьці было нельга, бо яшчэ цэлы дзень наперадзе, а схаваць хлеб таксама нельга, блатныя жулічкі адбяруць. Дык хлапчаняты з раніцы прадавалі адну пайку, грошы добра перахоўвалі, а ўвечары куплялі сабе пайку зноў. Дзяліліся яны ўсім, і спадзяюся, што выжылі. На перасыльцы гэтай адчуваўся бой, атмасфера несказанага, падобнага грэцкаму, шляхотнага геройства. Усё тут дыхала ўкраінскай, адчайнай прагай волі і барацьбой. Жанчыны сьпявалі, маліліся супольна і ніколі не плакалі. Голкамі з рыбіных касьцей ці нейкай цудам захаванай сапраўднай голкай яны з адзеньня выпаранымі ніцьмі вышывалі на лапінках трагічную гісторыю гэтых часоў. Былі гэта цуды, на якія пайшло крыху і мае бялізны. Былі гэта мадонны, з малітваю пад нізом, сэрцы, прабітыя мячом, з якіх капала кроў на ўкраінскую зямлю, магілы пабітых мужоў і сыноў з надпісамі і вянкі цярнёвыя і разорваныя на руках дзяўчыны Украіны варожыя ланцугі. Некалі будзе музэй змаганьня і болю гэтай Зямлі, і чалавецтва пакланіцца бабусям пабожным і мужным і «каранаваным» дзяўчатам. Каранаваньне... Гэта чакісты ставілі ля сьценаў дзяўчат і абстрэльвалі ім кароны вакол галавы. Ад гэтага сівелі, дурэлі, а ў адной «каранаванай» Вольгі так і засталася дзірачка на чале.

З Маці Мартай мы шчыра пасябравалі, нягледзячы на свае 64 гады, была яна «наймалодшай у камеры», а можа, і ў цэлым лагеры. Заўсёды ў курсе палітычных і лагерных спраў, радзіла ўсім, памагала. Нават маладыя дзяўчаткі засуджаныя дзяліліся з Ёю зьместам запісачкаў ад сваіх каханых, між радкамі якіх былі заўсёды і іншыя справы. У той час якраз, а быў гэта 48 г., забілі нейкага сьвятара, які выступаў супраць вуніі, і аб гэтым галоўна вяліся гутаркі. Маці Марта кожны дзень, акрамя сьвятаў, ці т. зв. савецкіх выхадных, атрымоўвала з горада ад сёстраў перадачы. Дорага гэта ёй абыходзілася, бо трэба было шчодра дзяліць яе з «адміністрацыяй», але ў Маці Марты знайшлося заўсёды нешта ня толькі для мяне, але і для майго мужа, якому гэтая цудоўная асоба здолела перасласць ежу, і ў зусім другі барак. Яўрэі народ вёрткі, яны за грошы зробяць што хочаш, ды прытым, як я пазьней пераканалася, яны палічылі майго мужа сваім. Быў ён худы, зарослы, чорны і сапраўды паходзіў крыху не на сваю расу. Мілая, геніяльная Маці Марта здолела зрабіць нават так, што аднойчы нейкі старшыня прывёў мужа ў наш барак. Была нядзеля, і мы якраз супольна адпраўлялі імшу. Я выйшла, і мы доўга маглі пагаварыць з сабою. Муж расказваў, як грэк Янайка са сваімі аўстрыйскімі сябрамі і «адміністрацыяй» барака добра ўляпілі Вінклеру. Адлупілі яго на горкае яблыко, зьдзерлі з яго ўсе амэрыканскія рэчы, якімі адразу завалодала «адміністрацыя», і так хоць часткова адпомсьцілі за безліч крыўд. Як кожны прадажны чалавек, ён падвёў яшчэ і саветаў, і за тое, забыўшыся пра іх ранейшыя «заслугі», а можа, і дзеля іх, схапілі чакісты і гэтую пару і, як усіх, паперлі да белых мядзьведзяў. Апавясьціў мне таксама муж, як ён прадаў сваю кашулю ў пасачкі, бо «ў пасачкі кашуляў ён ня любіць»... за пачачку нейкага тлушчу, якога ня можа есьці, а свае пражскія боты прагандляваў так: папрасілі яго, каб праз кармушку перадаў нейкаму купцу адзін бот памераць, бота таго яму не вярнулі, а ноччу пацягнулі з-пад галавы другі. Успамінаў недзе пасьля тую раскошную папялінавую кашулю ў пасачкі, носячы савецкія дзяругі, як і амэрыканскія кансэрвы, якіх так баяўся. Мы стараліся не ўспамінаць Юркі, бо гэта было цяжэй нашых сілаў у гэты час. Не ўспамінаць яго было нельга, можна было толькі не гутарыць аб ім.

З мужам я сустракалася часта. Баракі абходзіла нейкая лекарка, у якой, акрамя белага халата і аспірыну, нічога болей не было, але факт яе існаваньня ўжо напамінаў «гнілым буржуям» аб вышыні савецкай мэдыцыны. За галубое піжамка ў кветачкі, з якога баптыстка Роза перарабіла лекарцы модную блюзку, эскуляпка ласкава брала мяне з сабою насіць столачак з яе няхітрымі перавязкамі, і мы накіроўваліся заўсёды, гдзе быў мой муж. Погляд, усьціск рукі, пару слоў, пераданая запісачка — усё гэта былі вялікія эмоцыі, якія памагалі жыць. Я была яшчэ сьледственнай, і мне дазваляліісьці з бакам з другой напарніцай па кіпяток. Йшлі мы заўсёды паціху, цягнулі той бачок паволі, каб даўжэй пабыць на паветры, пачуць нешта новае, чым можна было б пацешыць сваіх у камеры.

Акрамя Маці Марты пачала праяўляць вельмі вялікі інтарэс да мае асобы старшая нашай камеры—**расейка.** Была яна асуджаная на пару гадоў, нейкая артыстка ці нешта падобнае, але настолькі працiўная, сказаць проста нельга. Яна, як старшая камеры, загадала перанесьці мне мае лахманы да яе і спаць з ёю побач. «Ах, якое ў вас усё заграмічненькае,— не сьцiхала яна, вось прадайце мне гэту сукенку шаўковую, я дам за яе кілаграм сапраўднага масла вашаму мужу». На масло для мужа можна было мяне купіць, і мая мілая пражская сукеначка перайшла ў рукі старшой. Доўга мы радзіліся з Маці Мартаю, як ратавацца ад ведзьмы, і Маці Марта вырашыла, што дзеля спакою трэба мне ўсё стрываць, бо чалавек гэта небясьпечны для цэлай камеры і Маці Марта сама ёй плаціць даніну. А Валька, наш блатны начальнік, часта заглядаў у нашу камеру і весела пашчыпваў старшую.

Аднойчы несьлі мы кіпяток, а Валька, з некім душэўна гутарачы, развесяліўся такім жудасным, расейскім матам, што, слухаючы гэта, можна было згарэць з устыду. Але, убачыўшы мяне, вельмі, вельмі засаромеўся, даруйце мне, прасіў, я жа вас не ўбачыў. Мяне крыху зьдзівіла яго блатная далікатнасьць, але засталося добрае ўражаньне. Выклікаў ён мяне раз у сені барака і так ветліва папрасіў, ці не прадала б я са сваіх рэчаў яму сукеначку, для яго каханай. Я згадзілася, і ён хутка дастаў дазвол вясьці мяне ў т. зв. капцёрку. Рэчы былі ў парадку, і я дастала адну са сваіх сукенак, найболей каляровую, да таго насавую хустачку і яшчэ адну сукеначку для баптысткі Розы, бо яна ня мела чаго злажыць, і мы пайшлі. «Колькі я вам вінаваты?» — пытае Валька, а я і кажу яму — не ведаю вашых цэнаў, калі маеце грошы, дык дайце іх маяму мужу, яны яму напэўна патрэбныя, а калі ня маеце, дык бярэце так, а вось вам яшчэ хустачка ад мяне на памяць. Усю дарогу ён мне паясьняў, што ён сын інжынера, але чэсна працаваць — гэта 600 рб., а красьці — гэта раскошна некалькі месяцаў жыць, а пасьля пару гадоў сядзець, што ж, аплачваецца. Я вор, казаў ён, а я горача даказвала яму, што з яго яшчэ будзе чалавек. А з яго быў чалавек харошы, чэсны, лепшы, як усе яго суродзічы на волі. Ён за пару дзён прыйшоў да нас, выклікаў мяне і паважна папярэдзіў наконт старшой нашага барака, кажучы, што яна спэцыяльна пастаўленая, каб за мною сачыць... «Я нічога не казаў»,— закончыў ён гутарку і пабег. Было ўжо позна, гдзе што ведзьма змагла ўжо ў мяне выведаць. «Якія прыгожыя і акуратныя хлопчыкі былі немцы»,— гаворыць мне, а я, дурань, кажу: «Што вы, яны варвары, дзікуны, але вось Джоны ў берэціках, у сваіх адпрасаваных блюзах, вясёлыя, як дзеці, добрыя, як сама Амэрыка» — і пайшла, і пайшла прадаўжаць ім хвалу. Моцна мне гэта пасьля адрыгнулася, няўцям мне было, што культурная, багатая Амэрыка куды страшней была для іх, чымсьці разьбітая ўжо Германія. Адрыгнулася мне гэта на сьледстве, гдзе разглядалі мяне ўжо як касмапаліта, так мяне і ахрысьцілі. Угаворвала і ўпрошвала мяне Маці Марта вытрымаць усе «кампліменты» старшой. Жаданьне і рады Маці Марты былі для мяне сьвятасьцю, і я перамагала сябе, гутарыла з той падлай і выслухоўвала яе хлусьню, толькі ўжо пра Джоны маўчала.

Пасьля трох тыдняў нашага прабываньня ў Львове гатавалі далёкі этап. Валька папярэдзіў нас, што паедзем. Ля нас была камера маладых людзей, якія дабравольна перабеглі ў Саветы. Я аднойчы пачула, як адзін з яўрэяў даводзіў, што ўсе яны шпіёны. Ніяк не мясьцілася яму ў галаве, што нехта нармальны можа ехаць сюды з іншых меркаваньняў. Былі там расейцы, украінцы і нават нейкі француз. Маці Марта палажыла мяне ля сваіх ног, і я заснула, а яна шыла мне мяшок, бо, ведаючы варункі на этапах, баялася за мае чамаданы. Дала яна мне з сабою торбачку сухароў, дзесяць рублёў, і я выменяла яшчэ ў нейкай дзяўчынкі кусочак сала за нешта з адзежы. Старшая камеры маўчала, і я толькі сьцерагла рэчаў, каб яна зноў не пакваліла на нешта «заграмічненькае». Маці Марце я пакінула цёплую, даўгую кашульку на ноч і цёмную хустачку на памяць. Мы сардэчна развіталіся з ёю, і я добра запамятавала яе адрас у Львове. На падворку перад этапам падышоў яшчэ да нас надзірацель-яўрэй і даў мне некалькі пачак папяросаў ад Маці Марты, за што забраў у мяне апошнюю дзесятку, хоць, як відно, на папяросы Маці Марта яму грошы дала. Дала і за фатыгу.

Зноў сядзелі мы ў закратаваных, спэцыяльных купэ. За мною сядзелі жанчыны, якіх адвозілі недзе на Поўнач, адкуль яны паўцякалі. Рэчаў у іх не было, толькі крыху прадуктаў, вялікая любоў да Украіны і надзея вярнуцца дамоў. Як жа ненавідзелі яны чужую зямлю, куды валаклі іх сілай, усё ім забраўшы, да жабрацкіх мяшкоў. У савецкіх цягніках было заўсёды некалькі вагонаў для зьняволеных. Вагоны гэтыя былі падзеленыя на добра закратаваныя камеры, у якіх на нізе і на версе вязьлі бітком набітых людзей. На пачатку вагона туалет, у які пушчалі людзей не паводле іх патрэбаў, але паводле капрызу канвайраў, для якіх мукі зьняволеных былі дзікай разрыўкай. Такжа, паводле сваяго капрызу, дзялілі яны воду людзям, і людзі часам аж душыліся са смагі, а з калёшаў ад валенак карысталі як з туалету. На другім канцы вагона быў яшчэ карцэр, туды хавалі незадаволеных, над якімі асабліва зьдзекаваліся. Там недзе былі і «апартамэнты» для канвайраў.



Колькасьць зьняволеных, перавозка іх, пункты перасылак, бані і т. п.— гэта было добра з'арганізаванае прадпрыемства, запланаванае ў вялікіх маштабах, як нейкая часьць дзяржаўнай дзейнасьці і неабходнасьці «мудрага» марксізму. Ад гэтага станавілася і жудасна і сьмешна, нават крыху радасна з таго, як нізка скаціўся вораг усяго чалавечага ў сваіх мэтадах нішчэньня людзкасьці. Такое ня мае, ня можа мець будучыні, бо вынішчаныя людзі ня моўкнуць са сьмерцю, а голасна крычаць да сумленьня ўсяго сьвету, гдзе ўзровень чалавека на вышыні. Усё, што сталася ўжо нармальным для абслугі гэтага прадпрыемства і для ўсіх заправілаў гэтай дзяржавы, нармальнаму эўрапэйцу сьціскала горла вялікім болем людзкім, бязкарна пралітай крывёю нявінных. Канвайры, нядаўнія «пераможцы» Эўропы, зьвярталіся да сваяго нядаўна мучанага немцамі народу з такой нечалавечай лаянкай, што скура шэрхла ад іх жудасных рафінавана брудных слоў, у якіх мяшалі і Бога, і сваю маці, і ўсё, што для нармальнага чалавека застаецца заўсёды сьвятым. Незразумелы садызм распасьціраўся ад Сталіна да канвайраў, і ўзаемным мучэньням у гэтай краіне, здавалася, няма канца і меры. Калі ўжо мяне асуджаную везьлі далей на Поўнач, я пабачыла цэлыя цягнікі з т. зв. «вагонзакаў» і тысячы лагероў ля жалезнай дарогі на Варкуту. Над абсечанымі паўночнымі вятрамі ўбогімі ялінамі ўздымаліся вышкі, вышкі, і больш нічога, як вышкі.

Ну а пакуль што вязьлі нас у Менск. Пад вечар мы ўжо былі ў Баранавічах, і нейкі начальнік, убачыўшы нас, крыкнуў «чамаданнае настраеніе». Гэта ён убачыў не мяшкі на вяровачцы, а сапраўды чамаданы і з гэтага дзіва мусяў крыкнуць.

У Баранавічах вязьніца была вялікая дзераўляная. Усё тут было з дрэва: і дзежка на воду, і праславутая савецкая параша. Сховішча на рэчы там не было, так як усе савецкія парадкі яшчэ не былі заведзеныя, і мае рэчы пасьля шмону далі мне ў камеру. Сядзела там ужо некалькі жанчын, пераважна маладых. Адна з іх рэкамэндавалася партызанкай. Мова яе была настолькі пераплеценая нецэнзурнымі словамі, што здавалася, гэта асаблівая мова, «дыялект» партызанскі, і толькі брала дзіва, як гэта мог чуць па-добнае стары беларускі лес... Жанчыны ўсё ў мяне выпытвалі, а позна ўвечары пачалі памалу нападаць на мяне, рысавацца сваёй партызаншчынай і паглядаць у бок маіх чамаданаў. Нарэшце, адзначыўшы ўсе свае «заслугі» перад савецкай уладай, яны сабраліся дзяліць між сабой мае рэчы, як ваенны трафей, але нейкі таварыш адчыніў акенца і моцна на іх прыкрыкнуў. Ён загадаў ім не чапаць мяне, і яны адсталі. Абманутыя, яны бурчалі, як кошкі, але я па дабраце душы свае дала ім нейкія драбніцы, і настрой іх адразу зьмяніўся. Перад сном яшчэ яны пасьпелі даць мне нязгоршы партызанскі канцэрт, які я з цікавасьцю выслухала. Я толькі думала сабе: што там з маім мужам? Раненько, яшчэ не разьвіднело, нас адпраўлялі далей. Было нас пад 50 чалавек. Дзялілі нам па куску хлеба, па сырой рыбіне і па капельцы цукру. Цікава было тое, што нейкі афіцэр папытаўся, ці няма ў мяне хустачкі? Хустачка была, і ён усыпаў мне ў яе місачку цукру. Гэта быў каралеўскі жэст з яго боку! Я ўсей той цукер аддала мужу, але ўдзячнасьць за яго доўга саладзіла маё сэрца. Пагналі нас строем, з сабакамі недзе аж пад горку, гдзе загадалі прысесьці на зямлі, каб нас не было відно. Канвой быў нейкі не злосны, свойскі, і мы прыпалі да зямлі, як курапаты. Пасьля прыйшоў цягнік, і зноў нас пагрузілі ў звярыныя клетачкі, мужа на гэты раз недалёка ад мяне, і павезьлі нас у Менск. Мы ехалі Беларусьсю. На станцыях спыняўся цягнік, і шчодра папаўняліся нашы клеткі. Заводзілі па-вясковаму бабы, а іх сыны з торбачкамі мужаліся і панура залазілі ў клеткі. «Мамачка,—казаў муж,— дык мы ўжо ў Беларусі, паглянь, няўжо не адчуваеш сваяго паветра?» «Адчуваю,— кажу,— аж надта, але чую, што яшчэ больш буду яго адчуваць, таму мне хацелася б быць цяпер як найдалей ад гэтага паветра, на другім канцы зямнога шару».

У Менск прыехалі мы рана. Ля цягніка зноў паявіліся канвайры з сабакамі, і тыя цюцькі вельмі варожа на нас паглядалі, пабліскваючы толькі іх завостраныя клыкі. Нам зноў загадалі прысесьці і нахіліць галовы, а пасьля павялі ў іншы вагон, гдзе мы праседзелі да позьняга вечара. Гутарылі мы праз сьценку з мужам, прашчаліся. А хацела прыгатаваць яго, каб ня лішне спалохаўся, калі будзе зацяжка і не стрываю зьдзека-

6*

ваньня, дык пастараюся ня жыць. Ён так зьбянтэжыўся, так спалохаўся, што ледзь не памёр адразу, і я абяцала яму, што выжыву. Яшчэ раз папрашчаліся мы з ім у «чорным воране». Вуліца была асьвечаная, хадзілі людзі, і нас хутка ўвялі за браму менскай вязьніцы, т. зв. Амэрыканкі. Тэатральна ветліва прывітаў нас нейкі турэмны начальнік, які вельмі зьдзівіўся, што няма з намі сына, і шчыра аб гэтым пашкадаваў... Ад яго слоў холад пайшоў мне па целе і нядобрае прадчуваньне сьціснула сэрца... Нас разьдзялілі з мужам. Мяне павялі ў нейкі павук. Я вельмі напалохалася, а пасьля пхнулі ў камеру, якая мела форму гроба з прыкаваным сталом і такімі ж прыкаванымі і адложанымі нарамі з бакоў. Узор на гэтую турму запазычылі саветы ў Амэрыцы, як мне пасьля сказалі, і не адна сотня і не адна тысяча беларусаў у безнадзеі і муках пазнавала тут сутнасць марксізму-ленінізму з яго першапачатковых жарол... Увесь Менск разбілі бязьлітасна, наступаючы, немцы, а вось гэтай клятай будыніны не кранула ні адна бомба, на нашу бяду! Праседзеўшы там некалькі месяцаў, я абдумвала план, як з гэтага месца чалавечых мукаў зрабіць некалі музэй ці капліцу, гдзе людзі ўспаміналі б замучаных хоць на задушныя дні.

А тым часам я села на прыкованы столачак і пачала думаць пра мужа. Аб сыне мы стараліся не гаварыць і не думаць, гэта балела нестрымана, амаль фізычна і рвала нэрвы. Па дарозе з Баранавічаў у Менск перакідаў на гэты раз ужо бел. канвой мужавыя рэчы. Я толькі чула са сваё клеткі, як муж прасіўся ў яго: «Бярэця што хочаце, толькі пакіньце мне мае кніжкі, яны ж мэдыцынскія, прашу вам, пакіньце, пакіньце...» Мне стала сорамна за мужа, што так ён уніжаецца дзеля кніжак. Я ня ведаю, ці той канвой кніжкі пакінуў, але ведаю толькі, што забраў яму і сьвэтар, і нагавіцы найлепшыя, і наагул забраў, што хацеў...

Мяне палохала бандыцтва і самаволя. Яшчэ ў тую ноч увялі мяне ў камеру на нізе вязьніцы. Было там некалькі жанчын, і адна з іх, Жэня Шостак, ведала мяне з прэсы. Яна заапекавалася мною, памыла мяне, дала пад'есці. Я заўважыла, што пагана бачу. Акрамя Жэні была ў камеры нейкая Нэла з Менску, Надзя Еўтухова з Полацку і старэнькая бібліятэкарша з Менску, якая вельмі бедавала па пакінутых удома адзінокіх кошках... У камеры было чыста і да мяне былі ўсе ветлівыя.

Пачаліся дапросы. Сьледавацель мой, нехта Коган, яўрэй, быў хітры чакіст. Ён не крычаў на мяне, але ўсё гутарыў, агітаваў мяне, успамінаў партызанку, хваліў Савецкую ўладу. Я слухала, але суровая рэчаістасьць прамаўляла да мяне больш. Часамі ён расказваў мне аб гуманнасьці сав. сьледства, а побач разлягаліся нечуваныя маты-перамаматы, пабоі, крыкі і жаночы плач. Ён тады замаўкаў. Аднойчы прыйшоў на дапрос нейкі шустры чалавек у цывільным, які вельмі выпытваўся ў мяне пра Астроўскага. Мяне ён пачаў папракаць у незалежніцкіх тэндэнцыях, дык я яму сказала, што па сав. канстытуцыі кожная з сав. рэсп. мае права нават аддзяліцца з саюзу, дык што ў гэтым дзіўнага? Астроўскага я ведала мала, безумоўна, не ідэалізавала яго і сказала дзядзьку таму, што аб ім думала. Допыты-агітацыя працягваліся, погляды мае на палітычныя справы, дастаткова ўмацаваныя дэмакрацыяй захаду, аналізам гітлераўскай дыктатуры і іншых крывава-таталітарных рэжымаў, былі дастаткова пэўнымі, мой сьледавацель ня мог даць са мною рады. Раз прыйшлі на допыт нейкія ваенныя, відно, высокай рангі, хоць я на гэтым мала разумеюся. Яны сказалі мне, што я не любіла нацысцкіх кіраўнікоў, як я адношуся да савецкіх? Я адказала, што «Непрыемлімые». «Чаму»? «Негуманныя!» «Як негуманныя, мы простыні ў цюрмах даем!» «Так,— кажу,— і 10, і 15, і 25 гадоў пакараньня сваёй моладзі, забіраеце ёй усю магчымасьць людзкога жыцьця і шчасьця». Яны болей нічога не пыталіся. Выйшлі. Раз уварваўся да таго сьледавацель нейкі малады ваенны, які сказаў, што на захадзе пячатаюць мяне, памятаюць. Кажу: «Перапячатваюць, пэўна». Калі сьледавацель пісаў пратакол і не хацеў згаджацца з тым, што я гаварыла, я звычайна казала: «Пішэця, што хочаце, вашага права не лічу правам, а вас юрыстамі ў даслоўным значэньні гэтага слова».

Я нічога не махлявала, бо віна мая датычыла толькі «Камітэту самапомачы» ў Празе, гдзе я была скарбнікам. Ад гэтага я не адмаўлялася, ды і Коган паказаў мне раз архіў камітэту, які яшчэ ў 1942 г. «зьгінуў» з кватэры Ермачэнкі. Тут я зьдзівілася! Выслухаўшы пра тэлеграму Гітлеру, Коган сказаў мне, што Ермачэнка за прозьвішча Геніуш у той тэлеграме дастаў вялікія грошы! Ён хахатаў, гаварыў, што Ермачэнка ўжо ад 1921 г. служыў у нямецкай разведцы, але ў мяне паявілася ўражаньне, што ён служыў і ў савецкай... Тэлеграму ж тую падаў Гітлеру ён сам, падпісаўшы прозьвішчам мужа, бо яго нечакана, як толькі ўвайшоў, зрабілі старшынёй таго сходу, на якім і зачытаў Ермачэнка тую тэлеграму. Тэлеграмы ніхто з беларусоў не падпісаў, але на бланку, пад яе тэкстам былі акуратно, пад капіроўку выведзеныя подпісы ўсіх беларусаў, якія былі і не былі на тым сходзе! Мне стала да абрыдлівасьці гадка. Такая дзяржава і трымаецца на лжы, на ашуканстве, на падробленых дакументах, гадка! У час найстрашнейшай небясьпекі, апутаныя нацысцкай хітрасьцю, усе ж людзі адважыліся не падпісаць тое тэлеграмы, а тут «падпісваюць» за іх праз капіроўку, анулюючы ўсё захаванае ў цяжкі час чалавечае ў людзях! Не, горай, падлей за самае нізкае... Мне прыпомніўся Вольфсан, стары яўрэй, які разам з сям'ёю выратаваўся ў гэтым маленечкім камітэце і таксама быў на тым сходзе, як кожны, бо ўсе атрымалі прыказ, што ён сказаў бы на гэта, каб бачыў сваю такую падробленую подпіс пад той тэлеграмай...

Часам Коган гаварыў аб сабе, аб тым, што яго бацькі, бедныя яўрэі, далі асьвету усім сваім сынам, і яму ў тым ліку. Казаў, якія яны чэсныя і харошыя людзі. А то часам шкадаваў, што не было мяне вайною ў Беларусі, за што мяне трэба судзіць, бо я прынясла б многа карысьці ў змаганьні з фашызмам і г. д. Я слухала. Калі ж ён пачынаў крытыкаваць рэлігію, я проста радзіла яму кінуць гэтую безнадзейную справу, матывуючы тым, што было шмат разумнейшых за яго суб'ектаў, якія вось ужо амаль 2000 лет змагаюцца з гэтым і гінуць, як жамера ўбогая, а рэлігія, вера хрысьціянская мацнее, пашыраецца і ратуе народы! Тады ён фыркаў і казаў, што яго старыя бацькі толькі верацъ. Ну, бачыце, кажу, вы ж іх нядаўна хвалілі, што ўмелі добра выхаваць сыноў, дык, знача, рэлігія іх зрабіла такімі! Ён не меў ужо чаго казаць. Аднойчы казаў, што мой муж у Слоніме меў нейкія прыяцёлкі і г. д. Дурніца, кажу, вось каб ён год жыў адзін і нікога ня меў — гэта было б ненармальна, ён жа малады мужчына і, шчасьце, ніякі не манах!

Аднойчы завалок мяне сярод ночы той Коган да зам. міністра МГБ нейкага Новіка. Той гутарыў па-беларуску і ўсё аб тым, як некалі Адамовіч напісаў на мяне, на мой зборнік «Ад родных ніў» паганую крытыку. Крытыка не была паганай, але гэта было адзінае высказаньне маіх братоў, гдзе яны мяне не хвалілі, вось за гэта аберуч і учапіўся той Новік. Я і гэта выслухала, але мэтады велькай і дробнай подласьці рабіліся мне штораз больш агіднымі. Я пазнавала [...] сыстэму, і рабілася яна мне зусім зразумелай, нічога тут велікадушнага і чалавечага не было. З волі прыходзілі яшчэ арыштаваныя, яны расказвалі, як бядуе народ, як ставяцца для супрацоўнікаў МГБ новыя будынкі, па-сталінску ўпрыгожаныя звонку, па-сталінску, толькі для малых і вялікіх бэр'яў. У першую чаргу для іх, з усімі выгодамі, а людзі амаль у зямлянках, ніякай літасьці над імі — тут такое слова не ўжываецца, паняцьце такое — яно «буржуазнае». Культ Сталіна, культ начальства — нізкарабскія астаткі арды. «Ничего нет незаменимого» — [яго] дэвіз. Значна: можна замяніць паэта трактарыстам, родную маці ліхой надзоркай у дзіцячых калоніях, замучанага бацьку «отцом народов» і забойцаю № 1 — Сталіным. Жыцьцё ў штучнай каляіне, людзі дэзар'ентаваныя забываюцца, што яны людзі... Прагрэс — гэта мудрасьць. Нехта сказаў, што гэта ня робяць вучоныя, бо вучоныя эксперыментуюць на сабаках. [Сталін] — на людзях.

Я ўжо амаль год у вязьніцы: са мною аб нічым не маглі дагаварыцца на свой манер, мне мяняюць сьледавацеля яўрэя Когана на яўрэя з нейкім украінскім прозьвішчам і пераводзяць у адзіночку, у прыбудоўку, гдзе на акно часам прылятае пташачка. Мне лепш, у маіх думках усе мае сваякі, усе сябры мае. Пасьля кідаюць мяне ў другую адзіночку, гдзе ў вельмі цеснай камеры сядзіць ужо страшнае стварэньне. Калі я ўвайшла туды, стварэньне прынялося плакаць, што баіцца мяне, што не даверае мне і г. д. Гляджу з палітаваньнем на прышчаты твар і кажу, што не з маім імем і не ў мае годы падобнае чуць! Дзяўчына мне выразна не падабаецца. Ня ведаючы паганага ў жыцьці, я не магу дадумацца, што гэта т. зв. штатная наседка, якой, менавіта, надыктавалі сьледчыя такі прыём. Сядзіць яна, быццам за СБМ, сьледства яе зацягнулася, бо недзе на Енісей паслалі паперы для дапаўнільных сьведкаў. Яе выклікаюць да сьледчага, усьмяхаецца нейк невыразна і іранічна на мяне паглядае. Набліжаецца вечар, ноч, а пасьцель адна. Усяе камеры — толькі яе ложак жалезны і сьцежка ля сьцяны. Ля дзьвярэй калярыфер, у другім кутку тумбачка. Кажу: «А гдзе ж гэта я буду спаць?» «Сьледавацель казаў — пад ложкам»,— адказвае мне тая прышчатая Нэла Гардзей, і твар яе абрузглы крывіцца садызмам. Нанач надзор адчыняе дзьверы і ўсоўвае нары, якія трэба класьці адным канцом на тумбачку, другім на калярыфер. Йдуць дні, я нічога не гавару з гэтай дзяўчынай у панчохах дзіравых на лыдках, якая ўжо не раве (во, камедзія!), а прыглядаецца да мяне і правакуе. Распавядае мне, што вельмі любіць

зах. Беларусь, бо стуль паходзіў яе бацька, якога ў 37 г. расстралялі, быў ён быццам прафэсарам. Маці яе быццам уборшчыца ў нейкім урадзе, ёсьць брат і ёсьць Сенька — яе ухажор — і ёсьць Ліля Спорык — яе сяброўка. За Сеньку яна дрыжыць, каб не разлюбіў... Вучыцца яна ў інстытуце на факульт. замежных моваў на англійскім. Ізноў пачынае пра зах. Бел. Я слухаю, маўчу. Дні бягуць. Нам далі даміно, і мы гуляем у яго. Мне ўсё тут чужое і дзікае. Калі пачынаем гуляць, я кажу: «Вось я буду Чэрчыль, а ты [Сталін], хто выйграе?» Калі выйграваю я, дык цешуся, хахачу, гэта мая адзіная радасьць у гэтай нары на злосьць ім усім, усей гэтай безчалавечнай сыстэме! Мяне выклікае сьледавацель і кажа: «Памыляецца той, хто чакае вайны» і г. д. «Ага,— думаю,— дык вось ты хто, прышчатая бэстыя...» «Вы мусіце ведаць, што грузіны жывуць доўга,— кажа сьледавацель,— і тав. Сталін не скора умрот»,— кажа ён. Я маўчу і думаю, што Бог ведае лепей...

Нэлку ад мяне забіраюць, і я тры тыдні сяджу сама. Мне стала лепш, знача, адзіночка — адпачынак. Пасьля суда я даведалася ў камеры асуджаных, што тая Нэлка не адну ўжо ахвяру мела на сумленьні. Яна была асуджаная на 3 г. за «разглашение госуд. тайны» і выслужвалася цяпер падобным спосабам. А «тайна» гэта, калі ёй далі заданьне сьлядзіць і даносіць усё на Лілю Спорык, якая жыла ў іх, дык яна быццам сказала аб гэтым той Лілі, і яны абедзьве разам тыя даносы фабрыкавалі, у чым пасьля Ліля некаму прызналася. Усё гэта мне сказалі дзяўчаты.

Некалі ўдома ў сялянскай цэркві ў Воўпе я бачыла высокага дзецюка, здаецца, з сяла Лазоў. Быў гэта тупы, цёмны чалавек, які нават марыць ня мог аб нейкім прыбліжэньні да мяне ці да маяго таварыства. Гэты чалавек быў цяпер важнай асобай у менскай вязьніцы і зьдзекваўся нада мною як апошні садыст, з асаблівай насалодаю. Ён прыходзіў у маю камеру і адводзіў мяне асабіста ў баню, гдзе прысутнічаў пры нашым купаньні, паліў у пражарках нашыя рэчы, высьмейваўся з нас. Бедныя дзяўчаты амаль плакалі... Часам ён падходзіў да мае камеры і брудна лаяўся, цешыўся з маяго зьняволенага становішча. Гэта было жудасна... Калі мяне асудзілі і срок 25 лет ІТЛ павіс над нашай сям'ёй, мне падкасіліся ногі. Начальнік менскай вязьніцы сказаў мне збірацца ў другую цюрму для асуджаных. Я ўзяла чамадан і захісталася. Тады ён сказаў таму высокаму дзецюку памагчы мне. Ён вызьвярыўся, што ня будзе памагаць памешчыцы, якую нарэшце засудзілі да сьмерці і г. д. Тады той начальнік, нейкі расеец, занёс сам мой чамадан да таго варанка...

Ну а пакуль мяне перавялі ў другую камеру, гдзе было пару дзяўчат, прыкаваныя нары і выбітае акно. Новы сьледавацель пачаў часьцей мяне выклікаць, пісаць і запісваць. У камеры была нейкая Вольга Гелах з Оршы. Яе прывезьлі з лагероў, здаецца, спэцыяльна да расправы нада мною. Калі я высказалася супраць гэтага зьдзеку, яна пачынала біць мяне кулакамі па галаве. Як я заўважыла, дык рабіла гэта яна на загад сьледавацеля. Гэта была страшная, хоць не старая яшчэ асоба, на якой лагер пакінуў свае найгоршыя сьляды, г. зн. жудасны слоўнік і адсутнасьць абсалютна якой-колек маралі. Рана давалі нам хлеб і чай, у абед супу на сьмярдзючай рыбе, жудасную. Мяне вечна рвала, і я высахла ў нітку, здаецца, хрыбет толькі і тырчаў. У мяне было піжамо мужава, якое пару разоў нацягнуў і малы Юрка. Я скручвала тыя нагавіцы і клала сабе пад галаву. Мне было лягчэй, здавалася, што сын мой мяне ўспамінае... Нейкая бабка, асуджаная па бытавой параграфе, нам разносіла яжу. Яна маўчала, але відно было, што вельмі шкадуе мяне. Тая бабка на нейчы дазвол давала мне часам грэлку. Мяне, здаецца, травілі, мне вельмі балела печань. Усюды ў вязьніцах лекарамі былі яўрэі, але найгоршы хіба быў тады ў 48 г. у менскай круглай вязьніцы. Ніхто яго прозьвішча не ведаў, называлі яго проста Піня. Калі мяне завялі да яго, ён нават на мяне не глянуў, толькі сказаў, што некалі я добра аджыўлялася, а цяпер мой арганізм пераядае печань, і яна таму баліць, і ён мне ні ў чым не можа памагчы... Ён нікому ні ў чым не памог, і здаецца, ён гэта травіў мяне цераз яжу.

Ноччу ў камерах гарэў заўсёды сьвет, сьвяцілі ў вочы, каб мы не павесіліся, але людзі над краем магілы вельмі ня хочуць паміраць. Чым больш іх мучаць, тым мацней яны вераць у жыцьцё і прагнуць выжыць. Начамі часта разьляґаліся крыкі: «Пашто б'еш мяне?» Некага мучылі ўсё, некага білі, было нейк жудасна. Аднойчы, ужо ў 49 г., выклікалі мяне і павялі недзе далёка нагору. Канвайры, пераважна паганыя людзі, змушалі нас закладваць рукі назад, і так было мне цяжка ісьці. Пасьля, відно, нехта йшоў насустрач, ён так павярнуў мяне да сьцяны і так трэснуў маім лобам у сьцену, што мне пацямнела ў вачах. Пасьля валок мяне далей, далей... Нарэшце завёў у кабінет Цанавы,







жудаснага сталініста, які сядзеў у кабінэце, высланым жудасна зялёнымі дыванамі, выбітым дрэвам. Сядзеў гэты крывапійца за пісьменным сталом, а з левай, за другім сталом, сядзеў чэх і паглядаў на мяне пераможна. З мяне быў цень — скура, косьці, крыху мужнасьці ў сэрцы і рэшта злосьць. Цанава запытаў мае пэрсаналіі, як гэта яны робяць заўсёды, і загадаў сьцінуць каптурык з галавы, я не сьцінула. Тады пачаў крычаць: «Хто Абрамчык?» «Мой друг»,— кажу. «Хто Абрамчык, хто Абрамчык?» «Дэмакрат»,— адказваю. «А ты ведаеш, што гэта — дэмакрация?» — верашчыць. «Гасударстваны строй, аснованы на трох прынцыпах фран. рэвал.». Кажу, называю прынцыпы тыя па-французску і пытаюся, можа, перакласьці, іранічна. «Не, не трэба!» З пачатку, праўда, ён пытаўся ў мяне, на якой мове са мною гаварыць, ці па-расейску, ці выклікаць чэскага перакладчыка? А я яму і кажу: «Так, як вы яўляецеся міністрам бел. дзяржавы, дык гаварыце па-беларуску!» Ён ашалеў! Кругом, я ўбачыла, стаяла многа мужчынаў, нейкія ваенныя, і яны ледзь не сьмяяліся, калі ён казаў: «Вы достаточно хорошо говорите по-русски!» Праўда, я сказала тады, што расейскай моваю не валодаю дасканала. Ну і вось пачынаецца: аддай архіў, аддай архіў БНР! «Няма ў мяне яго,— адказваю,— і я ня ведаю, гдзе ён!» «Бить её, допрашивать день и ночь»,— верашчыць няшчасны гэнэцвалі, а я, цень чалавека, выпраставалася і кажу яму: «Без волі Божай волас мне з галавы не ўпадзе, і я не баюся вас!» «Вы её испортили, она себя держит, как дама»,— верашчыць кат, а я крычу, што Бог са мною і я не баюся. Я пасьля думала, скуль узялася сіла? Мяне вывелі, і там напалі на мяне сьледавацелі, нейкі Харашавін, якога тады назначылі начальнікам сьледственнага аддзела, крычаў: «Біць цябе сам буду, сьцягну з цябе трусы», а другі, нейкі скрыўлены, страшны, енчыў: «Павесіць яе на вуліцах Мінска!» «Яшчэ не вырасла тая бярозка, на якой вы мяне будзеце вешаць,— крычу,— усіх нас вам не перавешаць!» А яны ледзь не лінчуюць мяне і верашчаць: «Ты хочаш на наша места!» Ага, думаю, во што вам галоўнае, вам народ не патрэбны, не ў галаве, вам месца! Як схопіць мяне злосьць! Знача, я думала, што са мною канец ужо, што так аслабела я і арганізм біцьця не вытрымае. Вядуць мяне, а я хачу крыкнуць мужу, папрашчацца з ім, бо і ён сядзеў у той вязьніцы недзе. Але я гэтага не зрабіла, падумала, што бедны весткі пра маю сьмерць не стрывае. У камеры я страціла сілу духу і кінулася на калені, як заўсёды, перад нарамі і замерла, абсалютна замерла ў малітве, як быццам перастала жыць. З калень я ўстала другім чалавекам, па-новаму нейкім сільным і зусім спакойным. Для мяне існавала толькі цяпер мая Радзіма. Недзе былі мае сябры далёкія, мой сын, брат, які адзіны выжыў з вайны. Быў спакой у людзей, агні гарадоў, чалавечнасьць, а ў мяне быў адчайны бой з усімі сіламі адзіччэлай рэакцыі, не, не за сябе, але за Радзіму маю, за нашую праўду, за зьняволены-пераняволены наш народ, які трапятаўся, як рыба ў сеці, каб жыць. Я ня ведала, што йсьці на сьмерць за Радзіму ня страшна, а лёгка, весела, амаль сьвяточна. Усё было пры мне, г. зн. маё сэрца і праўда. Што ж, я нашчадак прагнучых волі, шмат з нас лягло памостам для будучых дзён нашай Радзімы, якое ж я маю права баяцца зьгінуць за справу, за якую палеглі яны? І Цанава, і Коган, і Харашавін, і паламаны садыст, і вырадак той з Лазоў ля Воўпы сталі ня страшнымі, а нікчэмна малымі перад веліччу нашага лёсу, які трэба было здабываць. Пад вечар зноў адкрылася кармушка, і гугнявы голас канваіра сказаў: «Хто на «г»?» Я спакойна пайшла насустрач лёсу. «Рукі назад!» Я йшла лёгка, нат не ўгіналіся ногі. На гэты раз мяне прывялі ў кабінэт маяго другога сьледавацеля, гдзе сустрэў мяне паламаны садыст і яшчэ некалькі катаў. Яны зноў абяцалі вешаць мяне на вуліцах Менску, але я спакойна на іх паглядала і чакала далейшага. «Ві паэт? — азваўся сьледавацель.— Ві вершаплёт! У нас у дзесяцілетках лепш сяньня пішуць, ну?» Прысутныя рагаталі з гэтага, а ён нейк падазрона крывіўся. Нарэшце кампанія пакінула кабінэт, варожа на мяне паглядзеўшы, сьледавацель маўчаў. Я спакойна чакала абяцанага біцьця. На стале ляжала прэс-папье, дык я ня хочучы падумала, што калі ён мяне зачэпіць толькі, дык я схаплю тое прэс-папье і трэсну яму па лобе і буду біцца з ім да апошняга! Аднак ад маіх ваяўнічых намераў «выратавалі» таго [...] ягоныя паводзіны. Ён нечакана спакойна на мяне загледзеўся і сказаў: «Ну, говорите, что ви хотите, я буду писать». Пасьля асьцярожна папытаўся ў мяне пра БНР, і я яму сказала неабходнае. Ён пісаў. Аб біцьці болей не было мовы.

Ува мне застаўся ранейшы дух адчайнай бадзёрасьці. Здавалася мне, што я трапіла ў нейкі заапарк між дзікага зьвяр'я, гдзе трэба выжыць і захаваць чалавечы воблік і лепш памерці, чымсьці гэты чалавечы воблік страціць... Мяне доўга не выклікалі. У камеры гулялі мы ў даміно. Я слухала апавяданьні тых, якія сядзелі са мною, ім па-

дабаўся захад. Хто быў там нават у цяжкія часы вайны, лічыў, што жыцьцё там куды цікавейшае. Мяне яны проста лічылі шчасьлівай, казалі: «Вы хоць пажылі, панасілі прыгожую вопратку, бачылі людзей, а мы што, бедавалі ды працавалі». Мяне браў жах з іхніх слоў, вартасьць жыцьця і яго цікавасьць, у маім паняцьці, не вымяралася гэтым. Гэта былі нездаровыя людзі, прагныя жыцьця і яго радасьцяў за ўсялякую цану і за цану сумленьня. Вышэйшых праўдаў і глыбейшых прычынаў існаваньня яны ня ведалі. Гэтае толькі ведалі ўкраінскія сялянкі з перасылкі ў Львове, і я моцна засумавала па іх... Мне было халадно, і я папрасіла са сваіх рэчаў нейкую драбніцу. На гэта трэба было напісаць заяву ў канцылярыю вязьніцы і даць яе праз кармушку. Мне далі папер, і я па-беларуску напісала, што мне трэба. Якое ж было маё зьдзіўленьне, калі мне вярнулі заяву з зацемкай, што «па-чэску» не разумеюць, каб напісаць па-расейску... Знача, беларускую мову палічылі ў Беларусі чэскай! Ого, такога я не спадзявалася нават ад бальшавікоў! О, мая Беларусь,— застагнала я шчыра...

Мінчанам часам прыносілі перадачы, але ніякага візыту, ніякага ліста нікому не дазвалялася атрымаць, хоць бы ён сядзеў гады! Ніякіх чалавечых пачуцьцяў садысты не разумелі. Адзінае, што да іх даходзіла, гэта хваліць Сталіна і камунізм. Аб Леніне тады не ўспаміналі. Людзі ратаваліся гэтым. Не раз даваў мне Коган зразумець, што для мяне гэта не толькі ратунак, але і кар'ера. Я ведала, што іначай загуба сыну, мужу і ўсім нашым родным, але стаць супраць людзкасьці, адрачыся ад Хрыста і зьмяшацца з гэтым жудасным заапаркам я не магла. Мне страшны быў іх выгляд, а яшчэ страшнейшым здавалася тое духовае апусташэньне іх і адсутнасьць у іх усяго лепшага ў чалавеку. Я не магла забыцца, з якой радасьцю канстатаваў Коган, што ёсьць дастаткова матэр'ялу, каб асудзіць мяне. Знача, не цікавіла іх мая віна ці не віна, ім быў патрэбны матэр'ял для зьняволеньня чалавека. О, гуманізм 19-га стагодзьдзя, як далёка мы адступілі назад.

Нарэшце мяне выклікалі. За сталом, поўным папераў, сядзеў нейкі трэці сьледавацель. Сядзеў і маўчаў. Прыбег Коган, сеў, гартаў нейкія журналы і бурчэў скрозь зубы, што ёсьць два ўрады і два прэзыдэнты беларускія за мяжой. Я маўчала, бо да мяне ніхто не зьвяртаўся, і ён выйшаў. Чужы сьледавацель прадаўжаў сядзець, а я супраць яго, так мы прасядзелі дзень, безумоўна, моўчкі. Казалі мне потым, што гэта яны робяць пры канцы сьледства з усімі, а я ўжо чаго не перадумала тады.

І вось мой суд. Усе незвычайныя падзеі ў маяго тата былі ў лютым, ён не любіў гэтага месяца. Я заўважыла, што я і гэта па ім адзедзічыла. Я ведала, што судзіць мяне будуць няйначай, як у лютым. 7-га лютага я выменяла за нейкі ружовы дэталь свае бялізны крыху папяросаў мужу, кусочак хлеба і кавалачак сала тоненькі-тоненькі. Мяне пасадзілі ў знамянітае дасягненьне савецкай культуры, чорны варанок, прывезьлі пад нейкі дом і ўвялі ўсярэдзіну. Была там загарадка для нас, лаўкі для некага, стол для судзьдзяў, вышэй крыху і на абодраных сьценах вусаты «отец народов». Было некалькі канваіраў. Адначасова амаль увялі і маяго мужа. Канваір адразу на яго абрушыўся, але я таксама груба, як ён, адразу нахабніка прысекла, і ён відавочна спалохаўся мяне, бо замоўк. Увайшоў суд, нам загадалі ўстаць і сесьці, і пачаліся абвінавачваньні. Я ўжо дакладна не памятаю, але віна мая была — «Камітэт Самапомачы» ў Празе, а мужава тое, што ён быў у Слоніме (па камандзіроўцы). Нешта гаварылі, а муж худы, страшны, без зуба наперадзе на нікога не ўслухаўся, толькі паглядаў на мяне праз сьлёзы і шаптаў: «Мама, мамачка, вось я табе прынёс часнычок, ён так падобны на лілью, якія ты любіш, думай, што гэта кветачка, лілья. 3-га ж была гадавіна нашага вясельля, я выпрасіў табе часнычок у баптыста...» Я яму дала свае падаркі, і мы амаль не зьвярталі ўвагі, што гавораць да нас апрычнікі. Гэта быў Вярхоўны суд БССР пры ваенным пракурору. Сядзела там і нейкая баба, а прадсядацелем яго быў нейкі Шаўчэнка. Гэтае аднафамільства гіцля і генія мяне бянтэжыла. Нарэшце далі мужу апошняе слова, і ён заплёўся ў словах, і пацяклі яму сьлёзы. Я штурхнула яго ў бок, але ён плакаў... Маё апошняе слова было злосным, я ўспомніла сьмерць бацькоў і ўсю іх суровасьць і несправядлівасьць, амаль лаялася з імі, бо і гаварыць не было там з кім. Суд выйшаў. Але не пасьпеў выйсьці, як ужо вярнуўся назад. Знача, вырак быў ужо гатовы і працэс суда быў суцэльнай камэдыяй! Гэта ж амаль як у Гітлера, а то і мандрэй, падумала я сабе. А нам чыталі вырак па 25 гадоў ІТЛ кожнаму, без канфіскацыі маёмасьці з той прычыны, што ў нас яе няма. Мне падкасіліся ногі, але злосьць і нянавісьць да садыстаў вярнулі мне сілы, і я выслухала ўсё да канца. Бедныя людзі, бязсільныя стварэньні, падумала я, убогая дзяржава мучаных і мучыцеляў, і другіх між імі няма! А той Шаўчэнка між іншым







пачаў гаварыць: «Лариса, мы за воровские организации даем по 10 лет, мы вас пересудим. Мы не имели бы места для вас, если бы вы были с нами, но вы с этими бандитами. Вы пишите, мы вас пересудим». «Не, кацюга, я не буду з такімі, як ты!!!»

Суд адышоў, пачынала зьмяркацца, нехта паглядаў пад вокнамі. Нас з мужам пакінулі сядзець, прыціхлі канваіры. Мы размаўлялі, успаміналі сына, але што скажаш у хвіліну страшэннай, безнадзейнай разлукі, калі, адарваўшы сына, разьдзяляюць цябе людаеды з сям'ёй, са сьветам, з культурай, з усім... Гэтак сама стаяць над магіламі, ад якіх адыходзяць у пустэчу... Нарэшце нас вывелі, нават канваіры зацемілі, што судзілі нас ні за што, але што тут «не Чэхаславакія»... Нас вывелі на засьнежаную вуліцу, гарэлі агні, мы йшлі разам, канваіры за намі. Дарога была як на Галгофу. Нечаму я папрасіла мужа, каб забыў аба мне, што буду ўдзячная кожнай жанчыне, якая аблегчыць яго цярпеньні і адзіноту. Сьмешна было думаць пра сябе перад адкрытаю магілай, і хацелася толькі, каб другому лягчэй, каб лепей. Нябачна побач з намі крочыў сын. Імя яго мы не называлі, бо, здаецца, памерлі б ад гэтага... Нас прывялі пад нейкую вязьніцу, гдзе муж жыў тут ужо 3 тыдні. На мяне чакаў воран. Мы абняліся, і я захісталася на нагах, як у буру...

Завязьлі мяне зноў у тую амэрыканку. Начальнік вязьніцы, адпраўляючы мяне на суд, сказаў мне, што дадуць мне 3 гады. Цяпер ён падышоў да мяне і сказаў, што хацеў, каб я была сільнай, таму махляваў... Я засталася сама, і думка пра зьдзек над намі, пра сына, пра загубленае жацьцё адымала розум, у галаве стукалі словы: гдзе гора, гдзе боль свой дзенеш, паэтка Ларыса Гэніюш?.. Прыйшоў начальнік, мне прынесьлі мае рэчы, зямляк з Лазоў груба мяне вылаяў, і начальнік сам панёс мае рэчы да варанка. Мяне завезьлі ў вязьніцу для асуджаных, у нейкі былы палац з вежамі, і ўпусьцілі ў камеру жанчын. Як я пасьля разгледзела, зямляк з Лазоў пацягаў шмат маіх рэчаў, а мужавыя скураныя сьветлыя рукавіцы, якія нечаму трапілі да мяне, дык знасіў дарэшты. Народжаная ў полі, выгадаваная ў полі, часта чужая паміж людзьмі, я магла б зусім шчасьліва жыць, калі б толькі слухала голасу свайго сэрца. Яно мне падсказвала заўсёды неамыльную тактыку, а я часта пачынала думаць катэгор'ямі другіх людзей, і гэта мяне вяло не туды, гдзе трэба... У вязьніцы я была сама, і ўжо не інстынкт, а выразныя сны вялі мяне, трымалі, папераджалі. Гэта ня сьмешна, гэта сапраўды так! Перад арыштам сьнілася мне цэрква, і я ведала, што гэта цюрма. Нішто не магло мяне выратаваць, Бог адабраў розум маяму мужу, і гэта быў мой лёс. У Пісэку перад кожнай непрыемнасьцю папераджаў мяне заўсёды нехта з маіх памершых, асабліва перад допытамі. Мне сьнілася мая доля — даўгая рака, вада, дождж, і мы з Юрам наскрозь прамоклыя брыдзем і брыдзем па ёй... Раз мне прысьнілася землетрасеньне, і нейкая жанчына сказала мне, што разлучаць нашую сям'ю... Так жа і сталася. То йзноў бачу я ў сьне мятлу, і чужы збор законаў, і цераз вакно крыху відаць сьвет: праясьніцца вашая доля, сказалі мне, але судзіць вас будуць па чужых законах, выдадуць з Чэх... Мой чэскі сьледавацель меў тубэркулёз, быў худы, страшны, хоць малады. Аднойчы прысьнілася мне, як ён прыйшоў у нашую камеру і кажа: «Доля ў нас аднолькавая. Я маю тубэркулёз, а вы раны Хрыстовыя». Гэта было ясна. А ў Менску перад кожным цяжэйшым допытам зьбіраліся ля мяне мае бацькі, браты загінуўшыя, то крычалі на мяне: навошта сюды трапіла, то радзілі, то шкадавалі, то проста абступалі мяне навокал, заводзілі ў Жлобаўцы ў хату сваю, і я заўсёды чулася не адна. Перад судом прысьніўся мне, як і многім, старэнькі дзядок, ён прасіў, каб не плакала, што сядзець буду 15—18 месяцаў, і насыпаў мне жменю кедравых гарэшкаў, толькі не хацеў, каб я іх лічыла... Пэўна, было іх столькі, колькі гадоў маяго сроку. Я не ўсе сны сяньня памятаю, але яны былі амаль прарочыя.

У камеры жанчын мяне сустрэлі вельмі міла. Многія аба мне чулі. Накармілі мяне нечым з перадач, разважылі маё гора, бо і самыя былі ў такім жа становішчы, і калі мы нагаварыліся, я зусім спакойна заснула, нягледзячы на паўстагодзьдзя [...] жудаснага падарунку. Мяне хутка забралі ад іх, бо я пайшла да лекара і ён убачыў на маіх руках яшчэ аўстрыйскую, пэўна, каросту. Перакінулі мяне ў брудную камеру, гдзе з абстрыжанай блатной дзяўчынай мазалі мяне нейкай серай, пасьля павязьлі на этап. Я ўбачыла мужа! Яначка! Быдлячы закратаваны цягнік вёз нас у бок Польшчы, у Брэст. Вялікая вязьніца з чырвонай цэглы, якая ўмяшчала ў сабе тысячы зьняволеных, увабрала і нас. Апошні раз я ўгледзела мужа, калі нас раздзялялі, болей ужо я яго не сустрэла. Яго дарагая стрыжаная галава і вышчарблены зуб так і застылі ў памяці на даўгія гады. Паверхі і сходы вязьніцы ў Брэсьце... На адным з іх камера асуджаных

жанчын, пераважна полькі, але ёсьць і нашыя з групы Дэмаха і Раманчука. Гэта сувязныя, далі ім па 90, па 100 гадоў пакараньня. Бярэцца найвышэйшая кара з усіх разам узятых іншых, дык ім па 25 гадоў, як і нам. Мяне клікалі есьці, памагалі, хто чым мог. Я расказвала фільмы і розныя апавяданьні, мяне любілі. Побач былі мужчыны, яны перастукваліся з намі і аднойчы паведамілі нас, што маяго мужа паклалі ў больніцу. Я так і прыпала да сьцяны, і мяне на гэтым злапаў канваір. Начальства назначыло мне 5 сутак карцэра. Жудасная адзіночка ў сутарэньні цюрмы. Пуста, толькі стоўб каменны ўкапаны ў зямлю і холад. 20 дэкаў хлеба ў суткі і адзін раз на 5 сутак талерка жудаснай зупы. Побач крычаць ненармальныя людзі. Крычаць неймавернымі галасамі, іх б'юць. Магу зразумець, што яны выліваюць сабе парашу на галаву, грызуць сьцены, робіцца страшна, не магу зразумець, пашто яшчэ мучаць яны ненармальных ужо і так пакрыўджаных Богам? Знача, розуму ў іх ніяк няма — зьверы! А час ужо бліжыцца да вясны. На шырокі бліскучы падаконьнік асеў пыл, недзе зазванілі ў царкве на вячэрню, і праз закратаванае вакно прабілася вельмі яснае неба. Сонца яшчэ не заходзіла. Сэрца маё перапоўніла прага малітвы, і я пальцам па чорным, запыленым падаконьніку пачала малявць голаў ХРЫСТА ў цярновым вянку. Галава выйшла цудоўна, і капелькі крыві быццам зьбягалі па сьвятым ЯГО твары. Абраз выйшаў вельмі харошы, быццам нехта натхнённа вадзіў маею рукой, і мне пацяклі сьлёзы. У гэты мамэнт з грукам адчыніліся дзьверы, і раз'юшаны савецкі афіцэр схапіў мяне за шыю і пачаў раўсьці, паказваючы на Хрыста. «Кто это, кто это?» «ХРЫСТОС»,— кажу. Тут ён выразіўся на ХРЫСТА такім жудасным, непаўтарымым словам, якое толькі можа прыдумаць абсалютнае бязсільле ўбогага твору ў змаганьні з ніколі недасяжнай яму веліччу духу. Паўтарыць гэтага не магу. «Еще 5 суток карцера дать ей за эти рисунки!» — енчыў няшчасны, сьціраючы рукавом з шырокага бліскучага падаконніка голаў ХРЫСТА. А за вакном званілі солодка званы і бліжыўся дзень ХРЫСТОВАГА ЎВАСКРАСЕНЬНЯ. Той страшны чакіст ня раз пасьля заглядаў да нас у камеру, падыходзіў, калі адвозілі мяне на этап, і з лютай ненавісьцю сычэў на мяне: «касмапалітка»... Яны прывыклі да ламаньня людзей на першы загад, а я пастанавіла да сьмерці бараніць свой духовы хрыбет, бо з паломаным хрыбтом няма чалавека.

Мяне вярнулі ў камеру, і я паглядзела на чалавека, якога вялі разам і які, бедны, адседзеў за мяне, бо гэта ён нам стукаў. Гэта быў сярэдняга росту мажны чалавек лет можа 27. Мы з ім пасьля сустрэліся на этапе. Называўся ён Лёша, прозьвішча не памятаю, але чалавекам ён аказаўся харошым, таксама асуджаным на 25 лет. У камеры я доўга не пабыла, за тыдзень выклікалі мяне на этап. Зьвялі нас, тых каго адпраўлялі, у вялікую залю. Маяго мужа не было. Сэрца замерла мне, бо думала, што ён усё ляжыць хворы. Не было ў каго папытацца, бо ніхто мне не адказаў бы.

На этап йшло да сотні чалавек, між якіх толькі 3 жанчыны. Мяне зацікавілі ксяндзы. Гэта быў кс. Лазар і кс. Юзэфскі. Кс. Юзэфскі быў худы, высокі, крыху неспакойны; наадварот, кс. Лазар з Брэста быў гаваркі, добрай думкі, быстры і, здавалася, вельмі харошы чалавек. Мы адчулі да сябе ўзаемнае даверра. Калі нам давалі хлеб і пару ложачкаў цукру на этап, дык чалавек, які мне гэты цукер мераў нейкім малюсенькім чарпачком, памалюсеньку даставаў з мяшочка той чарпачок і гаварыў мне: «Ваш муж адпраўлены ў напрамку на поўнач ужо тыдзень таму. Усяго вам добрага». Знача, муж быў здаровы больш-менш, калі яго адправілі. Стала сумна, муж быў худы, адныя косьці — сапраўдная ахвяра бальшавіцкага зьдзеку. Я ведала, што і ён няўступны і чэсны чалавек, і баялася, як ён дасьць рады выжыць, бо характар у яго быў капрызны, а даверлівасьць дзіцяці да людзей. Вычытваючы мае паперы, кляты той афіцэр яшчэ не забыўся мяне вылаяць. Нарэшце нас павялі. Пакідалі мы тую польскую новабудоўлю, якую яны выстраілі спэцыяльна, паводле ўсіх «мадэрных правілаў», каб мучыць там усіх незадаволеных іх нялюдзкімі адносінамі да нас, паднявольных народаў. Што ж, сядзелі там і яны і мы, бо на іх месца паявіліся іншыя, якім таксама не хацелася бачыць свабоднымі Беларусі і Украіны. Вялі нас праз горад з мяшкамі, вузламі, а мяне яшчэ з чамаданамі, якія, праўда, нёс цяпер Лёша. Некалі ў Празе я адварочвала голаў, калі бачыла праз вокны трамвая, як гоняць гэстапакі яўрэяў з такімі мяшкамі. Тады я плакала, цяпер — не! Самому, мусяць, лягчэй пераносіць мукі, чымсьці бачыць, як мучацца людзі... Насустрач нам йшлі людзі, нейкі «победитель Европы» ў доўгай, як спадніца на сяле, афіцэрскай шынелі нёс пад пахаю цэглападобную буханку хлеба і, унурыўшы голаў, не паглядаў на нас. Нейкі малады канваір паглядаў на нас з жалем, другія строга «спаўнялі свой абавязак» і, трымаючы адныя сабак, другія аўтаматы, гэтак, напэўна, гналі б



сваяго роднага бацьку... Мы пакідалі Беларусь, тую, па-іхняму «свабодную краіну», з якой народ адвозілі куды хацелі на нечалавечыя мукі і якой усім [цяжкім] ботам моцна, па-варварску, па-сталінску наступілі на яе кволае нацыянальнае горла і амаль не задушылі насьмерць.

Нас разьмясцілі ў знаёмыя ўжо мне «апартамэнты» вагонзака, дапаўняючы намі ўжо і так поўныя клеткі. Мы з Нінай Камбэрскай, здаецца, з Менску, і нейкай другой цяжарнай жанчынай з-за Брэста трапілі ў клетку побач з ксяндзамі. Мы маглі гаварыць. Кс. Лазар знаў многа моваў, праўда, ён не лічыў патрэбным на Беларусі ведаць беларускую мову, ну, але гэта няхай яму прабачыць Бог, які даў пакуль што магчымасьць цярпець беларусам за сваю свабодную будучыню, у якую мы цэлым сэрцам верым. Была каталіцкая Вялікая Пятніца, усе былі крыху пад гэтым уражаньнем. Ксяндза асудзілі на 10 гадоў, а за што, ён нават добра ня ведаў. Затое ён ведаў дзень сваяго арышту яшчэ перад арыштам і ведаў дзень, калі яго пусьцяць. Гэта ён верыў з прарочага сну, з якога многа ўжо спраўдзілася. Ля нас ехаў яшчэ другі Лёша, як ён расказваў нам, яго схапілі, калі прызямляўся на Беларусі, скінуты з дэсантам, так і быў яшчэ ў камбінэзоне. Ехаў там яшчэ і харошы бел. студэнт Борыс па прозьвішчу, і так стварылася наша маленькая група. Мы стараліся дапамагчы сабе ўзаемна хоць словам, беглі да сябе заўсёды, калі нас выводзілі на этап з чарговай перасылкі.

Ксяндза Юзэфскага і цяжарную жанчыну высадзілі ля Гомеля ў Хальчы. Гэта быў лагер, як я пасьля даведалася, спэцыяльна для мамак, г. зн. цяжарных жанчын. Характэрны ён быў тым, што там умірала 90 % (ДЗЕВЯДЗЕСЯТ!) працэнтаў народжаных дзетак зьняволеных жанчын. Там, як і ў іншых месцах, гдзе былі такія дзеткі, заўсёды нейкая сястра, супрацоўніца КГБ, давала ім часам па парашочку. Гэты парашок выклікаў усе сымптомы запаленьня лёгкіх, жаўцізну тварыку, і дзіця памірала. Гэта я чула часта. Была там адна беларуска, жонка яўрэя. Яна мне казала, што яе сынок выжыў толькі дзякуючы таму, што быў яўрэем, яго глядзелі, і муж яе хутка дзіця забраў. У другіх лагерах дзеткі так паміралі, калі іх меліся з лагеру забіраць сваякі. Маюць, нп., прыехаць па дзіця, і вось паўтараюцца ўсе сымптомы запаленьня лёгкіх, і дзіця да прыезду па яго канае. Адна харошая расейская жанчына Шура (прозьвішча не памятаю), якой муж хірург пазбыўся розуму, калі яе цяжарную забралі, казала мне, што і з яе дачушкаю зрабілі таксама. Калі радзіла яна, дык былі разрывы вялікія, якіх такая менавіта медсястра загадала не зашываць, бо быць жанчынай ці быць маці болей зьняволенай ня прыйдзецца... Шура высокая, прыгожая, маладая, заўсёды сумная, усё хварэла далей па-жаночаму. Так жа рабілі на Поўначы, і мужчыны прасілі нас лічыць, колькі бедных дзетак памерла. Яны гэта ведалі.

Нас вязьлі далей. Першай вязьніцай, гдзе мы трапілі па дарозе, была вязьніца ў Арле. Калі забіралі ў капцёрку мае рэчы, дык паведамілі мяне бытавікі зьняволеныя, якія там працавалі, што сюдой праехаў ужо нехта Геніюш, доктар. Я падзякавала за вестку, знача, Яначку вязуць на Поўнач... У Арле ўвялі нас з Нінаю ў дзеравяную вязьніцу, у камеру, поўную жанчын. Стаяла там неймаверна велькая дзеравяная параша, па берагі поўная, адпаведна араматная, і жанчыны былі большасьцю зусім абарваныя, хоць пару было і апранутых лепей. Сустрэлі яны нас вельмі сардэчна, да сьлёз цёпла, як нігдзе болей. Падзяліліся хлебам і нейкімі ляпёшкамі з бульбы і яшчэ нечага, якія цяжка было раскусіць, але, раскусіўшы, ужо нейк было можна жаваць. Многія з іх сядзелі за самагонку, якую гналі з буракоў, каб пракарміць дзяцей, бо мужыкі не вярнуліся з вайны. Яны былі радыя хоць тым, што маюць тут хлеб, і плакалі толькі па дзецях. Жанчыны гэтыя з усім змірыліся, лічылі сваю зямлю няшчаснай, як пад татарскім ігам, і час акупацыі, жудасны час акупацыі лічылі лепшым часам сваяго нялюдзка суровага жыцьця, бо маглі тады сеяць і жаць на сваім. Яны нічога не баяліся. Сярод іх былі і дзьве настаўніцы з Арла і жонка прадсядацеля калгаса, якая, калі я ад'язджала, дала мне 10 рб. на дарогу, можа, спатрэбяцца. Сядзелі яны таму, як казалі, што нехта сядзець мусяў, доля выпала на іх. Апрача іх былі там немкі з Паволжыя і татаркі. Гэтыя дзяўчаты ўцяклі з месца, гдзе пасялілі іх народы. Далі ім за гэта па 20 гадоў катаргі, і ўсіх іх, як я пасьля даведалася, павезьлі на Варкуту.

Пабыўшы ў іх пару тыдняў, мы папрашчаліся з гэтымі амаль сьвятымі жанчынамі. Нас выклікалі далей. Наша малая групка зноў сустрэлася ўся на этапе, і мы маглі крыху пагаварыць. Ксёндз тут адсьвяткаваў свае сьвяты спакойна. Гэта ў Вялікую Пятніцу ў вагонзаку, калі мы з ім гаварылі праз сьценку, падышоў да яго афіцэр і папытаўся, за што ён, абманшчык, які адурманьваў народ, дастаў срок? «Па графіку,— кажа ксёндз,—

падышоў графік, і мяне ўзялі». «Дык вось ідзі цяпер памый падлогу ў карыдоры, навучышся працаваць». «Я ўмею ўсё рабіць,— сказаў ксёндз,— а вось вы, акрамя насіць пагоны і мучыць людзей, больш ні на што не здольныя...» Афіцэр закусіў губы, і калі бедны ксёндз Лазар вымыў той карыдор уздоўж усіх закратаваных клетак з намі, зьвярочкамі, яго далі ў карцэр, бо і там быў ён таксама. Дык ксёндз, нам сустрэўшыся, казаў, што не было там так страшна, ён спаў там, а ў клетачцы ля нас сядзела іх болей дваццаці, адзін на адным, і яму было горай. Нас зноў пасадзілі недалёка, і мы між сабой час ад часу перакідаліся словам. У ўборную пускалі нас рэдка, а то і не пускалі даўжэйшы час, што ж было асабліва пацешна для канваіраў, і яны адпаведна камэнтавалі сьпех няшчасных і далей з ксяндза.

Нас прывязьлі ў Горкі ў т. зв. «дачу Салаўёва» — здаецца, так называўся галоўны кагэбіст там. Мы доўга чакалі, пакуль нас там прымуць, разьмесьцяць, бо зьняволеных назьбіралася многа, асабліва блатных. Нейкая пара ўжо прымасьцілася ля нас і распачала на вачах у ўсіх самыя апошнія інтымнасьці. Лёша папрасіў нас не абарочвацца ў той бок. Барыс дастаў са свайго ўбогага чамаданчыка дзьве шпулечкі нітак і прасіў, каб я іх узяла, што спатрэбяцца. Дзяліліся мы ўсім, чым маглі. Нарэшце папрашчаліся, нас павялі асобна. Мы жадалі сабе толькі, каб яшчэ нам сустрэцца. Ах, гэты Горкі, кляты Горкі... Там і шманалі нас не па-людзку. Гэта быў амаль гінекалагічны агляд няшчасных ахвяраў праз брудных і грубых надзорак. У камерах былі розныя людзі. Адна сярэдніх гадоў золатавалосая немка з Кіева Эльза вельмі міла мяне сустрэла. У падзяку я ёй сказала, што знаю Міціных з Кіева. Міціныя былі адзіныя людзі, якіх я ведала з Кіева, і яны аказаліся самымі блізкімі сябрамі «Гольдэнэ Эльзы», як яна сябе назвала. З Міцінымі я пазнаёмілася ў Празе. Яны ўцякалі ад сваіх суродзічаў, якія пасьпелі ім уесьціся ў косьці. Сама Ксеня Міціна, здаецца, была сваячкай ням. камп. Шумана. Яе дачка Галіна была вельмі добрая піяністка. Мне давялося быць сьведкам на яе шлюбе ў Празе, і разам з мужам і сынам гасьцямі на іх скромным, ваенным вясельлі. Эльзе я мела што расказваць, і яна была шчасьлівая пачуць пра сваіх сяброў. У камеры была яшчэ ўкраінская студэнтка Люся Васількоўская. Ціхая гэтая дзяўчына з Усходняй Украіны, як я даведалася, была стукачкай у лагеры. Ня ведаю, ці яна была ёю ўжо тады ў Горкім, што ж — зусім магчыма. Нас выводзілі на прагулку па нейкім падобным да замковага дзедзінцы. Люся трымалася заўсёды мяне. Яна мне не прыпала да сэрца. У паветры чулася вясна, і неба было вельмі сьветлае. Мне пасьля болей года вязьніцы асабліва хацелася быць вонку.

Нарэшце нас выклікалі зноў на этап — мяне і Люсю. Этап зьбіраўся вялікі. Я вачыма шукала сваіх этапных сяброў. Нікога не відно было. Як я пасьля даведалася, абодвух Лёшаў і Барыса павезьлі ў шахты, на Варкуту. Нарэшце сярод натоўпу блатных я ўбачыла кс. Лазара. Ён быў на сябе не падобны. Капялюш яго быў у дзірах, пальто абарванае, а на нагах ужо не чаравікі, а нейкія жудасныя хадакі з гумы. З плячоў звісала пустая торба. Ксёндз, убачыўшы мяне, бег, нягледзячы на крык надзораў, яго вочы блішчэлі радасьцю, што ён хоць некага з нас убачыў. Голас ксяндза дрыжэў стрыманым плачам. Ён выйшаў з пекла і ўбачыў зноў людзей. Бедны, не мог паўтарыць той жудасьці, якую перажыў у камеры блатных, якія абабралі яго, і разьдзелі, і зьдзекваліся над ім. «Я ксёндз,— казаў ён,— я ведаю грахі людзей, іх падзеньне на дно, але аб такім, што я тут убачыў, я нікому не магу нат сказаць, настолькі ўсё жудасна. Я аб падобным не чытаў і не чуў. Цешыць толькі тое, што такая моладзь у найстрашнейшага ворага людзкасьці, якога яна і зьнішчыць». Жаль было глядзець на беднага ксяндза, якому так дасталася. Казаў, што хацеў клікаць надзірацеля да кармушкі, схапіць яго за чуб і малаціць галавою аб дзверы, каб яму да 10 гадоў сроку дабавілі яшчэ 15 гадоў, як усім парадачным людзям. Бо ў падобным таварыстве савецкай моладзі з дзесяцігадовымі срокамі ён ня выжыве. Ён шчыра зайздросьціў нам 25 гадовага сроку...

Нас павезьлі далей. Рэчы нашыя былі ў канваіраў недзе, і вось яны агледзелі мае чамаданы, якія запрапанавалі мне аддаць, бо забяруць усё роўна. Мне далі рэчы, каб пераламжыць у мяшок, які пашыла мне дарагая, прадбачлівая Матанька Марта. Вечарам, нешта расказваючы, выкрала блатная яшчэ сукеначку з таго мяшка, але мне ўжо было ўсё роўна. Начальнік канвою сказаў мне, што ўжо вёз сюдэмі маяго мужа, што ён трымаў на каленях нейкую немку... Гэта вечны трук усіх кагэбістаў, якія жуюць і перажоўваюць гэтую тэму ў розных варыянтах, брудзячы ўсякае пачуцьцё людзкое брудным дотыкам сваіх крывавых рук. Пасьля той начальнік стаў ля нашай клеткі і пачаў пяяць панылыя расейскія песьні. Выў гэтак не пераставаючы да Поўначы, відно, і самому было







нялёгка. Адно бачыць тысячы зьняволеных людзей, а тут цягнуць іх яшчэ на страшную Поўнач... Некаторых зьняволеных высаджвалі па дарозе, іншых набіралі. Цяпер ужо суцэльны цягнік быў з вагонзакаў. Гэта «галіна прамысловасьці» гандлю людзьмі была найлепей арганізаванай у Сав. Саюзе і пастаўленая на першае месца. Так недзе амэрыканцы арганізоўвалі дапамогу людзям пасьля вайны ці сваю магутную прамысловасьць... Што ж, каго Бог хоча пакараць — розум адыме...

Нарэшце нас прывезьлі ў раськінуты нейкі дзеравяны горад і выкінулі на вуліцу, з якой павялі строем па 5 чалавек у такую ж дзеравяную вязьніцу. Здала я і тут свае рэчы ў капцёрку, але пра мужа тут ня чулі, знача, затрымалі яго недзе на перасылцы, але калі трапіў на гэты шлях, знача, дагоніць мяне альбо перагоніць...

Камера, у якую нас прывялі, была невялікай, а ў ёй бітком набіта людзей. На нарах, пад нарамі, усюды на падлозе — пальцам не ткнуць. На этап трэба добра апранацца, у найлепшае, а то блатныя ўсё выкрадуць. На гэты раз і я адзела свой шэры ангельскі касьцюм, пальто і каптурык. Стаяла я ў куце ды думала: гдзе можа быць мой муж? Тут падышла да мяне маладая полька і паклікала да нараў, на якіх разьмесьцілася большае таварыства. Выдзялялася жанчына крыху ўжо сівая, з прыгожым арліным профілем, у лагерных лахах і жудасных «чунях» на нагах, але, нягледзячы на гэта, самая шляхотная з выгляду з усей гэтай пакутнай чалядкі. Яна запыталася ў мяне, хто я, якой нацыянальнасьці? Я адказала — ці ж не ўсё роўна? Мяне ўпарта дапытваліся далей, тады кажу: «Маю народнасьць вы, палякі, не прызнаеце, не любіце — я беларуска!» «А як вас зваць, хто вы?» «Ну, гэта вам нічога не скажа...» «А можа»,— сказала п. Гражына Ліпінская, тая самая шляхотная жанчына, з якой твару сьвяцілася сіла і боль. Я назвала сваё імя, і п. Гражына аж ускрыкнула: «Дык вы ж нашая паэтка!» І пачалася ўжо гутарка аб усім. П. Гражыну вязьлі з Поўначы ў Караганду, нас на Поўнач. Яна мела дасканалую памяць і расказала мне, хто ўжо ў мінулым вяку ехаў сюдэмі, гнаны маскалямі пасьля паўстаньняў. Гэта ж быў Кіраў, старая страшная Вятка, праз якую пехатою гналі некалі няшчасных нашых продкаў тыя ж, толькі яшчэ болей адзічэлыя, нялюдзкія [...]... Я даведалася ад п. Гражыны, што з намі тут знаходзіцца і генерал Вайцяхоўскі, якога таксама вязуць у Караганду...

Вечарам п. Гражыну і палову яшчэ перапоўненай камеры выклікалі на этап. Мы абняліся. Перад тым у пальто зашыла п. Гражына мне свой адрас. Яна была разумным, практычным вязьнем. Яе адрас я перахавала да асвабаджэньня, ён выпаў у мяне ўдома з парванага ўжо пальта. Я засталася на нарах са знаёмай п. Гражыны, маладой жанчынай, здаецца з Беластоку, якая расказала мне, чаго не пасьпела сказаць п. Гражына, аб тым, што 300 полек пасадзілі за АК і што ў час акупацыі п. Гражына была ў Менску галоўным прадстаўніком Лонданскага ўраду Польшчы... Знача, і ў вайну ня толькі сваю тэрыторыю, але і нашую яны ўжо намерваліся забіраць пасьля немцаў... О, Край мой, столькі ворагаў разрываюць Цябе на часьці, забыўшыся аб тым, што і Ты маеш нарэшце права быць вольным! П. Гражына, праўда, гаварыла мне верш аб тым, што Беларусь — гэта сястра Польшчы, але я з практыкі ўжо ведала «сваяцкія» адносіны Польшчы да нашага народу. Гэта было жудасна... Ну, а цяпер яны і мы былі поўнасьцю ў «кіпцюрах ГПУ», як пісаў некалі Аляхновіч. Супольны вораг — гэта ўжо прычына, каб не сварыцца...

Цераз тыдзень нешта нас павезьлі далей. Усё пусьцей і пусьцей было на гарызонце, пагінулі гарадкі, вёскі, і толькі тырчэлі вострыя вярхі ялінаў, абсьцёбаны вятрамі, пургой. Тырчэлі, штораз часьцей, у гэтай пустэчы вышкі. Вышкі і вышкі, і толькі вышкі падымаліся ўжо па абодвух баках дарогі, а лясы рабіліся ўсё ніжэйшыя, а вярхі ўжо зусім без гальля. Усё меней, меней бярозаў, адны худыя сасонкі і яліна. Так нас прывезьлі на Інту ў Комі АССР. Ксёндз ехаў разам. Мы маўчалі, бо тое няведамае, што чакала нас, спаралізавала нат словы...

Нарэшце брыдзем мы па сьнегу і лужах. Ужо май, недзе палова яго. Канвой з сабакамі гоне нас, як быдла. Валочым свае мяшкі. Стаімо перад брамаю, чытаюць нашыя прозьвішчы, мы мусім адказваць сваю стацьцю, срок і абавязкова канец срока. Гэта ўжо такі азыяцкі зьдзек, каб кожны памятаў, як доўга будзе так валачыцца па тундры з кіркаю і ломам, гнаны канваірамі і іх адпасьвянымі аўчаркамі. Мне канец сроку прыпадаў на 73 год. Але ўсё ў руках Найвышэйшага, і даўно, даўно тыя, якія нагрfavілі мяне гэтым падаркам, самыя гніюць ужо ў непасьвянцовай зямлі...

Адчынілі браму. Нас сустрэла начальства, здалёк прыглядаліся нам брацьця па долі, бо кожны этап прыносіў навасьці. Мы сумна пераглянуліся з ксяндзом. Нашыя рэчы

ўжо выкідалі на дарогу ў балота. Мая розавая і галубая пражская бялізна не закрыла на гэты раз маяго скарбу, які я перавезла праз усе этапы цудам,— чэскую біблію. Яе схапіў начальнік лагера яўрэй Шапіра і пачаў верашчаць, што сюды прывезьлі працаваць, не маліцца. Ён злосна гартаў маю дарагую кнігу і ненавісна трымаў яе ў руках. Але раптам убачыў на зямлі крыж ксяндза Лазара, яго кніжку маліцьвенную і яшчэ нейкія рэчы, належныя званьню ксяндза, яго служэньню. Тут малады, аблезлы і выжыты ўжо са ўсяго чалавечага Шапіра амаль пырскаў сьліною, бясіўся. Ксёндз спакойна сказаў яму, што, забраўшы маліцьвенныя рэчы нашыя, не забярэ Вялікага, Вечнага Бога з нашага сэрца, і Ён будзе з намі. Я бачыла пасьля закручаныя парашкі ў лісточкі мае чэскай біблії і іншых маліцьвенных кніг. Што ж, у бандытаў і злодзеяў ніколі нічога не было, і не будзе нават паперы на асьпірын...

Мяне завялі ў баню з другімі жанчынамі. Усе мы былі да касьцей схуднелыя, замест грудзей віселі ў жанчын убогія мяшочкі з жоўтай скуры. Праз усе этапы цягалі нас у тыя іх бані, гдзе мікраскапічным выданым кусочкам мыла, якое ня мылілася, велічынёю з гарбатную ложачку, мы ў прысутнасьці нейкіх заўсёды мужчынаў шаравалі халоднай часта вадой свае косьці і скуру, ні на што не зьвяртаючы ўвагі. Мы атупелі да іх навакольля ці проста не лічылі іх болей людзьмі. Нас разьвялі па бараках. А баракаў было там поўна, вузкіх і даўгіх, у якіх чэраве мясьціліся на двайных нарах, адзін на адным сотні людзей. Ноччу варочаліся на другі бок усе разам, бо цесна было, не паварнуцца. Ніякіх простыняў! Давалі сяньнікі са стружкамі і малымі калодкамі і такія ж са стружак падушкі. Як мерцьвякам. Есьці нас вадзілі ў сталовую строем, гдзе ў жалезных місках давалі нам страву вельмі мала лепшую, а то і горшую, як у цюрме. Ложак не было. Нехта падышоў да мяне і запрапанаваў прадаць ложку за пайку хлеба. Я аддала сваю пайку, а сама села на дварэ і піла, піла паветра.

З беларусоў я нікога не сустрэла, да мяне падышоў адразу пасьля этапу чэх. Пасьля падыходзілі і другія чэхі, якія выпытваліся пра Прагу. Мая печань, даведзеная да апошняга менскім лекарам «Пінем», зноў пачала дакучаць. Мяне паклалі ў лагерную больніцу. На дварэ была завіруха, холад за вокнамі, а я пакуль што ляжала, даставала гарэшак масла, часам кусянятко белага хлеба — як належыць хворым. Нейкі малады латыш усё мыў там падлогі, ён лічыў сябе шчасьлівым, бо ў шахтах куды горай. Даведаўшыся, хто я, ён адкрыта гаварыў аб тым, што яны нам некалі забяруць Віцебскую вобласьць, а я яму даказвала, што амаль 100 тысяч беларусоў-летгальцаў і іх тэрыторыю ўжо найвышэйшы час вярнуць нашаму народу. Як жа хочацца кожнай казяўцы адарваць хоць кусок ад бохана нашай зямлі, як несправядліва такое. Здавалася мне, што адна толькі стаю супраць зьдзекаў над намі і таму мушу быць і разумнай і хітрай. Трэба мне многа бачыць, моўчкі пераважыць усё, што выпадзе на долю, і кожны свой дзень, кожны свой крок ахвяраваць Беларусі... Сьмешна, адна хворая жанчына — і ўся дзікасьць безчалавечнасьці супраць мяне. Лячыў мяне зьняволены доктар паляк. Прозьвішча яго ня памятаю, пачыналася з «А». Быў гэта, на маю думку, яўрэй малады і вельмі паважны. Аднойчы ён затрымаўся ў нашай палаце, паклікаў мяне да вакна і паказаў на небасхіле цёмна-сінія контуры Урала... Моўчкі я на яго загледзелася, доктар казаў: «Трэба нам выжыць, ворага трэба перахітрыць, бо так толькі можам выратавацца і выратаваць ад няволі людзкасьць. Павязуць мяне згэтуль,— казаў,— і там будзе мужчынскі лагер 1-шы ОЛП, з якім належыць мне наладзіць лучнасьць, каб працаваць».

**Працяг будзе.**

Рэпрадукцыі з архіваў **Л. А. Геніюш, І. М. Чарняўскага.**







# Публіцыстыка



*Іван Чыгрынаў*

# УЛТАВА, ДУНАЙ І МАНЕТЫ

## З ДАРОЖНАГА ДЗЁННІКА

Гэты раз у Чэхаславакію, здаецца, я і не збіраўся. Бо ўражанні ад краіны жылі яшчэ светлыя, можа, нават да канца недадуманыя, менавіта, недадуманыя; ды і дзённік ад мінулага года заставаўся нясконачаны, усё неяк не даходзілі рукі да яго, і там, у маіх лістках, не хапала колькі апошніх старонак....

Ад'язджаў я з Мінска 15-га лістапада, а 14-га быў партыйны сход, дзе сакратар партбюро крытыкаваў апавяданне «За трэцім разам», маўляў, не тое чакаў ад аўтара народ; я і сам ведаю, што «не тое», але ж ад праўды нікуды не дзенешся; і няма ў гэтым апавяданні аніякага пацыфізму, а тым больш бяскласавага гуманізму.... Тым не менш апавяданне цяпер не хутка дадуць друкаваць нанава. Кінулася яно ў вока цэнзуры ў Маскве, калі часопіс «Огонек» збіраўся змясціць яго ў сваім сорак другім нумары. У ЦК КПБ пасля гэтага апавяданне абмяркоўвалася на нарадзе, дзе перад рэдактарамі газет і часопісаў выступаў начальнік Галоўліта... Тады думалася, што гаворкай гэтай і абмяжуюцца «неспакойныя» людзі. Аж не.

Наогул, партсход (справаздачна-перавыбарчы) сёлета даўся ў знакі. Столькі бруду на ім вылілася: вось ужо каторы год усё за нешта б'юцца, лаюць адзін аднаго, нечага патрабуюць...

Ну але...

У Маскве пятніцу і суботу жыў у гасцініцы «Заря» — гэта ў раёне выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі. Ездзіць у цэнтр горада было далёка і цяжка, таму ледзьве паспеў наведаць да Л. Тэракапяна ў часопіс «Дружба народов» ды яшчэ да землякоў сваіх, Цярновых. У гасцях у іх быў М. Кацюшэнка. Добра выйшла б, калі б ён напісаў нарыс пра Міхайлу Фёдаравіча Цярнова, колішняга дырэктара Вялікаборскай школы, пасля партызанскага камісара, які загінуў у сорак другім годзе ў Лузе.

Цярновы — гэта легенда з майго Вялікага Бора; некалі трэба расказаць пра іх.

Дарэчы, Леанід Арамавіч адразу ж павёў гаворку пра раман «Свае і чужыя» («Сваімі і чужынцамі» прымусіў назваць гэты твор Галоўліт). На думку Тэракапяна, на ім цыкл не павінен скончыцца. «Ну, хоць бы яшчэ адзін раман,— сказаў Леанід Арамавіч,— а там, можа, і далей... Адпачнеш і далей рушыш».

Лёгка сказаць. І наогул, ці патрэбны цяпер каму такія доўгія творы? У кожным разе, асаблівай падтрымкі ў напісанні трэцяга рамана я не меў; была спроба нават збэсціць раман, але дзякуючы Д. Бугаёву, У. Юрэвічу, М. Тычыне, а найбольш, можа, Ю. Сураўцаву, які вельмі хутка прачытаў і гэты мой раман, сказаўшы добрае слова на пленуме праўлення СП СССР, усё нібыта абышлося. Праўда, зацятасць яшчэ адчуваецца. Яе я адчуў пад час сёлетняй паездкі ў Гродна, дзе асабліва нялюба гаварыў пра «Сваіх і чужых» Ігар Жук. Дзіўна, але чамусьці не ўсе разумеюць, дзеля чаго напісаны гэты раман, што ў ім паказана. Што ж, мусіць, трэба чакаць лепшых часоў, калі творы зноў будуць чытацца з ранейшай цікавасцю.

Я вось раблю цяпер, у замку Добржыш за Прагай, гэтыя дзённікавыя накіды, а сам думаю: некалі, няйначай, давядзецца напісаць кнігу, як пачуваецца савецкаму пісьменніку, як ён жыве і ў якіх умовах стварае свае творы і хто ў яго пры гэтым ворагі і сябры.... Зрэшты, штосьці падобнае ўжо ляжыць на стале ў Мінску, нават загаловак ёсць — «Адзін год і ўсё жыццё»...

Дык што ж недапісанае засталося ў мінулагоднім дзённіку? Здаецца, не хапае сапраўды апошніх старонак: як мы з Мікалаем Шундзікам выбіраліся з Прагі.

Помню, выпаў неглыбокі снег, свяціла сонца. Мы сядзелі ў аэравакзале, пілі каву, гаварылі... Наогул, мы багата ў тую паездку з М. Ш. перагаварылі, дарма, што пасля не бачыліся ні разу з таго лістапада.

Сёлета паездка ў ЧССР прыпала на лістапад. Дэлегацыя наша большая, чым летась: прынамсі, усіх я яшчэ нават не ведаю, бо хтосьці едзе сюды цягніком.

Уласна кажучы, дні савецкай літаратуры пачынаюцца з заўтрашняга дня, з 19-га. Але мы прыляцелі раней. Таму сёння днюем і начуем у замку Добржыш.

Па начы, у ранішнім сутонні, пахадзіў трохі па тэрыторыі замка Добржыш. Раней мне здавалася, што гэта чэхі завуць так звычайны палац феадала. Але ўсётакі Добржыш палац замкавага тыпу. Хоць і будаваўся ён канчаткова нядаўна. Ці не ў канцы мінулага века, аднак уладальнікі «палаца» няйначай адчувалі яшчэ за спіной былую веліч свайго рода, стваралі жытло сабе паводле старога часу.

Кажуць, што ў мінулую вайну, калі сюды прыйшлі немцы і спыніліся ў замку Добржыш, уладальнік яго пайшоў у лес і ваяваў разам з партызанамі супраць акупантаў да самага вызвалення краіны ў сорак пятым. Не ведаю, ці гэта легенда, ці звычайная байка, некалі зробіцца быллю...

Прыгожы замкавы парк. Дарма, што амаль ад самае вайны тут гаспадараць пісьменнікі... Гэта Дом творчасці літфонда. Але парадак застаецца амаль ранейшы. Ва ўсякім разе былая прыгажосць і раскоша не парушаны — тыя ж старавечныя скульптуры, тыя ж басейны, ці не тыя ж кусты...

І так — 19-е лістапада, пачатак Дзён савецкай літаратуры ў ЧССР.

Па сняданку мы пераехалі з Добржыша ў Прагу. Гэта каля пяцідзесяці кіламетраў.

Сёння таксама над зямлёй мітусіцца імжа. Далей ад дарогі нічога не відаць, таму ўвесь час здаецца, што машыны ідуць па тунелі...

Учора я пісаў тут, што не ўсіх пісьменнікаў ведаю з сёлетняй групы. Дык вось, сёння прыедзе цягніком і далучыцца да нас Георгій Сямёнаў. Ёсць і яшчэ адзін празаік у групе — казах Ралан Сейсенбаеў. А так, здаецца, астатнія ўсе паэты: Уладзімір Жукаў (з Іванава), Міхаіл Львоў (Масква), Эдуард Баброў (Масква), Валянцін Сідараў (Масква).

Дзіўна, але рэдка калі складаецца дэлегацыя, дзе кожны адзін аднаго ведае. Не абавязкова асабіста, няхай па творчасці, але гэты раз адчуваецца, што некаторыя ўпершыню чуюць прозвішчы сваіх суседзяў. Божа мой, колькі нас, пісьменнікаў, у краіне, а на зямлі тым больш!

Успамінаючы ўчарашні дзень, варта сказаць яшчэ колькі слоў і пра... Добржышскія могілкі. Так, пра могілкі. Гуляючы па гарадку (а ён таксама завецца Добржыш) з Віктарам Бокавым і Раланам Сейсенбаевым, мы набрылі нечакана на гарадскія могілкі. Моцна здзівіла нас там чысціня. Чэхі сапраўдзе шануюць сваіх продкаў! Помнікі на могілках не дарагія, аднак прыгожыя, зробленыя з асаблівым густам, які, пэўна што, не трывожыць пад зямлёй нябожчыкаў...

Даты нараджэння і смерці на помніках тут не пакідаюць; ва ўсякім выпадку рэдка дзе гэта ўбачыш, таксама як і партрэт чалавека, якога пахавалі: пайшоў з гэтага жыцця, як адляцеў, ні воблака ад цябе не застаецца, ні лішняга напамінку.

Сёння, калі па дарозе ў Прагу мы гаварылі пра жыццё і літаратуру, пра славалюбства і «дарэмныя намаганні», Віктар Бокаў успомніў учарашнія могілкі і сказаў: «А мы пад вечар учора нібыта пабылі на тым свеце!..»

«Ну так,— узрадаваўся я, падтрымліваючы ў душы Віктара Фёдаравіча,—

правы застаецца Талстой, які часта нагадваў людзям: «Пабойцеся бога, паміраць жа трэба».

Дарэчы, пры размове аб літаратуры Бокаў раптам сказаў: «А «Слова пра полк Ігараў» перакладаць на вершы нельга». Я пасля маўчаў і доўга думаў. Сапраўды, відаць, ён мае падставы так гаварыць. Я добра ведаю і першакрыніцу і празаічны пераклад, дакладней, так званы падрадкоўнік; чытаў і вершаваныя тлумачэнні «Слова...», аж да апошняга — І. Шклярэўскага. Усё гэта дарэмныя высільванні, хоць для саміх паэтаў, якія перакладаюць гэты помнік, штосьці ёсць у самім працэсе перакладу і ў яго канчатковым выніку. І тым не менш я ў дадзеным выпадку гатовы стаць на бок Віктара Фёдаравіча, які ў часе нашай паездкі часцей за ўсіх здараецца субяседнікам.

Пасялілі нас сёння ў добрай гасцініцы, на левы бок Ултавы, у «Празе», 6. Гэта гасцініца ЦК КПЧ. Збудавана паўкругам, у выглядзе тэрас з шырокім кругаглядам: на гарадскі Крэмль, на сабор Віта. Шкада, што Прага ўвесь час у тумане. Адсюль, ад гэтай гасцініцы, зусім блізка да аэрадрома, да якога ад цэнтра горада таксама ўсяго, здаецца, чатырнаццаць кіламетраў.

Дні літаратуры адкрывалі за абедзенным сталом у клубе Саюза пісьменнікаў. Была на адкрыцці ўся наша дэлегацыя. З чэхаславацкага боку — Ян Козак, старшыня Саюза пісьменнікаў ЧССР, Іван Скала, старшыня Саюза пісьменнікаў Чэхіі, Вера Адлава, сакратар Саюза пісьменнікаў ЧССР, Марыя Цодарава, сакратар Саюза чэшскіх пісьменнікаў. Гэтыя людзі — знаёмыя. Але была і асабістая прыемнасць: падышоў нізкаваты чалавек, сказаў: «Я — Міраслаў Заградка. Пісаў тут пра вашы раманы».

Пасля, гадзіны праз паўтары, мы пабачылі кнігі гэтага крытыка на выстаўцы, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння Саюза пісьменнікаў СССР. Заградка піша пра савецкую літаратуру. Ён добра ведае яе. Ёсць у яго кніга «Чалавек і вайна».

Увесь сённяшні вечар званіў па тэлефоне на кватэру Вацлава Жыдліцкага. У адказ — кароткія гудкі. Варта было б напісаць яму сюды ліст, але...

**20-е лістапада.**

Сёння ў праграме напісана: «Сустрэча ў клубе Саюза пісьменнікаў з чэхаславацкімі пісьменнікамі і перакладчыкамі. Тэма сустрэчы: «50 год савецкай сацыялістычнай літаратуры».

Абед у клубе.

Наведанне Народнага тэатра.

А пакуль што да чаго...

Прага некалі пачыналася ў даліне Ултавы, а цяпер далёка разраслася абапал, заняўшы прыгожымі пабудовамі камяністыя ўзгоркі, бадай, па беларускай мерцы, горы... Наша гасцініца стаіць на адным з такіх узгоркаў, вокнамі на паўднёвы ўсход; з балкона, дакладней, цэлай тэрасы, добра відна сёння ў ранішняй шэрані вялікая частка горада з яго трапяткімі карункавымі агнямі.

Ва ўчарашнім запісе было шкадаванне, што нельга дазваніцца да Вацлава Жыдліцкага. Не выключана магчымасць, што ён прыйдзе сёння на сустрэчу ў клуб пісьменнікаў.

У нас, у беларусаў, ёсць віна перад Вацлавам — раптам улетку нечага адмовіліся прыняць яго яшчэ раз на сваёй зямлі... Я не ведаю ўсяе падаплёкі гэтай справы, нават збольшага самае прычыны, але і тады, як празнаў, што яму адмовілі ў прыездзе (пасля запрашальнай тэлеграмы), і цяпер, будучы ў Празе, адчуваю сябе вінавата. І наогул, сяброў літаратуры грэх траціць нават у вялікім запале. Не так іх ужо багата ў нас за мяжой!.. Бо ў яе, нашай літаратуры, няроўныя дарогі.

Пачалі сустрэчу ў клубе СП артысты — чыталі вершы С. Міхалкова, які перад тым атрымаў прэмію імя Яраслава Гашака, Юрыя Воранава, Міхаіла Львова.

Затым дэлегацыю прадставіў пайменна прафесар Міраслаў Заградка, назваў кнігі, даўшы кароткую характарыстыку творчасці. Выступленне яго пра савецкую літаратуру за пяцьдзесят гадоў было імправізаванае, але цікавае, з прафесійнай глыбінёй...

У клубе з нагоды гэтай сустрэчы сабралася даволі багата чэхаславацкіх пісьменнікаў, перакладчыкаў.

Мы, члены дэлегацыі, у сваіх выступленнях стараліся высвечваць толькі асобныя моманты развіцця шматнацыянальнай савецкай літаратуры, бо часу давалі не шмат.



Гаворка атрымалася цікавая. Ва ўсялякім разе, у кожным выступленні было нешта такое, што альбо здавалася новым, альбо адпавядала тваім думкам, станавілася сугучным твайму настрою, пункту гледжання на тую ці іншую праблему літаратуры, жыцця.

Ад чэхаславацкіх пісьменнікаў выступілі Атакар Халоупка, Уладзімір Міхна, Ян Марцінец...

Мы з Атакарам Халоупка амаль аднагодкі, можа, розніца ва ўзросце адзін ці два гады. Піша ён пераважна для юнацтва. Але таксама пра вайну. Цікава ён сказаў: «У вашай, у савецкай літаратуры мы знайшлі для сябе дабрыню гераічных сэрцаў».

Вёў пасяджэнне Міраслаў Заградка. Перад тым мы паспелі пагаварыць з ім. І я яму паказаў фотакартку маці Хадоскі, якую заўсёды важу з сабой. Ён мне таксама паказаў фотакартку сваёй маці Антоніі. Сказаў: «Яны падобныя». І сапраўды, нечым дужа падобныя. «Але мая памерла»,— засмучана сказаў ён. «А мая жыве»,— сказаў я. «Дрэнна жыць без маці»,— паківаў галавой ён.

Заградка жыве ў горадзе Аламонь, што за 250 кіламетраў ад Прагі, працуе ў тамтэйшым універсітэце.

Я таксама гаварыў пра ваенную літаратуру, дакладней — антываенную. Але думкі мае ўжо былі выверывы, я не раз выказваў іх у сваіх артыкулах, якія друкаваў.

Ішла гаворка таксама пра літаратурныя ўзаемасувязі...

Сапраўды, у апошні час ва ўзаемасувязях нашых, асабліва з літаратурамі сацыялістычных краін, пачынаецца якасна новы падыход да ўзаемных перакладаў твораў. Пераклады ўжо з'яўляюцца не выпадкова, а на падставе, можна сказаць, навуковага, прадуманага стаўлення, ведання гісторыі літаратуры, як той, з якой робіцца пераклад, так і той, на мову якой твор перакладаецца, на аснове ведання асаблівасцей сучаснага літаратурнага працэсу ў абедзвюх краінах, умення прадбачыць і тэндэнцыі далейшага развіцця нацыянальных літаратур. На першы план, як асноўныя творцы-перакладчыкі, выходзяць тыя літаратары, у якіх сфарміравана пэўная канцэпцыя мастацкага перакладу. Абавязковай умовай поспеху перакладу з'яўляецца веданне перакладчыкамі мовы арыгінала. (Напрыклад, у Чэхіі — Вацлаў Жыдліцкі, у Славакіі — Душан Слабоднік.)

Мы ўсё-такі сустрэліся з Вацлавам Жыдліцкім сёння, у часе гэтага пасяджэння. Ён нейкі насцярожаны, і колькі ні імкнуўся я «растапіць лядок», але так і не здолеў.

**21-е лістапада.**

Сёння ў нас выступленні ў Карлавым універсітэце. Мінулы год я быў у студэнтаў філасофскага факультэта, таму папрасіў запісаць мяне ў спіс на наведанне педагагічнага факультэта ў горадзе Брандысе над Лабай.

Газеты пра нас тут пішуць мала. Ва ўсякім разе, прозвішчаў членаў дэлегацый на старонках друку яшчэ не сустракалася, акрамя Ю. Воранава. Праўда, бяды вялікай у гэтым няма, але некаторыя чмыхаюць...

Пагода паступова мяняецца — паветра халоднае, зямля шэрхне. Увечары было амаль зімна.

Сёння з балкона добра відаць Прага.

Між тым, чамусьці сняцца нядобрыя сны...

Учора я спытаў Міраслава Заградку: «Што азначае твой горад — Аламонь?»

— Ніхто не ведае,— адказаў ён.— Заснаваў Аламонь Юлій Цэзар. Прынамсі, універсітэт у нас працуе з 1573 года.

Якая старажытнасць! Якая гісторыя!

Я іншы раз думаю, што наша гісторыя пагарэла ў войнах разам з намерамі — не надта што доўга ўцалее на дрэве...

Тым часам, калі я быў у «Дружбе народов», гаварыў з Л. Тэракапянам, ён вельмі прасіў, каб я не браўся цяпер за «гісторыю», напісаў яшчэ адзін раман пра мінулую вайну... Л. А. сказаў: «Трэба псіхалагічна, на людскім лёсе ўвесь цыкл завяршыць».

7*

Лёгка сказаць!.. А я стаміўся ад сваіх раманаў. Няма грамадскай падтрымкі. Усё роўна як яны нікому не патрэбны. Радасць адна — няйначай, не так гэта, штосьці падказвае мне: не, не так. Яны патрэбны літаратуры, народу! Мы адвыклі высокімі катэгорыямі думаць, заглушылі словы, таму такое вось гарапаства ў душах.

Брандыс над Лабай — невялікі, чысты чэшскі гарадок з дваццаццю тысячамі чалавек насельніцтва. Знаходзіцца ён кіламетраў за сорак ад Прагі, на рацэ Лаба, г. зн. Эльба. Пасля сорак восьмага года сюды быў перанесены педагагічны факультэт Карлава універсітэта. Размяшчаўся ён спярша ў адной былой гімназіі, пасля былі зроблены прыбудовы.

Сёння першы дзень, калі свяціла сонца, але ў нізінах за горадам плаваў туман. Абапал шашы на ўзгорках зелянела рунь; чарнела ўзараная пад зябліва ўрадлівая мясцовая зямля. Край тутэйшы багаты, пра гэта гавораць самі чэхі.

З намі ў Брандыс над Лабай ездзілі Вера Адлава і Уладзімір Міхна.

Не быў бы педфак — і тут, у Карлавым універсітэце, на ім займаюцца адны дзяўчаты; на ўсю залу, праўда, невялікую, можна было налічыць усяго некалькі хлопцаў. Выходзіць, паўсюды жаночае панаванне ў педагогіцы? А ці на карысць яно? Вось ужо каторы год людзі б'юць трывогу, а мужчыны тым часам па-ранейшаму імкнуцца ў афіцэры і ў начальства, іншы раз — у фізікі...

У канцы сустрэчы падышла жанчына, назвала сябе — Маргарыта Ісакаўна, прыехала з Масквы выкладаць савецкую літаратуру; вельмі люблю беларускую прозу, кажа, заўтра буду гаварыць пра яе студэнтам.

С. Міхалкоў усё хацеў «выцягнуць» са студэнцкіх вуснаў пытанні, але тыя засталіся моцна сціснутыя, свяціліся адны ўсмешкі.

Няўжо ў маладых людзей няма актыўнай цікаўнасці да савецкіх пісьменнікаў?

Дарэчы, акурат гэта вось давялося мне гадоў колькі таму назіраць і ў Варшаўскім універсітэце... Затое шмат пытанняў некалі задавалі прысутныя ў гарадскім універсітэце Нью-Йорка.

Удзень у гасцініцы, дзе мы жывем, паказвалі італьянскі фільм «Італьянкі і каханне». Зразумела, што назва падкупіла нас. І мы прасядзелі ў прыгожай глядзельнай зале гасцініцы каля дзвюх гадзін. Фільм гэты складзены з навел, іх ажно некалькі, і ўсё пра жыццё жанчын, пра іх адносіны з мужчынамі. Чаго яны там не вытваралі, гэтыя жанчыны, а пасля сабраліся і сказалі, што вінаваты ва ўсім мужчыны, маўляў, каб не былі яны паганыя ды лжывыя, то жанчыны жылі б з імі лепей.

**22-е лістапада.**

Ідуць Дні савецкай літаратуры ў братняй краіне, а каля нас усё меней становіцца мясцовых пісьменнікаў, можна сказаць, зусім мала... Ды і начальства толькі ў першы дзень з'явілася. Але мы працуем па складзенай імі праграме.

Сёння едзем у горад Кутная Гара, дзе адбудзецца прыём у Нацыянальным камітэце, пасля будзем знаёміцца з горадам. Некалі там былі сярэбраныя капальні. Людзі жылі багата. Будавалі горад з разлікам калі не перагнаць Прагу, то ўжо зраўняцца з ёй пэўна. Жыхары горада нават касцёл святой Барбары пачалі будаваць накшталт пражскага касцёла святога Віта, які ўзвышаецца ў Градчанах. Але не пабудавалі, дакладней, рана скончылі. Таму не выйшла ў іх гэтакай велічы, як у Празе. Але гэта трэба пабачыць на свае вочы... Нездарма ж кажуць, лепш адзін раз глянуць, чым многа разоў пачуць.

Я ўсё вяртаюся ў думках дамоў. Бачу дамашнія сны. І ўсё нейкія быццам пачварныя. Меў рацыю Гоя.

Сёння, напрыклад, плыла па вадзе нежывая рыба...

Учора мы дужа смяяліся — месяцы са два таму ў Чэхаславакіі падаражала ці не напалову «пельзенскае» піва. Чэхі жартуюць — па традыцыі павінен бы пасць і ўрад. Але які? У іх тут, у краіне, не адзін: чэшскі і славацкі. То які?

Між тым нас гаспадары частуюць кожны раз «сміхаўскім». Таксама неблагое піва!

Сёння споўніцца тыдзень, як я выехаў з Мінска. Два дні ў Маскве, пяць — у Празе.



Умовы хоць і добрыя для жыцця ў гасцініцы, але ўначы не надта спіцца.

Увесь час мы тут ездзім на «Татрах». Вельмі ўстойлівая машына. У пярэднім салоне нават не адчуваеш руху.

Па дарозе ў Кутную Гару шафёр наш Ярамір Адамэк неяк нечакана разгаварыўся — пачаў з таго, якімі добрымі якасцямі валодае «Татра», пасля пахваліўся, што за 48 кіламетраў ад Прагі будуе сабе халупу — не хату, а менавіта халупу, сказаў ён, г. зн. дачу.

— А з транспартам? Як вы забяспечаны ўласным транспартам? — спытаў Уладзімір Жукаў.

— Няма праблемы,— адказаў Ярамір,— мы з жонкай на сям'ю маем тры аўтамабілі.

У Кутнай Гары нас адразу павялі ў райком партыі. Пачалася звычайная гаворка. Аказваецца, Кутная Гара з'яўляецца гарадскім запаведнікам. Тут налічваецца каля 300 гістарычных помнікаў. Дзяржава кожны год выдаткоўвае на падтрымку помнікаў каля 15 млн. крон.

Раён Кутнай Гары — адзін з дванаццаці раёнаў сярэднячэшскай вобласці. Гэта прамыслова-сельскагаспадарчы раён. Што датычыць сельскагаспадарчай вытворчасці, то тут вырошчваюць амаль усе прадукты, пачынаючы ад збожжа і канчаючы бульбай; многа гародніны; вырошчваюць хмель і інш. У раёне 15 сельгаскааператываў, якія апрацоўваюць 3,5 тысячы гектараў зямлі.

У гэтым годзе ў раёне будуць адзначаць трыццаць пятую гадавіну кааперацыі.

Збожжа ў кааператывах атрымліваюць у сярэднім 52,4 цэнтнера з гектара. У самага лепшага кааператыва выйшла на круг па 61 цэнтнеру з гектара. Бульбы збіраюць па 230 цэнтнераў.

Мяне заўсёды цікавілі і цікавяць падобныя лічбы. Не дзеля захаплення. Для параўнання. Відаць, гэта нармальнае імкненне — параўнаць усё, што бачыш на чужыне, са сваім, дамашнім; не кожны раз ад гэтага адчуваеш задавальненне.

З райкома партыі мы накіраваліся ў гарадскі Савет. Тут таксама не абышліся без доўгай размовы. Але якая б яна доўгая ні была, карысць ад яе ёсць, балазе, людзі мы ўсё яшчэ недасведчаныя ў мясцовых справах, а хочацца ведаць як мага больш.

Дык што я даведаўся яшчэ з размовы ў Нацыянальным камітэце пра горад Кутная Гара?

Прымаў нас дзеля гэтага мэр горада ва ўрачыстай зале Нацыянальнага савета, які размяшчаецца на тэрыторыі «Італьянскага двара». Гэта гістарычны замак чэшскіх каралёў. Заснаваў «І. Д.» кароль Вацлаў II. Тут, на «Італьянскім двары», з мясцовага срэбра некалі чаканілі манеты. А цяпер срэбра ў шахтах няма; толькі «водбліскі» засталіся яго.

На пярэдняй сцяне «ўрачыстай залы» ва ўсю шырыню разгорнута карціна «Адзіныя каралеўскія выбары»— выбіралі тады Уладзіслава Ягелончыка, з Польшчы. На задняй сцяне размешчана пано — гэта таксама гістарычны момант: «Дэкрэт Кутнагорскі». Намаляваны тут Ян Гус на прыёме ў караля Вацлава IV. Ян Гус быў тады рэктарам універсітэта. Але ў савет універсітэта выбіраліся члены непрапарцыянальна. І вось Ян Гус дамогся ад Вацлава IV расшырэння спісу савета за кошт чэхаў.

З «Італьянскага двара» мы накіраваліся ў касцёл святой Барбары. Я ўжо пісаў, што ён застаўся недаўзведзены, дакладней, узведзены не так, як задумваўся дойлідамі. І не толькі ўгору недабудаваны, а і ў даўжыню.

Касцёл святой Барбары, бадай, адзіны ў сваім родзе — на сценах яго фрэскі на вытворчую тэму. Справа ў тым, што святая Барбара была абаронцай шахцёраў, г. зн. людзей, якія працавалі тут пад зямлёй, у капальнях. Таму аўтары праекта і выкарысталі «шахцёрскую тэму» ў насценных роспісах. Тут і чаканшчыкі манет з мясцовага срэбра, і здабытчыкі сыравіны — самога срэбра, якое выплаўлялася з руды.

А ўвогуле — горад Кутная Гара сапраўды прыгожы. Новая ява тут адмыслова перамешана са старасвецкай даўнінай.

Нашу дэлегацыю з Кутнай Гары падзялілі на тры групы. Я трапіў у тую, што ўдзельнічала ў канферэнцыі чытачоў «Савецкая літаратура». Выступілі Юрый Во-

ранаў, Віялета Пальчынскайтэ, Уладзімір Жукаў... Чэхі чыталі ўрыўкі з «Лёсу чалавека» М. Шолахава, «Блакаднай кнігі» А. Адамовіча і Д. Граніна...

Добра таксама, што нам не трэба было «выдумваць» свае прамовы — з залы паступілі пытанні. Вядома, звычайныя, вельмі простыя, але імі можна было абмежавацца, захаваўшы прыстойны тон.

Іншыя дзве групы тым часам знаходзіліся на заводах — машынабудаўнічым (ЧКД) і шклозаводзе.

Пасля канферэнцыі агледзелі за горадам Музей сельскай гаспадаркі рэспублікі (Чэхіі). Размешчаны ён у былым графскім палацы, збудаваным у класічным стылі, даволі рэдкім у Чэхаславакіі. Музей гэты існуе з 1950 года. У ім сабрана ўсё — ад старажытнага сярпа да сучасных сельскагаспадарчых машын. Давялося бачыць «сакаўскі» плуг, створаны братамі Выверавымі. (У нас, у Вялікім Бары, яго называлі «ісакаўскім».) Тут жа і выявы іх, вылітыя з бронзы. Багаты раздзел жывёлагадоўлі.

Некалі на гэтай тэрыторыі жылі кельты, пасля сюды прыйшлі славяны, аселі і абжылі край. Археолагі знаходзяць цяпер старадаўнія стаянкі адных і другіх. У экспазіцыі музея паказаны стаянкі мясцовых людзей.

Музей утрымліваецца на сродкі Міністэрства сельскай гаспадаркі.

Работнікі кажуць: калі б ён размяшчаўся поблізу вялікіх дарог, то выглядаў бы лепш.

Між тым, пабывалі мы і на землях кааператыва імя Партызана Фаміна. Расказваў пра гаспадарку старшыня кааператыва — па ўсім відаць, вельмі талковы чалавек.

Назвалі мясцовыя сяляне свой кааператыў у гонар ленінградца, маёра Фаміна, які быў закінуты з групай партызан сюды на парашутах. Немцы зрабілі на партызан аблаву, і тыя, акружаныя з усіх бакоў, застрэлілі сябе. Цяпер на тым трагічным месцы ўзведзены помнік.

Кааператыў імя Партызана Фаміна багаты. Па-першае, ва ўрадлівай даліне размешчаны, а па-другое, гаспадарка ва ўсіх адносінах адмыслова наладжана. Вось некалькі лічбаў: з гектара ворнай зямлі працаўнікі тут атрымліваюць па 50 цэнтнераў збажыны і па 374 цэнтнеры бульбы. Сеюць у гэтым кааператыве лён і маюць за насенне яго багатыя прыбыткі. Сёлета ўжо надоена на адну карову (а іх тут 1300) па 3500 літраў малака. Але, сказаў старшыня кааператыва, гэта сярэдні надой па Кутнагорскім раёне.

Хораша было глядзець на чалавека, які ўпэўнена і амаль весела расказваў пра здабыткі мясцовых сялян, пра сацыяльныя і бытавыя ўмовы членаў кааператыва.

Але ж якая была раніца светлая, такі вечар дажджлівы...

Асноўную частку запісаў даводзіцца рабіць пасля даволі напружанага працоўнага дня... Што ж, страты бываюць і ў гэтым. Але сёе-тое можна прыгадваць потым.

**23-е лістапада.**

Сёння, здаецца, нагрузкі вялікай не будзе. Ва ўсякім разе, я не ўбачыў гэтага з пісанай праграмы: сустрэча з журналістамі на выстаўцы, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СП СССР, тады прыём у ЦК СЧСД, дзе маецца быць міністр культуры ЧСР Мілан Клусак.

Але ўжо ўвечары, па прыездзе з Кутнай Гары, пазваніў Вацлаў Жыдліцкі. Мы дамовіліся, што сустрэнемся сёння, каб перакінуцца словам-другім...

На восем гадзін прызначаны прыём у пасольстве СССР у ЧССР. Нас туды едзе пяцёра — С. Міхалкоў, Ю. Воранаў, М. Львоў, В. Бокаў і я.

У пасольстве нас сустрэў пасол В. П. Ламакін. Я яго помню па Уладзівастоку, калі ездзіў туды на 80-годдзе з дня нараджэння Аляксандра Фадзеева. Віктар Паўлавіч тады працаваў першым сакратаром Прыморскага крайкома КПСС.

Мы з ім збольшага прыгадалі той верасень, успомнілі агульных знаёмых. Але з групай нашай Ламакін пабыў мала — паляцеў ранішнім самалётам у Маскву, а адтуль цягніком паедзе ў Ленінград.

Затое даўжэйшай выдалася гаворка з пасольскімі таварышамі. Два іх — Маслаў і Якубайціс — мне знаёмы з мінулага года. Якубайціс прапанаваў мне пазваніць па тэлефоне з пасольства ў Мінск. Спроба была ўдалая. Людміла Прохараўна сказала, што выйшаў трэці том маіх выбраных твораў; выйшла таксама кніга па маёй творчасці Т. Грамадчанка; але ў Мінску дажджыць, ужо каторы дзень макрэча.

І ў Празе сёння макрэча. Да таго ж — парывісты вецер, які калыша дрэвы, стукае ў шыбіны вокнаў.

Сустрэча з журналістамі ў будынку Таварыства чэхаславацка-савецкай дружбы сёння пачалася з выступлення Ю. Воранава, які расказаў пра тое, што наша дэлегацыя рабіла ўсе гэтыя дні знаходжання ў Чэхіі.

Журналісты задавалі пытанні.

Мне асабіста давялося адказваць на пытанні карэспандэнта газеты «Рудэ право» пра маладую беларускую літаратуру. Гэта справа для мяне знаёмая, выйшла ў мяне, здаецца, цікава, калі можна сказаць так; назваў журналістам Генрыха Далідовіча, Сяргея Законнікава, Генадзя Пашкова...

Што ж, пахваліць маладых лішні раз таксама не шкодзіць, а то мы часта іх адно папракаем, хоць апошні час, здаецца, атрымліваецца наадварот — дужа багата клопату праяўляем, лашчым так званых пачаткоўцаў.

У кожным разе пражскім журналістам я назваў маладых, якія ўжо вызначылі свой твар, сваю асобу ў літаратуры.

Праўда, пасля мне Э. Баброў сказаў, чаму не назваў А. Дударава. Проста не паспеў успомніць. Гэтак заўсёды бывае ў часе імправізацыі, што не ўсе адразу прыйдуць у галаву.

Тым часам у клуб СП прыйшоў Вацлаў Жыдліцкі, і мы ў добрым настроі падаліся на вуліцы горада. Распілі пляшку някепскага віна ў адной вінарні, якую чэхі называюць «У ка́та», бо некалі ў тым доме сапраўды жыў мясцовы кат. Адсюль і вінарня завецца так у народзе.

**24-е лістапада.**

Сёння выхадны дзень, субота. Але ўвечары ад'язджаем цягніком з Прагі. Едзем на Кошыцу. Гэта ўжо Славакія. З першага дня знаходжання ў Празе мне здавалася, што гасцініца, дзе мы жывем, выходзіць вокнамі на паўднёвы ўсход. Але гэта не так. Сёння ўзыходзіць сонца, бо, здаецца, упершыню над Прагай неба ачысцілася ад дажджлівых хмар, таму яно відно; гасцініца вокнамі ўсё-ткі глядзіць на ўсход — сонца цяпер стаіць якраз над Градчанамі; пройдзе яшчэ з паўгадзіны, і яно апынецца на вежах касцёла святога Віта, які цяпер узвышаецца насупраць яшчэ цёмным гмахам...

Але дзіўна —неба сёння чыстае, а вецер не перастае шалець.

З самае раніцы думалася, што суботу можна будзе правесці ў гасцініцы: адпачыць, агледзецца... Ды дзе там! Пацягнула ўсіх у горад. Мірaслаў Мервард, наш перакладчык і добры гід, павёз нас з В. Бокавым глядзець Палац з'ездаў. Дакладней, Палац культуры, бо як Палац з'ездаў будынак гэты толькі задумваўся архітэктарамі. Сапраўды, вялікі і даволі зручны для работы ўсялякіх форумаў палац. Працуе ў ім нават рэстаран. З другога паверха будынка цудоўны выгляд на Прагу — першыя, вядома, кідаюцца ў вочы касцёлы: святога Віта, Пятра і Паўла, святой Людмілы... Папраўдзе, я нават не здагадваўся, што ў маёй жонкі ёсць свая святая. Цікава, над чым, над кім яна апякуецца?

Касцёл святой Людмілы знаходзіцца на Вінаградах — гэтак завецца адзін з раёнаў Прагі.

Ёсць у Празе і уніяцкі сабор. Можа, адзіны цяпер у свеце... Пра грэка-каталіцкую царкву ў нас мала хто ўспамінае. Здаецца, гэта нават небяспечна ў нейкай ступені... А некалі ж у нас на Магілёўшчыне шмат было уніяцкіх цэркваў... Паказаў сабор мне ўчора Вацлаў Жыдліцкі. Дарэчы, ён жа паказаў і тое месца, дзе некалі быў каралеўскі батанічны сад (недалёка ад Вацлавай плошчы), у якім працаваў Скарына. Мусіць, тут, у Празе, ён пахаваны, наш вялікі мысліцель, першадрукар і г. д.

Дарэчы, калі я выступаў на педфаку Карлава універсітэта ў Брандысе над Лабай, то пачынаў якраз са Скарыны...

Я ўсё пісаў тут — гасцініца ЦК, гасцініца ЦК... Тым часам яна мае назву — гатэль «Прага».

**25-е лістапада.**

Славацкая частка нашай паездкі пачалася з Кошыцы. Гэта — усходнеславацкая вобласць.

Прыехалі мы ў Кошыцу раніцай. Свяціла сонца.

Пасля сняданку трохі пагулялі па горадзе.

Кажуць, што да вайны Кошыца мела 45 тысяч жыхароў. Цяпер — 250 тысяч, сярод якіх — 30 тысяч студэнтаў. Цэнтральная вуліца горада вызвалена ад транспарту, ходзіць адзін трамвай. Затое багата на ёй людзей, якія збіраюцца сюды на шпацыр.

З Браціславы ў Кошыцу прыехаў Душан Слабоднік. Сустрэў я тут і яшчэ аднаго свайго знаёмага, якога некалі бачыў у Попрадзе,— Ілью Галайду, што працуе выкладчыкам у адным са славацкіх універсітэтаў і піша па-ўкраінску — прозу і паэзію.

З Кошыцы мы ў дванаццаць гадзін накіраваліся ў Дуклінскую даліну, у горад Свіднік, цэнтр мясцовай акругі. Знаходзіцца ён ужо глыбока ў Карпатах, прынамсі, за 12 кіламетраў ад яго ўзвышаецца Дуклінскі перавал; сам горад Дукла тым часам размешчаны на польскай тэрыторыі.

У сорак чацвёртым годзе пачаліся цяжкія баі за Дуклінскі перавал. Шмат тут палегла савецкіх салдат. У адным Свідніку пахавана каля дзевяці тысяч, у чатырох магілах. Цяпер паміж іх стаіць помнік. Ужо зусім у вячэрнім сутонні мы ўсклалі да яго кветкі.

Непадалёку ад помніка збудаваны Музей Карпацка-Дуклінскай бітвы, з дыярамай, паказ якой пачынаецца з песні «Свяшчэнная вайна» па-руску і даволі аптымістычнай вайсковай песні па-чэшску.

Пры ўваходзе ў музей вылеплены словы: «Дукла — вароты свабоды».

Сапраўды, у Чэхаславакію Чырвоная Армія прабілася сумесна з корпусам генерала Людвіга Свободы праз Дуклінскі перавал.

Спярша па плану вярхоўнага камандавання намячалася, што нашы войскі рушаць у Чэхаславакію з Венгрыі і Польшчы, каб не наступаць праз горы. Але тут, у Карпатах, пачалося славацкае паўстанне, і Шмідке, Гусак і Навамескі, кіраўнікі паўстання, звярнуліся ў Маскву, каб Чырвоная Армія як найхутчэй прыйшла на дапамогу.

Баі на перавале ішлі зацятыя і доўгія, здаецца, толькі праз 90 дзён 38-й арміі генерала Маскаленкі ўдалося прарвацца ў даліну, заняць тут гарады і вёскі, якія за час паўстання на 98 % былі ўжо разбураны і спалены. Нямала загінула мірнага насельніцтва. У вёсцы Такаік, што недалёка, можа, кіламетраў за шэсць ад Свідніка, фашысты расстралялі 32 чалавекі — мужчын, сярод якіх былі падлеткі. На месцы іх пакарання (за сувязь з партызанамі) узведзены помнік — белая мармуровая жанчына; тут жа, ля яе ног, трыццаць дзве пліты; насупраць — Музей ахвяр фашызму, дзе прасочана гісторыя ўзнікнення фашызму і яго канец; у асобным пакойчыку дэманструецца фільм пра трагедыю ў Такаіку. Для кнігі водгукаў я напісаў тэкст: «Савецкія пісьменнікі нізка схіляюць галовы перад ахвярамі фашызму. Нам зразумела трагедыя славацкай вёскі Такаік, як трагедыя Хатыні, Лідзіцэ, Арадура і многіх, многіх іншых...»

Позна ўвечары адбылася сустрэча з мясцовымі літаратарамі — выкладчыкамі паўднёваславацкіх універсітэтаў, з паэтамі, празаікамі, перакладчыкамі. Паэты тут найбольш пішуць па-ўкраінску.

Высветлілася раптам, што яны адарваны ад украінскай літаратуры. Не маючы сваёй, нацыянальнай традыцыі (а мінула не больш 35 год, як тут пачалі пісаць па-ўкраінску), мясцовыя паэты наследуюць славацкім, чэшскім. У сувязі з гэтым пачалася спрэчка пра традыцыі і наватарства. Як заўсёды, паперадзе ўсіх была С. Ё., якую В. Бокаў нарэшце спыніў; тады пачалася цікавая гаворка пра паэзію ўвогуле, пра традыцыі і наватарства ў ёй. Выступілі ўсе нашы паэты. Мясцовыя саромеліся спярша, але паступова разварушыліся, сталі чытаць вершы.



Светлую частку сённяшняга дня заняла дарога з Кошыцы ў Свіднік. Вяла яна па даліне паміж гор. Дакладней, спярша абапал шашы ўзвышаліся звычайныя перадгор'і, ці, як рускія называюць, отроги гор; Карпаты пачаліся пазней, пакуль не абступілі ўсю Дуклінскую даліну.

Зямля тут прыгожая. Часам хацелася выйсці з аўтобуса, сесці пад гарою і надоўга сцішыцца.

Кажучы пра уніяцкі сабор у Празе, я думаў, што гэта, няйначай, адзіны такі храм у свеце. І вось дзіва — амаль у кожнай вёсцы, у кожным гарадку паўднёвай Славакії ёсць уніяцкія храмы. Праўда, зусім невялічкія, амаль мініяцюрныя, але праваслаўныя цэрквы тут таксама невялікіх памераў. Дзе-нідзе цэрквы, касцёлы і уніяцкія храмы стаяць побач, усё роўна як назнарок.

**26-е лістапада. Панядзелак.**

Пачаўся гэты дзень для нас прыёмам у раённым камітэце партыі.

Свідніцкі раён мае 42 тысячы жыхароў. Нацыянальны склад — у асноўным украінцы і славакі. Гэта раён, які прайшоў дынамічнае развіццё пасля 48-га года. У часе буржуазнай рэспублікі тут не было прамысловасці. Жыхары шукалі для пражыцця заробкі за граніцай. Адна пятая частка жыхароў выязджала адсюль.

Пасля вайны ў самім Свідніку былі збудаваны швейная фабрыка імя Партызана Налепкі, машынабудаўнічы завод, завод тэлефонных апаратаў...

У 1974 годзе нарэшце канчаткова створаны адзіныя сельскагаспадарчыя кааператывы.

На землях раёна іх цяпер 17. На палях у Дуклінскай даліне тутэйшыя сяляне высяваюць пшаніцу (26 ц з га), рэаку (на алей), азімы ячмень, жыта, авёс. На 100 га бульбы — 150 ц з га. Развіта мяса-малочная вытворчасць, шмат лугоў...

Аказваецца, прыгожы край, але небагатыя землі.

Сельскія жыхары, якія маюць у вёсках нават добрыя хаты, імкнуць цяпер у гарады...

Мы ўтраіх — В. Пальчынскайтэ, В. Сідараў і я — наведалі машынабудаўнічы завод па перапрацоўцы мясной прадукцыі. 800 рабочых, 400 вучняў ГПТВ. 100 вучняў заканчваюць вучылішча з атэстатам сталасці. Усяго 12 гадоў працуе завод. Але ў чатыры разы павялічылася ўжо за гэты час колькасць рабочых на заводзе. У 10 разоў вытворчасць. Прадукцыю вывозяць за граніцу. У тым ліку і ў Савецкі Саюз.

Рабочы атрымлівае прыкладна 2600 крон у месяц. Ёсць акрамя таго дадатковыя стымулы. Рабочыя іх ведаюць.

На 1990 год намечана павялічыць колькасць рабочых да 1300 чалавек.

Адсюль, ад Свідніка, недалёка ўжо Ужгарадская вобласць. Да Ужгарада — 130 кіламетраў.

На заводзе нямала цыганоў. Здаецца, 60 чалавек. Мы паразмаўлялі з адным. Яго завуць Петар Гунда.

Адкуль яны тут, гэтыя цыганы? Іван Горка, выкладчык універсітэта, які ездзіў на завод у якасці перакладчыка, расказаў, што пасля высялення ў 1944—45 гадах адсюль немцаў зямлю засялілі «розным народам».

Увечары сёння ўкраінцы і славакі спявалі прыгожыя песні. Спявалі мы ўсе.

**27-е лістапада.**

Са Свідніка едзем у Бардзеева. Гэта старажытны гарадок, мае шмат помнікаў. Недзе там, каля Бардзеева, працуе вядомы курорт з лячэбнымі водамі.

Але пакуль мы яшчэ не паехалі і ў мяне застаецца некалькі хвілін, прыгадаю ўчарашнюю паездку на Дуклінскі перавал.

Туды са Свідніка вядзе старажытная дарога. Прынамсі, па ёй некалі вярталіся з альпійскага паходу войскі Суворава, у 1804 годзе тут ратаваў рускую армію Кутузаў, у першую імперыялістычную вайну сюды дайшлі салдаты Брусілава...

Цяпер ад самага Свідніка да перавала дарога ўстаўлена помнікамі. Яны розныя — напрыклад, каля вёскі Макоўніца стаяць на нізкім пастаменце два танкі:

наш Т-34 і нямецкі «Пантэра». Наш сваім цяжарам прыціснуў перад «Пантэры», схіліў да зямлі гармату. На самай мяжы з Польшчай узвышаецца вежа на тым месцы, дзе ў сорак чацвёртым годзе знаходзіўся камандны пункт камандзіра чэхаславацкага корпуса Л. Свободы. На магілах чэхаславацкіх салдат (іх тут 500 чалавек) пастаўлены помнік у выглядзе гусіцкага баявога шчыта. Поле, адкуль наступалі на Макоўніцу нашы танкі, застаўлена скрозь Т-34, так, як яны звычайна хадзілі ў наступленне; «нямецкі бок» прадстаўляе адна 152-міліметровая гармата і адна бронемашына.

Раней у трох мясцінах у даліне знаходзіліся нямецкія могілкі. Двое — узараны. Пакінуты адны, але і тут без адзнак: проста кавалак абгароджанай зямлі...

Першы населены пункт, які быў вызвалены тады,— Верхні Камарнік. Але найбольш моцныя баі ішлі за вёску Ніжні Камарнік, абапал якой на схілах вяршынь знаходзіліся пазіцыі падраздзяленняў 38-й арміі і немцаў.

Дзіўна, але драўляныя цэрквы і ў Верхнім Камарніку, і ў Ніжнім засталіся ў час баёў некранутыя. На маёй зямлі такога звычайна не здаралася, гэтакае і ўявіць сабе немагчыма. І «нашы», і «немцы» заўсёды білі па званіцах, нават калі там нікога і не было: дзеля бяспекі...

З намі на Дуклінскі перавал ездзіў палкоўнік Міхаіл Сабадош, удзельнік баёў сорак чацвёртага года; цяпер ён пісьменнік, жыве ў Кошыцы, напісаў кнігі: «Парашуты над Карпатамі», «На франтавых дарогах», «Я шукаю бацьку»...

Ад вёскі Капішава, якая налічвала 80 дамоў, за час баёў засталося ўсяго 11.

Мы падняліся на ліфце на вежу, ператвораную цяпер у мясцовы музей, але нічога не ўбачылі: на зямлі абапал граніцы стаяў густы туман.

А ўвогуле Дуклінскую даліну ў Славакіі называюць далінай смерці.

Я ўжо, здаецца, казаў, што чэхаў і славакаў тут загінула 6,5 тысячы; немцаў — 17 тысяч. Тым часам савецкіх салдат толькі ў адным Свідніку пахавана каля 10 тысяч.

Відаць, да паездкі на Дуклінскі перавал давядзецца яшчэ звяртацца, таму прыгадаю нарэшце збольшага наведанне горада Бардзеева. Цэнтральная плошча, на якой стаяць старая гарадская ратуша і касцёл, завецца тут плошчай Вызваліцеляў. З усіх бакоў яе абступаюць дамы, дакладней, домікі рознай пафарбоўкі, але пастаўлены яны адзін да аднаго ў самы прытык, так, што няма нават маленькага прасвету паміж. Дагэтуль мне даводзілася бачыць такое толькі на дзіцячых малюнках.

Мясцовыя людзі з усмешкай расказваюць пра сваю гарадскую ратушу, праўдзівей, пра тое, як будавалася яна. Здаецца, арандатар-будаўнік перавыдаткаваў грошы, якія выдалі яму гарадскія ўлады на будаўніцтва. Выйшаў у канфлікт. Дадаваць сродкі гарадскія ўлады не хацелі. Тады архітэктар-будаўнік сказаў: «Але дазваляеце ўсё-ткі збудаваць дах?» Яму дазволілі. І ён на даху паставіў мармуровага чалавека, які, зняўшы штаны, «адказвае» гарадскім мужам...

Дарэчы, горад гэты меў некалі нават свайго ката. Бо не кожнаму гораду была дазволена такая раскоша!

Выдатны курорт «Бардзееў». Насупраць старога будынка, які застаўся, няйначай, яшчэ з мінулага стагоддзя, пастаўлены помнік каралеве Альжбеце (Елізавеце) Аўстрыйскай, жонцы Франца-Іосіфа. Вельмі прыгожая і мілая жанчына ўвасоблена ў скульптуры.

Закончыўся дзень у Прэшаве, горадзе, які размешчаны на дарозе паміж Бардзеевам і Кошыцай. Тут адбыўся вечар на педагагічным факультэце Кошыцкага універсітэта. Як і ў пражскім Карлавым універсітэце, тут некаторыя факультэты вынесены ў іншыя гарады.

Прэшава — чацвёрты па велічыні горад усходняй Славакіі. Жыве ў ім каля 80 тысяч жыхароў. Гэты горад таксама рыхтуецца стаць горадам-запаведнікам, бо ў ім многа гістарычных помнікаў.

**28-е лістапада.**

Сёння выдалася сонечная раніца. Дарма што ўчора амаль увесь дзень імжыла — ні дождж, ні туман.

Дарога на Кошыцу з Прэшава ўжо знаёмая. Па ёй мы ехалі ў Свіднік, у Дуклінскую даліну.



Ехалі ў аўтобусе на адной лаўцы з Душанам Слабоднікам, які ўвесь час знаходжання ў Славакіі суправаджае дэлегацыю.

Гаворка ішла пра беларускую літаратуру — уласна кажучы, Душан браў інтэрв'ю для славацкай газеты «Праўда». Аднак адной беларускай літаратурай у гаворцы гэтай мы не абыходзіліся — рабілі выхады і на славацкую, і на чэшскую, прыгадваючы, вядома, даволі часта рускую.

У Кошыцы сустрэча з «русістамі» — краёвае таварыства дружбы з Савецкім Саюзам наладжвае семінар. Відаць, нешта падобнае было калісь у Попрадзе. А пакуль мы з аўтобуса зайшлі ў кабінет першага сакратара абласнога аддзялення ЧСД, п'ем баравічку і абмяньваемся афіцыйнымі тостамі.

Абед даваў сакратар абласнога камітэта на загараднай дачы. Адтуль аўтобусам мы прыехалі ў аэрапорт і вылецелі ў Браціславу.

Штосьці хочацца ўспомніць яшчэ з таго дня, калі аглядалі Дуклінскі перавал, але не магу: няйначай, моцна адчуваецца ўжо стомленасць...

У Браціславу з намі вярнуўся толькі Душан Слабоднік. Свіднікаўскія, бардзееўскія літаратары засталіся ў Кошыцы. Але на абедзе на дачы абкома быў Андрычак, які збіраецца перакласці на славацкую мову Купалу і Коласа. Дагэтуль даваўся бачыць яго толькі ў Свідніку. Здаецца, ён ужо перакладаў некаторых нашых пісьменнікаў.

З маладых украінскіх паэтаў, што жывуць у паўднёваславацкай вобласці, запомнілася Марыя Няхай, якую самі паэты, г. зн. мясцовыя таварышы, завуць Нехаёва, і Сцяпан Гасцінек.

Запомнілася і яшчэ адна Марыя — Марыя Чорная, славачка, студэнтка педфака Кошыцкага універсітэта. Спытала: «Гэта не вы пісалі «Плач перапёлкі»?» — і засвяцілася тварам. «Я ўсе вашы раманы ведаю». Але пагаварыць нам не ўдалося, дарма, што сядзела яна за сталом насупраць — увесь час да яе «прыставалі» нашы «старыя» на чале з В. Бокавым, які можа быць даволі гжэчным, нягледзячы на свае амаль семдзесят гадоў.

**29-е лістапада. Браціслава.**

Час праходзіць — дзень за днём, мінае ноч за ноччу; сёння ўжо два тыдні, як у дарозе.

Ці хочацца ў Мінск?

Здаецца, не.

А вось калі б недзе на мяжы Беларусі апынуцца, то было б якраз і па жаданню, і па імкненню.

Хай бы хутчэй настаў і прайшоў сёлетні снежань, а тым часам і гэты год, увогуле пастылы. Ах, каб можна было на ўсё паскардзіцца!..

Учора ў аэрапорце нас сустракаў старшыня Славацкага саюза пісьменнікаў Ян Саловіч, вядомы драматург, п'есы якога ішлі і ў нас, у Беларусі (здаецца, у Магілёве). Пасялілі нас у гасцініцы «Кіеў». Я ўжо не першы раз спыняюся ў гэтай гасцініцы. Прынамсі, усё тут ведаю, таму паводжу сябе даволі свабодна; ведаю я і горад Браціславу, таму не надта імкнуся на вуліцы. Між тым, а палавіне дзесятай нас вядуць на гару Славін.

Думалася, што «перабірацца» з Браціславы ў Прагу будзем самалётам, але не, паедзем цягнікам, бо ўранні тут закрываюць зямлю густыя туманы...

Сёння таксама быў туманны світанак.

Ян Саловіч на сустрэчы ў СП сказаў: вылічальная машына па просьбе Міністэрства культуры Славакіі падрыхтавала дадзеныя па тэатральным жыцці рэспублікі; першае месца занялі ў рэпертуары тэатраў творы сучасных савецкіх пісьменнікаў; затым — сучасных славацкіх; на трэцім месцы класіка руская, савецкая і славацкая; на чацвёртым — сусветная класіка (Шэкспір і інш.); на пятым — п'есы сучасных заходніх аўтараў, г. зн. аўтараў з капіталістычных краін.

Я ўжо адзначаў, што Саловіч — драматург, ну а мы, пісьменнікі, заўсёды «свой» жанр высоўваем наперад... (Але супастаўленне рэпертуару цікавае.)

На гэтай сустрэчы выступілі Ян Фелічак (у Славакіі тры добрыя перакладчыкі з беларускай мовы), Душан Слабоднік, галоўны рэдактар выдавецтва «Славацкі пісьменнік» Уладзімір Дудаш.

Я не чакаў, але раптам мяне паклікалі ў другі пакой — там працавалі тэлевізійнікі. Аказваецца, перад тым як пачацца гэтай сустрэчы, Уладзімір Дудаш гаварыў у іх, назваўшы сярод іншых і мяне — нібыта рыхтуецца да выдання мой раман. Гэтак вось і была абумоўлена неспадзяваная цікавасць да мяне славацкага тэлебачання. У выніку я таксама забраў у іх дзве хвіліны часу для размовы.

Абедалі мы ў міністра культуры Славакіі Мірaслава Валека, вядомага нацыянальнага паэта, кнігу якога пераклаў на беларускую мову Пятрусь Макаль.

У доме чэхаславацка-савецкай дружбы затым сабралася нямала знаёмых, у тым ліку і Мілаш Крно, выдатны славацкі празаік і перакладчык; некалі ён прасіў, каб я прыслаў яму свае кнігі, але зрабіць гэтага не паспеў; ён пацікавіўся, чаму не было кніг. Мілаш прыемны чалавек — тактоўны, разумны, умее быць надзвычай уважлівы да чалавека. Дарэчы, тут, у доме Дружбы, я атрымаў першае віншаванне з 50-годдзем: сакратар паднёс кветкі і адмысловы гарлачык.

Закончыўся дзень у карчме на Лімбеха, за дваццаць пяць кіламетраў ад Браціславы. Уласна кажучы, гэта і было заключэнне Дзён літаратуры. Заўтра — так званы вольны дзень.

Такім чынам, мне засталося не так багата пісаць, хаця ёсць жаданне яшчэ пагаварыць трохі пра чэшскую і славацкую літаратуру. Якраз тое жаданне, той намер, якія не былі ажыццёўлены мінулы раз. Цікава, ці знойдзецца часу і трываласці на такую карысную справу гэты раз?

**30-е лістапада.**

Шкада, што нам давядзецца ехаць з Браціславы ў Прагу цягніком. Няйначай, у вагоне будзе холадна, да таго ж, спаць не прыйдзецца — гэта заўсёды так: якая б ні была доўгая дарога, але пад грукат колаў цяжка сціпшыцца.

Я ўжо казаў, што Душан Слабоднік па дарозе з Прэшава ў Кошыцу «браў» у мяне інтэрв'ю пра нашу літаратуру, абяцаў паказаць канчатковы тэкст яшчэ да ад'езду, але раптам сказаў, што не паспеў зрабіць. Чалавек ён, канечне, заняты, таму вінаватасць зразумелая.

Надвор'е ў Браціславе ўвесь час было, можна сказаць, спагадлівае: уранні туман звычайна хутка рассейваўся, бралася на лёгкі мароз...

Між тым, спахапіўся цяпер, што не кінуў у Дунай манету, бо так заўсёды раблю, як бываю ў Браціславе. Ды і не толькі тут. Кідаю манеты ў ваду — у мора, у акіян, у раку, у звычайнае вадасховішча... Кажуць, ёсць прыкмета — тады зноў вернешся сюды.

Я ўсё чакаў, што недзе аб'явіцца Андрэй Марушыяк. Але яго няма ў Браціславе. Затое пазнаёміўся з ягоным братам, Ёзафам, які працуе ў выдавецтве «Славацкі пісьменнік».

Дарэчы, адна згадка. Сёння мне нарэшце растлумачылі — каралева Альжбета, помнік якой стаіць на бардзееўскім курорце, не проста жонка нейкага караля; яна сама царавала.

**1-е снежня. Субота.**

Мы адлятаем з Прагі. А дагэтуль усю ноч ехалі цягніком з Браціславы.

Аднойчы ўжо ехаў я гэтым цягніком. Але тады было ўначы холадна, у няшчыльныя вокны дзьмуў вецер. Сёння ў купэ стаяла духата. Нават уранні на градусніку, які вісеў над столікам-мыцельнікам, было трыццаць па Цэльсію. Гадзіны паўтары мы паблукалі з Віктарам Бокавым па ранішняй Празе. Купілі па тры кавалкі мыла «Чорны дыпламат».

Ултава манеты ад мяне таксама не дачакалася.

Няўжо-ткі праўдай абернецца прыкмета і я больш не траплю на гэтую цудоўную зямлю?..

**1984 г.**



# «ОТТОРЖЕННАЯ ВОЗВРАТИХЪ»

**АМАЛЬ НАВЕЛА**

Напісана ў сувязі з выхадам у свет «Статута Вялікага княства Літоўскага»

Да 400-годдзя яго выдання (1588—1988)




Першы найбольш поўны і сістэматызаваны збор законаў у Вялікім княстве Літоўскім, які атрымаў назву Статут, з'явіўся на пачатку шаснаццатага стагоддзя і быў уведзены ў дзеянне на ўсёй тэрыторыі княства — а тады, як вядома, у гэтую адну з магутнейшых і ўсебакова развітых дзяржаў Еўропы ўваходзілі землі цяперашніх Літвы (Жмудзі), Беларусі, а таксама значная частка Украіны — у 1529 годзе. Хоць у той час і пашыралася кнігадрукаванне, у тым ліку і на беларускай мове,— вялікі асветнік і гуманіст сярэднявечча доктар Францыск Скарына «из славного града Полоцька» выдаў у Празе Чэшскай 23 кнігі Бібліі (1517—1520), а потым, вярнуўшыся на Радзіму, арганізаваў у Вільні друкарню — тым не менш першая рэдакцыя Статута распаўсюджвалася рукапісна. Такі самы лёс напаткаў і другую, значна папраўленую рэдакцыю Статута (1566). І толькі трэцяя, самая дасканалая з усіх рэдакцыя была надрукавана і выйшла асобным выданнем у 1588 годзе — гэта здзейснілі паслядоўнікі Ф. Скарыны Мамонічы, якія атрымалі ў 1586 годзе каралеўскі прывілей на манапольнае права выдання кірылічных кніг на «рускай» (беларускай) і царкоўнаславянскай мовах і займелі ў Вільні — сталіцы княства — сваю друкарню. Менавіта гэтая рэдакцыя Статута атрымала прызнанне і вялікую папулярнасць ва ўсім свеце, бо на тыя часы нічога падобнага ні

 

ў адной краіне яшчэ не было. Не дзіўна: «Статут Вялікага княства Літоўскага» неўзабаве бяруцца перакладаць на многія мовы і карыстацца ім у сваіх краінах як сваім. Каштоўнасці Статут не страціў і сёння. Ён не толькі выдатны помнік прававой культуры і юрыдычнай думкі феадальнага грамадства, але і выдатны помнік беларускага пісьмовага слова. У той час, калі ствараўся Статут, беларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. На ёй вялася ўся афіцыйная перапіска, размаўлялі ў войску і на службе, праводзіліся соймы, суды і самыя розныя перамовы. Таму вельмі натуральна гучыць у Статуце патрабаванне (чацвёрты раздзел, артыкул першы), каб не толькі суд, але і ўсе іншыя справы і паперы, звязаныя з судовымі працэсамі, вяліся на той самай мове, на якой напісаны Статут: «А писар земский маеть по-руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы».

Люблінская унія (1569) аб'яднала ў адну дзяржаву Карону Польскую і Вялікае княства Літоўскае. Аднак на становішча беларускай мовы ў княстве на першым часе гэта не паўплывала, бо беларуская мова не шкодзіла збліжэнню польскага народа з усімі народамі, якія насялялі Вялікае княства Літоўскае. Наадварот, дапамагала гэтаму, бо была, гаворачы словамі А. Міцкевіча, «цудоўна распрацавана» і куды больш зразумелая ўсім, чым мёртвая латынь, якая панавала тады ў Польшчы. Беларуская мова дапамагла Кароне падняць польскую мову на ўзровень афіцыйнай, дзяржаўнай, польская мова якраз з беларускай узяла многае, што наша паспела ўжо засвоіць і пісьмова замацаваць. Таму садзейнічалі многія фактары. Сярод іх не апошняе месца займалі і пераклады Статута на польскую мову. Першы такі пераклад быў зроблены неўзабаве пасля выдання Статута па-беларуску друкам Мамонічаў. Але ён, гэты пераклад, быў далёкі ад дасканаласці. Таму былі зроблены новыя пераклады і выдадзены ў той самай друкарні Мамонічаў у 1614 і ў 1619 гадах.

Люблінская, а потым Брэсцкая (1595) уніі садзейнічалі пранікненню ўсяго польскага ў Вялікае княства Літоўскае. Бясконцыя войны, што вяла Рэч Паспалітая, а значыцца, і Вялікае княства Літоўскае з Масковіяй, прывялі да занепаду княства, страты незалежнасці і самастойнасці. Асабліва страшныя былі 1648—1654 гады, калі ў княстве бушавалі паўстанні, вяліся казацкія войны і войны з Швецыяй і Расіяй. Дастаткова сказаць, што насельніцтва княства за гэтыя гады скарацілася амаль у два разы. Былі разбураны амаль усе гарады, знішчаны тысячы вёсак, паселішчаў. Гетман Вялікага княства Літоўскага Януш Радзівіл зрабіў спробу вырвацца з-пад польскай апекі, парваць уніі з Каронай і прылучыць княства да Швецыі. Аднак з гэтага нічога не выйшла, усё скончылася няўдачай. Заключыўшы Андрусаўскі мір (1667) з Расіяй і падзяліўшы між сабою зоны ўплыву, Польшча пачала жахлівую паланізацыю Беларусі: адмяняліся многія прывілеі, зачыняліся праваслаўныя цэрквы, будаваліся касцёлы. Шляхта, каб не трапіць у няміласць, выракалася сваёй спрадвечнай веры і пераходзіла ў каталіцызм. Тых жа, хто гэта не рабіў, заганялі сілаю ці аб'яўлялі ледзь не ворагамі. Урэшце, кароль Фрыдрых Аўгуст у канцы 1698 — пачатку 1699 г. аддаў Універсал, у якім гаварылася, што ў далейшым «у справах і пасольствах Рэчы Паспалітай мы... абяцаем выдаваць усе лісты, справы і публічныя легацыі толькі на мове польскай і лацінскай, а не іншай». Гэта значыла: беларуская мова робіцца непажаданай ва ўсіх урадавых установах, у справаводстве і перапісцы... Але Статут Вялікага княства Літоўскага, нягледзячы на Універсал караля, прадаўжаў дзейнічаць на ўсёй тэрыторыі княства, ніхто яго не адмяняў. Відаць, проста не было чым яго замяніць — не існавала ж тады іншых, больш дасканалых і сістэматызаваных збораў законаў, якія б дазвалялі хутка і кваліфікавана разбіраць самыя розныя правапарушэнні. А значыцца, у судах ніхто не адмяняў і артыкул першы чацвёртага раздзела.

У 1772 годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай і частка беларускіх земляў, што ўваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае, «со всеми их городами, крепостьми, деревнями и реками, со всеми вассалами, поддаными и жителями» адышла «беспрекословно и бесповоротно в вечное владение его величества императрицы всероссийской» Екацярыны II «и ее наследникам и преемникам обоего пола». У сваім Наказе губернатарам, што былі прызначаны ў новыя, толькі што ўтвораныя губерні Расійскай імперыі, імператрыца Екацярына II пісала, што «первое ваше попечение будет о сохранении тишины и спокойствия общего и особенного в сих провинциях, и для того... Вы всячески стараться будете, чтоб с вступлением новых провинций под скипетр наш в оных пресеклись всякие угнетения, притеснения, несправедливости, разбои, смертоубийства, а в исследовании дел мерзкие пытки, обвиняющие невинного как виноватого, и всякие суровые казни и наказания, одним словом: мы желаем, чтоб не токмо сии провинции силою оружия были нам покорены, но чтоб все сердца людей, в оных живущих добрым, порядочным правосудным, снисходительным, кротким и человеколюбивым управлением Российской империи присвоили, дабы они сами причину имели почитать отторжение свое от анархии республики Польской за первый шаг к их благоденствию...» «Мы уже единожды навсегда во всей Российской империи за правило постановили, что в толь великом государстве, распространяющем свое владение над толь многими разными народами, весьма бы вредный для спокойства и безопасности своих граждан был порок, запрещение или недозволение их различных вер...» І таму дазволена было, каб «суд и расправа внутренние тех провинций, в личных делах, имеют производиться по их законам и обыкновениям, и их языком, во всех тех случаях, кои не дотрагиваются до власти нашей...» («Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі», Мн., 1940, т. 2, с. 5—7.)

У сваіх пісьмах, якія імператрыца пісала даволі часта Пацёмкіну, яна не скупілася на парады: «1789 г. V. 31 ... Поляки успокоятся и жалеть будут, когда увидят, что не чрез Польшу, а мимо их все везем и свою дорогу имеем; накажи их тем, чтоб не купить у них ничего...; 1789 г., XI. 25 ... Пруссаков мы ласкаем; касательно Польши, сие нужно сообразить с другими делами и настоящим нашим положением, чтобы каши не заварить более теперешнего... После мира и белоруссов прибрать можно...; 1789 г., XII. 2. Друг мой сердечный, князь Григорий Александрович. Писала я к тебе с последним курьером, что план твой о Польше требует разных соображений... тебе скажу, что план твой весьма хорош и желательно, чтоб обстоятельства способствовали произведению его в действо... Касательно Белоруссии и прекращения унии твои примечания ровно основательны, и оные исподволь производить нужно...; 1790 г., VIII. 9. ... Пруссак паки заговаривает полякам, чтоб ему уступили Данциг и Торун, сей раз, на наш счет, лаская их, им отдать Белоруссию и Киев...» (Тамсама, с. 18—19.)

Хто толькі не гандляваў Беларуссю! І вось зноў хацелі пагандляваць. Праўда, гэты раз не ўдалося, бо адбылося новае далучэнне беларускіх земляў да Расійскай імперыі — так званы другі падзел Польшчы...

На толькі што далучаных да Расійскай імперыі землях выбухнула паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі... Яно было падаўлена, між іншым, А. В. Суворавым... І паляцелі новыя парады, як лепш кіраваць на далучаных да Расіі землях: «Опыты прошедшего времени доказали, что помышлять сделать для себя друзьями поляков, и особливо после раздела 1793 года, есть вещь невозможная... К управлению... выбраны не такие люди, кои могли бы дать возможность российскому правительству» супакоіца. «В старину не так делали. Когда хотели, чтоб Малая Россия обрусела и привыкала к соединению, то после гетмана Апостола сделано было верховное правление, в котором членами посажены не руссапеты и тому подобные, но генерал-поручик князь Шаховский, генерал-майор князь Барятинский и гвардии майор Шипов, да трое из тамошних генеральных старшин, в трибунал — один бригадир и два полковника вместе с тамошними чинами. От сего выходило взаимное уважение; а в Литве, правду сказать, есть много людей гораздо починовнее, чем тогда в Малой России были. Тут вся надежда, что ваши добродетели дополнят недостаток, и что вы особою своею заставите их любить российскую власть и правление. Я согласен с мыслями вашего сиятельства, что в новых областях не только права, но даже и обряды добрые должно оставлять неприкосновенными. Люди к старому очень привязаны. Всякая подать меньше для них тягостна, чем потеря того, что они за привилеи свои почитали. Власть самодержавная будет в полной силе и святости с Литовским статутом столько же, сколько же и с Уложением, ни нравам, ни времени несообразным. Искать педантически единообразия была бы такая же химера, как предполагать и равенство между людьми. Всякая претензия имеет место для себя особливое в моральном или физическом отношении, для сего то я настоял и при разделе 1793 года, чтоб жителям тамошним оставлены были их права и привилеи; да, я думаю, тоже сохранится и при новом разделе...» (Пісьмо князя Безбародкі да князя Рэпніна. Тамсама, с. 29—30.)

У 1795 годзе адбыўся трэці падзел Польшчы... На радасці імператрыца Екацярына II пачала раздаваць маёнткі і сялян рускім прыгоннікам — генерал-фельдмаршалу графу П. А. Румянцаву-Задунайскаму, генерал-фельдмаршалу графу А. В. Суворову-Рымнікскаму, генерал-фельдцэхмейстару графу П. А. Зубаву, генерал-маёру М. Ланскаму. У знак асаблівай сваёй павагі некаторыя маёнткі яна павяртала магнатам Польшчы, Літвы і Беларусі, напрыклад, князю Станіславу Панятоўскаму, графу Міхалу Мнішаку, графу Тышкевічу, былому гетману Агінскаму, княгіні Любамірскай... А «для ско-

 

 

рейшего и удобнейшего доставления всем, сколь правосудия, столь благоденствия, а через то утверждения порядка, Великое княжество Литовское» раздзелена было на тры губерні, «коих присутствующие места суть в Вильне, Гродне и Ковне». Выпусціла імператрыца з выпадку далучэння беларускіх земляў да Расіі медаль, на якім было напісана «Отторженная возвратихъ», і, як тады казалі, «почила в бозе».

Напалеон Банапарт, уварваўшыся ў Расію, аддаў загад аб аднаўленні Вялікага княства Літоўскага, назначыўшы ім кіраваць барона Біньёна і ўключыўшы ў склад княства губерні Віленскую, Гродзенскую, Мінскую і Беластоцкую...

Вайна 1812 года, рабункі войск і непамерныя паборы давялі некалі квітнеючы край да галечы. Вось што пісаў у сваёй запісцы адзін з генерал-губернатараў: «С крайним сожалением должно сознаться, что сие губернии ныне находятся в совершенном упадке и принадлежат к беднейшим в государстве». Сярод прычын, якія прывялі беларускія губерні да такога стану і занепаду, ён называе неўраджаі 1818, 1820—22 гадоў, аслабленне гандлю, абцяжарванне земскаю павіннасцю, падаткі, звязаныя з неабходнасцю ўтрымання вялікай колькасці войска, дрэннае кіраўніцтва краем, пасылка сялян на працу ў расійскія губерні і г. д.

У 1826 г. у Беларусь упершыню «прибыл» М. М. Мураўёў, названы потым Вешальнікам. У 1828 г. яго прызначаюць генерал-губернатарам у Магілёў. Прыехаўшы туды, ён з жахам даведаўся, што ў даручанай яму губерні ўсё яшчэ ў судах карыстаюцца нейкім невядомым яму Статутам Вялікага княства Літоўскага і беларускай мовай. Які непарадак! І М. М. Мураўёў піша адну за адной свае Запіскі з прапановамі ў «інстанцыі» адносна ўладкавання спраў і навядзення парадку ў губерні. Вядома, не забывае ён і пра Статут, беларускую мову. На адной з Запісак, якая трапіла на вочы цару-імператару Мікалаю І, накладваецца рэзалюцыя «памазаніка божага» такога зместу: «Иметь ввиду для постепенного исполнения». У Запісцы ж Мураўёва гаварылася «о способах сближения Белорусского края с Россиею». Сярод прапанаваных М. М. Мураўёвым мер (прызначэннем на галоўнейшыя пасады ў губерні рускіх вернападданых чыноўнікаў, павышэннем ім «содержания», г. зн. акладаў, забаронай уніяцкай царквы і інш.) былі і такія:

«1. Введение русского языка в производство вообще дел по судебным и правительственным местам. Заменение польских названий мест и должностных лиц русскими наименованиями.

2. Отмена Литовского статута и восстановление действия российских узаконений по всем частям управления...» (Тамсама, с. 331.)

А вось новыя прапановы так званага Заходняга камітэта (1832 г.), якія былі зроблены паводле Запіскі таго М. М. Мураўёва, якую ён паслаў з Гродна, куды, навёўшы парадак на Магілёўшчыне, быў пасланы таксама «наводзіць парадак»:

«1) Введение во всех судебных и правительственных местах производства дел на русском языке.

2) Введение на том же основании русского языка в производстве акторатовых дел и в записе и совершении разных актов, в суде являемых.

3) Отмену всех постановлений, дозволяющих вмешивать в уголовные и следственные дела литовские законы...» (Тамсама, с. 359.)

У 1840 годзе паступае Указ цара Сенату «О распространении силы и действия Российских гражданских законов на все Западные, возвращенные от Польши области», у якім, у прыватнасці, гаварылася: «...Мы признали за благо распространить вполне силу и действие Российских гражданских законов на сии издревле русския по происхождению, нравам и навыкам их жителей области. Вследствие того повелеваем:

1) Отныне впредь в губерниях Киевской, Подольской, Волынской, Минской, Виленской и Гродненской и в области Белостокской всякое действие Статута или в дополнение к оному изданных сеймовых конституций и иных постановлений прекратить, заменив их общими российскими узаконениями и наблюдая как в решении дел по существу оных, так и в образе и формах производства оных и разделении между присутственными местами тот самый порядок, который учрежден для прочих внутренних областей империи... Со времени обнародования и получения каждым присутственным местом сего указа нашего, все дела... производить на русском языке, по определенным для каждого рода дел общими законами империи формам, равным образом, и с того же времени, все вообще акты и документы, какого бы рода и наименования оные не были, писать на русском языке по правилам и образцам, в общем своде законов Российской империи установленным...» (Тамсама, с. 368.)

І каб забыць зусім, што было калісьці Вялікае княства Літоўскае, што там былі свае законы, паводле якіх жылі стагоддзямі людзі, была свая мова, тады ж, у тым самым 1840 годзе, з'явіўся новы Указ Сената «по высочайшему повелению» імператара Мікалая І не ўжываць больш зусім назваў Беларусь і Літва. Вось ён, той Указ: «Правительствующий Сенат слушали предложение управляющего министерством юстиции, что управляющий делами Комитета Министров, по поручению оного отношением от 26 минувшего июня, сообщил ему, что по случаю внесения по высочайшему предписанию проекта указа, в котором упоминались губернии Белорусские и Литовские под сими наименованиями, государь император, зачеркнув название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с поименованием губерний, каждой отдельно Витебскою, Могилевскою, Виленскою и Гродненскою; при чем последовало собственноручное высочайшее повеление: **«Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая, как поименно губернии».** О таковом высочайшем повелении он управляющий министерством Юстиции предлагает Правительствующему Сенату». (Тамсама, с. 369.)

Словам, з Вялікім княствам Літоўскім, яго Статутам, мовай «дело благополучно было покончено»...

Барыс САЧАНКА



# «НА МЯЖЫ НЕВЫМОЎНАГА»

**Алесь РАЗАНАЎ. Вастрыё стралы. Мн.: Маст. літ., 1988.**

«...Але гэта мая дарога: яна рухаецца, яна разважае, яна размаўляе, яна ўдакладняе маю хаду»,— і ў новай кнізе, як у папярэдніх, нібы пераконваючы нябачнага апанента, даводзіць, сцвярджае Алесь Разанаў. Пераконвае ў тым, што, здавалася б, не падлягае сумненню,— у неабходнасці для паэта свайго адметнага шляху, арыгінальнай канцэпцыі свету, наватарства формы... У тэорыі, вядома, гэтага ніхто не аспрэчвае, а на практыцы...

Шлях паэта не толькі яго апанентамі іранічна вызначаецца як «сцежкі залом і звіх», але і прыхільнікамі часам успрымаецца як цікавае «адхіленне» ад магістральнай лініі беларускай паэзіі. Ды час паварочвае ўсё па-свойму, і вось «бакавы», «запасны» шлях паступова ператвараецца ў адзін з цэнтральных. I не толькі таму, што да яго паварочваюць маладыя паэты 80-х — А. Мінкін, А. Сыс, А. Глобус, В. Куртаніч, У. Арлоў, які нядаўна выступіў з вершамі ў прозе... Галоўнае тое, што, здавалася б, далекаватыя ад надзённых патрэб адцягнена-філасофскія вобразы, быційныя праблемы, універсальныя духоўныя калізіі, якія складаюць сутнасць паэзіі Разанава, становяцца на дзіва актуальнымі, неабходнымі. Бо чалавек, доўгія гады асуджаны на панылае сацыяльна-прагматычнае бытаванне, з сацыяльных догмаў, комплексаў, ілюзій сёння літаральна рвануўся да грамадзянскага і светапоглядна-духоўнага самавызначэння, самавыяўлення. Да сябе — сапраўднага. Яго ўжо не задавальняе ў паэзіі не толькі паверхоўна-ідылічны гладкапіс і дзяжурныя лозунгі, але ў чымсьці і вострападзённая публіцыстычнасць, бо, шукаючы, адкрываючы праўду гістарычную і сацыяльную, ён непазбежна «дабіраецца» і да праўды быційнай — да спрадвечных пытанняў сэнсу чалавечага жыцця перад сусветам і вечнасцю.

Без самаўсведамлення і ўсведамлення сябе ў свеце, без унутранага, духоўнага разняволення чалавека і сацыяльная свабода будзе, кажучы словамі паэта, свабодай, «дакуль дазваляе ланцуг».

Герой паэзіі Разанава — у пошуку духоўнай свабоды, «каардынат быцця», у святле абсалютных катэгорый; гэта чалавек «касмічны», але не ў сэнсе палётаў у космас, а ў сэнсе пакутнага і вечнага імкнення да духоўнай вышыні, неабсяжнасці, уз'яднанасці з прыродай і сусветам.

> Мы аддзіраем сябе ад зямлі.
> Мы ацярушваем ад глухаты свой слых, адтуляем ад слепаты свой зрок, з няўцямнасці выплаўляем сваё разуменне.
> Гэта—паўстанне.



> Насупраць нас—неабсяжнасць.
> Цяжар вызвалення распраставае нашы паставы.
> Мы становімся тым, кім яшчэ не былі.
> Спрадвечныя зоры вандруюць праз нашы лёсы.

Адраджэнне ў паэзіі цэласнага, анталагічнага ўспрыняцця свету і чалавека ўздымае новыя быційныя, маральныя, экалагічныя праблемы і супярэчнасці. Найперш супярэчнасць паміж першароднай адкрытасцю чалавека сусвету, неаддзельнасцю ад яго, пранізанасцю касмічнымі рытмамі, хвалямі, токамі («Сэрца сусвету б'ецца ўва мне»)— і недарэчным, баязлівым імкненнем сучаснай тэхнагеннай цывілізацыі адгарадзіцца ад сусвету, схавацца, засланіцца, абараніцца машынамі, механізмамі, сценамі, догмамі, звычкамі, бытам...

> Нам боязна,
> нам неспакойна,
> мы яшчэ шчыльней прыпадаем да зямлі,
> яшчэ мацней учапляемся ў нашы занятк і рэчы
> і не адважваемся паглядзець вышэй за сябе
> і зразумець, што ратунак перашкаджае...
> А сонца расхіствае нашы дні,
> а зоркі ўрываюцца ў нашы развагі,
> а перуны заглушаюць нашу размову...

У прытчавай форме ўвасабляе паэт думку аб трагічнай супярэчнасці, раздвоенасці, дысгармоніі жыцця чалавека, які, усёй душой імкнучыся да свабоды, акружае сябе абаронай-няволяй — «сценамі», бо «яшчэ здольны пакутаваць» і «яшчэ не здольны не пакутаваць» (версэт «Сцены»), які адгароджвае сябе ад жывой прыроды пасткамі — і сам трапляе ў іх (версэт «Ласткі»), ашчаджае сябе ад усіх выпадковасцей быцця — і тым самым адасабляе сябе ад быцця, асуджае на нябыт («Прыкметы»).

Унутранаму, глыбіннаму ўзгадненню чалавека са светам, прыродай перашкаджаюць знешнія атрыбуты — «шыльдачкі», якія засланяюць сабой сапраўдную сутнасць чалавека і «сапраўдныя існасці свету», заглушаюць іх «галасы і пісьмёны» (версэт «Шыльдачкі»). Вочы чалавеку завязваюць павязкай-плеўкай, каб ён мог бачыць у яркім сонечным святле, і даюць у рукі ліхтар — каб мог бачыць у цемры. I ён так і не спазнае, штó ёсць святло і штó цемра, хоць запаветнае яго жаданне — «глядзець проста», «і бачыць светлае светлым, // і бачыць цёмнае цёмным, // праўдзівым — праўдзівае, // крывое — крывым...».

Аднак парадокс яшчэ і ў тым, што «простая», «праўдзівая» існасць і цэласнасць чалавека і свету — гэта няпростае, поўнае драматызму адзінства процілегласцей, супярэчнасцей, дзе нельга аддзяліць слодыч ад горычы, рай ад пекла, дзе, прымаючы перамогу, трэба рыхтавацца да паражэння, дзе набытак вяшчуе страту і дзе немагчыма «ўтуліцца» ў адну — шчаслівую, светлую — палову жыцця. У гэтым — унутраная, глыбінная абумоўленасць знешне парадаксальных, алагічных пачуццяў, думак, учынкаў разанаўскага лірычнага героя, сатканага з супярэчнасцей, непрадбачанасцей, антыномій.

> ...Знаходжу выйсце ў бязвыйсці.
> Пакуль не шукаю ратунку, не маю страты.
> Пакуль не турбуюся аб сабе—магутнейшы за сябе.
> П'ю з кубка нябёсаў нектар, п'ю з кубка зямлі атруту.
> Зычу сабе асалоды і зычу сабе пакуты, зычу дабра і зычу таксама зла.
> А прад маімі вачамі цвіце і хаваецца за сябе самое, і разнастайваецца жыццё—мая неадольная перашкода—
> і кажа: змагайся,
> і кажа: перамагай.

Ідэя складанага дыялектычнага ўсеадзінства і супярэчлівай, рухомай цэласнасці быцця зазвычай не дэкларуецца паэтам: яна «растворана» ў сістэме мастацкіх вобразаў, у іх перапляценнях і трансфармацыях, праяўляецца ў прасторава-часавых зрухах, у прасвечванні «другой рэальнасці» праз паверхню звычайнага, часам будзённага. Вось, да прыкладу, версэт «У старой хаце» з яго немудрагелістым сюжэтам, амаль празаічным аповедам:

> У той старой хаце з сябрынаю за сталом сядзіць невясёлы бацька:

што было есці—паелі,
што было піць—папілі,
а ўсё адно не хапіла.
У акно зазірае ясная восень.
Гудуць далёкія цягнікі.
Бацька дае мне грошы і кажа: «Ідзі і купі дзе-небудзь яды і пітва, а купіш—тады вяртайся...»
Я праходжу каля глыбокіх чыстых азёр, у якіх залацяцца ўрачыстыя дрэвы і цямнеюць аблокі,
саджуся ў імклівыя цягнікі,
але сёння вялікі выходны:
усё заняла сабою гэтая восень,
усё заняло сабою гэтае чараванне,
усё заняло сабою гэтае хараство,
усё заняў сабой гэты дзень,
на ўскрайку якога ў старой сутонлівай хаце сядзіць па-ранейшаму за сталом з сябрынай сваёю бацька і ўсё чакае, калі я вярнуся.

Аб чым гэты верш? Нават чытач, недасведчаны ў паэтычнай сімволіцы і ўмоўнасці, нават не ведаючы пра старажытны асенні абрад памінання продкаў «дзяды», калі для нябожчыкаў накрываюць сталы з ядой і пітвом, адчуе, зразумее: гэты верш — пра жыццё і смерць. Пра ўрачыстае, пераможнае хараство і ўсюдыіснасць жыцця, якое, здаецца, назаўсёды запалоньвае ўвесь свет і ўсяго чалавека, але якое і неаддзельна ад смерці, ад «сябрыны» продкаў, якія таксама тут, «на ўскрайку» залатога асенняга дня, «у старой сутонлівай хаце»... Але прамым значэннем слоў пра гэта нідзе не сказана. Сказана «міжслоўем», сумна-ўрачыстай інтанацыяй верша, яго кампазіцыяй...

І ў філасофскіх паэмах, і ў версэтах паэтычная думка, ідэя А. Разанава ідзе ў асноўным двума шляхамі — разгортваючыся, развіваючыся з сябе самой, жывячыся сваёй уласнай энергіяй або — адштурхоўваючыся ад жыццёвых лёсаў, выпадкаў, акалічнасцей, прадметаў, з'яў, якія паўстаюць «у рамках метапытанняў і метаадказаў». Мне, як чытачу, цікавейшым здаецца другі шлях, бо тут гаворыць не толькі ідэя, якой уласціва часам абстрагавацца, замыкацца ў сабе і вычэрпвацца сабою, а і само жыццё з яго невычэрпнасцю, непрадказальнасцю, багаццем сэнсавых разгалінаванняў, адценняў, асацыяцый. Адна справа, калі паэт амаль «напрамую» звяртаецца да філасофскай праблемы часу, ставячы пытанне «Ці ёсць паміж днямі прадонні, а паміж хвілямі ямы?» («Сляды») і другая — калі гэта праблема паўстае ў шматзначным вобразе-сімвале атавы «(Атава»), бо тут не проста абстрактная плынь часу, тут «Дыхае восень. Туманіцца лета. Кранае званы далячыняў туга»... Бо атава — жывая, яна расце, і «расце», жыве верш, раскрываючыся ўсё новымі гранямі.

Вось чаму, калі заходзіць размова пра філасофскую скіраванасць паэзіі Разанава, з гэтым згаджаешся, але з адной умовай — з націскам на слове «паэ́зія», зыходзячы з таго разумення філасафічнасці паэзіі, якое выказаў Міхась Стральцоў: «Паэт таксама філосаф, і можа, філосаф найлепшы, ён мае справу з жывым духам і жывой матэрыяй жыцця». «Філасофскае» прачытанне паэзіі Разанава цікавае і неабходнае, і менавіта артыкул доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана «Паэзія думкі і таемнасць сэнсу» стаў, на мой погляд, найбольш глыбокім і тонкім пранікненнем у духоўны і мастацкі свет паэта, успрыняты ў кантэксце сусветнай філасофіі і культуры. Аднак у артыкуле адчуваецца і недастатковасць «філасофскага» прачытання, напрыклад, калі паэтычная ідэя, канцэпцыя свету атаясамліваецца з філасофскай. Так прачытаны версэт «Лабараторыя», калі крытык, прыводзячы радкі «А выніке доследу настойліва адкрываюць ва ўсім, што ні ёсць тут, адно і тое ж: нішто», піша: «Перад намі ўзор «усходняга» разумення субстанцыі, ці асновы ўсяго існага». Але ж з кантэксту верша-прытчы бачна, што паэт якраз і адмаўляе такое разуменне субстанцыі. «Нішто» вынікае не з жыцця, а з антыгуманнага алагічнага эксперыменту над жыццём, калі «даследчыкі», сумняваючыся ва ўсіх рэчах, з'явах, адчуваннях і нават саміх сумненнях, бесперапынна правяраюць у ізаляванай «лабараторыі», «ці дастаткова вазоны — вазоны, ці дастаткова ружы — ружы, ці дастаткова рыбы — рыбы, ці дастаткова маланка — маланка, ці дастаткова хлеб — хлеб, і людзі, якія праводзяць доследы, ці дастаткова людзі...».

Паэт аддае перавагу не акрэсленасці, дакладнасці філасофскіх паняццяў і катэгорый, а сэнсавай шматзначнасці, асацыятыўнасці, зыбкасці вобраза-сімвала, пераконвае не так логікай, як магіяй слова, яго музыкай, экспрэсіяй. Шматузроўневасць, шматзначнасць паэтычнага вобраза — гэта, акрамя ўсяго, і шлях да шырокага чытача, які, кажучы словамі Т. Мана, «учытвае» ў твор тое, што больш блізка, зразумела, істотна для яго ў дадзены момант, маючы пры гэтым магчымасць «дарастаць» да паэта, адкрываць новы сэнс. Цікава перачытваць цяпер паэмы Разанава 70-х гадоў — многае, што тады «не прачытвалася», здавалася няясным, зашыфраваным, расшыфроўваецца самім часам, аказваецца сугучным таму, аб чым мы сёння гаворым услых. У такія версэты новай кнігі, як «Ланцуг», «Адліга», «Шэрань», «Шыльдачкі» і інш., «учытваюцца» сацыяльна-надзённыя асацыяцыі, актуальныя праблемы. Але гэта толькі адна іпастась, адзін пласт яго паэзіі: паэт, як сын свайго часу, не можа прамінуць яго, але і не затрымліваецца ў ім, ідучы далей, шукаючы «новае сонца і новы сэнс». На думку А. Разанава, «мастаку не трэба абвяшчаць, да якой партыі ён належыць і за якія ідэі змагаецца», бо «па самой сваёй прыродзе мастацтва — паядынак з чалавекам за чалавека», таму «мастак, кажучы фігуральна, заўсёды большы рояліст, чым кароль, і большы каталік, чым папа рымскі».

У паэтычнай кнізе «Вастрыё стралы» выразна выяўляецца нацыянальная традыцыя, ідэя, нацыянальна непаўторны вобраз свету і чалавека. Наватар Алесь Разанаў адначасова і найбольш традыцыйны з сучасных паэтаў, і не толькі ў сэнсе глыбокага засваення сусветнай філасофскай думкі, усходняй паэзіі ці еўрапейскага авангардызму, аб чым ужо шмат гаварылася, але і нацыянальных культурных традыцый, аб чым амаль не згадваецца. Мы пакуль што звужана разумеем свае традыцыі, звыкшыся да пастулату, што наша паэзія традыцыйна канкрэтная, зямная, пластычная... Паэзія Разанава наследуе і адкрывае іншы шлях традыцыі, «вяртаючы» нас да таемнага, неразгаданага філасофска-сімвалічнага Купалы — Купалы «Сну на кургане», «Паязджан», «Безназоўнага»; да «інтэлектуальнай» плыні нашай паэзіі, якая ішла ад Багдановіча, праз Ластоўскага (чые вершы ў прозе, дарэчы, падобны на разанаўскія версэты), Сваяка, Жылку, Дубоўку, Куляшова, Танка (якія таксама зведаў уплыў авангардызму), Дзяргая, Вярцінскага, Стральцова і інш. Некаторыя «экзістэнцыяльныя» вобразы-сімвалы паэта бяруць выток у народных казках, легендах, у міфалогіі — напрыклад, «вастрыё стралы»—яшчэ ў «Паэме маленства» (кніга «Каардынаты быцця») успамінаючы казку пра Кашчэя, яго схаваную смерць («на дрэве куфар жалезны, у куфры — заяц імклівы, у зайцы — шызая качка, у качцы — яйка, у яйку — іголка»), герой выказвае здагадку: «сутнасць — у вастры...». Здагадка, падказаная народнай мудрасцю, перарастае ў вобраз-сімвал жыцця і смерці. З казкі — і вобраз птушкі-часу, якая нясе героя, кормячыся яго целам (версэт «Палёт»), некаторыя іншыя вобразы-сімвалы паэзіі А. Разанава, аб чым цікавыя развагі ў артыкуле У. Конана.

Паэт імкнецца па-філасофску асэнсаваць нацыянальна непаўторнае ўспрыняцце свету, народныя «каардынаты быцця», сфармаваныя геаграфічным становішчам, прыродай, гісторыяй, этнагенезам беларусаў. Своеасаблівае земляробчае адчуванне ўкаранёнасці ў гэтую зямлю: этнаграфічныя межы беларусаў, як мы ведаем, тысячагоддзямі заставаліся нязменныя («занадта цэласны, каб падавацца ў які-небудзь бок») — і адначасова скрыжаванне, «раздарожжа» ўсіх шляхоў, якія, ідучы на ўсход ці захад, ідуць праз Беларусь, своеасаблівае спалучэнне «ўсходняга» і «заходняга» ў характарах, ідэях, вераваннях, светабудове...

Я кладу зерне у дол—і яно вырастае ў дрэва:
на адной галіне ў яго сонца,
на другой—месяц,
рознагалосыя птушкі з усіх канцоў свету спяваюць на ім свае песні і ладзяць гнёзды...
Тут мой захад, і тут—усход.

У версэтах «Карона», «Маланка»— не проста ўваскрашэнне драматычных старонак нацыянальнай гісторыі, але іх філасофска-сімвалічнае абагульненне — спроба паэтычнай гістарыясофіі, таксама як і ў тых вершах, дзе асэнсоўваюцца «болевыя кропкі» нашых адносін да спадчыны, яе драматычнае, але неадольнае прабіванне праз наша бяспамяцтва, глухату і абыякавасць («Госці», «Краты́», «Стары горад», «Спадчына»...). Праз нацыянальна-гістарычнае паэт выходзіць да агульначалавечага, быційнага. Так, адзін з версэтаў, па сведчанню паэта, меў першапачатковую на-

зву «Унія». У ім у сімволіка-алегарычнай, прытчавай форме ўвасоблены драматычны момант у беларускім гістарычным, духоўным жыцці, калі народ быў расколаты па веравызнанню на праваслаўных і каталікоў — «бажніцу світання» і «бажніцу змяркання», калі ўпершыню была зроблена спроба аб'яднання ўсходняй і заходняй (візантыйскай і рымскай) цэркваў — унія. Аднак паэт назваў верш не «Унія», а «Маланка», у самой назве акцэнтуючы не толькі канкрэтна-гістарычны, але і быційны сэнс — думку аб тым, што сапраўдная вера, ідэя — не храм і не бажніца, не аб'яднанне або размежаванне людзей, а «маланка ў сэрцы».

Паэтычная кніга «Вастрыё стралы» ў параўнанні з папярэднімі здаецца больш спакойнай, ураўнаважанай, стрыманай, часам нават рацыянальнай, тут не знойдзеш такога напалу пачуццяў, той адкрытай спавядальнасці, узрушанасці, балючага драматызму. Унутраны духоўны шлях прывёў паэта да пэўнай раўнавагі, засяроджанасці, прасветленасці, нібы знойдзены грунт і апора, убачана мэта... Аднак не трэба забываць, што гэта раўнавага — «на вастрыі стралы», што «адзіная адвечна ўстойлівая апора — гэта страчванне яе»...

Відаць, варта гаварыць, і не толькі ў адносінах да паэзіі Разанава, аб новым тыпе паэтычнай эмацыянальнасці, якая выпраменьваецца энергіяй думкі, аб новым тыпе лірызму, дзе галоўнае — не выказаць настрой, пачуцці, душэўны стан, а, кажучы словамі Дастаеўскага, «мысль разрешить». І нам яшчэ давядзецца ацаніць прыгажосць свабоднай, раскаванай, неўтаймоўнай думкі з яе напружанай духоўнасцю, барацьбой супярэчнасцей, парадоксамі, загадкамі.

У паэзіі Разанава амаль няма так характэрнай для філасофскай элегічнай паэзіі сузірання, статыкі, спробы «спыніць імгненне». Яго думкі і вобразы імправізацыйныя, нібы ўключаюць у сябе і сам момант іх стварэння, узнікаюць «на вачах» у чытача, кожная думка нясе дыялектычную супярэчнасць, кожны вобраз — свой двайнік-адмаўленне, кожны тэзіс — антытэзіс. Сам паэт гаворыць аб гэтым:

Паслаў у прастору думку,
апамятаўшыся—другую...
Што робіцца зараз там,
у абсягах вашых,
думка-галубка
і думка-крумкач?!

Адсюль — характэрныя разанаўскія антыноміі, парадаксальныя спалучэнні, плынныя вобразы-метамарфозы. «Калі яны цяжар — тады яна крылы, // калі яна вярэдзіць — тады гоіць, // калі яна знясільвае — тады дае сілу»,— так, напрыклад, піша паэт пра спадчыну. Часам адчуваецца і перанасычанасць антыноміямі, разнайменнымі эмацыянальна-сэнсавымі «зарадамі», іх пэўная зададзенасць — да іх прывыкаеш, яны перастаюць кожны раз быць нечаканасцю, адкрыццём. Аднак у цэлым плынныя, зменлівыя, супярэчлівыя вобразы антыноміі, парадоксы, метамарфозы для паэта не «гімнастыка розуму», не даніна паэтычнай вынаходлівасці, як гэта часам бывае ў сучасных рускіх паэтаў «метаметафарыстаў» з іх іранічнай парадаксальнасцю, двухпланавасцю вобразаў. У беларускага паэта — сур'ёзнасць, апантанасць, напружанасць думкі-страсці, нібы кожны раз нанова вырашаецца пытанне жыцця і смерці, у яго парадоксах часам ёсць горкі смутак, але няма цынізму і бязвер'я.

Ідэя няспыннага руху, штодзённага «тварэння свету» ўвасабляецца і ў пастаянным абнаўленні паэтычнай формы, за што паэта не раз папракалі ў фармалізме. Але ж разняволенне і абнаўленне формы для яго не самамэта, а сродак абнаўлення і разнявольвання паэтычнага свету, адкрыцця новых пластоў рэчаіснасці. У разанаўскіх філасофскіх паэмах, версэтах, квантэмах, пункцірах — так вызначае паэт новыя паэтычныя жанры — бачна імкненне да кандэнсацыі, максімальнага згушчэння сэнсу, да стварэння такіх жанравых канструкцый, якія здолелі б вытрымаць найбольшую сэнсавую нагрузку. Напрыклад, квантэмы (ад слова «квант», згустак энергіі), якія выклікаюць больш за ўсё спрэчак і нараканняў — і я таксама не ўсе з іх разумею лагічна (а ці трэба разумець?). Мне цікава «слухаць», як перагукваюцца далёкія, здавалася б, па сэнсу і сінтаксічна не звязаныя словы, утвараючы новыя сэнсарады, непрадбачаныя асацыяцыі, вобразы, як цікава, відаць, было б разглядаць асколкі метэарытаў і ўяўляць невядомую, таемную планету.

Версэты, у адрозненне ад паэм і квантэм з іх ускладненай, асацыятыўнай вобразнасцю, абрывістасцю, пункцірнасцю паэтычнай думкі, нязвыкласцю сінтаксічных канструкцый вылучаюцца адноснай прастатой і ўраўнаважанасцю формы, лагічнай сэнсавай яснасцю і завершанасцю тэксту. Але гэта прастата знешняя, падманная, яна толькі падкрэслівае складанасць і глыбіню падтэксту, шматзначнасць і сімвалічнасць сэнсу, заключанага ў своеасаблівай прытчавай форме версэта.

Прытчавасць у паэзіі Разанава — як бы «перакідны масток» паміж асабістым і ўсеагульным, канкрэтным і абстрактным, выпадковым і вечным. Яна рассоўвае рамкі часу, падкрэсліваючы быційнасць падзей і з'яў, прымерваючы канкрэтныя ўчынкі, пачуцці, думкі герояў да сутнасных, адвечных, біблейскіх «мадэляў», архетыпаў паводзін і мыслення, канкрэтны вобраз — да універсальнай «ідэі» чалавека.

Форма ў паэзіі Разанава «працуе» на ўсіх узроўнях — гуку, слова, фраз і паўз, назваў вершаў і кніг, іх кампазіцыі. Напрыклад, кніга паэм «Каардынаты быцця» пачынаецца як бы «з канца» — з «Паэмы выніку» і, у сугучнасці з іншымі творамі — «Было балота», «Паэма маленства», «Папярэджанне» і інш., у самой кампазіцыі, «паверх тэксту» нясе, як мне ўяўляецца, думку аб антыгуманнасці, ненатуральнасці такога ходу з'яў і падзей, калі дзеля выніку знішчаецца пачатак, выток, першапрычына — ці то прырода, балота — прарадзіма жыцця, ці то маленства — першаасnова чалавека, ці то народная культура, гістарычная памяць — выток нашай духоўнасці.

Баліць аднятая зямля,
крычаць адцятыя пачаткі.
Усё—вадзе,
    вада ўзяла...
Мы ўжо няіснага нашчадкі...

Кальцавая кампазіцыя паэтычнай кнігі «Шлях-360», што пачынаецца «Першай паэмай шляху» і заканчваецца «Другой паэмай шляху», не толькі праясняе і апраўдвае назву, але і стварае вобраз часу з яго міфалагічнай цыклічнасцю, згорнутасцю, замкнёнасцю, вяртаннем на кругі свае (падмывае спакуса сказаць «час застою», ды разумееш, што паэт укладвае ў яго куды шырэйшы сэнс — кругазвароту жыцця, «вечнага вяртання»). У кнізе «Вастрыё стралы» час як бы «выпростваецца», разгортваецца, выходзіць з зачараванага кругу, набываючы вастрыню, дынаміку. «Вастрыё стралы» — метафара часу як няўстойлівай раўнавагі між жыццём і смерцю, вызваленне энергій, якое адбываецца ў часе:

Напружваецца цеціва: паўакружнасць лука ўраўнаважваецца
паўакружнасцю цецівы.
Упарцься, лук!
Супрацьдзейнічай, цеціва!
Вы ўтрымліваеце ў сабе звышвыйсце: палёт стралы.
...Жыццё ідзе кругам, вяртаючыся да пачатку,
смерць—нацянькі.
І ляціць нацянькі страла, вынікаючы безупынна з сябе самое,
вызваляючыся ад сябе самое, каб, зрэшты, зрабіцца палётам
самім.

Напружанасць цецівы — напружанасць думкі і пачуцця, напружанасць лірычнага голасу, пругкасць інтанацый, энергія музыкі верша...

Паэт свядома пазбягае таго, што выяўляе знешні, пластычны, пачуццёва-канкрэтны воблік свету — колераў, пахаў, абрысаў і форм. Слова не малюе, не адлюстроўвае, а канцэнтруе сэнс, выяўляе і абагульняе духоўнае, тое, што за мяжою фізічных адчуванняў. У яго паэзіі амаль няма эпітэтаў, метафар у агульнапрынятым сэнсе — метафара не стылістычны прыём, а канцэпцыя свету, яна аб'ядноўвае рэальнае і ідэальнае, заснавана на веры ў іх адзінства, магчымасць узаемапераходаў і пераўтварэнняў. Можна спрачацца з паэтам, ці не збяднее свет, страціўшы пластычнасць і шматфарбнасць, ці нельга ўнутранае, істотнае выявіць і ў знешнім, бо, у рэшце рэшт, слова — таксама «знешняе»... Аднак не трэба забываць, што гэта — яго дарога, альтэрнатыва апісальнасці і дэкаратыўнасці.

Асноўны «інструмент» паэтыкі Разанава — інтанацыя, музыка слова. Праз гук і рытм выявіць сэнс, «перадаць пульсацыяй радка суіснасці пульсацыю жывую» — такую задачу ставіў перад сабой паэт яшчэ на пачатку творчасці. І цікава ўвасаб-

ляў — дастаткова ўспомніць, напрыклад, «Паэму вяхі», прысвечаную Максіму Багдановічу, дзе ўвесь час гучыць асноўны тон — дакладней, шолах, шоргат — «сыплецца шоргат» — шоргат спелага жыта, сярод якога «васілёк не прыняўся», шоргат пясочнага гадзінніка, які скупа адмервае час жыцця паэта, шоргат марскіх хваль у «сіняй бухце», шоргат жвіру ў дачаснай магіле... І ў новай кнізе паэт не цураецца гукапісу, алітэрацый і асанансаў, шукае адпаведнасці паміж гукам і сэнсам (варта ўслухацца ў «вострае» гучанне назвы — «Вастрыё стралы»), адкрывае новыя значэнні і сувязі слоў у іх гучанні. У часопісе «Беларусь» з'явіліся новыя творы паэта, якія ён умоўна называе «вершаказы» — словы ў іх раскрываюцца, нібы матрыцы, у якіх закадзіраваны мінулыя і будучыя, магчымыя, значэнні, напластаванні, асацыяцыі, сувязі, карэнні. Словы нібы самі ўспамінаюць свой радавод, расказваюць сваю гісторыю: «Рунь — руны зямлі, карэнні грунту. Яна — зялёная, але ў яе «труме» ляжыць залатое руно — ураджай. Аб ёй руліцца Ярыла. Яе жагнае вогненным заклёнам Пярун. І чалавек, пазіраючы на яе, становіцца больш «рунлівым» — нравственным».

Што датычыцца версэтаў, то здаецца, іх музыку ўтварае не столькі гук, колькі сэнс — «напружанне» і «разрадка» думкі і пачуцця, пульсацыя зместу. У большасці вершаў ідзе драматычнае змаганне дзвюх інтанацый, дзвюх музык свету, якое часта заканчваецца іх прымірэннем, гарманізацыяй, з'яўленнем новай музыкі і сэнсу — трыядай. Сэнсам абумоўлены і паўторы на ўсіх узроўнях верша — гукаў, слоў, радкоў, вобразаў, сінтаксічных канструкцый — і амплітуда меладычнай фразы, зменлівая даўжыня радкоў, што выклікае замаруджванне ці паскарэнне рытму... Асноўныя «цаглінкі» версэтаў — не строфы і не рытмарады, як у «рэгулярным» вершы, а, калі так можна сказаць, сэнсарады — сэнсава і інтанацыйна цэласныя абзацы, якія аддалена нагадваюць біблейскія, толькі з больш выяўленым, падкрэсленым рытмам.

Уражвае шматстайнасць і рухомасць інтанацый разанаўскай паэзіі. Афарыстычная, урачыста-ўзвышаная інтанацыя філасофскага роздуму змяняецца магічнай, палымянай энергіяй слова-ўнушэння, сурова-драматычнай інтанацыяй перасцярогі, усхвалявана-ўзрушлівым тонам споведзі... У лірычных імпрэсіях «Дзічка», «Вандроўны горад», «Снег», «Сіні туман», «Разам з травой» менавіта інтанацыяй, рытмам, няўлоўнай музыкай радка перададзена таемнае, асабістае, запаветнае, шчымліва-трапяткое пачуццё еднасці з прыродай, са светам:

...Шастае шорсткая асака.
Сінеюць самотныя лозы.
У вёсцы запальваюцца агні.

У снегу позірк маіх надзей,
У снегу маіх летуценняў голас.

Снег, ты з бясконцасці? ты з дасканаласці? ты са скону?
Усё, што буяла, цвіло, красавала, усё, што стала мінулым, усё,
што стала ўспамінам, усё, што вярнуцца назад не можа,—вярнулася ў белы снег...

Але з усёй разнастайнасці інтанацый вылучаецца асноўны тон паэзіі Разанава — засяроджанае, чуйнае, поўнае трывожных і светлых прадчуванняў услухоўванне ў «невядомага рытму струмень, невядомай галактыкі хвалю — у тое, што за заслонаю часу, за гранню звычайных, бытавых уяўленняў — «на мяжы невымоўнага».

Тамара ЧАБАН










**«ШЛЯХАМІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ».** Каляндар пад такой назвай, які нядаўна выйшаў у свет, прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння нашага слаўнага першадрукара і асветніка.

Каляндар паведамляе біяграфію Скарыны, узнаўляе дух эпохі, расказвае аб родзе Скарыны, яго гербе, генеалагічным дрэве.

Каляндар багата аформлены каляровымі і чорна-белымі ілюстрацыямі.

Аўтар календара — выкладчык Мінскага інстытута культуры Анатоль Цітоў.

Выдавецтва «Полымя», Мінск, 1990 г.

**«ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ».** «Этнаграфія як спецыялізаваная галіна гістарычнай навукі, — гаворыцца ў прадмове да кнігі, — вывучае этнасы-народы, іх культуру і побыт ад старажытных часоў да нашых дзён...

Этнаграфічнай навуцы належыць важная роля ў развіцці нацыянальнай культуры беларускага народа. У дарэвалюцыйны час ва ўмовах многавяковай барацьбы народа за сваё нацыянальнае і культурнае развіццё, супраць польскіх нацыяналістаў і рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў, якія праводзілі палітыку дэнацыяналізацыі беларусаў, этнаграфічная навука садзейнічала ўстанаўленню гістарычна справядлівых поглядаў на народ і яго культуру»...

У аднатомніку, над якім працавалі вучоныя-этнографы, фалькларысты, моваэнаўцы, гісторыкі, археолагі, пісьменнікі пад рэдактарствам І. П. Шамякіна, змешчана больш за 3 тысячы артыкулаў, якія асвятляюць пытанні матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Артыкулы прысвечаны паняццям этнаграфіі, этнічным групам, тыпам і відам паселішчаў, збудаванняў і іх частак, промыслам і рамёствам, нацыянальнаму адзенню, беларускай кухні. Кніга багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, чарцяжамі.

Энцыклапедыя знаёміць чытача з асноўнымі аспектамі жыццядзейнасці беларусаў ад старажытных часоў да нашых дзён, іх матэрыяльнай і духоўнай культурай. У кнізе асвятляюцца працэсы складвання беларускай народнасці і нацыі, фарміравання этнічнай самастойнасці беларусаў, працэсы этнічнай кансалідацыі і інтэграцыі, якія паказваюць, што беларусы складаюць асобную нацыю са сваёй гісторыяй, мовай, асаблівасцямі культуры і побыту. Шмат артыкулаў прысвечана духоўнай культуры беларусаў, сям'і, шлюбу, абрадам.

Выданне адрасавана этнографам, краязнаўцам, студэнтам ВНУ, настаўнікам сярэдніх школ.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, Мінск, 1989 г.

**«ВОДГУЛЛЕ ДАЛЁКІХ ВЁСНАЎ».** Выйшла ў свет чарговая кніга прозы Івана Навуменкі. У ёй — аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі», «Пераломны ўзрост», «Трымценне дубовага лісця», «Апошняя восень», «Развітанне ў Кавальцах».

Пісьменнік расказвае ў асноўным пра лёс свайго пакалення, якое нарадзілася напярэдадні вайны і прайшло праз усе яе цяжкія выпрабаванні.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ДРУГОЙ ЗЯМЛІ НЕ БУДЗЕ».** Чытачу вядома імя празаіка, публіцыста Васіля Якавенкі, зборнік нарысаў якога пабачыў свет.

Кніга налічвае шэсць вострасюжэтных нарысаў, у цэнтры якіх сучасны чалавек, яго адносіны да сваёй працы, да прыроды, да жыцця, да перабудовы. Аўтар выкарыстоўвае філасофскія абагульненні, пошукі ў галіне формы.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ЧАС, КАЛІ ПУСЦЕЮЦЬ СЯДЗІБЫ».** У серыі «Проза народаў СССР», заснаванай у 1984 годзе, пабачыў свет раман літоўскага празаіка, лаўрэата Ленінскай прэміі Ёнаса Авіжуса.

Многія, пэўна, прачыталі раман Авіжуса на рускай мове ў часопісным варыянце, але пераклад, зроблены Алесем Разанавым на беларускую мову, пакідае самае прыемнае ўражанне.

Раман прысвечаны падзеям у Літве ў 1941—1944 гадах, калі братняя суседняя рэспубліка перажывала вялікія змены: падзенне ўрада Сметаны, усталяванне Савецкай улады, акупацыю гітлераўскай Германіі і г. д. Эпічны твор аўтара дае шырокую карціну лёсаў людзей у гэты перыяд — як літоўцаў, так і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ТУТЭЙШЫЯ».** Пабачыла свет і адразу стала рэдкасцю кніга творчасці сяброў літаратурнага таварыства. «Тутэйшыя» аб'ядналіся ў 1987 годзе, жывуць у розных гарадах рэспублікі, пішуць прозу, вершы, крытыку і публіцыстыку.

У зборніку каля сарака маладых імён. Чытачы, пэўна, ужо ведаюць многіх з іх. Гэта — Анатоль Сыс, Адам Глобус, Уладзімір Сцяпан, Алесь Бадак, Сяргей Дубавец, Вітаўт Мартыненка, Уладзімір Сіўчыкаў, Алесь Наварыч, Міраслаў Шайбак, Алесь Бяляцкі, Таццяна Сапач, Ларыса Раманава, Яніна Шостак і іншыя.

Безумоўна, многія з маладых літаратараў, з творамі якіх чытач пазнаёміцца на

**старонках зборніка, у бліжэйшы час у поўны голас заявяць пра сябе ў літаратуры. Пакуль жа гэта творы, шматлікія з якіх задумваліся і пісаліся некалькі гадоў таму — без надзеі ўбачыць іх у друку. Цікавыя па форме, арыгінальныя па зместу, яны, безумоўна, прывабяць маладога чытача.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«БІБЛІЯТЭКА «МАЛАДОСЦІ»**

**3 ліпеня 1988 г. выдаецца літаратурны дадатак да часопіса «Маладосць». У мінулым годзе выйшла 12 кніжак маладых паэтаў і празаікаў, у тым ліку ў другім паўгоддзі:**

**«БОЛЬ СУМЛЕННЯ» Анатоля Зэкава. Здаецца, няма патрэбы прадстаўляць паэта Анатоля Зэкава, які выйшаў на суд чытача са сваёй асобнай першай кніжкай. Яго добра ведаюць у рэспубліцы. Вершы паэта — філасофскі роздум аб лёсе чалавека, аб вечных праблемах дабраты і зла, пра наш час.**

**Паэма «Аварыя сумлення» напісана па ўражаннях ад паездкі ў зону аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

**«ЯК ПАКАХАЦЬ РУЖУ» Сяргея Кавалёва. Гэта кніга літаратурна-крытычных артыкулаў, якая прысвечана маладой беларускай паэзіі 80-х гадоў. У кнізе ідзе гаворка пра паэтычную творчасць Леаніда Дранько-Майсюка, Алега Мінкіна, Галіны Булыка, Адама Глобуса, Анатоля Сыса, Леаніда Галубовіча. Іх творы разглядаюцца з рознага боку цікаўным і дапытлівым позіркам.**

**«МАР'ЯНІН ДОЛ» Рамана Аўраменкі. «БАНАЛЬНЫ ДЭТЭКТЫЎ» Віктара Супрунчука. Дзве дэтэктыўныя аповесці былога супрацоўніка міліцыі маёра Рамана Аўраменкі і пісьменніка Віктара Супрунчука.**

**Героі «Мар'янінага долу» — работнікі міліцыі, якія, выявіўшы труп невядомай жанчыны, займаюцца пошукам злачынцаў.**

**Раман Аўраменка, супрацоўнік МУС БССР, памёр у службовай камандзіроўцы.**

**Капітан Ярусь — герой «Банальнага дэтэктыва» — упершыню сустракаецца з незвычайным злачынствам.**

**Прадмову да кніжкі напісаў Георгій Шыловіч.**

**«ДОБРЫЦА» Віктара Яраца.**

**Паэт родам з Рэчыцкага раёна, што на Гомельшчыне. У большасці сваіх вершаў ён вядзе гаворку пра свет прыроды, пра адвечныя каштоўнасці чалавека, які жыве ў адзінстве з наваколлем.**

**Лірычнага героя Віктара Яраца хвалююць пытанні складанасці свету, у якім ён жыве, няпростых адносін людзей паміж сабой.**

**«ЛУП» Юры Станкевіча. Кнігу склалі аднайменная аповесць і тры апавяданні — «Пераправа», «Рванае Вуха» і «Бела-чырвоная птушка шчур». Кніга празаіка з Барысава прываблівае як свежасцю ў галіне формы, так і вострым сюжэтам, актуальнасцю праблем.**

**Луп — мянушка ваўка, які вырас у незвычайных абставінах побач з чалавекам і вакол якога вірують звычайныя і тым не менш небяспечныя для яго чалавечыя страсці. Але аповесць не столькі пра звера, як пра людзей — правінцыялаў і абывацеляў, памяркоўных і зласлівых — розных. Апавяданне «Пераправа» расказвае пра эпізод з жыцця французскага пісьменніка Стэндаля, які служыў у войску Напалеона інтэндантам і ўдзельнічаў у рускай кампаніі 1812 года. Вострасюжэтныя апавяданні «Рванае Вуха» і «Бела-чырвоная птушка шчур» кранаюць пошукамі гуманнасці і згубленага добрага пачатку ў чалавеку.**

**СВЯТЛО ПАЛЫНУ» Людмілы Забалоцкай.**

**Трэцяя кніга лірыкі маладой паэтэсы з Мінска. У кнізе сабраны лепшыя вершы, напісаныя ў апошні час: пра любоў да роднай зямлі, спасціжэнне дабрыні, пра каханне.**

**«ФОРМУЛА ДАБРЫНІ». У серыі «Першая кніга празаіка» выйшаў зборнік Лявона Неўдаха. У ім — аповесць «Мяжа магчымасці» і апавяданні «Рэнтген», «Машына», «Сіні ранак», «Кружылася лісце», «Формула дабрыні».**

**Аўтар, журналіст з Наваполацка, піша пра тое, што добра ведае: пра будні нафтаперапрацоўшчыкаў, якія разам з рабочымі краіны ўступаюць на шлях перабудовы.**

**Апавяданні маладога пісьменніка аб адносінах людзей паміж сабой, аб працы тэхнічнай інтэлігенцыі.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ЛІРЫКА». Імя Байрана здаўна вядома ў нашай рэспубліцы. Асобныя яго творы неаднойчы перакладаліся і выдаваліся ў друку. У кнізе сабраны лірычныя вершы англійскага рамантыка, якія ён напісаў на працягу 1802—1824 гадоў, а таксама паэмы. Пераклады Язэпа Семяжона, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Дубоўкі, Юркі Гаўрука, Еўдакіі Лось.**

**Укладанне, прадмова і каментарыі Вадзіма Небышынца. Мастак Сяргей Мельнікаў.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**БЕЛАРУСКАЯ КНІГА НА МОВАХ СВЕТУ**

**«ГРОТ АФАЛІНЫ». На літоўскай мове выйшла кніга Паўла Місько для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту.**

**Прыгодніцкая аповесць беларускага пісьменніка ўзнагароджана, дарэчы, спецыяльным дыпломам на II Усесаюзным конкурсе на лепшую дзіцячую кнігу.**

**На літоўскую мову твор пераклаў Альгімантас Антанавічус.**

Выдавецтва «Вітурыс», Вільнюс, 1989 г.






Нечакана нас запрасілі ў рэдакцыю і паказалі некалькі чытацкіх лістоў.

Мы рады, сказалі нам, атрымліваць гэтыя допісы, але раней не ўсе з іх выкарыстоўвалі, тое-сёе пакідалі па-за ўвагай. Цяпер схамянуліся: многае з гэтага «таго-сяго» — непасрэднае, шчырае, хвалюючае для маладых людзей. Адпаведна, варта звярнуць на яго належную ўвагу.

Заінтрыгаваныя, мы пазнаёміліся з прапанаванай поштай і адразу ўбачылі: сапраўды, трэба выкарыстоўваць яе, бо за кожным разгорнутым лістом ці маленькім даверлівым допісам — чалавек, роздум альбо душэўныя пошукі, нават пакуты. І ў большасці выпадкаў усё гэта датычыць юнай асобы — таго, каму часамі не менш паветра патрэбна падтрымка, парада, звычайнае цёплае чалавечае слова.

**«Паважаная рэдакцыя!** — піша вучань адной з мінскіх школ.— **Апошнія два гады я настойліва вывучаю беларускую мову, гісторыю і культуру. Калі я звярнуўся да настаўніцы роднай мовы і папрасіў падказаць рэспубліканскае маладзёжнае выданне, дзе пішацца і пра наш дзень, і пра далёкую мінуўшчыну, то яна параіла мне «Крыніцу» і «Маладосць». «Першае,— сказала яна,— сучаснае, мадэрновае, а другое — традыцыйнае, сур'ёзнае». Паволі я стаў пастаянным чытачом вашага часопіса, шмат уведаў таго, пра што раней нават не чуў,— напрыклад, з гістарычнага нарыса Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь» і інш. Гэтыя публікацыі я параіў прачытаць і маім аднакласнікам. Хто таксама зацікавіўся, а хто — не зусім. Той-сёй кажа: можа, і разумна, але... сумнавата. Скажу шчыра: я вельмі перажываў за гэта, нават спрачаўся з тымі, хто прывык да лёгкага чытання пра рок-музыку ці пра спорт, а пасля падумаў: калі б вы болей пісалі пра нас, старшакласнікаў, то многія чыталі б ваш часопіс ахвотней. Разумееце, у нас свой свет, свае пытанні, спрэчкі, інтарэсы, але пра ўсё гэта мы толькі гаворым паміж сабой і гаворым, прызнаюся, па-рознаму. Часамі і неяк нядобра. Да слова, я з нашымі хлопцамі саромеюся гаварыць пра каханне, пра Яе, якая мне вельмі падабаецца... Ведаю: скажу, а хтосьці будзе пасміхацца, а то і горш... Іншая справа, каб вы напісалі... Нават і не ведаю, як сказаць... Ну, як пазнаёміцца з той, якая падабаецца, як Ёй, іншым сказаць пра гэта, як з Ёю паводзіцъ...»**

**«Нядаўна я, можна сказаць, выпадкова купіў кніжку А. Федарэнкі «Гісторыя хваробы»,**— піша васемнаццацігадовы Анатоль К., студэнт педвучылішча з Лоева.— **Мяне адразу ўразіў эпіграф да аповесці: «Человек переживает землетрясения, эпидемии, ужасы болезней и всякие мучения души, но на все времена для него самой мучительной трагедией была, есть и будет — трагедия спальни».**

**Спачатку мне стала аж няёмка ад гэтых слоў. Але ж працытаваныя словы напісаў Леў Талстой — вялікі рускі пісьменнік. А калі я пачаў чытаць аповесць «Гісторыя хваробы», дык адразу яе герой стаў мне блізкі і зразумелы: такі ж і я. Гэтакі, здаецца, нехлямяжы, нясмелы, не магу, не ўмею як след паводзіць з дзяўчатамі. А з той, якую, як кажуць, у сне бачу,— дык зусім. Чырванею, млею перад ёй, абы-што гавару. Кахаю, пакутую, хачу, каб і яна кахала мяне, каб была маёй, але... яна не хоча быць са мной у «спальні», кажа, што яшчэ рана... Значыць, не кахае...»**

Некалькі радкоў з іншых лістоў.

Тані М. з Барысава: **«Мне яшчэ 22 гады, але я ўжо не веру ў прыгожае каханне. Усе хлопцы — хлусы, падманшчыкі... Ім адно толькі ў галаве...»**

Міколы Ю. з Клічаўскага раёна: **«Хацеў бы пазнаёміцца з маладой дзяўчынай без шкодных звычак. Люблю працу, музыку, фотасправу».**

Наташы з Лідчыны: **«Я люблю паэзію. Але чаму нашы маладыя паэты так мала і неяк надта асцярожна пішуць пра каханне! Надрукуйце ў бліжэйшых нумарах што-небудзь цікавае пра першыя пачуцці...»**

Пазнаёміўшыся з гэтай і іншымі карэспандэнцыямі маладых чытачоў, мы падахвоціліся не толькі чытаць іх і далей, але і ўступіць у пэўнай ступені ў кантакт з тымі, хто чытае часопіс, піша сюды. Мы згодны разам з маладымі людзьмі паразважаць, паспрачацца, адказаць на многія пытанні — самі ці з дапамогаю нашых вучоных, урачоў розных профіляў, дзеячоў культуры. Гатовыя да гутаркі на самыя розныя, у тым ліку і на вельмі далікатныя, інтымныя тэмы. Тое-сёе будзем прапаноўваць самі, тое-сёе, бясспрэчна, падкажуць нашы чытачы.

### АЛЕСЬ і ЯНІНА

**АД РЭДАКЦЫІ. Спачатку мы мелі намер грунтоўна пазнаёміць чытача, хто такія Алесь і Яніна, дзе яны працуюць і чым займаюцца. Але сумесна прыйшлі да згоды: калі яны будуць заставацца інкогніта, то ім будзе лягчэй быць непасрэднымі, шчырымі. Скажам толькі: Алесю 27 гадоў, Яніне 25. Маюць двое дзяцей — сына і дачку. Абое вучоныя (Алесь кандыдат навук), займаюцца праблемай маладой сям'і. Як бачыце, яшчэ маладыя, здольныя разумець сучасную моладзь, але разам з тым ужо і досыць вопытныя людзі, каб паразважаць пра жыццё-быццё, накіраваць юнака, маладога чалавека на разумны шлях.**

### ЗНАЁМСТВА, АЛЬБО ПЕРШЫ САРДЭЧНЫ БОЛЬ

АЛЕСЬ:

«Каб напісаць нейкую старонку наконт гэтага, скажу шчыра: скрэмзаў, парваў не адзін ліст паперы.

Знаёмства Яго і Яе ў кожнага адбываецца па-рознаму. Як у розным узросце, так і ў розных абставінах (скажам, знаёмства ў вёсцы прынцыпова адрозніваецца ад знаёмства ў горадзе, свае нюансы знаёмства, скажам, у тых, хто служыць у арміі, вучыцца ці працуе на заводзе, жыве ў інтэрнаце), урэшце, знаёмства бывае для самых розных мэт.

Безумоўна, цяжка коратка асвяціць гэтыя і іншыя аспекты. Калі будзе дазволена, я хацеў бы засяродзіцца на асобных момантах гэтай штодзённай, нібы вельмі звычайнай, нават больш — вечнай, але непаўторнай, хвалюючай з'явы і, калі можна так сказаць, дастасаваць яе да таго ўзросту і стану, калі Ён ці Яна адчуваюць вялікае сардэчнае пачуццё да пэўнай асобы другога полу. Значыць, маю на ўвазе прыкладна 17—18-гадовых — тую часіну, тыя гады, калі неяк ужо адразу, раптоўна можа ўспыхнуць каханне (падрыхтаванае дасюль нябачна і нібы па кропельцы) — каханне, якое праяўляе знаёмства.

Бывае, першае знаёмства, каханне адразу збліжаюць зусім маладых Яго і Яе. Збліжэнне гэтае носіць розны характар. У адных узнікае, развіваецца і гартуецца духоўная еднасць, якая рана-позна замацуецца шлюбам і сям'ёй, іншыя, не разумеючы альбо не цэнячы духоўнасці, паспешліва імкнуцца да фізічнай блізкасці, пасля якой ці гэтак жа паспешліва жэняцца, каб пасля паспешліва развесціся, расчароўваюцца і ідуць далей з надломленай душой, трэція — гатовы на новыя і новыя знаёмствы, збліжэнні і г. д., і г. д.





Хацелася б звярнуць увагу 17—18-гадовых, што трэба высока цаніць сваё сардэчнае пачуццё, яно — вялікая выява чалавечай душы, вялікая моц, і часамі не трэба баяцца таго, што не толькі цяжка сказаць пра яго Ёй альбо Яму, але нават насіць яго ў душы: ад сумненняў, нават пакут яно толькі гартуецца, мацнее. Магчыма, нават не трэба спяшацца з ім, яно рана-позна само «пазнаёміцца», знойдзе іншае, тое, што падыходзіць якраз яму. Адпаведна, да знаёмстваў, пачуцця, цягі і першага кахання трэба падыходзіць не баязліва, але адказна, не паспешліва. Думаю, не вельмі вялікая бяда, трагедыя, калі вы, 17—18-гадовыя, расчаруецеся ў сваім першым выбары,— значыць, ваша і нечая душа і не адгукнуліся, і, можа, не суладныя, усё гэта ў вас яшчэ наперадзе. Але, паўтару, трэба толькі не азмрочваць альбо цынічна не таптаць сваё сардэчнае і духоўнае пошласцю — маўляў, што мне да нейкіх высокіх матэрый, бяры, хапай усё, пакуль жывы і здаровы, а заўтра — хоць трава не расці! Не лічыце мяне старамодным, не даказвайце, што часамі ў жыцці інакш, што ўжо ў 14 і 15 гадоў бывае тое і тое,— бывае, многае бывае, але ўсё ж трэба імкнуцца да іншага, светлага, і гэтае імкненне ў свой час узнагародзіць вялікім пачуццём, вялікім шчасцем, нават у фізічным сэнсе, у тым, пра які нямала пісаў вышэйцытаваны Леў Талстой, пра які нямала пісалі і іншыя пісьменнікі. Адным словам, усё прыходзіць у свой час і натуральна...»

ЯНІНА:

«Я не ведаю, што напісаў на гэты конт мой Алесь, бо мы, каб найлепш самавыявіцца і найшчырэй сказаць свае слова, пісалі паасобку (ведаю толькі, што ён любіць пафіласофстваваць «у прынцыпе»). Я хачу звярнуцца да дзяўчатак. Мілыя, даражэнькія мае малодшыя сяброўкі, ад нас, жанчын, калі не ўсё, то вельмі шмат залежыць, што і як будзе ў жыцці, якія ёсць і будуць нашыя мужчыны, сем'і, каханне і тое вялікае, што мы называем духоўнасцю, маральным здароўем грамадства. Так-так, і вы, 17—18-гадовыя, ужо вызначаеце стан, узровень вышэйзгаданага.

Не, ні ў якім разе не хачу чытаць натацыі, не люблю іх, але, пабыўшы дзяўчынаю і вось ужо шэсць гадоў замужам, нямала чаго пабачыла, адчула. Ведаю і шчаслівых, і нешчаслівых, тых, каму іншыя ці хто сам сабе зламаў лёс. Што да мяне, то доля мая магла б быць горкая: у свой час мяне, дзесяцікласніцу, завабіў, ледзь не спакусіў сусед-студэнт, сынок вялікага чыноўніка. Я, малодшая, спачатку не пазнала за знешнім бляскам хама і звычайнага жанчынажэрцу, ішла насустрач, але ўсё ж устояла, не паставіла вышэй фізічнае за духоўнае. Не дабіўшыся свайго, ён не даказваў мне сваё каханне, а груба абразіў. Пасля гэтага я доўга баялася хлопцаў, але затое, калі мы сышліся з Алесем, калі я, ужо сталейшая, з першага позірку адчула ў ім добрую душу, мне было вельмі хораша, што я не растраціла, нічым не азмрочыла сваё пачуццё і сваё цела, нават больш — тое, што мы абое не раскідваліся пачуццямі да жаніцьбы, аддзячыла нам непаўторным пазнаннем адно аднаго, той блізкасцю, якая яднае душы, мацуе сям'ю. На першым часе нам было цяжка (Алесь з вёскі, я — з Гродна), мы жылі тут, у Мінску, на прыватнай кватэры, апраналіся і елі скупа, але, з'яднаныя душой, каханнем, мы ўсё выцерпелі і сталі на ногі. Хтосьці можа ўсміхацца, мець іншую думку наконт сваіх паводзін, нават прапагандаваць усёдазволенасць, але, што ні кажы, рана-позна за адно будзе свая аддзяка, а за другое — расчараванне ці свая жорсткая плата. Дык не трэба самому сябе асуджаць на горшае».

Фота **С. Грушко.**







## *Усмешкі маладосці*

## *Мікола Чарняўскі*




Хоць меў на ўсё
Зайздросны зуб,
Спярша не рваў,
А толькі скуб:

На капейку,
На пятак,
На рубель,
На чацвяртак...
Дзёўб адно, бы дзяцел, Грышка:
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
Дзякуй, братачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...»

Праходзіў час —
Размах шырэў,
Бо ён штодня,
Як мог, шчырэў:
Пагрэць руку
Настрой не ўпаў.
Ды ўжо не скуб,
Ды ўжо хапаў:

Тут — па сотні,
Там — па тры.
Быў занятак па нутры.
Дзёўб адно, бы дзяцел, Грышка:
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
Дзякуй, братачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...»

Ды разгарэўся зуб —
Замала!
А можа, хопіць хітраваць?
І ён адразу, дзе трапляла,
Пачаў скубці, хапаць і рваць!

Дзёўб адно, бы дзяцел, Грышка:
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
Дзякуй, братачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...

Як не паставяць раптам пасткі,
Я, што надумаў, нажыву.
Хоць разарвуся сам на часткі,
Але ўхаплю,
Але ўварву!..»

За гэтым клопатным разлікам
Не згледзеў ён
У спешцы дзён:
Сынок падрос...
Не шыты лыкам,
Увесь у бацьку ўдаўся ён.

І сын ужо
Яго не горш:
Пачаў скубці.
Пачаў —
З яго ж!

Як дварняк, шматае Грышку:
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
Дзякуй, татачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...»

# *Нашы аўтары*

**КАСКО Алесь** нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна. Скончыў Брэсцкі педінстытут імя А. С. Пушкіна. Быў настаўнікам, працаваў у раённай газеце. Зараз—рэдактар Брэсцкай студыі тэлебачання.
Выдаў зборнікі вершаў «Скразная лінія», «Набліжэнне».

**АНТАНОЎСКІ Мікола** нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сташаны Пінскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у раённай прэсе. Цяпер—рэдактар Пружанскай раённай газеты.

**КАЗЬКО Віктар,** якому сёлета спаўняецца 50 гадоў, нарадзіўся ў 1940 г. у Калінкавічах. Дзетдомавец. Скончыў Кемераўскі горны індустрыяльны тэхнікум і завочна Літаратурны інстытут імя Горкага. Працаваў на шахце, у геолагаразведцы, у газетах «Красная Шория», «Комсомолец Кузбасса», «Чырвоная змена», «Советская Белоруссия», у часопісе «Неман», быў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.
Аўтар кніг прозы «Високосный год», «Две повести», «Здравствуй и прощай», «Суд у Слабадзе», «Неруш» і інш.
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа і прэміі Ленінскага камсамола.

**ТРУСЕВІЧ Віктар** нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна. Скончыў Лідскі індустрыяльны тэхнікум. Працаваў у калгасе, служыў у Савецкай Арміі. Зараз працуе аўтамеханікам у Нясвіжскім аўтапарку.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ДЭБІШ Анатоль** нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна. Працаваў у калгасе, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Зараз кіруе Домам культуры ў Брэсце.

**БАРАВІКОВА Раіса** нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна. Скончыла Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Працавала ў рэдакцыях раённай газеты, штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», у «Чырвонай змене».
Выдала зборнікі паэзіі «Рамонкавы бераг», «Слухаю сэрца», «Такое кароткае лета», аповесць «Кватарантка» і інш.

**«МОЛОДОСТЬ» № 4 (1—176), 1990 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар Казлоў.** Тэхнічны рэдактар **Валянціна Марынчанка.** Карэктары **Валянціна Башак, Мая Вінаградава.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.02.90. Падпісана да друку 23.03.90. АТ 01577. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 16,33. Тыраж 9958 экз. Зак. 625. Цана 60 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.





**В. Казлоў.** Журба (тэмпера, 1982).